УДК 811.124(075.8)
ББК 81.2Латин-923
Ш12

Р э ц э н з е н т ы:
кафедра беларускай мовы Гомельскага
дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны
(загадчык кафедры, доктар філалагічных навук,
прафесар *А. А. Станкевіч*);
кандыдат педагагічных навук дацэнт *Н. А. Круглік*

**Шаўчэнка, Г. І.**
Ш12 Лацінская мова : вучэб. дапам. / Г. І. Шаўчэнка, А. В. Гарнік, К. А. Тананушка. – Мінск : БДУ, 2012. – 343 с.
ISBN 978-985-518-589-6.

У вучэбным дапаможніку прыводзяцца тэарэтычныя звесткі аб граматычным ладзе лацінскай мовы, якія спалучаюцца з практычнымі заданнямі па адпаведных тэмах, а таксама хрэстаматыяй з арыгінальных тэкстаў класічных рымскіх і постлацінскіх аўтараў. Выданне ўключае лацінска-беларускі і беларуска-лацінскі слоўнікі.

Для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па гуманітарных спецыяльнасцях.

**УДК 811.124(075.8)**
**ББК 81.2Латин-923**

**ISBN 978-985-518-589-6**

# ПРАДМОВА

У сучаснай вышэйшай адукацыі значнае месца адводзіцца самастойнай рабоце студэнтаў, што актывізуе індывідуальныя здольнасці і пашырае лагічны патэнцыял навучэнцаў. У сувязі з гэтым змяніліся патрабаванні да падручнікаў, праграм і планаў. Гэты вучэбны дапаможнік, на наш погляд, адпавядае ўсім сучасным патрабаванням. У ім выразна і лаканічна прэзентуецца граматычны матэрыял, праілюстраваны яскравымі прыкладамі, што дапамагае вывучэнню прадмета, лепшаму разуменню і засвойванню лексікі, атрыманню суцэльнага і закончанага круга ведаў.

Тэарэтычны матэрыял замацоўваецца практыкаваннямі і вучэбнымі тэкстамі, а таксама хрэстаматыяй, якая прыводзіцца ў практычнай частцы выдання. Урыўкі з твораў старажытнарымскіх аўтараў, біблейскіх і сярэдневяковых тэкстаў, лацінамоўнай літаратуры беларускага і заходнееўрапейскага Адраджэння падабраны з улікам амаль усіх літаратурных стыляў. Яны пашыраюць пазнавальна-адукацыйны аспект вывучэння латыні і яе міжпрадметныя сувязі з іншымі дысцыплінамі гуманітарнага цыкла. Асобнае месца ў хрэстаматыі займаюць тэксты, якія адлюстроўваюць нацыянальны каларыт Беларусі. Многія матэрыялы звязаны з айчыннай гісторыяй.

Вучэбны дапаможнік можа быць выкарыстаны таксама для самастойнага вывучэння лацінскай мовы ў якасці даведніка па раздзелах граматыкі. Пры перакладзе тэкстаў, якія не ўваходзяць у дапаможнік, рэкамендуем наступныя слоўнікі:

- ✓ *Дворецкий И. Х.* Латинско-русский словарь. М., 1986.
- ✓ *Малинин А. М.* Латинско-русский словарь. М., 1975.
- ✓ *Петрученко О.* Латинско-русский словарь. М., 1994.

- ✓ *Тананушко К. А.* Латинско-русский словарь. М.; Минск, 2002.
- ✓ Słownik łatinsko-polski. T. 1–5. Warzawa, 1998–1999.
- ✓ *Sondel J.* Słownik łatinsko-polski dla prawników i historyków. Kraków, 1997.

Дадатковыя матэрыялы можна знайсці на сайце graecolatini.narod.ru.

Спадзяёмся, што насуперак прадузятасці наконт цяжкасці і неадольнай нудоты латыні Вы знойдзеце ў ёй шмат цікавага і дазволіце ўвесці сябе ў дзіўны свет прыгожага пісьменства, каб далучыцца да невычэрпнай крыніцы еўрапейскай культуры.

Аўтары ўдзячны кандыдату філалагічных навук, дацэнту кафедры сучаснай беларускай мовы Таццяне Расціславаўне Рамзе за слушныя заўвагі і шчырую зацікаўленасць у нашай рабоце.

# УВОДЗІНЫ

Лацінская мова (lingua Latīna), мова старажытных рымлян, атрымала сваю назву ад невялікай вобласці Італіі Лацыум (Latium), якую насялялі лаціны (Latīni). Гэта вобласць знаходзілася ў сярэдняй частцы Апенінскага паўвострава ўздоўж ракі Тыбр. На гэтай рацэ, паводле падання, у 754–753 гг. да н. э. браты Ромул і Рэм заснавалі горад Рым (Roma). Дзякуючы свайму выгаднаму геаграфічнаму становішчу Рым зрабіўся важным гандлёвым цэнтрам, чым прывабліваў пасяленцаў з суседніх тэрыторый, і імкліва развіваўся. Узмацненню Рыма спрыяла яго заваявальная палітыка. Па меры захопу новых тэрыторый і пашырэння Рымскай дзяржавы лацінская мова шырока распаўсюджвалася не толькі ў басейне Міжземнага мора, але і за яго межамі. Фактычна да другой паловы V ст. н. э. (476 г. – год падзення Заходняй Рымскай імперыі) лацінская мова мела статус міжнароднай на ўсёй тэрыторыі Рымскай імперыі.

Такім чынам, амаль усе мовы заваяваных народаў, за выключэннем грэчаскай, выцясняліся латынню. Умацаванню пазіцый лацінскай мовы на захопленых тэрыторыях спрыялі змены ў эканоміцы і культуры мясцовых жыхароў, што адбываліся пад уплывам Рыма. Гэтыя змены патрабавалі новых паняццяў і вызначэнняў лексічнага парадку. Маючы велізарнае лексічнае багацце, граматычную зладжанасць, сцісласць і дакладнасць выказванняў, латынь стала выкарыстоўвацца ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці.

Разгледзім асноўныя перыяды развіцця лацінскай мовы.

**1. Перыяд архаічнай латыні (VI–IV стст. да н. э.).** Першыя пісьмовыя помнікі, што захаваліся, датуюцца VI ст. да н. э. Гэта

надпіс з Форума (частка сакральнага надпісу на «магіле Ромула», знойдзенага падчас раскопак на рымскім Форуме), надпіс на прэнесцінскай фібуле (залатой зашпільцы, знойдзенай у г. Прэнеста (Praeneste)), надпіс Дзвенаса на глінянай пасудзіне.

**2. Перыяд дакласічнай латыні (III ст. да н. э. – пачатак I ст. да н. э.).** У гэты час пачалося станаўленне літаратурнай лацінскай мовы. Асноўныя помнікі гэтага часу – пераклад на латынь «Адысеі» Гамера, выкананы Лівіем Андранікам, камедыі Плаўта і Тэрэнцыя, а таксама трактат Катона Старэйшага «Пра земляробства».

**3. Перыяд класічнай («залатой») латыні (сярэдзіна I ст. да н. э. – сярэдзіна I ст. н. э.).** У гэты час, асабліва пры імператару Аўгусце, лацінская мова дасягае найбольшага росквіту і дасканаласці, атрымлівае граматычную, сінтаксічную і стылістычную завершанасць. «Залаты век» характарызуецца найвышэйшым росквітам рымскай літаратуры. У гэты час пісалі Цыцэрон, Вергілій, Гарацый, Авідзій, Цэзар, Салюстый.

**4. Перыяд посткласічнай («сярэбранай») латыні (I–II стст. н. э.).** Да гэтага часу ўжо канчаткова склаліся фанетычныя і марфалагічныя нормы літаратурнай мовы, былі вызначаны правілы арфаграфіі, якімі дагэтуль кіруюцца пры выданні лацінскіх тэкстаў. Асноўнае адрозненне «сярэбранай» латыні ад «залатой» складаецца ў своеасаблівасці стылістычных сродкаў: у II ст. н. э. у літаратуры ўзнікае кірунак, які арыентуецца на адраджэнне мовы архаічнага перыяду, што надае ёй рысы штучнасці. Найбольш вядомыя аўтары – Сенека, Марцыял, Ювенал, Тацыт, Апулей.

**5. Перыяд позняй латыні (III–VI стст.).** З III ст. н. э. у лацінамоўных аўтараў (галоўным чынам гісторыкаў і хрысціянскіх багасловаў) назіраюцца адступленні ад чысціні класічнай літаратурнай мовы, а таксама пэўны ўплыў з боку моў рымскіх калоній. А калі ў межах Рымскай імперыі з'яўляюцца варвары: франкі, остготы, вандалы, лангабарды, гуны – лацінская мова змяняецца да такой ступені, што знікае нават сама назва lingua Latīna і замест яе ўзнікае паняцце lingua Romāna, што ў далейшым дало падставу мовазнаўцам назваць раманскімі тыя мовы, якія ўзніклі на аснове лацінскай. На іх

фарміраванне значна паўплывала размоўная (sermo cotidĭānus) і простанародная (sermo vulgāris) формы лацінскай мовы.

**6. Перыяд сярэдневяковай латыні (VII–XIII стст.).** Эпоха Сярэднявечча ў гісторыі лацінскай мовы характарызуецца як перыяд Latinĭtas vulgāris («вульгарная латынь»), або Latinĭtas culinaria («кухонная латынь»). Менавіта ў гэты перыяд у лацінскую мову ўваходзіць шмат новых слоў і паняццяў, якія адсутнічалі ў класічнай латыні. Сярэдневяковая латынь мела лакальныя адрозненні ў розных канцах Еўропы. У Францыі, Германіі, Італіі з'яўляюцца лексіконы сярэдневяковай лацінскай мовы, у склад якіх уваходзілі словы, характэрныя толькі для мясцовай літаратурнай традыцыі.

У гэты перыяд адметная ў гісторыі лацінскай мовы і антычнай культуры эпоха каралінгскага Адраджэння (VIII–IX стст.). Менавіта з тых часоў дайшла асноўная колькасць рукапісаў з тэкстамі старажытнарымскіх паэтаў і пісьменнікаў.

**7. Лацінская мова ў эпоху Адраджэння (XIV–XVI стст.).** У гэты час лацінская мова зноў набліжаецца да ідэалу «залатой» латыні, ствараецца выдатная навалацінская літаратура ў многіх еўрапейскіх краінах. На лацінскай мове пісалі Томас Мор у Англіі, Эразм Ратэрдамскі ў Галандыі, Тамаза Кампанела ў Італіі. Беларускі Рэнесанс таксама славуты сваімі лацінамоўнымі аўтарамі. Увесь свет ведае імёны беларускіх асветнікаў і паэтаў Францыска Скарыны, Міколы Гусоўскага, Яна Вісліцкага, Сімяона Полацкага, Саламона Рысінскага, Яна Радвана, Андрэя Рымшы, Мацея Казіміра Сарбеўскага.

**8. Лацінская мова ў Новы час (XVII – пачатак XX ст.).** У гэты перыяд лацінская мова шырока выкарыстоўвалася ў паэзіі, філасофіі, навуцы, увесь час папаўняючыся лексічнымі наватворамі. На лацінскай мове вялося выкладанне ў школах і ва ўніверсітэтах Заходняй Еўропы. Акрамя таго, на гэтай тэрыторыі яна функцыянавала як агульная пісьмовая мова. Аж да XVIII ст. лацінская мова выкарыстоўвалася як мова навукі і дыпламатыі.

Нягледзячы на далейшае выцясненне лацінскай мовы нацыянальнымі, яна і да цяперашняга часу захоўвае сваё значэнне ў галіне навуковай тэрміналогіі ў шэрагу навук, асабліва ў медыцыне, біялогіі, юрыспрудэнцыі.

У наш час лацінская мова – афіцыйная мова каталіцкай царквы і Ватыкана. У каталіцкай царкве да II Ватыканскага сабора (1962–1965) служба ажыццяўлялася толькі на лацінскай мове.

Лацінская мова належыць да індаеўрапейскай моўнай сям'і. Супастаўленне некаторых лексем дастаткова нагляднa дэманструе роднасць індаеўрапейскіх моў. Параўнаем, напрыклад: лац. *mater*, ням. *Mutter*, англ. *mother*, фр. *mere*, іт. *madre*, ісп. *madre*, бел. *маці*, рус. *мать*; лац. *stare*, англ. *stand*, ням. *stehen*, іт. *stare*, бел. *стаяць*, рус. *стоять*; лац. *me*, англ. *me*, фр. *me*, іт. *me*, ісп. *me*, бел. *мяне*, рус. *меня*.

Падчас вывучэння лацінскай мовы трэба памятаць, што яна з'яўляецца ключом да многіх еўрапейскіх моў і еўрапейскай культуры ў цэлым. Такім чынам, латынь садзейнічае ўзбагачэнню кругагляду студэнта, паглыбляе яго эрудыцыю, дапамагае станаўленню спецыяліста высокай культуры і кваліфікацыі.

# Умоўныя скарачэнні

## Лацінскія

*abl*. = ablatīvus – творны склон
*acc*. = accusatīvus – вінавальны склон
*act*. = actīvum – незалежны стан
*adv*. = adverbium – прыслоўе
*compar*. = comparatīvus – вышэйшая ступень параўнання
*conj*. = conjunctīvus – умоўны лад
*dat*. = datīvus – давальны склон
*defect*. = defectīvum – недастатковы дзеяслоў
*f* = feminīnum – жаночы род
*fut*. = futūrum – будучы час
*gen*. = genetīvus – родны склон
*imperat*. = imperatīvus – загадны лад
*imperf*. = imperfectum – прошлы час незакончанага трывання
*impers*. = impersonāle – безасабовы дзеяслоў
*ind*. = indicatīvus – абвесны лад
*indecl*. = indeclinabīle – нескланяльнае слова
*inf*. = infinitīvus – інфінітыў, неазначальная форма дзеяслова
*loc*. = locatīvus – месны склон
*m* = masculīnum – мужчынскі род
*n* = neutrum – ніякі род
*nom*. = nominatīvus – назоўны склон
*pass*. = passīvum – залежны стан
*pcp*. = participium – дзеепрыметнік
*perf*. = perfectum – прошлы час закончанага трывання
*pl*. = plurālis – множны лік
*pl. t*. = plurāle tantum – толькі множны лік
*pqperf*. = plusquamperfectum – запрошлы час
*praes*. = praesens – цяперашні час
*sc*. = scilĭcet – маецца на ўвазе
*sg*. = singulāris – адзіночны лік
*superl*. = superlatīvus – найвышэйшая ступень параўнання
*voc*. = vocatīvus – клічны склон

## Беларускія

бел. – беларускі
в. – вёска
г. – год; горад
г. зн. – гэта значыць
гг. – гады
гл. – глядзі
і г. д. – і гэтак далей
і інш. – і іншыя
лац. – лацінскі
літ. – літаральна
н. э. – наша эра
не суп. – не супадае
п. – пункт
параўн. – параўнай
ст. – стагоддзе
суп. – супадае

# ФАНЕТЫКА

## § 1. Алфавіт (Alphabētum)

Лацінскі алфавіт узыходзіць да аднаго з варыянтаў заходнягрэчаскага пісьма, якое адрознівалася ад усходнягрэчаскага, што прынятае ў грэчаскай мове, чым і тлумачыцца розніца паміж лацінскім і грэчаскім алфавітамі.

Да I ст. да н. э. лацінскі алфавіт складаўся з 21 літары:

A B C D E F G H I K L M N O P Q R S T V X

У канцы I ст. да н. э. для больш дакладнай перадачы адпаведных гукаў у запазычаных грэчаскіх словах былі ўведзены літары **Y** і **Z**. І толькі ў XVI ст. французскі гуманіст Петрус Рамус дадаў у лацінскі алфавіт літары **J j** для перадачы гуку, што адпавядае беларускаму [й], і **U u** для перадачы галоснага [у], які дагэтуль, як і зычны [в], перадаваўся літарай **V v**. У выніку ўсіх змен мы карыстаемся лацінскім алфавітам у наступным выглядзе:

| Абрыс | Назва | Вымаўленне | Абрыс | Назва | Вымаўленне |
|---|---|---|---|---|---|
| A a | а | [а] | N n | эн | [н] |
| B b | бэ | [б] | O o | о | [о] |
| C c | цэ | [ц/к] | P p | пэ | [п] |
| D d | дэ | [д] | Q q | ку | [кв] |
| E e | э | [э] | R r | эр | [р] |
| F f | эф | [ф] | S s | эс | [с] |
| G g | ґэ | [ґ] (выбухное) | T t | тэ | [т] |
| H h | га | [г] (фрыкатыўнае) | U u | у | [у] |
| I i | і | [і] | V v | вэ | [в] |
| J j | ёта | [й] | X x | ікс | [кс] |

| Абрыс | Назва | Вымаўленне | Абрыс | Назва | Вымаўленне |
|---|---|---|---|---|---|
| K k | ка | [к] | Y y | іпсілён | [і] |
| L l | эль | [ль] | Z z | зэта | [з] |
| M m | эм | [м] | | | |

Літары **Y y** і **Z z** выкарыстоўваюцца толькі ў словах, якія запазычаны з грэчаскай мовы.

## § 2. Галосныя і дыфтонгі

Галосныя (vocāles) **a**, **e**, **i**, **o**, **u**, **y** вымаўляюцца так, як паказана ў алфавіце (гл. § 1). Яны могуць быць і працяглыя, і кароткія. Такім чынам, у лацінскай мове налічвалася 12 простых галосных гукаў.

Акрамя таго, у лацінскай мове чатыры дыфтонгі. *Дыфтонгам* называецца вымаўленне дзвюх галосных як аднаго:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **ae** | [э] | aera | [эра] |
| **oe** | [э] | poena | [пэна] |
| **au** | [аў] | aurum | [аўрум] |
| **eu** | [эў] | Europa | [эўропа] |

З а ў в а г а. Калі спалучэнні **ae**, **oe** належаць да розных складоў, тады над **e** ставіцца двукроп’е або пазначаецца яго працягласць ці кароткасць: aër = aēr [á-эр], coëmo = coëmo [kó-э-мо].

## § 3. Працягласць і кароткасць галосных

Усе простыя галосныя могуць быць і працяглыя, і кароткія. Працягласць і кароткасць бываюць прыродныя і пазіцыйныя. Прыродныя працягласць і кароткасць на пісьме пазначаюцца надрадковымі знакамі: працягласць – рыскай (**ā**), кароткасць – дужкай (**ă**), напрыклад: civīlis, popŭlus. Пазіцыйныя працягласць і кароткасць вызначаюцца правіламі і не пазначаюцца на пісьме:

1) галосны перад галосным заўсёды кароткі: justitia, video;

2) галосны перад групай зычных, а таксама перад **x**, **z** працяглы, за выключэннем спалучэнняў выбухных **b**, **p**, **d**, **t**, **c**, **g** з санорнымі **r**, **l** (акрамя выпадкаў, калі галосны з’яўляецца працяглым па прыродзе, напрыклад: theātrum): argumentum, magister, але arbĭtri, tenĕbrae.

Дыфтонгі заўсёды працяглыя: tropaeum.

Працягласць і кароткасць адыгрываюць ролю пры вызначэнні семантыкі слоў, напрыклад: mălum – *зло*, mālum – *яблык*, і іх форм,

напрыклад: justitiă і justitiā (розныя склонавыя формы). Але галоўная мэта вызначэння працягласці і кароткасці – правільна паставіць націск у слове. Таму важна, які па колькасці передапошні склад у слове, бо гэта вызначае месца націску (гл. § 6).

## § 4. Зычныя

Зычныя (consonantes) маюць наступныя асаблівасці ў вымаўленні.

**C c** перад галоснымі **e**, **i**, **y** і дыфтонгамі **ae**, **oe**, **eu** вымаўляецца як [**ц**], а перад астатнімі галоснымі, зычнымі і на канцы слова – як [**к**]:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Cicĕro | [цыцэро] | corpus | [корпус] |
| Caesar | [цэзар] | cultura | [культура] |
| cyanus | [цыанус] | caput | [капут] |
| coepi | [цэпі] | fac | [фак] |

**G g** вымаўляецца як [ґ] выбухное (як у запазычаных словах *ганак*, *гузік* і г. д.).

**H h** вымаўляецца як [г] у беларускай мове (фрыкатыўна).

**J j** ужываецца толькі ў спалучэнні з **a**, **e**, **o**, **u**:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **ja** | [я] | jam | [ям] | **jo** | [ё] | jocus | [ёкус] |
| **je** | [е] | jeci | [ецы] | **ju** | [ю] | jus | [юс] |

Літара **K k** рана перастала ўжывацца і захавалася толькі ў некаторых словах, напрыклад: Kalendae.

**L l** вымаўляецца сярэдне паміж цвёрдым і мяккім [**ль**]:

| | | | |
|---|---|---|---|
| lex | [лекс] | lapsus | [ляпсус] |

**Q q** ужываецца толькі ў спалучэнні з **u**: **qu** – [**кв**]:

| | | | |
|---|---|---|---|
| aqua | [аква] | equus | [эквус] |
| quid | [квід] | quartus | [квартус] |

**S s** вымаўляецца як [**с**]: sed [сэд], але паміж галоснымі – як [**з**]: casus [казус]. У словах грэчаскага паходжання **s** заўсёды вымаўляецца як [**с**]: pilosophia [філёсофіа].

Спалучэнне **ti** вымаўляецца як:

• [**цы**] – перад галосным:

| | | | |
|---|---|---|---|
| lectio | [лекцыо] | oratio | [арацыо] |

• [**ті**] – 1) перад зычным: Titus [тітус]; 2) пасля **s**, **t**, **x**: bestia [бэстіа], Atticus [аттікус], mixtio [мікстіо]; 3) калі галосны ў гэтым складзе

працяглы: totīus [тотіус]; 4) у некаторых граматычных формах (вышэйшая ступень параўнання прыметнікаў: altius [альтіус]; participium praesentis activi у gen. pl: ornantium [орнантіум]); 5) на стыку марфем: dent-ium [дэнтіум].

Спалучэнне **ngu** перад галоснымі вымаўляецца як [**нґв**]:

| | | | |
|---|---|---|---|
| lingua | [лінґва] | sanguis | [санґвіс] |

Спалучэнне **su** перад галоснымі **a**, **e** у некаторых словах вымаўляецца як [**св**]:

| | | | |
|---|---|---|---|
| suavis | [свавіс] | Suebi | [свэбі] |

але: suus [суус], sua [суа], sui [суі].

## § 5. Грэчаскія спалучэнні зычных

Для абазначэння прыдыхальных грэчаскіх гукаў ужываюцца спалучэнні зычных з **h**:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **ch** | [х] | charta | [харта] |
| **sch** | [х] | schola | [схоля] |
| **ph** | [ф] | sphaera | [сфэра] |
| **th** | [т] | thermae | [тэрмэ] |
| **rh** | [р] | rhythmus | [рітмус] |

## § 6. Націск (Accentus)

Націск ставіцца па наступных правілах:

1. У словах, якія складаюцца з двух складоў, націск ставіцца на першы склад: **cá**-put.

2. У словах, якія складаюцца з трох і больш складоў, месца націску вызначаецца па перадапошнім складзе:

а) калі перадапошні склад утрымлівае працяглы галосны або дыфтонг, націск ставіцца на перадапошні склад: na-**tū́**-ra, Ar-go-**naú**-tae;

б) калі перадапошні склад утрымлівае кароткі галосны, націск ставіцца на трэці склад ад канца: **ár**-bĭ-ter;

в) калі ў перадапошнім складзе галосны знаходзіцца перад двума і больш зычнымі, націск ставіцца на перадапошні склад: ar-gu-**mén**-tum;

г) калі ў перадапошнім складзе галосны знаходзіцца перад галосным, націск ставіцца на трэці склад ад канца: **ná**-ti-o.

## § 7. Найважнейшыя фанетычныя правілы

1. Кароткае **ŏ** у апошнім закрытым складзе пераходзіць у **ŭ**. Гэта з’ява сустракаецца пры скланенні назоўнікаў 2-га скланення ў nominatīvus і accusatīvus singulāris:

Nom. lupŭs < lupŏs belŭm < bellŏm
Acc. lupŭm < lupŏm belŭm < bellŏm

2. Кароткае **ĭ** у апошнім адкрытым складзе перайшло ў **ĕ** або выпала:

Nom. marĕ < marĭ animal < animalĭ

3. Усе кароткія галосныя ў пасярэднім адкрытым складзе пераходзяць у **ĭ** (калі гэтаму не перашкаджаюць якія-небудзь іншыя ўмовы):

căpio – ac-cĭpio nomĕn – nomĭnis

4. Кароткае **ĭ** перад **r** пераходзіць у **ĕ**:

capĭ-re > capĕ-re facĭ-re > facĕ-re

5. Зычны **s** паміж галоснымі пераходзіць у **r**. Такая з’ява называецца ратацызмам (параўн. *imperf.* і *fut.* I дзеяслова esse: eram < esam, ero < eso; гл. § 79, п. 1).

# МАРФАЛОГІЯ

## § 8. Назоўнік (Nomen substantīvum)

У лацінскай мове назоўнік мае наступныя граматычныя катэгорыі:

1. Род (genus):
   - masculīnum (*m*) – мужчынскі;
   - feminīnum (*f*) – жаночы;
   - neutrum (*n*) – ніякі.

Род назоўнікаў у лацінскай і беларускай мовах не заўсёды супадае, таму ён пазначаецца ў слоўніку.

2. Лік (numĕrus):
   - singulāris (*sg.*) – адзіночны;
   - plurālis (*pl.*) – множны.

Некаторыя назоўнікі, як і ў беларускай мове, маюць форму толькі множнага ліку. Такія словы называецца pluralia tantum (*pl. t.*).

3. Склон (casus):
   - nominatīvus (*nom.*) – назоўны (хто? што?);
   - genetīvus (*gen.*) – родны (каго? чаго? чый?);
   - datīvus (*dat.*) – давальны (каму? чаму? для каго? для чаго? у каго?);
   - accusatīvus (*acc.*) – вінавальны (каго? што? куды? калі?);
   - ablatīvus (*abl.*) – творны (кім? чым? дзе? калі? адкуль? ад каго? ад чаго? як? чаму?);
   - vocatīvus (*voc.*) – клічны (адпавядае звароту).

4. Скланенне (declinatio):
   - prima (1-е) – першае;
   - secunda (2-е) – другое;
   - tertia (3-е) – трэцяе;
   - quarta (4-е) – чацвёртае;
   - quinta (5-е) – пятае.

Тып скланення вызначаецца па канчатку genetīvus singulāris (роднага склону адзіночнага ліку), які пазначаецца ў слоўнікавай форме пасля формы назоўніка ў nominatīvus singulāris (назоўным склоне адзіночнага ліку):

| Скланенне | Канчатак gen. sg. | Слоўнікавая форма |
|---|---|---|
| 1-е | **-ae** | terra, ae *f* |
| 2-е | **-i** | popŭlus, i *m* |
| 3-е | **-is** | pax, pacis *f* |
| 4-е | **-ūs** | fructus, ūs *m* |
| 5-е | **-ei** | fides, ei *f* |

Размеркаванне назоўнікаў па скланеннях адбылося ў залежнасці ад гуку, на які заканчваецца гістарычная аснова:

| Скланенне | Канцавы гук |
|---|---|
| 1-е | **-ā-** |
| 2-е | **-ŏ-** |
| 3-е | **зычны** або **-ĭ-** |
| 4-е | **-ū-** |
| 5-е | **-ē-** |

***Слоўнікавая форма*** назоўніка ўключае:

1) поўную форму *nom. sg.*;
2) канчатак, частку формы або поўную форму *gen. sg.*;
3) скарочанае абазначэнне роду (*m*, *f*, *n*).

## § 9. 1-е скланенне назоўнікаў (Declinatio prima substantivōrum)

Да 1-га скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з гістарычнай асновай на **-ā**. У nominatīvus singulāris яны маюць канчатак **-а**, у genetīvus singulāris – **-ae**: silva, ae *f* – *лес*; terra, ae *f* – *зямля*. Да гэтага скланення таксама адносяцца некаторыя назоўнікі мужчынскага роду па значэнні: poēta, ae *m* – *паэт*; nauta, ae *m* – *марак* (параўн. у бел. мове: *дзядзька*, *Янка*, *стараста* і інш.).

**Узор 1-га скланення**

| Склон | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|
| Nom. | silv-**a** | silv-**ae** |
| Gen. | silv-**ae** | silv-**ārum** |
| Dat. | silv-**ae** | silv-**is** |
| Acc. | silv-**am** | silv-**as** |
| Abl. | silv-**ā** | silv-**is** |
| Voc. | silv-**a** | silv-**ae** |

З а ў в а г і.

1. У singulāris формы nominatīvus і ablatīvus адрозніваюцца толькі колькасцю галоснага **а**. Каб не блытаць гэтыя склоны ў тэксце, у ablatīvus звычайна пазначаюць працягласць галоснага: **ā**.

2. У plurālis супадаюць формы datīvus і ablatīvus. Супадзенне гэтых склонаў характэрна для ўсіх скланенняў.

# § 10. 2-е скланенне назоўнікаў (Declinatio secunda substantivōrum)

Да 2-га скланення адносяцца назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з гістарычнай асновай на **-ŏ**. У *nom. sg.* назоўнікі мужчынскага роду заканчваюцца на **-us**, **-er** (servus, i *m – раб*; liber, bri *m – кніга*; puer, ĕri *m – хлопчык*), адзін назоўнік – на **-ir** (vir, viri *m – муж*, *мужчына*), назоўнікі ніякага роду – на **-um** (verbum, i *n – слова*).

У *gen. sg*. яны маюць канчатак **-i**.

**Узор 2-га скланення**

| Склон | Singulāris | | | |
|---|---|---|---|---|
| Nom. | serv-**us** | liber | puer | verb-**um** |
| Gen. | serv-**i** | libr-**i** | puĕr-**i** | verb-**i** |
| Dat. | serv-**o** | libr-**o** | puĕr-**o** | verb-**o** |
| Acc. | serv-**um** | libr-**um** | puĕr-**um** | verb-**um** |
| Abl. | serv-**o** | libr-**o** | puĕr-**o** | verb-**o** |
| Voc. | serv-**e** | liber | puer | verb-**um** |
| | Plurālis | | | |
| Nom. | serv-**i** | libr-**i** | puĕr-**i** | verb-**a** |
| Gen. | serv-**ōrum** | libr-**ōrum** | puer-**ōrum** | verb-**ōrum** |
| Dat. | serv-**is** | libr-**is** | puĕr-**is** | verb-**is** |
| Acc. | serv-**os** | libr-**os** | puĕr-**os** | verb-**a** |
| Abl. | serv-**is** | libr-**is** | puĕr-**is** | verb-**is** |
| Voc. | serv-**i** | libr-**i** | puĕr-**i** | verb-**a** |

З а ў в а г і.

1. Назоўнікі мужчынскага роду на **-us** утвараюць *voc. sg.* з дапамогай канчатка **-e**; у астатніх назоўнікаў 2-га скланення форма *voc. sg.* супадае з формай *nom. sg.*

2. У назоўнікаў на **-er** галосны **e** або застаецца ў аснове (puer, puĕr-i), або выпадае (liber, libr-i) (параўн. у бел. мове: *вечар*, *вечара* і *вецер*, *ветру*).

3. Да 2-га скланення адносяцца і некаторыя назоўнікі жаночага роду з канчаткам **-us**. Гэта словы, якія абазначаюць дрэвы, краіны, гарады, астравы: laurus, i *f* – *лаўр*; Aegyptus, i *f* – *Егіпет*; Corinthus, i *f* – *Карынф*; Rhodus, i *f* – *Радос*, а таксама назоўнікі humus, i *f* – *зямля*; alvus, i *f* – *жывот*, *чэрава*. Да 2-га скланення адносяцца назоўнікі ніякага роду на **-us**: virus, i *n* – *атрута*; vulgus, i *n* – *народ* і некаторыя іншыя.

4. Форма *voc. sg.* уласных імёнаў на **-ius**, а таксама назоўнікаў filius, i *m* – *сын*, genius, i *m* – *бог-заступнік* супадае з асновай на **-i** (fili, geni).

## § 11. Асаблівасці скланення назоўнікаў ніякага роду

1. І ў singulāris, і ў plurālis формы nominatīvus, accusatīvus і vocatīvus заўсёды супадаюць.

2. У plurālis гэтыя склоны маюць канчатак **-a** (параўн. у бел. мове скланенне назоўніка ніякага роду *слова*).

3. Гэтыя правілы распаўсюджваюцца і на скланенне прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў, дзеепрыметнікаў.

## § 12. 3-е скланенне назоўнікаў (Declinatio tertia substantivōrum)

Да 3-га скланення адносяцца назоўнікі ўсіх трох родаў з гістарычнай асновай на зычны гук або галосны **ĭ**. У *nom. sg.* канчаткі розныя, у *gen. sg.* канчатак **-is**. Калі ў 1-м і 2-м скланенні аснову назоўніка можна вызначыць ужо па *nom. sg.*, то ў 3-м скланенні аснова ў гэтым склоне вельмі часта змяняецца. Таму аснову трэба вызначаць па форме *gen. sg.*:

| Nom. sg. | Gen. sg. | Аснова |
|---|---|---|
| homo – *чалавек* | homĭn-is | homĭn- |
| lex – *закон* | leg-is | leg- |
| tempus – *час* | tempŏr-is | tempŏr- |

Такім чынам, важна ведаць форму *gen. sg.*, бо па ёй вызначаецца і тып скланення, і аснова назоўніка.

Паколькі гістарычная аснова ў 3-м скланенні заканчваецца або на зычны гук, або на галосны **ĭ**, то назоўнікі падзяляюцца на тры тыпы: зычны, галосны і змешаны, які з'яўляецца вынікам узаемаўплыву двух папярэдніх.

**Табліца канчаткаў трох тыпаў назоўнікаў 3-га скланення**

| Склон | Singulāris | | Plurālis | |
|---|---|---|---|---|
| | *m*, *f* | *n* | *m*, *f* | *n* |
| Nom. | розныя | | **-es** | **-a**, **-ia** |
| Gen. | **-is** | | **-um**, **-ium** | |
| Dat. | **-i** | | **-ĭbus** | |
| Acc. | **-em** | = nom. | **-es** | = nom. |
| Abl. | **-e**, **-i** | | **-ĭbus** | |
| Voc. | = nom. | | = nom. | |

З а ў в а г і.
1. Пры скланенні назоўнікі ніякага роду маюць асаблівасці, пазначаныя ў § 11.
2. Формы vocatīvus і ў singulāris, і ў plurālis супадаюць з формамі nominatīvus.

## § 13. 3-е зычнае скланенне

Да гэтага тыпу адносяцца няроўнаскладовыя назоўнікі (у *gen*. больш складоў, чым у *nom*.), аснова якіх заканчваецца на адзін зычны гук (аснова вызначаецца па форме *gen. sg*.): homo, homĭn-is *m – чалавек*; lex, leg-is *f – закон*; tempus, tempŏr-is *n – час*; nomen, nomĭn-is *n – імя*.

Гістарычная аснова заканчваецца на зычны гук.

**Узор 3-га зычнага скланення**

| Склон | *m* | *f* | *n* | |
|---|---|---|---|---|
| | Singulāris | | | |
| Nom. | homo | lex | tempus | nomen |
| Gen. | homĭn-**is** | leg-**is** | tempŏr-**is** | nomĭn-**is** |
| Dat. | homĭn-**i** | leg-**i** | tempŏr-**i** | nomĭn-**i** |
| Acc. | homĭn-**em** | leg-**em** | tempus | nomen |
| Abl. | homĭn-**e** | leg-**e** | tempŏr-**e** | nomĭn-**e** |
| Voc. | homo | lex | tempus | nomen |
| Plurālis | | | | |
| Nom. | homĭn-**es** | leg-**es** | tempŏr-**a** | nomĭn-**a** |
| Gen. | homĭn-**um** | leg-**um** | tempŏr-**um** | nomĭn-**um** |

| Склон | *m* | *f* | *n* | |
|---|---|---|---|---|
| | Plurālis | | | |
| Dat. | homin-**ĭbus** | leg-**ĭbus** | tempor-**ĭbus** | nomin-**ĭbus** |
| Acc. | homĭn-**es** | leg-**es** | tempŏr-**a** | nomĭn-**a** |
| Abl. | homin-**ĭbus** | leg-**ĭbus** | tempor-**ĭbus** | nomin-**ĭbus** |
| Voc. | homĭn-**es** | leg-**es** | tempŏr-**a** | nomĭn-**a** |

## § 14. 3-е змешанае скланенне

Да гэтага тыпу адносяцца назоўнікі:

1) няроўнаскладовыя, аснова якіх заканчваецца на групу зычных (аснова вызначаецца па форме *gen. sg*.): dens, dent-is *m – зуб*; pars, part-is *f – частка*; os, oss-is *n – костка*;

2) роўнаскладовыя (у *nom*. і *gen*. аднолькавая колькасць складоў), якія ў *nom. sg*. заканчваюцца на **-is**, **-es**: finis, fin-is *m – канец*; aedes, aed-is *f – будынак*.

**Узор 3-га змешанага скланення**

| Склон | *m* | *f* | *n* | *m* |
|---|---|---|---|---|
| | Singulāris | | | |
| Nom. | dens | pars | os | finis |
| Gen. | dent-**is** | part-**is** | oss-**is** | fin-**is** |
| Dat. | dent-**i** | part-**i** | oss-**i** | fin-**i** |
| Acc. | dent-**em** | part-**em** | os | fin-**em** |
| Abl. | dent-**e** | part-**e** | oss-**e** | fin-**e** |
| Voc. | dens | pars | os | finis |
| Plurālis | | | | |
| Nom. | dent-**es** | part-**es** | oss-**a** | fin-**es** |
| Gen. | dent-**ium** | part-**ium** | oss-**ium** | fin-**ium** |
| Dat. | dent-**ĭbus** | part-**ĭbus** | oss-**ĭbus** | fin-**ĭbus** |
| Acc. | dent-**es** | part-**es** | oss-**a** | fin-**es** |
| Abl. | dent-**ĭbus** | part-**ĭbus** | oss-**ĭbus** | fin-**ĭbus** |
| Voc. | dent-**es** | part-**es** | oss-**a** | fin-**es** |

Ад зычнага тыпу 3-га скланення змешаны тып адрозніваецца толькі канчаткам **-ium** у *gen. pl*.

# § 15. 3-е галоснае скланенне

Да гэтага тыпу адносяцца назоўнікі толькі ніякага роду, якія ў *nom. sg.* заканчваюцца на **-e**, **-al**, **-ar**: mare, mar-is *n – мора*; anĭmal, animāl-is *n – жывёла*; exemplar, exemplār-is *n – узор*, *прыклад*. Гістарычная аснова, якая заканчваецца на **ĭ**, істотна змяняецца ў *nom. sg*.

**Узор 3-га галоснага скланення**

| Склон | Singulāris | | |
|---|---|---|---|
| Nom. | mare | anĭmal | exemplar |
| Gen. | mar-**is** | animāl-**is** | exemplār-**is** |
| Dat. | mar-**i** | animāl-**i** | exemplār-**i** |
| Acc. | mare | anĭmal | exemplar |
| Abl. | mar-**i** | animāl-**i** | exemplār-**i** |
| Voc. | mare | anĭmal | exemplar |
| | Plurālis | | |
| Nom. | mar-**ia** | animal-**ia** | exemplar-**ia** |
| Gen. | mar-**ium** | animal-**ium** | exemplar-**ium** |
| Dat. | mar-**ĭbus** | animal-**ĭbus** | exemplar-**ĭbus** |
| Acc. | mar-**ia** | animal-**ia** | exemplar-**ia** |
| Abl. | mar-**ĭbus** | animal-**ĭbus** | exemplar-**ĭbus** |
| Voc. | mar-**ia** | animal-**ia** | exemplar-**ia** |

Ад зычнага тыпу 3-га скланення галосны тып адрозніваецца канчаткамі ў *abl. sg.* (**-i**), *nom.*, *acc.*, *voc. pl.* (**-ia**), *gen. pl.* (**-ium**), дзе галосны асновы **i** трапіў у граматычны канчатак.

# § 16. Асаблівасці 3-га скланення

1. Па 3-м зычным тыпе скланяюцца назоўнікі: mater, tris *f – маці*; pater, tris *m – бацька*; frater, tris *m – брат*; juvĕnis, is *m – юнак*; parens, entis *m*, *f – бацька*, *маці*; canis, is *m – сабака*.

2. Назоўнікі sitis, is *f – смага*; puppis, is *f – карма́*; turris, is *f – вежа*; febris, is *f – гарачка*, *ліхаманка*; vis *f – сіла*, *моц*; secūris, is *f – сякера*, а таксама назвы рэк і гарадоў на **-is** (напрыклад, Tibĕris, is *m – Тыбр* (рака); Neapŏlis, is *f – Неапаль* (горад)) маюць у *acc. sg.* канчатак **-im**, у *abl. sg.* канчатак **-i**.

3. Назоўнікі navis, is *f – карабель*; classis, is *f – флот* могуць мець у *acc. sg.* канчатак **-im**, у *abl. sg.* канчатак **-i**; назоўнік ignis, is *m – агонь* можа мець у *abl. sg.* канчатак **-i**.

4. Скланенне назоўніка vis, *f* – *сіла*, *моц*:

| Склон | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|
| Nom. | vis | vires |
| Gen. | – | virium |
| Dat. | – | virĭbus |
| Acc. | vim | vires |
| Abl. | vi | virĭbus |

5. Скланенне назоўніка bos, bovis *m*, *f* – *бык*, *карова*:

| Склон | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|
| Nom. | bos | boves |
| Gen. | bovis | boum |
| Dat. | bovi | bobus, bubus |
| Acc. | bovem | boves |
| Abl. | bove | bobus, bubus |

6. Скланенне назоўніка vas, vasis *n* – *пасудзіна*, *сасуд*:

| Склон | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|
| Nom. | vas | vasa |
| Gen. | vasis | vasōrum |
| Dat. | vasi | vasis |
| Acc. | vas | vasa |
| Abl. | vase | vasis |

7. Скланенне назоўніка Juppĭter, Jovis *m* – *Юпітэр*:

| Склон | Singulāris |
|---|---|
| Nom. | Juppĭter |
| Gen. | Jovis |
| Dat. | Jovi |
| Acc. | Jovem |
| Abl. | Jove |

## § 17. Утварэнне nominatīvus singulāris у 3-м скланенні. Сігматычнае ўтварэнне

*Nom. sg.* у 3-м скланенні ўтвараецца па двух тыпах:

1) сігматычнае ўтварэнне (сігматычны намінатыў) – з дапамогай канчатка **-s**;

2) асігматычнае ўтварэнне (асігматычны намінатыў) – без канчатка **-s** (г. зн. з дапамогай нулявога канчатка).

### Сігматычнае ўтварэнне nominatīvus singulāris

З дапамогай канчатка **-s** утвараецца *nom. sg*. толькі ў назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду з асновай на зычныя **b**, **p**, **c**, **g**, **d**, **t**, **m**, а таксама на галосны **i**.

1. Асновы на **b**, **p**, **m** і галосны **i** у *nom. sg*. не змяняюцца:

| Аснова | Nom. sg. | Gen. sg. | Пераклад |
|---|---|---|---|
| pleb- | pleb-s | pleb-is | народ, натоўп |
| stirp- | stirp-s | stirp-is | пень; род, племя |
| hiem- | hiem-s | hiĕm-is | зіма |
| fini- | fini-s | fin-is | рубеж, канец |
| avi- | avi-s | av-is | птушка |

Заўвага. У назоўнікаў тыпу finis і avis гістарычная аснова заканчваецца на **-i**, але практычна асновай лічыцца частка слова, што выдзяляецца па *gen. sg*. пасля адкідвання канчатка **-is**.

2. У *nom. sg*. змяняюцца асновы на **c**, **g** (**c** + **s**, **g + s > x**):

| Аснова | Nom. sg. | Gen. sg. | Пераклад |
|---|---|---|---|
| luc- | luc-s > lux | luc-is | святло |
| duc- | duc-s > dux | duc-is | правадыр |
| pac- | pac-s > pax | pac-is | мір |
| reg- | reg-s > rex | reg-is | цар |
| leg- | leg-s > lex | leg-is | закон |
| radic- | radic-s > radix | radīc-is | корань |
| judec- | judec-s > judex | judĭc-is | суддзя |

3. У *nom. sg*. **d** і **t** перад **s** цалкам асімілююцца, пасля чаго спалучэнне **ss** спрашчаецца, у выніку чаго застаецца адно **s**:

| Аснова | Nom. sg. | Gen. sg. | Пераклад |
|---|---|---|---|
| ped- | ped-s > pes | ped-is | нага |
| milet- | milet-s > miles | milĭt-is | воін |
| civitat- | civitat-s > civĭtas | civitāt-is | дзяржава |
| palud- | palud-s > palus | palūd-is | балота |
| salut- | salut-s > salus | salūt-is | дабро |

Заўвага. Па фанетычным законе **ĕ** у пасярэднім адкрытым складзе пераходзіць у **ĭ** (гл. § 7).

# § 18. Асігматычнае ўтварэнне nominatīvus singulāris

Без канчатка **-s** (г. зн. з нулявым канчаткам) *nom. sg.* утвараюць назоўнікі мужчынскага і жаночага роду з асновамі на **l**, **r**, **n**, **s** і ўсе назоўнікі ніякага роду.

### Назоўнікі мужчынскага і жаночага роду

1. Калі аснова заканчваецца на **l**, **r**, *nom. sg.* супадае з асновай:

| Аснова | Nom. sg. | Gen. sg. | Пераклад |
|---|---|---|---|
| consul- | consul | consŭl-is | консул |
| sol- | sol | sol-is | сонца |
| victor- | victor | victōr-is | пераможца |
| uxor- | uxor | uxōr-is | жонка |
| pater- | pater | patr-is | бацька |
| mater- | mater | matr-is | маці |

З а ў в а г а. У назоўнікаў з асновай на **ter-** ва ўскосных склонах **e** выпадае: patr-, matr-.

2. Калі аснова заканчваецца на **n** (**-on-**, **-in-**), у *nom. sg.* **n** выпадае, **o** захоўваецца, **ĭ** пераходзіць у **o**:

| Аснова | Nom. sg. | Gen. sg. | Пераклад |
|---|---|---|---|
| sermon- | sermo | sermōn-is | размова |
| nation- | natio | natiōn-is | народ |
| homĭn- | homo | homĭn-is | чалавек |
| vigrĭn- | vigro | vigrĭn-is | дзяўчына |
| ordĭn- | ordo | ordĭn-is | парадак |

З а ў в а г а. Склад **-on-** асновы ва ўскосных склонах пераходзіць у **-in-** у назоўнікаў, якія заканчваюцца ў *nom. sg.* на **-do** і **-go,** і ў назоўніка homo.

3. Аснова на **s** звычайна ў *nom. sg.* захоўваецца ў чыстым выглядзе, але ва ўскосных склонах **s** > **r** па законе ратацызму (гл. § 7); часам **s** > **r** і ў *nom. sg.* пад уплывам ускосных склонаў:

| Аснова | Nom. sg. | Gen. sg. | Пераклад |
|---|---|---|---|
| mos- | mos | mor-is | звычай |
| flos- | flos | flor-is | кветка |
| ceres- | Ceres | Cerĕr-is | Цэрэра |
| cinis- | cinis | cinĕr-is | попел |

| Аснова | Nom. sg. | Gen. sg. | Пераклад |
|---|---|---|---|
| honos- | honor | honōr-is | гонар |
| mulies- | mulier | muliĕr-is | жанчына |

З а ў в а г а. Галосны **ĭ** перад **r** пераходзіць у **ĕ** (гл. § 7).

**Назоўнікі ніякага роду**

1. Калі аснова заканчваецца на **n** (**-men**), форма *nom. sg.* супадае з асновай, але ва ўскосных склонах **ĕ > ĭ** у пасярэднім адкрытым складзе (гл. § 7):

| Аснова | Nom. sg. | Gen. sg. | Пераклад |
|---|---|---|---|
| nomen- | nomen | nomĭn-is | імя |
| culmen- | culmen | culmĭn-is | вяршыня |

2. Калі аснова заканчваецца на **s** (**-os**, **-es**), форма *nom. sg.* супадае з асновай, але ў апошнім закрытым складзе па фанетычным законе **ŏ**, **ĕ** пераходзяць у **ŭ** (гл. § 7):

| Аснова | Nom. sg. | Gen. sg. | Пераклад |
|---|---|---|---|
| corpŏs- | corpus | corpŏr-is | цела |
| genĕs- | genus | genĕr-is | род |

З а ў в а г а. Ва ўскосных склонах **s > r** па законе ратацызму (гл. § 7).

## § 19. 4-е скланенне назоўнікаў (Declinatio quarta substantivōrum)

Да 4-га скланення адносяцца назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з гістарычнай асновай на **-ū**. У *nom. sg.* у назоўнікаў мужчынскага роду канчатак **-us**, ніякага роду – **-u**. У *gen. sg.* канчатак **-ūs**: fructus, ūs *m* – *плод*, *плён*; cornu, ūs *n* – *рог*.

**Узор 4-га скланення**

| Склон | *m* | *n* |
|---|---|---|
| | Singulāris | |
| Nom. | fruct-**us** | corn-**u** |
| Gen. | fruct-**ūs** | corn-**ūs** |
| Dat. | fruct-**ui** | corn-**u** |
| Acc. | fruct-**um** | corn-**u** |

| Склон | *m* | *n* |
|---|---|---|
| | Singulāris | |
| Abl. | fruct-**u** | corn-**u** |
| Voc. | fruct-**us** | corn-**u** |
| | Plurālis | |
| Nom. | fruct-**ūs** | corn-**ua** |
| Gen. | fruct-**uum** | corn-**uum** |
| Dat. | fruct-**ĭbus** | corn-**ĭbus** |
| Acc. | fruct-**ūs** | corn-**ua** |
| Abl. | fruct-**ĭbus** | corn-**ĭbus** |
| Voc. | fruct-**ūs** | corn-**ua** |

З а ў в а г і.

1. Да 4-га скланення адносяцца і некаторыя назоўнікі жаночага роду з канчаткам **-us**: domus, ūs *f* – *дом*; portĭcus, ūs *f* – *порцік*, *галерэя з калонамі*; Idus, uum *f* – *іды* (13-ы або 15-ы дзень месяца); manus, ūs *f* – *рука*.

2. Назоўнік domus, ūs *f* – *дом* утварае паралельныя формы па 2-м скланенні; гэтыя формы перакладаюцца наступным чынам: domo (*abl. sg.*) – *з дому*; domum (*acc. sg.*) – *дадому*; domi (*loc. sg.*) – *дома* (locatīvus – месны склон; адказвае на пытанне *дзе?*; гл. § 96, п. 3.1); domos (*acc. pl.*) – *па дамах*.

3. Аб асаблівасцях скланення назоўнікаў ніякага роду гл. § 11.

## § 20. 5-е скланенне назоўнікаў (Declinatio quinta substantivōrum)

Да 5-га скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з гістарычнай асновай на **-ē**. У *nom. sg*. канчатак **-es**, у *gen. sg*. **-ei**: res, rei *f* – *рэч*, *справа*, *прадмет*, *абставіны*.

**Узор 5-га скланення**

| Склон | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|
| Nom. | r-**es** | r-**es** |
| Gen. | r-**ei** | r-**ērum** |
| Dat. | r-**ei** | r-**ēbus** |
| Acc. | r-**em** | r-**es** |
| Abl. | r-**e** | r-**ēbus** |
| Voc. | r-**es** | r-**es** |

З а ў в а г і.

1. У *gen.* і *dat. sg*. галосны **e** працяглы, калі знаходзіцца пасля галоснага (facies – faciēi), і кароткі, калі знаходзіцца пасля зычнага (fides – fidĕi).

2. Слова dies, ēi *m*, *f* у мужчынскім родзе мае значэнне *дзень*, у жаночым – *тэрмін*.

# § 21. Зводная табліца склонавых канчаткаў назоўнікаў

| Склон | 1-е скл. | 2-е скл. | | 3-е скл. | | 4-е скл. | | 5-е скл. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *f* (*m*) | *m* (*f*) | *n* | *m*, *f* | *n* | *m* (*f*) | *n* | *f* (*m*) |
| | Singulāris | | | | | | | |
| Nom. | -a | -us, (-er)Ø[1] | -um | розныя | | -us | -u | -es |
| Gen. | -ae | -i | | -is | | -ūs | | -ēi/-ĕi[7] |
| Dat. | -ae | -o | | -i | | -ui | -u | -ēi/-ĕi[7] |
| Acc. | -am | -um | | -em (-im[3]) | =nom. | -um | -u | -em |
| Abl. | -ā | -o | | -e/-i[4] | | -u | | -e |
| Voc. | -a | -e[2]/=nom. | -um | =nom. | | -us | -u | -es |
| | Plurālis | | | | | | | |
| Nom. | -ae | -i | -a | -es | -a/-ia[5] | -ūs | -ua | -es |
| Gen. | -ārum | -ōrum | | -um/-ium[6] | | -uum | | -ērum |
| Dat. | -is | -is | | -ĭbus | | -ĭbus | | -ĭbus |
| Acc. | -as | -os | -a | -es | -a/-ia[5] | -ūs | -ua | -es |
| Abl. | -is | -is | | -ĭbus | | -ĭbus | | -ĭbus |
| Voc. | -ae | -i | -a | -es | -a/-ia[5] | -ūs | -ua | -es |

З а ў в а г і.

1. Нулявы канчатак (**-Ø**) у *nom. sg*. маюць назоўнікі 2-га скланення, якія ў гэтай форме заканчваюцца на **-er** (puer, ĕri *m – хлопчык*; liber, bri *m – кніга*).

2. Канчатак **-e** у *voc. sg*. маюць назоўнікі 2-га скланення, якія ў *nom. sg.* заканчваюцца на **-us**.

3а. Канчатак **-im** у *acc. sg*. маюць назоўнікі 3-га скланення sitis, is *f – смага*; puppis, is *f – кармá*; turris, is *f – вежа*; febris, is *f – гарачка*, *ліхаманка*; vis *f – сіла*, *моц*; secūris, is *f – сякера*, а таксама назвы рэк і гарадоў на **-is** (напрыклад, Tibĕris, is *m – Тыбр* (рака); Neapŏlis, is *f – Неапаль* (горад)).

3б. Такі самы канчатак часам маюць назоўнікі navis, is *f – карабель*; classis, is *f – флот*.

4. Канчатак **-i** у *abl. sg*. маюць назоўнікі 3-га скланення галоснага тыпу, а таксама пералічаныя ў п. 3а. Такі самы канчатак часам маюць назоўнікі navis, is *f – карабель*; classis, is *f – флот*; ignis, is *m – агонь*.

5. Канчатак **-ia** у *nom. pl*. маюць назоўнікі 3-га скланення галоснага тыпу.

6. Канчатак **-ium** у *gen. pl*. маюць назоўнікі 3-га скланення галоснага і змешанага тыпаў.

7. Галосны **e** у *gen.* і *dat. sg*. назоўнікаў 5-га скланення працяглы пасля галоснага і кароткі пасля зычнага (dies, diēi *m*, *f – дзень*, *тэрмін*; fides, fidĕi *f – вера*).

8. *Acc. sg.* усіх пяці скланенняў у мужчынскім і жаночым родзе заканчваецца на **-m**, *acc. pl*. – на **-s**.

9. Назоўнікі ніякага роду маюць асаблівасці, пазначаныя ў § 11.

10. *Dat.* і *abl. pl*. ва ўсіх скланеннях заўсёды супадаюць.

# § 22. Прыметнік
# (Nomen adjectīvum)

У лацінскай мове прыметнікі адносяцца да 1–3-га скланення і падзяляюцца на дзве групы:

1) прыметнікі 1-й групы (скланяюцца як назоўнікі 1-га і 2-га скланення);

3) прыметнікі 2-й групы (скланяюцца як назоўнікі 3-га скланення).

# § 23. Прыметнікі 1–2-га скланення
# (Adjectīva 1–2-ae declinatiōnis)

Гэта прыметнікі, якія ў *nom. sg.* заканчваюцца на **-us (-er)**, **-a**, **-um**:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| *m* | **-us**, **-er** | 2-е скл. | long-**us** | lib**er** | pulch**er** |
| *f* | **-a** | 1-е скл. | long-**a** | libĕr-**a** | pulchr-**a** |
| *n* | **-um** | 2-е скл. | long-**um** | libĕr-**um** | pulchr-**um** |
| Пераклад | | | доўгі, -ая, -ае | свабодны, -ая, -ае | прыгожы, -ая, -ае |
| Аснова | | | long- | libĕr- | pulchr- |
| Слоўнікавая форма | | | longus, a, um | liber, ĕra, ĕrum | pulcher, chra, chrum |

***Слоўнікавая форма*** прыметніка – гэта форма мужчынскага роду і радавыя канчаткі жаночага і ніякага: longus, a, um (параўн. у бел. мове: *доўгі*, -*ая*, -*ае*). Калі ў мужчынскім родзе прыметнік заканчваецца на **-er**, то слоўнікавая форма ўключае акрамя канчаткаў частку асновы, каб паказаць, адносіцца **е** да асновы ці выпадае: liber, ĕra, ĕrum (*свабодны*, -*ая*, -*ае*); pulcher, chra, chrum (*прыгожы*, -*ая*, -*ае*).

Форма жаночага роду скланяецца як назоўнік 1-га скланення, мужчынскага і ніякага – як назоўнікі 2-га скланення (гл. § 9, 10).

**Узор скланення**

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | long-**us** | long-**a** | long-**um** | long-**i** | long-**ae** | long-**a** |
| Gen. | long-**i** | long-**ae** | long-**i** | long-**ōrum** | long-**ārum** | long-**ōrum** |
| Dat. | long-**o** | long-**ae** | long-**o** | long-**is** | | |
| Acc. | long-**um** | long-**am** | = nom. | long-**os** | long-**as** | = nom. |
| Abl. | long-**o** | long-**ā** | long-**o** | long-**is** | | |
| Voc. | long-**e** | = nom. | = nom. | = nom. | | |

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | pulch-**er** | pulchr-**a** | pulchr-**um** | pulchr-**i** | pulchr-**ae** | pulchr-**a** |
| Gen. | pulchr-**i** | pulchr-**ae** | pulchr-**i** | pulchr-**ōrum** | pulchr-**ārum** | pulchr-**ōrum** |
| Dat. | pulchr-**o** | pulchr-**ae** | pulchr-**o** | pulchr-**is** | | |
| Acc. | pulchr-**um** | pulchr-**am** | = nom. | pulchr-**os** | pulchr-**as** | = nom. |
| Abl. | pulchr-**o** | pulchr-**ā** | pulchr-**o** | pulchr-**is** | | |
| Voc. | = nom. | | | = nom. | | |

# § 24. Прыметнікі 3-га скланення (Adjectīva 3-ae declinatiōnis)

Па колькасці радавых канчаткаў у *nom. sg*. прыметнікі 3-га скланення адносяцца да трох тыпаў.

1-ы тып. ***Прыметнікі трох канчаткаў***. У *nom. sg*. маюць асобныя формы для кожнага роду і заканчваюцца на **-er**, **-is**, **-e**:

| | | | |
|---|---|---|---|
| *m* | **-er** | ac**er** | cel**er** |
| *f* | **-is** | acr-**is** | celĕr-**is** |
| *n* | **-e** | acr-**e** | celĕr-**um** |
| Пераклад | | вострыя, -ая, -ае | хуткі, -ая, -ае |
| Аснова | | acr- | celĕr- |
| Слоўнікавая форма | | acer, cris, cre | celer, ĕris, ĕre |

2-і тып. ***Прыметнікі двух канчаткаў***. У *nom. sg*. маюць агульную форму для мужчынскага і жаночага роду і асобную для ніякага і заканчваюцца на **-is**, **-e**:

| | | | |
|---|---|---|---|
| *m, f* | **-is** | brev-**is** | lev-**is** |
| *n* | **-e** | brev-**e** | lev-**e** |
| Пераклад | | кароткі, -ая, -ае | лёгкі, -ая, -ае |
| Аснова | | brev- | lev- |
| Слоўнікавая форма | | brevis, e | levis, e |

3-і тып. ***Прыметнікі аднаго канчатка***. У *nom. sg*. маюць агульную форму для ўсіх родаў і заканчваюцца на **-s**, **-ns**, **-x**, **-r**:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Nom. sg. *m, f, n* | dive**s** | sapie**ns** | feli**x** | pa**r** |
| Gen. sg. | divĭt-is | sapient-is | felīc-is | par-is |
| Пераклад | багаты, -ая, -ае | мудры, -ая, -ае | шчаслівы, -ая, -ае | роўны, -ая, -ае |
| Аснова | divĭt- | sapient- | felīc- | par- |
| Слоўнік. форма | dives, ĭtis | sapiens, entis | felix, īcis | par, paris |

Аснова прыметнікаў вызначаецца па форме *gen. sg.* шляхам адкідвання канчатка **-is**.

*Gen. sg.* прыметнікаў трох і двух канчаткаў супадае з формай *nom. sg.* жаночага роду:

| Склон | *m* | *f* | *n* |
|---|---|---|---|
| Nom. sg. | celer | celĕris | celĕre |
| Gen. sg. | celĕr-is | | |
| Nom. sg. | brevis | | breve |
| Gen. sg. | brev-is | | |

*Gen. sg.* прыметнікаў аднаго канчатка ўказваецца ў слоўнікавай форме.

Прыметнікі 3-га скланення змяняюцца па 3-м галосным скланенні (гл. § 15).

**Узор скланення**

| Склон | Прыметнікі трох канчаткаў | | | Прыметнікі двух канчаткаў | | Прыметнікі аднаго канчатка | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m, f* | *n* | *m, f* | *n* |
| Singulāris | | | | | | | |
| Nom. | acer | acr-**is** | acr-**e** | brev-**is** | brev-**e** | felix | |
| Gen. | acr-**is** | | | brev-**is** | | felīc-**is** | |
| Dat. | acr-**i** | | | brev-**i** | | felīc-**i** | |
| Acc. | acr-**em** | | acr-**e** | brev-**em** | brev-**e** | felīc-**em** | felix |
| Abl. | acr-**i** | | | brev-**i** | | felīc-**i** | |
| Voc. | acer | acr-**is** | acr-**e** | brev-**is** | brev-**e** | felix | |
| Plurālis | | | | | | | |
| Nom. | acr-**es** | | acr-**ia** | brev-**es** | brev-**ia** | felīc-**es** | felic-**ia** |
| Gen. | acr-**ium** | | | brev-**ium** | | felic-**ium** | |
| Dat. | acr-**ĭbus** | | | brev-**ĭbus** | | felic-**ĭbus** | |
| Acc. | acr-**es** | | acr-**ia** | brev-**es** | brev-**ia** | felīc-**es** | felic-**ia** |
| Abl. | acr-**ĭbus** | | | brev-**ĭbus** | | felic-**ĭbus** | |
| Voc. | acr-**es** | | acr-**ia** | brev-**es** | brev-**ia** | felīc-**es** | felic-**ia** |

З а ў в а г а. Прыметнікі pauper, ĕris – *бедны*; dives, ĭtis – *багаты*; vetus, ĕris – *стары*; partĭceps, cĭpis – *які* (*што*) *удзельнічае*; princeps, cĭpis – *першы* скланяюцца па 3-м зычным скланенні (*abl. sg.* **-e**, *nom. pl. n* **-a**, *gen. pl.* **-um**).

## § 25. Ступені параўнання прыметнікаў (Gradūs comparatiōnis adjectivōrum)

Як і ў беларускай мове, лацінскія прыметнікі маюць тры ступені параўнання:

- gradus positīvus – звычайная ступень;
- gradus comparatīvus – вышэйшая ступень;
- gradus superlatīvus – найвышэйшая ступень.

У слоўніку прыметнікі падаюцца ў звычайнай ступені параўнання.

## § 26. Вышэйшая ступень (Gradus comparatīvus)

Вышэйшая ступень параўнання прыметнікаў утвараецца ад асновы прыметніка ў звычайнай ступені з дапамогай суфікса **-ior** для мужчынскага і жаночага роду, **-ius** для ніякага роду. У *nom. sg.* канчатак нулявы; аснова вышэйшай ступені супадае з формай *nom. sg. m*, *f*:

| Positīvus | Comparatīvus | | |
|---|---|---|---|
| | Nom. sg. | | Gen. sg. |
| | *m*, *f* | *n* | *m*, *f*, *n* |
| long-us, a, um<br>*доўгі* | long-**ior**<br>*больш доўгі, даўжэйшы* | long-**ius** | long-iōr-**is** |
| brev-is, e<br>*кароткі* | brev-ior<br>*больш кароткі, карацейшы* | brev-ius | brev-iōr-is |
| felix, felīc-is<br>*шчаслівы* | felic-ior<br>*больш шчаслівы, шчаслівейшы* | felic-ius | felic-iōr-is |
| sapiens, ent-is<br>*мудры* | sapient-ior<br>*больш мудры, мудрэйшы* | sapient-ius | sapient-iōr-is |

Прыметнікі ў вышэйшай ступені параўнання скланяюцца па 3-м зычным скланенні (гл. § 13).

**Узор скланення**

| Склон | Singulāris | | Plurālis | |
|---|---|---|---|---|
| | *m*, *f* | *n* | *m*, *f* | *n* |
| Nom. | longior | longius | longiōr-**es** | longiōr-**a** |
| Gen. | longiōr-**is** | | longiōr-**um** | |
| Dat. | longiōr-**i** | | longior-**ĭbus** | |

| Склон | Singulāris | | Plurālis | |
|---|---|---|---|---|
| | *m, f* | *n* | *m, f* | *n* |
| Acc. | longiōr-**em** | long-ius | longiōr-**es** | longiōr-**a** |
| Abl. | longiōr-**e** | | longior-**ĭbus** | |

Паказчыкам вышэйшай ступені параўнання прыметніка з’яўляецца суфікс **-iōr-**

# § 27. Найвышэйшая ступень (Gradus superlatīvus)

Найвышэйшая ступень параўнання прыметнікаў утвараецца:

1) у большасці прыметнікаў – ад асновы прыметніка ў звычайнай ступені параўнання з дапамогай суфікса **-issĭm-** і радавых канчаткаў **-us**, **-a**, **-um**:

| Positīvus | Superlatīvus | | |
|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* |
| long-us, a, um<br>*доўгі* | long-**issĭm-us**<br>*самы доўгі, найдаўжэйшы* | long-**issĭm-a** | long-**issĭm-um** |
| brev-is, e<br>*кароткі* | brev-issĭm-us<br>*самы кароткі, найкарацейшы* | brev-issĭm-a | brev-issĭm-um |
| felix, felīc-is<br>*шчаслівы* | felic-issĭm-us<br>*самы шчаслівы, найшчаслівейшы* | felic-issĭm-a | felic-issĭm-um |
| sapiens, ent-is<br>*мудры* | sapient-issĭm-us<br>*самы мудры, наймудрэйшы* | sapient-issĭm-a | sapient-issĭm-um |

2) у прыметнікаў на **-er** – ад формы *nom. sg. m* прыметніка ў звычайнай ступені параўнання з дапамогай суфікса **-rĭm-** і радавых канчаткаў **-us**, **-a**, **-um**:

| Positīvus | Superlatīvus | | |
|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* |
| acer, cris, cre<br>*востры* | acer-**rĭm-us**<br>*самы востры, найвастрэйшы* | acer-**rĭm-a** | acer-**rĭm-um** |
| liber, ĕra, ĕrum<br>*свабодны* | liber-rĭm-us<br>*самы свабодны, найсвабоднейшы* | liber-rĭm-a | liber-rĭm-um |

3) у шасці прыметнікаў 3-га скланення на **-ĭlis** – ад асновы прыметніка ў звычайнай ступені параўнання з дапамогай суфікса **-lĭm-** і радавых канчаткаў **-us**, **-a**, **-um**:

| Positīvus | Superlatīvus | | |
|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* |
| facĭlis, e<br>*лёгкі* | facil-**lĭm-us**<br>*самы лёгкі, найлягчэйшы* | facil-**lĭm-a** | facil-**lĭm-um** |
| diffīcĭlis, e<br>*цяжкі* | dificil-lĭm-us<br>*самы цяжкі, найцяжэйшы* | dificil-lĭm-a | dificil-lĭm-um |
| simĭlis, e<br>*падобны* | simil-lĭm-us<br>*самы падобны* | simil-lĭm-a | simil-lĭm-um |
| dissimĭlis, e<br>*непадобны* | dissimil-lĭm-us<br>*самы непадобны* | dissimil-lĭm-a | dissimil-lĭm-um |
| gracĭlis, e<br>*вытанчаны* | gracil-lĭm-us<br>*самы вытанчаны* | gracil-lĭm-a | gracil-lĭm-um |
| humĭlis, e<br>*нізкі* | humil-lĭm-us<br>*самы нізкі, найніжэйшы* | humil-lĭm-a | humil-lĭm-um |

Прыметнікі ў найвышэйшай ступені параўнання змяняюцца як прыметнікі 1–2-га скланення (гл. § 23).

Паказчыкам найвышэйшай ступені параўнання прыметніка з'яўляюцца суфіксы -**issĭm**-, -**rĭm**-, -**lĭm**-

## § 28. Суплетыўныя (няправільныя) ступені параўнання

Пяць прыметнікаў утвараюць ступені параўнання ад розных асноў:

| Positīvus | Пераклад | Comparatīvus | | Superlatīvus |
|---|---|---|---|---|
| | | *m, f* | *n* | |
| bonus, a, um | добры | melior | melius | optĭmus, a, um |
| malus, a, um | дрэнны | pejor | pejus | pessĭmus, a, um |
| magnus, a, um | вялікі | major | majus | maxĭmus, a, um |
| parvus, a, um | маленькі | minor | minus | minĭmus, a, um |
| multi, ae, a | многія | plures | plura | plurĭmi, ae, a |

Утварэнне граматычных форм ад розных асноў называецца суплетыўным утварэннем (параўн. у бел. мове: *добры – лепшы*, *дрэнны – горшы*).

## § 29. Апісальныя ступені параўнання

Прыметнікі 1–2-га скланення, якія ў звычайнай ступені параўнання перад канчаткам маюць галосны (**e, u, i**), утвараюць ступені параўнання

апісальна: вышэйшую ступень з дапамогай прыслоўя magis – *больш*, найвышэйшую – з дапамогай прыслоўя maxĭme – *найбольш*:

| Positīvus | Пераклад | Comparatīvus | Superlatīvus |
|---|---|---|---|
| necessarius, a, um | неабходны | magis necessarius, a, um | maxĭme necessarius, a, um |

## § 30. Прыслоўе (Adverbium)

У лацінскай мове, як і ў беларускай, адны прыслоўі з'яўляюцца вытворнымі, другія – невытворнымі, напрыклад: ubi – *дзе*, semper – *заўсёды* і г. д.

Вытворныя прыслоўі часцей за ўсё ўтвараюцца ад прыметнікаў:

1) 1–2-га скланення – ад асновы прыметніка з дапамогай суфікса **-e-**: longus, a, um – *доўгі* – long-e – *доўга*; pulcher, chra, chrum – *прыгожы* – pulchr-e – *прыгожа*;

2) 3-га скланення – ад асновы прыметніка з дапамогай суфікса **-ĭter-** або **-er-**, калі аснова заканчваецца на **-nt-**: fortis, e – *адважны* – fort-ĭter – *адважна*; felix, īcis – *шчаслівы* – felic-ĭter – *шчасліва*; sapiens, entis – *разумны* – sapient-er – *разумна*.

У якасці прыслоўяў ужываюцца таксама некаторыя склонавыя формы назоўнікаў і прыметнікаў: partim – *часткова*, casu – *выпадкова*, multum – *шмат*, facĭle – *лёгка* і інш.

Comparatīvus прыслоўяў супадае з формай вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў у ніякім родзе: long-ius, fort-ius, sapient-ius, min-us.

Superlatīvus прыслоўяў утвараецца ад асновы прыметніка ў найвышэйшай ступені параўнання з дапамогай суфікса **-e-**: long-issĭm-e, pulcher-rĭm-e, facil-lĭm-e, minĭm-e.

## § 31. Займеннік (Pronōmen)

Лацінскія займеннікі маюць пры скланенні шмат агульных рыс з назоўнікамі, а таксама толькі ім уласцівыя асаблівасці. У лацінскай мове вылучаюць наступныя разрады займеннікаў: асабовыя, зваротны, прыналежныя, указальныя, адносныя, пытальныя, няпэўныя (неазначальныя), адмоўныя.

# § 32. Асабовыя займеннікі (Pronomĭna personalia)

| | |
|---|---|
| **ego** – *я* | **nos** – *мы* |
| **tu** – *ты* | **vos** – *вы* |

| Склон | Singulāris | | Plurālis | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Nom. | ego | tu | nos | | vos | |
| Gen. | mei | tui | nostrum *з нас* | nostri *нас* | vestrum *з вас* | vestri *вас* |
| Dat. | mihi | tibi | nobis | | vobis | |
| Acc. | me | te | nos | | vos | |
| Abl. | me | te | nobis | | vobis | |

З а ў в а г і.

1. Склонавыя формы ўтвараюцца ад розных асноў (суплетывізм; параўн. у бел. мове: *я*, *мяне*, *мне*).

2. Асабовы займеннік 3-й асобы адсутнічае. У якасці яго ўжываецца ўказальны займеннік is, ea, id (гл. § 36), а таксама іншыя ўказальныя займеннікі.

3. Асабовыя займеннікі з прыназоўнікам cum – *з* пішуцца разам; пры гэтым прыназоўнік ставіцца пасля займенніка: mecum – *са мной*, nobiscum – *з намі* і г. д. Тое самае датычыцца зваротнага займенніка.

# § 33. Зваротны займеннік (Pronōmen reflexīvum)

**sui** – *сябе*

| Склон | Singulāris і plurālis | Пераклад |
|---|---|---|
| Nom. | – | – |
| Gen. | sui | сябе |
| Dat. | sibi | сабе |
| Acc. | se | сябе |
| Abl. | se | сабой |

З а ў в а г а. Зваротны займеннік у лацінскай мове адносіцца толькі да 3-й асобы.

# § 34. Прыналежныя займеннікі (Pronomĭna possessīva)

| | |
|---|---|
| **meus**, **mea**, **meum** – *мой* | **vester**, **vestra**, **vestrum** – *ваш* |
| **tuus**, **tua**, **tuum** – *твой* | **noster**, **nostra**, **nostrum** – *наш* |
| **suus**, **sua**, **suum** – *свой* | |

Прыналежныя займеннікі ўжываюцца ў адпаведнасці з асобай дзейніка, г. зн. у адносінах да 1-й асобы адзіночнага ліку ўжываецца толькі meus, a, um і г. д. Займеннік suus, a, um адносіцца толькі да 3-й асобы. Гэтыя займеннікі скланяюцца як прыметнікі 1–2-га скланення (гл. § 23). Займеннік meus, a, um у *voc. sg. m* мае форму mi.

# § 35. Указальныя займеннікі (Pronomĭna demonstratīva)

| | |
|---|---|
| **is**, **ea**, **id** – *той, ён* | **idem**, **eădem**, **idem** – *той самы, ён жа* |
| **hic**, **haec**, **hoc** – *гэты* | **ille**, **illa**, **illud** – *той* |
| **ipse**, **ipsa**, **ipsum** – *сам* | **iste**, **ista**, **istud** – *той* |

Займеннік ille указвае на аддалены прадмет, hic – на блізкі прадмет, iste – на прадмет, які адносіцца да 2-й асобы.

Гэтыя займеннікі скланяюцца як прыметнікі 1–2-га скланення (гл. § 23), за выключэннем двух склонаў: у *gen. sg*. яны маюць канчатак **-īus**, у *dat. sg*. – канчатак **-i** для ўсіх родаў.

# § 36. Скланенне займеннікаў is, ea, id; idem, eădem, idem

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | is | ea | id | ei (ii) | eae | ea |
| Gen. | ejus (eius) | | | eōrum | eārum | eōrum |
| Dat. | ei | | | eis (iis) | | |
| Acc. | eum | eam | id | eos | eas | ea |
| Abl. | eo | eā | eo | eis (iis) | | |

З а ў в а г а. Аснова займенніка is – e-/i-, да якой і далучаюцца склонавыя канчаткі (параўн. у бел. мове: *яго*, *яму*, *іх*, *ім*).

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | idem | eădem | idem | eīdem (idem) | eaedem | eădem |
| Gen. | ejusdem | | | eorundem | earundem | eorundem |
| Dat. | eīdem | | | eisdem (iisdem) | | |
| Acc. | eundem | eandem | idem | eosdem | easdem | eădem |
| Abl. | eōdem | eādem | eōdem | eisdem (iisdem) | | |

З а ў в а г а. Займеннік idem утварыўся ў выніку злучэння займенніка is з часціцай **-dem**, якая пры скланенні не змяняецца.

## § 37. Скланенне займеннікаў ille, a, ud; iste, a, ud; ipse, a, um

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | ille | illa | illud | illi | illae | illa |
| Gen. | illīus | | | illōrum | illārum | illōrum |
| Dat. | illi | | | illis | | |
| Acc. | illum | illam | illud | illos | illas | illa |
| Abl. | illo | illā | illo | illis | | |

З а ў в а г а. Аналагічна скланяюцца займеннікі iste, ista, istud – *той*; ipse, ipsa, ipsum – *сам* (але ў апошняга *nom*., *acc. sg. n* маюць форму ipsum):

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | n |
| Nom. | iste | ista | istud | isti | istae | ista |
| Gen. | istīus | | | istōrum | istārum | istōrum |
| Dat. | isti | | | istis | | |
| Acc. | istum | istam | istud | istos | istas | ista |
| Abl. | isto | istā | isto | istis | | |

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | ipse | ipsa | ipsum | ipsi | ipsae | ipsa |
| Gen. | ipsīus | | | ipsōrum | ipsārum | ipsōrum |
| Dat. | ipsi | | | ipsis | | |
| Acc. | ipsum | ipsam | ipsum | ipsos | illas | illa |
| Abl. | ipso | ipsā | ipso | ipsis | | |

# § 38. Скланенне займенніка hic, haec, hoc

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | hic | haec | hoc | hi | hae | haec |
| Gen. | hujus | | | horum | harum | horum |
| Dat. | huic | | | his | | |
| Acc. | hunc | hanc | hoc | hos | has | haec |
| Abl. | hoc | hac | hoc | his | | |

З а ў в а г а. Канцавы элемент **c** ва ўскосных формах узыходзіць да ўказальнай часціцы **-ce** > **-c**.

# § 39. Адносны займеннік (Pronōmen relatīvum)

**qui**, **quae**, **quod** – *які*

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | qui | quae | quod | qui | quae | quae |
| Gen. | cujus | | | quorum | quarum | quorum |
| Dat. | cui | | | quibus | | |
| Acc. | quem | quam | quod | quos | quas | quae |
| Abl. | quo | quā | quo | quibus | | |

# § 40. Пытальныя займеннікі (Pronomĭna interrogatīva)

**quis?** – *хто?* **quid?** – *што?*
**qui? quae? quod?** – *які?*

Займеннік quis? – *хто?* quid? – *што?* у значэнні назоўніка ўжываецца толькі ў singulāris:

| Склон | Singulāris | |
|---|---|---|
| | *m, f* | *n* |
| Nom. | quis | quid |
| Gen. | cujus | |
| Dat. | cui | |
| Acc. | quem | quid |
| Abl. | quo | |

Займеннік qui? quae? quod? – *які? якая? якое?* у значэнні прыметніка ўжываецца ў абодвух ліках:

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | qui | quae | quod | qui | quae | quae |
| Gen. | cujus | | | quorum | quarum | quorum |
| Dat. | cui | | | quibus | | |
| Acc. | quem | quam | quod | quos | quas | quae |
| Abl. | quo | quā | quo | quibus | | |

## § 41. Няпэўныя (неазначальныя) займеннікі (Pronomĭna indefinīta)

У лік няпэўных займеннікаў, пераважна складаных, уваходзяць пытальныя займеннікі з далучанымі да іх часціцамі (**ali-**, **-dam**, **-que** і інш.); пры скланенні змяняецца толькі займеннікавая частка; часціца застаецца нязменнай.

Найбольш ужывальныя наступныя няпэўныя займеннікі:

**alĭquis**, **alĭquid** – *хто-небудзь*, *што-небудзь*; *хтосьці*, *штосьці*; *нехта*, *нешта*
**alĭqui**, **alĭqua**, **alĭquod** – *нейкі*, *якісьці*, *якісь*
**quidam**, **quiddam** – *хтосьці*, *штосьці*; *нехта*, *нешта*
**quidam**, **quaedam**, **quoddam** – *нейкі*, *якісьці*, *якісь*
**quisque**, **quidque** і **quique**, **quaeque**, **quodque** – *кожны*
**unusquisque**, **unaquaeque**, **unumquodque** (*gen.* **uniuscujusque**, *dat.* **unicuique** і г. д.) – *кожны паасобку*
**quilĭbet**, **quaelĭbet**, **quodlĭbet** – *які хочаш*, *абы-які*, *усякі*, *любы*, *кожны*

У якасці ўзору прывядзём скланенне займенніка alĭquis, alĭquid:

| Склон | *m*, *f* | *n* |
|---|---|---|
| Nom. | alĭquis | alĭquid |
| Gen. | alicujus | |
| Dat. | alicui | |
| Acc. | alĭquem | alĭquid |
| Abl. | alĭquo | |

З а ў в а г а. Пасля злучнікаў si – *калі*, nisi – *калі не*, ne – *каб не* і інш. займеннікі alĭquis і alĭquid страчваюць часціцу **ali**-: si quis – *калі хто-небудзь*, ne quid – *каб што-небудзь* і г. д.

## § 42. Адмоўныя займеннікі (Pronomĭna negatīva)

**nemo** – *ніхто*
**nihil (nil)** – *нішто*

Адмоўныя займеннікі nemo – *ніхто* і nihil (nil) – *нішто* скланяюцца толькі ў singulāris (з частковым выкарыстаннем склонавых форм займеннікавага прыметніка nullus (гл. § 43) і слова res (гл. § 20)):

| | | |
|---|---|---|
| Nom. | nemo | nihil (nil) |
| Gen. | nemĭnis, nullīus | nullīus rei |
| Dat. | nemĭni | nulli rei |
| Acc. | nemĭnem | nihil (nil) |
| Abl. | nemĭne, nullo | nullā re, nihĭlo |

## § 43. Займеннікавыя прыметнікі (Adjectīva pronominalia)

У лацінскай мове ёсць група прыметнікаў, якія скланяюцца як указальныя займеннікі, г. зн. у *gen. sg*. яны маюць канчатак **-īus**, у *dat. sg*. **-ī**; у астатніх склонах яны маюць канчаткі прыметнікаў 1–2-га скланення (гл. § 23):

**unus**, **a**, **um** – *адзін*
**solus**, **a**, **um** – *адзін*, *адзіны*
**totus**, **a**, **um** – *увесь*, *цэлы*
**alius**, **a**, **ud** (*gen*. alterīus, *dat*. alii) – *іншы* (з многіх)

**alter**, **ĕra**, **ĕrum** – *іншы* (з двух)
**uter**, **utra**, **utrum** – *які* (з двух)
**uterque**, **utrăque**, **utrumque** – *і адзін і другі*, *абодва*, *абое*
**neuter**, **neutra**, **neutrum** – *ні адзін ні другі*
**ullus**, **a**, **um** – *які-небудзь*
**nullus**, **a**, **um** – *ніякі*

**Узор скланення**

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | tot-**us** | tot-**a** | tot-**um** | tot-**i** | tot-**ae** | tot-**a** |
| Gen. | tot-**īus** | | | tot-**ōrum** | tot-**ārum** | tot-**ōrum** |
| Dat. | tot-**i** | | | tot-**is** | | |
| Acc. | tot-**um** | tot-**am** | tot-**um** | tot-**os** | tot-**as** | tot-**a** |
| Abl. | tot-**o** | tot-**ā** | tot-**o** | tot-**is** | | |

# § 44. Лічэбнік (Numerāle)

Лацінскія лічэбнікі (numeralia) падзяляюцца на колькасныя (cardinalia), парадкавыя (ordinalia), раздзяляльныя (distributīva) і прыслоўныя (adverbia).

**Зводная табліца лічэбнікаў**

| Лічбавая адзнака | | Cardinalia | Ordinalia |
|---|---|---|---|
| арабская | рымская | | |
| 1 | I | unus, a, um – *адзін* | primus, a, um – *першы* |
| 2 | II | duo, duae, duo – *два, дзве* | secundus, a, um<br>alter, ĕra, ĕrum – *другі* |
| 3 | III | tres, tria | tertius, a, um |
| 4 | IV | quattuor | quartus |
| 5 | V | quinque | quintus |
| 6 | VI | sex | sextus |
| 7 | VII | septem | septĭmus |
| 8 | VIII | octo | octāvus |
| 9 | IX | novem | nonus |
| 10 | X | decem | decĭmus |
| 11 | XI | undĕcim | undecĭmus |
| 12 | XII | duodĕcim | duodecĭmus |

| Лічбавая адзнака | | Cardinalia | Ordinalia |
|---|---|---|---|
| арабская | рымская | | |
| 13 | XIII | tredĕcim | tertius decĭmus |
| 14 | XIV | quattuordĕcim | quartus decĭmus |
| 15 | XV | quindĕcim | quintus decĭmus |
| 16 | XVI | sedĕcim | sextus decĭmus |
| 17 | XVII | septendĕcim | septĭmus decĭmus |
| 18 | XVIII | duodeviginti | duodevicesĭmus |
| 19 | XIX | undeviginti | undevicesĭmus |
| 20 | XX | viginti | vicesĭmus |
| 21 | XXI | unus et viginti або viginti unus і г. д. | primus et vicesĭmus або vicesĭmus primus і г. д. |
| 28 | XXVIII | duodetriginta | duodetricesĭmus |
| 29 | XXIX | undetriginta | undetricesĭmus |
| 30 | XXX | triginta | tricesĭmus |
| 40 | XL | quadraginta | quadragesĭmus |
| 50 | L | quinquaginta | quinquagesĭmus |
| 60 | LX | sexaginta | sexagesĭmus |
| 70 | LXX | septuaginta | septuagesĭmus |
| 80 | LXXX | octoginta | octogesĭmus |
| 90 | XC | nonaginta | nonagesĭmus |
| 100 | C | centum | centesĭmus |
| 200 | CC | ducenti, ae, a | ducentesĭmus |
| 300 | CCC | trecenti, ae, a | trecentesĭmus |
| 400 | CD | quadringenti, ae, a | quadringentesĭmus |
| 500 | D | quingenti, ae, a | quingentesĭmus |
| 600 | DC | sescenti, ae, a | sescentesĭmus |
| 700 | DCC | septingenti, ae, a | septingentesĭmus |
| 800 | DCCC | octingenti, ae, a | octingentesĭmus |
| 900 | CM | nongenti, ae, a | nongentesĭmus |
| 1000 | M | mille | millesĭmus |
| 2000 | MM | duo milia | bis millesĭmus |

| Distributīva | Adverbia |
|---|---|
| singŭli, ae, a – *па адным* | semel – *адзін раз, аднаразова* |
| bini, ae, a – *па два, па двое* | bis – *двойчы, два разы* |
| terni (trini), ae, a | ter |
| quaterni, ae, a | quater |
| quini, ae, a і г. д. | quinquies і г. д. |

Усе лічэбнікі, якія могуць змяняцца па родах, ліках і склонах, дапасуюцца да назоўнікаў: duo consŭles – *два консулы*; duae legiōnes – *два легіёны*; tres species – *тры віды*; tria genĕra – *тры роды*; tribus verbis – *у трох словах*. Лічэбнік mille – *тысяча* не змяняецца і не ўплывае на склон назоўніка: mille milĭtes – *тысяча салдат* і г. д. Толькі слова milia – *тысячы* (*pl*. ад mille) патрабуе пасля сябе genetīvus: tria milia milĭtum – *тры тысячы салдат*, бо ўжываецца як назоўнік.

У складаных парадкавых лічэбнікаў скланяюцца ўсе элементы, а не толькі апошні, як гэта прынята ў беларускай мове (параўн.: vicesĭmus secundus – *дваццаць другі*). Напрыклад: anno millesĭmo nongentesĭmo quinquagesĭmo sexto – *у тысяча дзевяцьсот пяцьдзясят шостым годзе*.

Лічэбнікі другога дзясятка ўтвараюцца шляхам складання каранёў адзінак са словам **-dĕcim** (ад decem), напрыклад: XI (11) undĕcim; дзясяткі ад 30 да 90 утвараюцца з дапамогай суфікса **-ginta**, напрыклад: L (50) quinquaginta. C (100) centum не скланяецца; сотні ўтвараюцца з дапамогай суфікса **-centi (-genti)** і змяняюцца па 1–2-м скланенні ў множным ліку (гл. § 23), напрыклад: CC (200) ducenti, ae, a; D (500) quingenti, ae, a. M (1000) mille у адзіночным ліку не скланяецца; тысячы ў множным ліку змяняюцца як назоўнікі 3-га галоснага скланення (гл. § 15): *nom./acc.* **milia**, *gen.* **milium**, *dat./abl.* **milĭbus**.

Рымскія лічбы важна ведаць, бо яны ўжываюцца для абазначэння частак дакументаў, дат і г. д. Напрыклад, год 1991 рымскімі лічбамі абазначаецца наступным чынам: MCMLXXXXI = MCMXCI, 2011 – MMXI.

## § 45. Скланенне колькасных лічэбнікаў unus – *адзін*; duo – *два*; tres – *тры*

| Склон | Singulāris | | | Plurālis | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* | *m* | *f* | *n* | *m, f* | *n* |
| Nom. | unus | una | unum | duo | duae | duo | tres | tria |
| Gen. | unīus | | | duōrum | duārum | duōrum | trium | |
| Dat. | uni | | | duōbus | duābus | duōbus | tribus | |
| Acc. | unum | unam | unum | duos | duas | duo | tres | tria |
| Abl. | uno | unā | uno | duōbus | duābus | duōbus | tribus | |

## § 46. Дзеяслоў (Verbum)

Лацінскі дзеяслоў мае наступныя граматычныя катэгорыі:

1. Час (tempus):
   - praesens (*praes.*) – цяперашні час;
   - imperfectum (*imperf.*) – прошлы час незакончанага трывання;
   - perfectum (*perf.*) – прошлы час закончанага трывання;
   - plusquamperfectum (*pqperf.*) – запрошлы час;
   - futūrum I (*fut.* I) – будучы час;
   - futūrum II (*fut.* II) – перадбудучы час.
2. Лад (modus):
   - indicatīvus (*ind.*) – абвесны лад;
   - conjunctīvus (*conj.*) – умоўны лад;
   - imperatīvus (*imperat.*) – загадны лад.
3. Стан (genus):
   - actīvum (*act.*) – незалежны стан;
   - passīvum (*pass.*) – залежны стан.
4. Лік (numĕrus):
   - singulāris (*sg.*) – адзіночны лік;
   - plurālis (*pl.*) – множны лік.
5. Асоба (persōna):
   - prima (1-я) – першая асоба;
   - secunda (2-я) – другая асоба;
   - tertia (3-я) – трэцяя асоба.
6. Спражэнне (conjugatio):
   - prima (I) – першае спражэнне;
   - secunda (II) – другое спражэнне;
   - tertia (III) – трэцяе спражэнне;
   - quarta (IV) – чацвёртае спражэнне.

Акрамя таго, усе дзеяслоўныя формы ў лацінскай мове падзяляюцца на дзве групы:

1) асабовыя (тыя формы, што спрагаюцца, г. зн. змяняюцца па асобах і ліках) – усе часавыя формы ў indicatīvus, conjunctīvus і imperatīvus;

2) неасабовыя (тыя формы, што не спрагаюцца): infinitīvi – інфінітывы; participia – дзеепрыметнікі; gerundīvum – герундыў; gerundium – герундый; supīna – супіны.

## § 47. Чатыры спражэнні дзеяслова

Лацінскі дзеяслоў мае чатыры спражэнні. Тып спражэння вызначаецца канцавым гукам асновы infectum (гл. § 49):

| Спражэнне | Канцавы гук | Прыклады асноў |
|---|---|---|
| I | ā | laudā-, monstrā- |
| II | ē | docē-, habē- |
| IIIa | зычны, u | dic-, minu- |
| IIIб | ĭ | capĭ-, facĭ- |
| IV | ī | audī-, finī- |

## § 48. Неазначальная форма цяперашняга часу незалежнага стану (Infinitīvus praesentis actīvi)

Infinitīvus praesentis actīvi утвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай суфіксаў **-re-** (I, II, IV спр.), **-ĕre-** (III спр.). Ад асноў, што прыведзены ў § 47, infinitīvus praesentis actīvi утвараецца наступным чынам:

| Спражэнне | Infinitīvus praesentis actīvi |
|---|---|
| I | laudā-**re** – *хваліць*; monstrā-**re** – *паказваць* |
| II | docē-**re** – *навучаць*; habē-**re** – *мець* |
| IIIa | dic-**ĕre** – *казаць*; minu-**ĕre** – *памяншаць* |
| IIIб | cap-**ĕre** – *браць*; fac-**ĕre** – *рабіць* |
| IV | audī-**re** – *слухаць*; finī-**re** – *заканчваць* |

З а ў в а г а. У дзеясловаў IIIб спражэння перад суфіксам **-ĕre-** канцавы галосны асновы **ĭ** выпадае.

Пра ўтварэнне астатніх форм інфінітыва гл. § 81.

## § 49. Асноўныя формы і асновы дзеяслова

Большасць лацінскіх дзеясловаў маюць чатыры асноўныя формы, якія падаюцца ў слоўніку:

| Асноўная форма | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|
| 1. Praesens indicatīvi actīvi, 1 *sg*. | laudo | doceo | scribo | audio |
| 2. Perfectum indicatīvi actīvi, 1 *sg*. | laudāvi | docui | scripsi | audīvi |
| 3. Supīnum | laudātum | doctum | scriptum | audītum |
| 4. Infinitīvus praesentis actīvi | laudāre | docēre | scribĕre | audīre |

З а ў в а г а. Замест чацвёртай асноўнай формы для правільных дзеясловаў у слоўніку звычайна пазначаецца нумар спражэння.

Па гэтых асноўных формах вызначаюцца тры дзеяслоўныя асновы:

1) аснова infectum вызначаецца па першай асноўнай форме; у I спражэнні канчатак **-o** замяняецца на **ā**, у астатніх спражэннях канчатак **-o** адкідваецца: laudā-, docē-, scrib-, audī-;

2) аснова perfectum вызначаецца па другой асноўнай форме шляхам адкідвання канчатка **-i**: laudāv-, docu-, scrips-, audīv-;

3) аснова supīnum вызначаецца па трэцяй асноўнай форме шляхам адкідвання канчатка **-um**: laudāt-, doct-, script-, audīt-.

Ад трох дзеяслоўных асноў утвараюцца ўсе формы лацінскага дзеяслова:

1) ад асновы infectum: praesens, imperfectum, futūrum I абодвух станаў і ўсіх ладоў, infinitīvus praesentis actīvi і passīvi, participium praesentis actīvi, gerundium, gerundīvum;

2) ад асновы perfectum: perfectum, plusquamperfectum, futūrum II незалежнага стану абвеснага і ўмоўнага ладу, infinitīvus perfecti actīvi;

3) ад асновы supīnum: participium perfecti passīvi, які разам з адпаведнымі формамі дапаможнага дзеяслова sum, fui, esse утварае perfectum, plusquamperfectum, futūrum II залежнага стану абвеснага і ўмоўнага ладу і infinitīvus perfecti passīvi; participium futūri actīvi, infinitīvus futūri actīvi et passīvi, supīna.

## § 50. Стандартныя і нестандартныя дзеясловы

Дзеясловы, у якіх аснова perfectum утвараецца з дапамогай суфікса **-v-**, а аснова supīnum з дапамогай суфікса **-t-**, што далучаюцца да нязменнай асновы infectum, называюцца *стандартнымі*. Астатнія дзеясловы называюцца *нестандартнымі*:

| 1-я асноўная форма | Аснова infectum | 2-я асноўная форма | 3-я асноўная форма | 4-я асноўная форма |
|---|---|---|---|---|
| laudo (стандартны) | laudā- | laudā-**v**-i | laudā-**t**-um | laudāre |
| deleo (стандартны) | delē- | delē-**v**-i | delē-**t**-um | delēre |
| audio (стандартны) | audī- | audī-**v**-i | audī-**t**-um | audīre |
| doceo (нестандартны) | docē- | docui | doctum | docēre |
| scribo (нестандартны) | scrib- | scripsi | scriptum | scribĕre |

## § 51. Тры тыпы дзеяслоўных канчаткаў

Лацінскі дзеяслоў мае тры тыпы асабовых канчаткаў:
1. Асабовыя канчаткі actīvi (незалежнага стану):

| Асоба | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|
| 1-я | **-o/-m** | **-mus** |
| 2-я | **-s** | **-tis** |
| 3-я | **-t** | **-nt** |

З а ў в а г а. У 1-й асобе singulāris канчатак **-m** ужываецца пасля суфіксаў, якія заканчваюцца на галосны, канчатак **-o** – у астатніх выпадках. Напрыклад: doce-o (суфікс адсутнічае), docē-b-o, але docē-ba-m, doce-a-m.

2. Асабовыя канчаткі passīvi (залежнага стану):

| Асоба | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|
| 1-я | **-or/-r** | **-mur** |
| 2-я | **-ris** | **-mĭni** |
| 3-я | **-tur** | **-ntur** |

З а ў в а г і.
1. У 1-й асобе singulāris канчатак **-r** ужываецца пасля суфіксаў, якія заканчваюцца на галосны, канчатак **-or** – у астатніх выпадках. Напрыклад: doce-or (суфікс адсутнічае), docē-b-or, але docē-ba-r, doce-a-r.
2. У 2-й асобе singulāris сустракаецца канчатак **-re**.

3. Асабовыя канчаткі perfecti:

| Асоба | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|
| 1-я | **-i** | **-ĭmus** |
| 2-я | **-isti** | **-istis** |
| 3-я | **-it** | **-ērunt** |

З а ў в а г а. У 3-й асобе plurālis сустракаецца канчатак **-ēre**.

## § 52. Злучальныя галосныя

У дзеяслоўных формах, калі на стыку марфем (асновы і канчатка, суфікса і канчатка) аказваюцца два зычныя, паміж імі з'яўляецца злучальны галосны па наступным правіле:

| | | |
|---|---|---|
| **-ĭ-** | перад | **m**, **s**, **t**; |
| **-u-** | перад | **n**; |
| **-ĕ-** | перад | **r** |

## § 53. Утварэнне часавых форм абвеснага ладу ад асновы infectum

Indicatīvus (абвесны лад), як і ў беларускай мове, указвае на тое, што дзеянне адбываецца, адбылося або адбудзецца ў рэчаіснасці.

Ад асновы infectum утвараюцца praesens, imperfectum і futūrum I (primum) абодвух станаў.

## § 54. Цяперашні час абвеснага ладу незалежнага стану (Praesens indicatīvi actīvi)

Цяперашні час абвеснага ладу незалежнага стану ўтвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай асабовых канчаткаў actīvi (гл. § 51). У дзеясловаў IIIa спражэння паміж асновай і канчаткам з'яўляецца злучальны галосны (гл. § 52).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudā-; doceo – *навучаць*, аснова docē-;
scribo – *пісаць*, аснова scrib-; capio – *браць*, аснова capĭ-;
audio – *слухаць*, аснова audī-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laud-**o**[1] | doce-**o** | scrib-**o** | capi-**o** | audi-**o** |
| | 2-я | lauda-**s** | doce-**s** | scrib-**i-s** | capi-**s** | audi-**s** |
| | 3-я | lauda-**t** | doce-**t** | scrib-**i-t** | capi-**t** | audi-**t** |
| Pl. | 1-я | laudā-**mus** | docē-**mus** | scrib-**ĭ-mus** | capĭ-**mus** | audī-**mus** |
| | 2-я | laudā-**tis** | docē-**tis** | scrib-**ĭ-tis** | capĭ-**tis** | audī-**tis** |
| | 3-я | lauda-**nt** | doce-**nt** | scrib-**u-nt** | capi-**u-nt**[2] | audi-**u-nt**[2] |

З а ў в а г і.

1. У дзеясловаў I спражэння ў 1-й асобе адзіночнага ліку канчатак **-o** паглынае канцавы галосны асновы **ā** (laud-o < laudā-o).

2. У дзеясловаў IIIб і IV спражэння ў 3-й асобе множнага ліку паміж асновай і канчаткам **-nt** з'яўляецца злучальны галосны **-u-**, па аналогіі з IIIa спражэннем (capi-u-nt, audi-u-nt).

# § 55. Цяперашні час абвеснага ладу залежнага стану (Praesens indicatīvi passīvi)

Цяперашні час абвеснага ладу залежнага стану ўтвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай асабовых канчаткаў passīvi (гл. § 51). У дзеясловаў IIIа спражэння паміж асновай і канчаткам з'яўляецца злучальны галосны (гл. § 52).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudā-; doceo – *навучаць*, аснова docē-;
scribo – *пісаць*, аснова scrib-; capio – *браць*, аснова capĭ-;
audio – *слухаць*, аснова audī-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIа спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laud-**or**[1] | doce-**or** | scrib-**or** | capi-**or** | audi-**or** |
| | 2-я | laudā-**ris** | docē-**ris** | scrib-**ĕ-ris** | capĕ-**ris**[3] | audī-**ris** |
| | 3-я | laudā-**tur** | docē-**tur** | scrib-**ĭ-tur** | capĭ-**tur** | audī-**tur** |
| Pl. | 1-я | laudā-**mur** | docē-**mur** | scrib-**ĭ-mur** | capĭ-**mur** | audī-**mur** |
| | 2-я | lauda-**mĭni** | doce-**mĭni** | scrib-**i-mĭni** | capi-**mĭni** | audi-**mĭni** |
| | 3-я | lauda-**ntur** | doce-**ntur** | scrib-**u-ntur** | capi-**u-ntur**[2] | audi-**u-ntur**[2] |

З а ў в а г і.

1. У дзеясловаў I спражэння ў 1-й асобе адзіночнага ліку канчатак **-or** паглынае канцавы галосны асновы **ā** (laud-or < laudā-or).

2. У дзеясловаў IIIб і IV спражэння ў 3-й асобе множнага ліку паміж асновай і канчаткам **-ntur** з'яўляецца злучальны галосны **-u-**, па аналогіі з IIIа спражэннем (capi-u-ntur, audi-u-ntur).

3. У дзеясловаў IIIб спражэння ў 2-й асобе адзіночнага ліку канцавы галосны асновы **ĭ** перад канчаткам **-ris** пераходзіць у **ĕ** у адпаведнасці з фанетычным законам (гл. § 7) (capĕ-ris < capĭ-ris).

# § 56. Прошлы час незаканчанага трывання абвеснага ладу незалежнага і залежнага стану (Imperfectum indicatīvi actīvi et passīvi)

Прошлы час незаканчанага трывання абвеснага ладу незалежнага і залежнага стану адказвае на пытанні *што рабіў? што пачаў рабіць?* Утва-

раецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай суфіксаў **-bā-** (I, II спр.), **-ēbā-** (III, IV спр.) і асабовых канчаткаў actīvi і passīvi (гл. § 51).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudā-; doceo – *навучаць*, аснова docē-; scribo – *пісаць*, аснова scrib-; audio – *слухаць*, аснова audī-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Actīvum | | | | | |
| Sg. | 1-я | laudā-**ba-m** | docē-**ba-m** | scrib-**ēba-m** | audi-**ēba-m** |
| | 2-я | laudā-**ba-s** | docē-**ba-s** | scrib-**ēba-s** | audi-**ēba-s** |
| | 3-я | laudā-**ba-t** | docē-**ba-t** | scrib-**ēba-t** | audi-**ēba-t** |
| Pl. | 1-я | lauda-**bā-mus** | doce-**bā-mus** | scrib-**ebā-mus** | audi-**ebā-mus** |
| | 2-я | lauda-**bā-tis** | doce-**bā-tis** | scrib-**ebā-tis** | audi-**ebā-tis** |
| | 3-я | laudā-**ba-nt** | docē-**ba-nt** | scrib-**ēba-nt** | audi-**ēba-nt** |
| Passīvum | | | | | |
| Sg. | 1-я | laudā-**ba-r** | docē-**ba-r** | scrib-**ēba-r** | audi-**ēba-r** |
| | 2-я | lauda-**bā-ris** | doce-**bā-ris** | scrib-**ebā-ris** | audi-**ebā-ris** |
| | 3-я | lauda-**bā-tur** | doce-**bā-tur** | scrib-**ebā-tur** | audi-**ebā-tur** |
| Pl. | 1-я | lauda-**bā-mur** | doce-**bā-mur** | scrib-**ebā-mur** | audi-**ebā-mur** |
| | 2-я | lauda-**ba-mĭni** | doce-**ba-mĭni** | scrib-**eba-mĭni** | audi-**eba-mĭni** |
| | 3-я | lauda-**ba-ntur** | doce-**ba-ntur** | scrib-**eba-ntur** | audi-**eba-ntur** |

## § 57. Будучы час абвеснага ладу незалежнага і залежнага стану (Futūrum I (primum) indicatīvi actīvi et passīvi)

Будучы час абвеснага ладу незалежнага і залежнага стану адказвае на пытанні *што зраблю? што буду рабіць?* Утвараецца ад асновы infectum (гл. § 49): у дзеясловаў I, II спражэння з дапамогай суфікса **-b-**, злучальнага галоснага (гл. § 52) і асабовых канчаткаў actīvi і passīvi (гл. § 51); у дзеясловаў III, IV спражэння з дапамогай суфікса **-a-** (у 1-й асобе адзіночнага ліку), **-ē-** (у астатніх формах) і асабовых канчаткаў actīvi і passīvi (гл. § 51).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudā-; doceo – *навучаць*, аснова docē-;
scribo – *пісаць*, аснова scrib-; audio – *слухаць*, аснова audī-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Actīvum | | | | | |
| Sg. | 1-я | laudā-**b-o** | docē-**b-o** | scrib-**a-m** | audi-**a-m** |
| | 2-я | laudā-**b-i-s** | docē-**b-ĭ-s** | scrib-**e-s** | audi-**e-s** |
| | 3-я | laudā-**b-i-t** | docē-**b-ĭ-t** | scrib-**e-t** | audi-**e-t** |
| Pl. | 1-я | lauda-**b-ĭ-mus** | doce-**b-ĭ-mus** | scrib-**ē-mus** | audi-**ē-mus** |
| | 2-я | lauda-**b-ĭ-tis** | doce-**b-ĭ-tis** | scrib-**ē-tis** | audi-**ē-tis** |
| | 3-я | laudā-**b-u-nt** | docē-**b-u-nt** | scrib-**e-nt** | audi-**e-nt** |
| Passīvum | | | | | |
| Sg. | 1-я | laudā-**b-or** | docē-**b-or** | scrib-**a-r** | audi-**a-r** |
| | 2-я | lauda-**b-ĕ-ris** | doce-**b-ĕ-ris** | scrib-**ē-ris** | audi-**ē-ris** |
| | 3-я | lauda-**b-ĭ-tur** | doce-**b-ĭ-tur** | scrib-**ē-tur** | audi-**ē-tur** |
| Pl. | 1-я | lauda-**b-ĭ-mur** | doce-**b-ĭ-mur** | scrib-**ē-mur** | audi-**ē-mur** |
| | 2-я | lauda-**b-i-mĭni** | doce-**b-i-mĭni** | scrib-**e-mĭni** | audi-**e-mĭni** |
| | 3-я | lauda-**b-u-ntur** | doce-**b-u-ntur** | scrib-**e-ntur** | audi-**e-ntur** |

## § 58. Загадны лад (Imperatīvus)

1. У **imperatīvus praesentis actīvi** (загадным ладзе цяперашняга часу незалежнага стану) у 2-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў I, II, IV спражэння да асновы infectum далучаецца нулявы канчатак (г. зн. форма супадае з асновай infectum), у дзеясловаў IIIa спражэння – канчатак **-e**, у дзеясловаў IIIб спражэння канцавы галосны асновы infectum **ĭ** пераходзіць у **ĕ**.

У 2-й асобе множнага ліку дзеясловаў I, II, IIIб, IV спражэння да асновы infectum далучаецца канчатак **-te**, у дзеясловаў IIIa спражэння – злучальны галосны**-ĭ-** і канчатак **-te**:

| Спражэнне | Дзеяслоў | Аснова | 2-я асоба singulāris | 2-я асоба plurālis |
|---|---|---|---|---|
| I | laudo – *хваліць* | laudā- | lauda! – *хвалі!* | laudā-**te**! – *хваліце!* |
| II | doceo – *навучаць* | docē- | doce! – *навучай!* | docē-**te**! – *навучайце!* |

| Спражэнне | Дзеяслоў | Аснова | 2-я асоба singulāris | 2-я асоба plurālis |
|---|---|---|---|---|
| IIIa | scribo – *пісаць* | scrib- | scrib-**e**! – *пішы!* | scrib-**ĭ**-**te**! – *пішыце!* |
| IIIб | capio – *браць* | capĭ- | cape! – *бяры!* | capĭ-**te**! – *бярыце!* |
| IV | audio – *слухаць* | audī- | audi! – *слухай!* | audī-**te**! – *слухайце!* |
| – | sum, esse – *быць* | es- | es! – *будзь!* | es-**te**! – *будзьце!* |

Тры дзеясловы III спражэння (dico, duco, facio) і дзеяслоў fero, ferre (гл. § 79, п. 4) утвараюць 2-ю асобу адзіночнага ліку без канцавога **-e**; 2-ю асобу множнага ліку яны ўтвараюць па правіле, за выключэннем fero:

| Спражэнне | Дзеяслоў | Аснова | 2-я асоба singulāris | 2-я асоба plurālis |
|---|---|---|---|---|
| IIIa | dico – *казаць* | dic- | dic! – *кажы!* | dic-**ĭ**-**te**! – *кажыце!* |
| IIIa | duco – *весці* | duc- | duc! – *вядзі!* | duc-**ĭ**-**te**! – *вядзіце!* |
| IIIб | facio – *рабіць* | facĭ- | fac! – *рабі!* | fac-**ĭ**-**te**! – *рабіце!* |
| – | fero – *несці* | fer- | fer! – *нясі!* | fer-**te**! – *нясіце!* |

2. У **imperatīvus praesentis passīvi** (загадным ладзе цяперашняга часу залежнага стану) у 2-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў I, II, IV спражэння да асновы infectum далучаецца канчатак **-re**, у дзеясловаў IIIa спражэння – злучальны галосны **-ĕ-** і канчатак **-re**, у дзеясловаў IIIб спражэння канцавы галосны асновы infectum **ĭ** перад канчаткам **-re** пераходзіць у **ĕ**.

У 2-й асобе множнага ліку дзеясловаў I, II, IIIб, IV спражэння да асновы infectum далучаецца канчатак **-mĭni**, у дзеясловаў IIIa спражэння – злучальны галосны **-ĭ-** і канчатак **-mĭni**:

| Спражэнне | Дзеяслоў | Аснова | 2-я асоба singulāris | 2-я асоба plurālis |
|---|---|---|---|---|
| I | laudo – *хваліць* | laudā- | laudā-**re**! | lauda-**mĭni**! |
| II | doceo – *навучаць* | docē- | docē-**re**! | doce-**mĭni**! |
| IIIa | scribo – *пісаць* | scrib- | scrib-**ĕ**-**re**! | scrib-**i**-**mĭni**! |
| IIIб | capio – *браць* | capĭ- | capĕ-**re**! | capi-**mĭni**! |
| IV | audio – *слухаць* | audī- | audī-**re**! | audi-**mĭni**! |

3. У **imperatīvus futūri actīvi** (загадным ладзе будучага часу незалежнага стану) у 2-й і 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў I, II, IIIб, IV спражэння да асновы infectum далучаецца канчатак **-to**, у дзеясловаў IIIa спражэння – злучальны галосны **-ĭ-** і канчатак **-to**.

У 2-й асобе множнага ліку дзеясловаў I, II, IIIб, IV спражэння да асновы infectum далучаецца канчатак **-tōte**, у дзеясловаў IIIa спражэння – злучальны галосны **-i-** і канчатак **-tōte**.

У 3-й асобе множнага ліку дзеясловаў I, II спражэння да асновы infectum далучаецца канчатак **-nto**, у дзеясловаў III, IV спражэння – злучальны галосны **-u-** і канчатак **-nto**:

| Спражэнне | Дзеяслоў | Аснова | Асоба | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|---|---|---|
| I | laudo – *хваліць* | laudā- | 2-я | laudā-**to**! | lauda-**tōte**! |
| | | | 3-я | | lauda-**nto**! |
| II | doceo – *навучаць* | docē- | 2-я | docē-**to**! | doce-**tōte**! |
| | | | 3-я | | doce-**nto**! |
| IIIa | scribo – *пісаць* | scrib- | 2-я | scrib-**ĭ-to**! | scrib-**i-tōte**! |
| | | | 3-я | | scrib-**u-nto**! |
| IIIб | capio – *браць* | capĭ- | 2-я | capĭ-**to**! | capi-**tōte**! |
| | | | 3-я | | capi-**u-nto**! |
| IV | audio – *слухаць* | audī- | 2-я | audī-**to**! | audi-**tōte**! |
| | | | 3-я | | audi-**u-nto**! |

4. У **imperatīvus futūri passīvi** (загадным ладзе будучага часу залежнага стану) у 2-й і 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў I, II, IIIб, IV спражэння да асновы infectum далучаецца канчатак **-tor** або **-mĭno**, у дзеясловаў IIIa спражэння – злучальны галосны **-ĭ-** і канчатак **-tor** або **-mĭno**.

У 3-й асобе множнага ліку дзеясловаў I, II спражэння да асновы infectum далучаецца канчатак **-ntor**, у дзеясловаў III, IV спражэння – злучальны галосны **-u-** і канчатак **-ntor**:

| Спражэнне | Дзеяслоў | Аснова | Асоба | Singulāris | Plurālis |
|---|---|---|---|---|---|
| I | laudo – *хваліць* | laudā- | 2-я | laudā-**tor**! або lauda-**mĭno**! | – |
| | | | 3-я | | lauda-**ntor**! |
| II | doceo – *навучаць* | docē- | 2-я | docē-**tor**! або doce-**mĭno**! | – |
| | | | 3-я | | doce-**ntor**! |
| IIIa | scribo – *пісаць* | scrib- | 2-я | scrib-**ĭ-tor**! або scrib-**i-mĭno**! | – |
| | | | 3-я | | scrib-**u-ntor**! |
| IIIб | capio – *браць* | capĭ- | 2-я | capĭ-**tor**! або capi-**mĭno**! | – |
| | | | 3-я | | capi-**u-ntor**! |
| IV | audio – *слухаць* | audī- | 2-я | audī-**tor**! або audi-**mĭno**! | – |
| | | | 3-я | | audi-**u-ntor!** |

5. **Значэнне imperatīvus**. Загадны лад, які абазначае не толькі загад, але і настаўленне, просьбу і г. д., мае формы цяперашняга і будучага часу.

У адрозненне ад imperatīvus praesentis, які ўказвае на неадкладнае дзеянне, imperatīvus futūri указвае на дзеянне, пажаданае ў далейшым. Таму ён часцей за ўсё ўжываецца ў законах, дамовах, тэстаментах, а так-

сама ў настаўленнях, просьбах. Часта яму папярэднічае адзін з будучых часоў абвеснага ладу. Напрыклад: Cum littĕras meas accepĕris, venīto. – *Калі атрымаеш мой ліст, прыходзь.*

Некаторыя дзеясловы ўтвараюць толькі imperatīvus futūri: scio, 4 – *ведаць* – scito – *ведай*, scitōte – *ведайце*; memĭni, meminisse – *памятаць* – memento – *памятай*, mementōte – *памятайце*.

6. **Выказванне забароны**. Адмоўная форма загаднага ладу, г. зн. забарона, выказваецца спалучэннем загаднага ладу дзеяслова nolo, nolle – *не жадаць* (**noli** у адзіночным ліку, **nolīte** у множным ліку; гл. § 79, п. 2) з формай *inf. praes. act.* (гл. § 48): noli laudāre – *не хвалі*, nolīte laudāre – *не хваліце*; noli tangĕre – *не кранай*, nolīte tangĕre – *не кранайце*.

## § 59. Утварэнне часавых форм абвеснага ладу ад асновы perfectum

Ад асновы perfectum (гл. § 49) утвараюцца perfectum, plusquamperfectum, futūrum II незалежнага стану.

## § 60. Прошлы час закончанага трывання абвеснага ладу незалежнага стану (Perfectum indicatīvi actīvi)

Прошлы час закончанага трывання абвеснага ладу незалежнага стану адказвае на пытанне *што зрабіў?* Утвараецца ад асновы perfectum (гл. § 49) з дапамогай асабовых канчаткаў perfecti (гл. § 51).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudāv-; doceo – *навучаць*, аснова docu-; scribo – *пісаць*, аснова scrips-; audio – *слухаць*, аснова audīv-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudāv-**i** | docu-**i** | scrips-**i** | audīv-**i** |
| | 2-я | laudav-**isti** | docu-**isti** | scrips-**isti** | audiv-**isti** |
| | 3-я | laudāv-**it** | docu-**it** | scrips-**it** | audīv-**it** |
| Pl. | 1-я | laudav-**ĭmus** | docu-**ĭmus** | scrips-**ĭmus** | audiv-**ĭmus** |
| | 2-я | laudav-**istis** | docu-**istis** | scrips-**istis** | audiv-**istis** |
| | 3-я | laudav-**ērunt** | docu-**ērunt** | scrips-**ērunt** | audiv-**ērunt** |

# § 61. Запрошлы час абвеснага ладу незалежнага стану (Plusquamperfectum indicatīvi actīvi)

Запрошлы (даўномінулы, перадмінулы) час абвеснага ладу незалежнага стану абазначае дзеянне: 1) якое адбылося раней іншага дзеяння ў мінулым; 2) якое адбылося даўно. Утвараецца ад асновы perfectum (гл. § 49) з дапамогай суфікса **-ĕrā-** і асабовых канчаткаў actīvi (гл. § 51).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudāv-; doceo – *навучаць*, аснова docu-;
scribo – *пісаць*, аснова scrips-; audio – *слухаць*, аснова audīv-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudav-**ĕra-m** | docu-**ĕra-m** | scrips-**ĕra-m** | audiv-**ĕra-m** |
| | 2-я | laudav-**ĕra-s** | docu-**ĕra-s** | scrips-**ĕra-s** | audiv-**ĕra-s** |
| | 3-я | laudav-**ĕra-t** | docu-**ĕra-t** | scrips-**ĕra-t** | audiv-**ĕra-t** |
| Pl. | 1-я | laudav-**erā-mus** | docu-**erā-mus** | scrips-**erā-mus** | audiv-**erā-mus** |
| | 2-я | laudav-**erā-tis** | docu-**erā-tis** | scrips-**erā-tis** | audiv-**erā-tis** |
| | 3-я | laudav-**ĕra-nt** | docu-**ĕra-nt** | scrips-**ĕra-nt** | audiv-**ĕra-nt** |

# § 62. Перадбудучы час абвеснага ладу незалежнага стану (Futūrum II (secundum) indicatīvi actīvi)

Перадбудучы час абвеснага ладу незалежнага стану абазначае дзеянне, якое адбудзецца раней іншага дзеяння ў будучым. Утвараецца ад асновы perfectum (гл. § 49) з дапамогай суфікса **-ĕr-** (1 *sg.*) **/-ĕrĭ-** (астатнія формы) і асабовых канчаткаў actīvi (гл. § 51).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudāv-; doceo – *навучаць*, аснова docu-;
scribo – *пісаць*, аснова scrips-; audio – *слухаць*, аснова audīv-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudav-**ĕr-o** | docu-**ĕr-o** | scrips-**ĕr-o** | audiv-**ĕr-o** |
| | 2-я | laudav-**ĕri-s** | docu-**ĕri-s** | scrips-**ĕri-s** | audiv-**ĕri-s** |
| | 3-я | laudav-**ĕri-t** | docu-**ĕri-t** | scrips-**ĕri-t** | audiv-**ĕri-t** |

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Pl. | 1-я | laudav-**erĭ-mus** | docu-**erĭ-mus** | scrips-**erĭ-mus** | audiv-**erĭ-mus** |
| | 2-я | laudav-**erĭ-tis** | docu-**erĭ-tis** | scrips-**erĭ-tis** | audiv-**erĭ-tis** |
| | 3-я | laudav-**ĕri-nt** | docu-**ĕri-nt** | scrips-**ĕri-nt** | audiv-**ĕri-nt** |

## § 63. Утварэнне часавых форм абвеснага ладу ад асновы supīnum

Ад асновы supīnum утвараецца participium perfecti passīvi (гл. § 68), які ў спалучэнні з дапаможным дзеясловам sum, fui, – , esse (гл. § 79, п. 1) у адпаведных формах утварае perfectum, plusquamperfectum і futūrum II залежнага стану. Гэтыя формы аналітычныя, г. зн. складаюцца з двух слоў.

## § 64. Прошлы час закончанага трывання абвеснага ладу залежнага стану (Perfectum indicatīvi passīvi)

Прошлы час закончанага трывання абвеснага ладу залежнага стану ўтвараецца з дапамогай participium perfecti passīvi (гл. § 68) і дзеяслова sum, fui, – , esse у praesens indicatīvi (гл. § 79, п. 1).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudāt-; doceo – *навучаць*, аснова doct-;
scribo – *пісаць*, аснова script-; audio – *слухаць*, аснова audīt-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. |
|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudāt**us**, **a**, **um** **sum** | doct**us**, **a**, **um** **sum** |
| | 2-я | laudāt**us**, **a**, **um** **es** | doct**us**, **a**, **um** **es** |
| | 3-я | laudāt**us**, **a**, **um** **est** | doct**us**, **a**, **um** **est** |
| Pl. | 1-я | laudāt**i**, **ae**, **a** **sumus** | doct**i**, **ae**, **a** **sumus** |
| | 2-я | laudāt**i**, **ae**, **a** **estis** | doct**i**, **ae**, **a** **estis** |
| | 3-я | laudāt**i**, **ae**, **a** **sunt** | doct**i**, **ae**, **a** **sunt** |
| | | III спр. | IV спр. |
| Sg. | 1-я | script**us**, **a**, **um** **sum** | audīt**us**, **a**, **um** **sum** |
| | 2-я | script**us**, **a**, **um** **es** | audīt**us**, **a**, **um** **es** |
| | 3-я | script**us**, **a**, **um** **est** | audīt**us**, **a**, **um** **est** |

| Лік | Асоба | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|
| Pl. | 1-я | scripti, **ae**, **a** **sumus** | audīti, **ae**, **a** **sumus** |
| | 2-я | scripti, **ae**, **a** **estis** | audīti, **ae**, **a** **estis** |
| | 3-я | scripti, **ae**, **a** **sunt** | audīti, **ae**, **a** **sunt** |

## § 65. Запрошлы час абвеснага ладу залежнага стану (Plusquamperfectum indicatīvi passīvi)

Запрошлы (даўномінулы, перадмінулы) час абвеснага ладу залежнага стану ўтвараецца з дапамогай participium perfecti passīvi (гл. § 68) і дзеяслова sum, fui, – , esse у imperfectum indicatīvi (гл. § 79, п. 1).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudāt-; doceo – *навучаць*, аснова doct-;
scribo – *пісаць*, аснова script-; audio – *слухаць*, аснова audīt-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. |
|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudāt**us**, **a**, **um** **eram** | doct**us**, **a**, **um** **eram** |
| | 2-я | laudāt**us**, **a**, **um** **eras** | doct**us**, **a**, **um** **eras** |
| | 3-я | laudāt**us**, **a**, **um** **erat** | doct**us**, **a**, **um** **erat** |
| Pl. | 1-я | laudāt**i**, **ae**, **a** **erāmus** | doct**i**, **ae**, **a** **erāmus** |
| | 2-я | laudāt**i**, **ae**, **a** **erātis** | doct**i**, **ae**, **a** **erātis** |
| | 3-я | laudāt**i**, **ae**, **a** **erant** | doct**i**, **ae**, **a** **erant** |
| | | III спр. | IV спр. |
| Sg. | 1-я | script**us**, **a**, **um** **eram** | audīt**us**, **a**, **um** **eram** |
| | 2-я | script**us**, **a**, **um** **eras** | audīt**us**, **a**, **um** **eras** |
| | 3-я | script**us**, **a**, **um** **erat** | audīt**us**, **a**, **um** **erat** |
| Pl. | 1-я | script**i**, **ae**, **a** **erāmus** | audīt**i**, **ae**, **a** **erāmus** |
| | 2-я | script**i**, **ae**, **a** **erātis** | audīt**i**, **ae**, **a** **erātis** |
| | 3-я | script**i**, **ae**, **a** **erant** | audīt**i**, **ae**, **a** **erant** |

## § 66. Перадбудучы час абвеснага ладу залежнага стану (Futūrum II (secundum) indicatīvi passīvi)

Перадбудучы час абвеснага ладу залежнага стану ўтвараецца з дапамогай participium perfecti passīvi (гл. § 68) і дзеяслова sum, fui, – , esse у futūrum I indicatīvi (гл. § 79, п. 1).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudāt-; doceo – *навучаць*, аснова doct-;
scribo – *пісаць*, аснова script-; audio – *слухаць*, аснова audīt-:

| Лік | Асоба | I спр. | | II спр. | |
|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudāt**us**, **a**, **um** | **ero** | doct**us**, **a**, **um** | **ero** |
| | 2-я | laudāt**us**, **a**, **um** | **eris** | doct**us**, **a**, **um** | **eris** |
| | 3-я | laudāt**us**, **a**, **um** | **erit** | doct**us**, **a**, **um** | **erit** |
| Pl. | 1-я | laudāt**i**, **ae**, **a** | **erĭmus** | doct**i**, **ae**, **a** | **erĭmus** |
| | 2-я | laudāt**i**, **ae**, **a** | **erĭtis** | doct**i**, **ae**, **a** | **erĭtis** |
| | 3-я | laudāt**i**, **ae**, **a** | **erunt** | doct**i**, **ae**, **a** | **erunt** |
| | | III спр. | | IV спр. | |
| Sg. | 1-я | script**us**, **a**, **um** | **ero** | audīt**us**, **a**, **um** | **ero** |
| | 2-я | script**us**, **a**, **um** | **eris** | audīt**us**, **a**, **um** | **eris** |
| | 3-я | script**us**, **a**, **um** | **erit** | audīt**us**, **a**, **um** | **erit** |
| Pl. | 1-я | script**i**, **ae**, **a** | **erĭmus** | audīt**i**, **ae**, **a** | **erĭmus** |
| | 2-я | script**i**, **ae**, **a** | **erĭtis** | audīt**i**, **ae**, **a** | **erĭtis** |
| | 3-я | script**i**, **ae**, **a** | **erunt** | audīt**i**, **ae**, **a** | **erunt** |

## § 67. Дзеепрыметнік (Participium). Дзеепрыметнік цяперашняга часу незалежнага стану (Participium praesentis actīvi)

У лацінскай мове тры тыпы дзеепрыметнікаў: participium praesentis actīvi, participium perfecti passīvi, participium futūri actīvi.

Дзеепрыметнік цяперашняга часу незалежнага стану ўсіх родаў утвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай суфікса **-nt-** (I, II спр.),

**-ent- (**III, IV спр.) і канчатка **-s** у *nom. sg*. Пры гэтым зычны **t** перад **s** асімілюецца ў **s (ts > ss)**, пасля адбываецца сцяжэнне гуку **(ss > s)**. Таму практычна да асновы infectum далучаецца **-ns** (I, II спр.), **-ens** (III, IV спр.):

| Спражэнне | Дзеяслоў | Аснова | Pcp. praes. act. | | Пераклад |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | Nom. sg. | Gen. sg. | |
| I | laudo – *хваліць* | laudā- | lauda-**ns** | lauda-**nt-is** | які (што) хваліць |
| II | doceo – *навучаць* | docē- | doce-**ns** | doce-**nt-is** | які (што) навучае |
| III | scribo – *пісаць* | scrib- | scrib-**ens** | scrib-**ent-is** | які (што) піша |
| IV | audio – *слухаць* | audī- | audi-**ens** | audi-**ent-is** | які (што) слухае |

Participium praesentis actīvi скланяецца як прыметнік 3-га скланення аднаго канчатка (гл. § 24).

**Узор скланення**

| Склон | Singulāris | | Plurālis | |
|---|---|---|---|---|
| | *m*, *f* | *n* | *m*, *f* | *n* |
| Nom. | laudans | | laudant-**es** | laudant-**ia** |
| Gen. | laudant-**is** | | laudant-**ium** | |
| Dat. | laudant-**i** | | laudant-**ĭbus** | |
| Acc. | laudant-**em** | laudans | laudant-**es** | laudant-**ia** |
| Abl. | laudant-**i (-e)** | | laudant-**ĭbus** | |
| Voc. | laudans | | laudant-**es** | laudant-**ia** |

З а ў в а г а. Дзеепрыметнікі маюць у *abl. sg*. канчатак **-e**, калі ўжываюцца ў прэдыкатыўным значэнні, і канчатак **-i**, калі ўжываюцца ў функцыі прыметніка і з'яўляюцца дапасаваным азначэннем.

| Характэрнай адзнакай participium praesentis actīvi з'яўляецца суфікс **-nt-**/**-ent-** |
|---|

## § 68. Дзеепрыметнік прошлага часу залежнага стану (Participium perfecti passīvi)

Дзеепрыметнік прошлага часу залежнага стану ўтвараецца ад асновы supīnum (гл. § 49) з дапамогай радавых канчаткаў 1–2-га скланення **-us**, **-a**, **-um**:

| Спражэнне | Дзеяслоў | Аснова | Pcp. perf. pass. | Пераклад |
|---|---|---|---|---|
| I | laudo – *хваліць* | laudāt- | laudāt-**us**, **a**, **um** | пахвалены |
| II | doceo – *навучаць* | doct- | doct-**us**, **a**, **um** | навучаны |
| III | scribo – *пісаць* | script- | script-**us**, **a**, **um** | напісаны |
| IV | audio – *слухаць* | audīt- | audīt-**us**, **a**, **um** | пачуты |

Participium perfecti passīvi скланяецца як прыметнік 1–2-га скланення (гл. § 23): жаночы род па 1-м скланенні, мужчынскі і ніякі – па 2-м скланенні.

**Узор скланення**

| Склон | Singulāris | | |
|---|---|---|---|
| | *m* | *f* | *n* |
| Nom. | laudāt-**us** | laudāt-**a** | laudāt-**um** |
| Gen. | laudāt-**i** | laudāt-**ae** | laudāt-**i** |
| Dat. | laudāt-**o** | laudāt-**ae** | laudāt-**o** |
| Acc. | laudāt-**um** | laudāt-**am** | laudāt-**um** |
| Abl. | laudāt-**o** | laudāt-**ā** | laudāt-**o** |
| Voc. | laudāt-**e** | laudāt-**a** | laudāt-**um** |
| Plurālis | | | |
| Nom. | laudāt-**i** | laudāt-**ae** | laudāt-**a** |
| Gen. | laudat-**ōrum** | laudat-**ārum** | laudat-**ōrum** |
| Dat. | laudāt-**is** | | |
| Acc. | laudāt-**os** | laudāt-**as** | laudāt-**a** |
| Abl. | laudāt-**is** | | |
| Voc. | laudāt-**i** | laudāt-**ae** | laudāt-**a** |

Характэрнай адзнакай participium perfecti passīvi з'яўляецца суфікс **-t-**, радзей **-s-**, **-x-**

# § 69. Дзеепрыметнік будучага часу незалежнага стану (Participium futūri actīvi)

Дзеепрыметнік будучага часу незалежнага стану ўтвараецца ад асновы supīnum (гл. § 49) з дапамогай суфікса **-ūr-** і радавых канчаткаў 1–2-га скланення **-us**, **-a**, **-um**. Гэты дзеепрыметнік азначае намер, які адносіцца да будучыні, і перакладаецца апісальна:

| Спражэнне | Дзеяслоў | Аснова | Pcp. fut. act. | Пераклад |
|---|---|---|---|---|
| I | laudo – *хваліць* | laudāt- | laudat-**ūr**-**us**, **a**, **um** | які мае намер (па)хваліць |
| II | doceo – *навучаць* | doct- | doct-**ūr**-**us**, **a**, **um** | які мае намер (на)вучыць |
| III | scribo – *пісаць* | script- | script-**ūr**-**us**, **a**, **um** | які мае намер (на)пісаць |
| IV | audio – *слухаць* | audīt- | audit-**ūr**-**us**, **a**, **um** | які мае намер (па)чуць |

Participium futūri actīvi скланяецца як прыметнік 1–2-га скланення (гл. § 23): жаночы род па 1-м скланенні, мужчынскі і ніякі – па 2-м скланенні, г. зн. як participium perfecti passīvi (гл. § 68).

| Характэрнай адзнакай participium futūri actīvi з'яўляецца суфікс **-ūr-** |
|---|

# § 70. Умоўны лад (Conjunctīvus)

Conjunctīvus у адрозненне ад indicatīvus перадае дзеянне не рэальнае, а магчымае або пажаданае.

Conjunctīvus у лацінскай мове ўтвараецца ў чатырох часах: praesens, imperfectum, perfectum і plusquamperfectum абодвух ладоў. Гэтыя формы ўтвараюцца ад тых самых асноў, што і формы indicatīvus (гл. § 49), з дапамогай асабовых канчаткаў actīvi і passīvi (гл. § 51).

# § 71. Цяперашні час умоўнага ладу незалежнага і залежнага стану (Praesens conjunctīvi actīvi et passīvi)

Цяперашні час умоўнага ладу незалежнага і залежнага стану ўтвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай суфіксаў **-ē-** (I спр.), **-ā-** (II, III, IV спр.) і асабовых канчаткаў actīvi і passīvi (гл. § 51).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudā-; doceo – *навучаць*, аснова docē-; scribo – *пісаць*, аснова scrib-; audio – *слухаць*, аснова audī-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Actīvum | | | | | |
| Sg. | 1-я | laud**e**-**m** | doce-**a**-**m** | scrib-**a**-**m** | audi-**a**-**m** |
| | 2-я | laud**e**-**s** | doce-**a**-**s** | scrib-**a**-**s** | audi-**a**-**s** |
| | 3-я | laud**e**-**t** | doce-**a**-**t** | scrib-**a**-**t** | audi-**a**-**t** |

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Actīvum | | | | | |
| Pl. | 1-я | laudē-**mus** | doce-**ā-mus** | scrib-**ā-mus** | audi-**ā-mus** |
| | 2-я | laudē-**tis** | doce-**ā-tis** | scrib-**ā-tis** | audi-**ā-tis** |
| | 3-я | laud**e-nt** | doce-**a-nt** | scrib-**a-nt** | audi-**a-nt** |
| Passīvum | | | | | |
| Sg. | 1-я | laud**e-r** | doce-**a-r** | scrib-**a-r** | audi-**a-r** |
| | 2-я | laudē-**ris** | doce-**ā-ris** | scrib-**ā-ris** | audi-**ā-ris** |
| | 3-я | laudē-**tur** | doce-**ā-tur** | scrib-**ā-tur** | audi-**ā-tur** |
| Pl. | 1-я | laudē-**mur** | doce-**ā-mur** | scrib-**ā-mur** | audi-**ā-mur** |
| | 2-я | laud**e-mĭni** | doce-**a-mĭni** | scrib-**a-mĭni** | audi-**a-mĭni** |
| | 3-я | laud**e-ntur** | doce-**a-ntur** | scrib-**a-ntur** | audi-**a-ntur** |

З а ў в а г а. У дзеясловаў I спражэння канцавы галосны асновы **ā** выпадае ва ўсіх формах (laud-e-m < laudā-e-m).

## § 72. Прошлы час незакончанага трывання ўмоўнага ладу незалежнага і залежнага стану (Imperfectum conjunctīvi actīvi et passīvi)

Прошлы час незакончанага трывання ўмоўнага ладу незалежнага і залежнага стану ўтвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай суфіксаў **-rē-** (I, II, IIIб, IV спр.), **-ĕrē-** (IIIа спр.) і асабовых канчаткаў actīvi i passīvi (гл. § 51).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudā-; doceo – *навучаць*, аснова docē-;
scribo – *пісаць*, аснова scrib-; capio – *браць*, аснова capĭ-;
audio – *слухаць*, аснова audī-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIа спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Actīvum | | | | | | |
| Sg. | 1-я | laudā-**re-m** | docē-**re-m** | scrib-**ĕre-m** | capĕ-**re-m** | audī-**re-m** |
| | 2-я | laudā-**re-s** | docē-**re-s** | scrib-**ĕre-s** | capĕ-**re-s** | audī-**re-s** |
| | 3-я | laudā-**re-t** | docē-**re-t** | scrib-**ĕre-t** | capĕ-**re-t** | audī-**re-t** |
| Pl. | 1-я | lauda-**rē-mus** | doce-**rē-mus** | scrib-**erē-mus** | cape-**rē-mus** | audi-**rē-mus** |
| | 2-я | lauda-**rē-tis** | doce-**rē-tis** | scrib-**erē-tis** | cape-**rē-tis** | audi-**rē-tis** |
| | 3-я | laudā-**re-nt** | docē-**re-nt** | scrib-**ĕre-nt** | capĕ-**re-nt** | audī-**re-nt** |

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Passīvum | | | | | | |
| Sg. | 1-я | laudā-**re-r** | docē-**re-r** | scrib-**ĕre-r** | capĕ-**re-r** | audī-**re-r** |
| | 2-я | lauda-**rē-ris** | doce-**rē-ris** | scrib-**erē-ris** | cape-**rē-ris** | audi-**rē-ris** |
| | 3-я | lauda-**rē-tur** | doce-**rē-tur** | scrib-**erē-tur** | cape-**rē-tur** | audi-**rē-tur** |
| Pl. | 1-я | lauda-**rē-mur** | doce-**rē-mur** | scrib-**erē-mur** | cape-**rē-mur** | audi-**rē-mur** |
| | 2-я | lauda-**re-mĭni** | doce-**re-mĭni** | scrib-**ere-mĭni** | cape-**re-mĭni** | audi-**re-mĭni** |
| | 3-я | lauda-**re-ntur** | doce-**re-ntur** | scrib-**ere-ntur** | cape-**re-ntur** | audi-**re-ntur** |

Заўвага. У дзеясловаў IIIб спражэння канцавы галосны асновы **ĭ** ва ўсіх формах пераходзіць у **ĕ**.

## § 73. Прошлы час закончанага трывання ўмоўнага ладу незалежнага стану (Perfectum conjunctīvi actīvi)

Прошлы час закончанага трывання ўмоўнага ладу незалежнага стану ўтвараецца ад асновы perfectum (гл. § 49) з дапамогай суфікса **-ĕrĭ-** і асабовых канчаткаў actīvi (гл. § 51).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudāv-; doceo – *навучаць*, аснова docu-;
scribo – *пісаць*, аснова scrips-; audio – *слухаць*, аснова audīv-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudav-**ĕri-m** | docu-**ĕri-m** | scrips-**ĕri-m** | audiv-**ĕri-m** |
| | 2-я | laudav-**ĕri-s** | docu-**ĕri-s** | scrips-**ĕri-s** | audiv-**ĕri-s** |
| | 3-я | laudav-**ĕri-t** | docu-**ĕri-t** | scrips-**ĕri-t** | audiv-**ĕri-t** |
| Pl. | 1-я | laudav-**erĭ-mus** | docu-**erĭ-mus** | scrips-**erĭ-mus** | audiv-**erĭ-mus** |
| | 2-я | laudav-**erĭ-tis** | docu-**erĭ-tis** | scrips-**erĭ-tis** | audiv-**erĭ-tis** |
| | 3-я | laudav-**ĕri-nt** | docu-**ĕri-nt** | scrips-**ĕri-nt** | audiv-**ĕri-nt** |

# § 74. Запрошлы час умоўнага ладу незалежнага стану (Plusquamperfectum conjunctīvi actīvi)

Запрошлы (даўномінулы, перадмінулы) час умоўнага ладу незалежнага стану ўтвараецца ад асновы perfectum (гл. § 49) з дапамогай суфікса **-issē-** і асабовых канчаткаў actīvi (гл. § 51).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudāv-; doceo – *навучаць*, аснова docu-;
scribo – *пісаць*, аснова scrips-; audio – *слухаць*, аснова audīv-:

| Лік | Асоба | I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudav-**isse-m** | docu-**isse-m** | scrips-**isse-m** | audiv-**isse-m** |
| | 2-я | laudav-**isse-s** | docu-**isse-s** | scrips-**isse-s** | audiv-**isse-s** |
| | 3-я | laudav-**isse-t** | docu-**isse-t** | scrips-**isse-t** | audiv-**isse-t** |
| Pl. | 1-я | laudav-**issē-mus** | docu-**issē-mus** | scrips-**issē-mus** | audiv-**issē-mus** |
| | 2-я | laudav-**issē-tis** | docu-**issē-tis** | scrips-**issē-tis** | audiv-**issē-tis** |
| | 3-я | laudav-**isse-nt** | docu-**isse-nt** | scrips-**isse-nt** | audiv-**isse-nt** |

# § 75. Прошлы час закончанага трывання ўмоўнага ладу залежнага стану (Perfectum conjunctīvi passīvi)

Прошлы час закончанага трывання ўмоўнага ладу залежнага стану ўтвараецца з дапамогай participium perfecti passīvi (гл. § 68) і дзеяслова sum, fui, – , esse у praesens conjunctīvi (гл. § 79, п. 1).

**Узор спражэння**

laudo – хваліць, аснова laudāt-; doceo – навучаць, аснова doct-;
scribo – пісаць, аснова script-; audio – слухаць, аснова audīt-:

| Лік | Асоба | I спр. | | II спр. | |
|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudāt**us**, **a**, **um** | **sim** | doct**us**, **a**, **um** | **sim** |
| | 2-я | laudāt**us**, **a**, **um** | **sis** | doct**us**, **a**, **um** | **sis** |
| | 3-я | laudāt**us**, **a**, **um** | **sit** | doct**us**, **a**, **um** | **sit** |
| Pl. | 1-я | laudāt**i**, **ae**, **a** | **simus** | doct**i**, **ae**, **a** | **simus** |
| | 2-я | laudāt**i**, **ae**, **a** | **sitis** | doct**i**, **ae**, **a** | **sitis** |
| | 3-я | laudāt**i**, **ae**, **a** | **sint** | doct**i**, **ae**, **a** | **sint** |

| Лік | Асоба | III спр. | | IV спр. | |
|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | script**us**, **a**, **um** | **sim** | audīt**us**, **a**, **um** | **sim** |
| | 2-я | script**us**, **a**, **um** | **sis** | audīt**us**, **a**, **um** | **sis** |
| | 3-я | script**us**, **a**, **um** | **sit** | audīt**us**, **a**, **um** | **sit** |
| Pl. | 1-я | script**i**, **ae**, **a** | **simus** | audīt**i**, **ae**, **a** | **simus** |
| | 2-я | script**i**, **ae**, **a** | **sitis** | audīt**i**, **ae**, **a** | **sitis** |
| | 3-я | script**i**, **ae**, **a** | **sint** | audīt**i**, **ae**, **a** | **sint** |

# § 76. Запрошлы час умоўнага ладу залежнага стану (Plusquamperfectum conjunctīvi passīvi)

Запрошлы (даўномінулы, перадмінулы) час умоўнага ладу залежнага стану ўтвараецца з дапамогай participium perfecti passīvi (гл. § 68) і дзеяслова sum, fui, – , esse у imperfectum conjunctīvi (гл. § 79, п. 1).

**Узор спражэння**

laudo – *хваліць*, аснова laudāt-; doceo – навучаць, аснова doct-;
scribo – *пісаць*, аснова script-; audio – *слухаць*, аснова audīt-:

| Лік | Асоба | I спр. | | II спр. | |
|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | laudāt**us**, **a**, **um** | **essem** | doct**us**, **a**, **um** | **essem** |
| | 2-я | laudāt**us**, **a**, **um** | **esses** | doct**us**, **a**, **um** | **esses** |
| | 3-я | laudāt**us**, **a**, **um** | **esset** | doct**us**, **a**, **um** | **esset** |
| Pl. | 1-я | laudāt**i**, **ae**, **a** | **essēmus** | doct**i**, **ae**, **a** | **essēmus** |
| | 2-я | laudāt**i**, **ae**, **a** | **essētis** | doct**i**, **ae**, **a** | **essētis** |
| | 3-я | laudāt**i**, **ae**, **a** | **essent** | doct**i**, **ae**, **a** | **essent** |
| | | III спр. | | IV спр. | |
| Sg. | 1-я | script**us**, **a**, **um** | **essem** | audīt**us**, **a**, **um** | **essem** |
| | 2-я | script**us**, **a**, **um** | **esses** | audīt**us**, **a**, **um** | **esses** |
| | 3-я | script**us**, **a**, **um** | **esset** | audīt**us**, **a**, **um** | **esset** |
| Pl. | 1-я | script**i**, **ae**, **a** | **essēmus** | audīt**i**, **ae**, **a** | **essēmus** |
| | 2-я | script**i**, **ae**, **a** | **essētis** | audīt**i**, **ae**, **a** | **essētis** |
| | 3-я | script**i**, **ae**, **a** | **essent** | audīt**i**, **ae**, **a** | **essent** |

## § 77. Адкладальныя дзеясловы (Verba deponentia)

Адкладальнымі называюцца дзеясловы, якія маюць форму залежнага стану, а значэнне незалежнага (параўн. у бел. мове: *баяцца*, *падабацца*, *здзекавацца*). Маюць тры асноўныя формы і дзве асновы:

| Асноўная форма | Аснова |
|---|---|
| 1. Praesens indicatīvi passīvi, 1 *sg*. | infectum |
| 2. Perfectum indicatīvi passīvi, 1 *sg*. | supīnum |
| 3. Infinitīvus praesentis passīvi | infectum |

Аснова perfectum адсутнічае:

| Спражэнне | Дзеяслоў | Пераклад |
|---|---|---|
| I | arbĭtror, arbitrātus sum, arbitrāri | лічыць, меркаваць |
| II | polliceor, pollicĭtus sum, pollicēri | абяцаць |
| IIIа | utor, usus sum, uti | карыстацца |
| IIIб | morior, mortuus sum, mori | паміраць |
| IV | orior, ortus sum, orīri | узыходзіць, узнікаць |

Адкладальныя дзеясловы спрагаюцца як звычайныя дзеясловы ў пасіўнай форме, але пасіўнага значэння не маюць. Гэта значэнне захаваў толькі gerundīvum (гл. § 84).

Адкладальныя дзеясловы ўтвараюць наступныя формы незалежнага стану:

| Форма | Прыклад | Пераклад |
|---|---|---|
| Participium praesentis actīvi | arbĭtrans | які (што) лічыць |
| Participium futūri actīvi | arbitratūrus | які (што) мае намер лічыць |
| Infinitīvus futūri actīvi | arbitratūrus esse | лічыць |

## § 78. Паўадкладальныя дзеясловы (Verba semideponentia)

Паўадкладальнымі называюцца дзеясловы, якія ад розных асноў утвараюць формы розных станаў, захоўваючы пры гэтым значэнне незалежнага стану. Існуюць два віды такіх дзеясловаў.

1. Формы сістэмы infectum утвараюцца ў незалежным стане, сістэмы perfectum – у залежным.

Маюць тры асноўныя формы і дзве асновы:

| Асноўная форма | Аснова |
|---|---|
| 1. Praesens indicatīvi actīvi, 1 *sg*. | infectum |
| 2. Perfectum indicatīvi passīvi, 1 *sg*. | supīnum |
| 3. Infinitīvus praesentis actīvi | infectum |

Аснова perfectum адсутнічае:

| Дзеяслоў | Пераклад |
|---|---|
| audeo, ausus sum, audēre, 2 | асмельвацца |
| gaudeo, gavīsus sum, gaudēre, 2 | радавацца |
| soleo, solĭtus sum, solēre, 2 | мець звычку |
| confīdo, confīsus sum, confidĕre, 3 | давяраць |

2. Формы сістэмы infectum утвараюцца ў залежным стане, сістэмы perfectum – у незалежным.

Маюць тры асноўныя формы і дзве асновы:

| Асноўная форма | Аснова |
|---|---|
| 1. Praesens indicatīvi passīvi, 1 *sg*. | infectum |
| 2. Perfectum indicatīvi actīvi, 1 *sg*. | perfectum |
| 3. Infinitīvus praesentis passīvi | infectum |

Аснова supīnum адсутнічае:

| Дзеяслоў | Пераклад |
|---|---|
| revertor, reverti, reverti, 3 | вяртацца |

## § 79. Няправільныя дзеясловы (Verba anomăla)

Няправільныя (нерэгулярныя) дзеясловы не ўваходзяць у разгледжаныя вышэй чатыры спражэнні. Яны маюць шэраг асаблівасцей, якія адрозніваюць іх ад правільных (рэгулярных) дзеясловаў: чаргаванне асноў, суплетывізм, утварэнне атэматычных форм, г. зн. далучэнне асабовага канчатка да асновы без злучальнага галоснага.

**1. sum, fui, – , esse – *быць, з’яўляцца***

| Лік | Асоба | Praesens | | Imperfectum | | Futūrum I |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus |
| Sg. | 1-я | sum | sim | eram | essem | ero |
| | 2-я | es | sis | eras | esses | eris |
| | 3-я | est | sit | erat | esset | erit |
| Pl. | 1-я | sumus | simus | erāmus | essēmus | erĭmus |
| | 2-я | estis | sitis | erātis | essētis | erĭtis |
| | 3-я | sunt | sint | erant | essent | erunt |

| Лік | Асоба | Perfectum | | Plusquamperfectum | | Futūrum II |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus |
| Sg. | 1-я | fui | fuĕrim | fuĕram | fuissem | fuĕro |
| | 2-я | fuisti | fuĕris | fuĕras | fuisses | fuĕris |
| | 3-я | fuit | fuĕrit | fuĕrat | fuisset | fuĕrit |
| Pl. | 1-я | fuĭmus | fuerĭmus | fuerāmus | fuissēmus | fuerĭmus |
| | 2-я | fuistis | fuerĭtis | fuerātis | fuissētis | fuerĭtis |
| | 3-я | fuērunt | fuĕrint | fuĕrant | fuissent | fuĕrint |

| Асоба | Imperatīvus | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Praesens | | Imperfectum | |
| | Singulāris | Plurālis | Singulāris | Plurālis |
| 2-я | es | este | esto | estōte |
| 3-я | – | – | esto | sunto |

| Infinitīvus | | |
|---|---|---|
| Praesens | Perfectum | Futūrum |
| esse | fuisse | futūrus, a, um esse/fore |

| Participium praesentis | Participium futūri |
|---|---|
| (ens, entis) | futūrus, a, um |

З а ў в а г і.

1. Асноўныя формы гэтага дзеяслова ўтвараюцца ад розных асноў (суплетыўна).

2. Аснова infectum **es**-/**s**- (гл. praesens), аснова perfectum **fu**- (гл. perfectum, plusquamperfectum, futūrum II).

3. У imperfectum і futūrum I аснова infectum **es**- > **er**- (гл. § 7).

Такім самым чынам спрагаюцца дзеясловы, утвораныя ад дзеяслова sum, fui, – , esse з дапамогай прыставак:

ab-sum, a-fui, – , ab-esse – *адсутнічаць*;

ad-sum, ad-fui (af-fui), – , ad-esse – *прысутнічаць*;

de-sum, de-fui, – , de-esse – *неставаць, не хапаць*;

in-sum, – , – , in-esse – *быць уласцівым* (*чаму-небудзь*);

inter-sum, inter-fui, **–** , inter-esse **–** *быць паміж*, *адрознівацца*, *быць цікавым*;

ob-sum, ob-fui, – , ob-esse – *шкодзіць*;

prae-sum, prae-fui, – , prae-esse – *быць наперадзе*, *прысутнічаць*;

pro-sum, pro-fui, – , prod-esse – *быць карысным*;

super-sum, super-fui, – , super-esse – *заставацца*.

Participium praesentis утвараюць толькі absum і praesum:

absens, absentis – *які* (*што*) *адсутнічае*;

praesens, praesentis – *які* (*што*) *прысутнічае*, *цяперашні*.

Дзеяслоў prosum (старажытная форма prodsum) захоўвае зычны **d** перад галосным. Напрыклад, *praes. ind.*: prosum, prodes, prodest, prosumus, prodestis, prosunt; *imperf. ind.*: proděram і г. д.

Некаторыя асаблівасці мае дзеяслоў possum, potui, posse – *быць у стане*, *магчы*. Гэты складаны дзеяслоў (pot + esse) утварыўся ад прыметніка potis – *які* (*што*) *мае сілу*, *уладу* і дзеяслова sum, fui, – , esse; пры спражэнні **pot-** перад **s** пераходзіць у **pos-**:

| Лік | Асоба | Praesens | | Imperfectum | | Futūrum I |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus |
| Sg. | 1-я | possum | possim | potěram | possem | potěro |
| | 2-я | potes | possis | potěras | posses | potěris |
| | 3-я | potest | possit | potěrat | posset | potěrit |
| Pl. | 1-я | possŭmus | possīmus | poterāmus | possēmus | poterĭmus |
| | 2-я | potestis | possītis | poterātis | possētis | poterĭtis |
| | 3-я | possunt | possint | potěrant | possent | potěrunt |

| Лік | Асоба | Perfectum | | Plusquamperfectum | | Futūrum II |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus |
| Sg. | 1-я | potui | potuěrim | potuěram | potuissem | potuěro |
| | 2-я | potuisti | potuěris | potuěras | potuisses | potuěris |
| | 3-я | potuit | potuěrit | potuěrat | potuisset | potuěrit |
| Pl. | 1-я | potuĭmus | potuerĭmus | potuerāmus | potuissēmus | potuerĭmus |
| | 2-я | potuistis | potuerĭtis | potuerātis | potuissētis | potuerĭtis |
| | 3-я | potuērunt | potuěrint | potuěrant | potuissent | potuěrint |

| Infinitīvus praesentis | Infinitīvus perfecti |
|---|---|
| posse | potuisse |

**2. volo, volui, – , velle** – *хацець, жадаць*;
**nolo, nolui, – , nolle** – *не хацець, не жадаць*;
**malo, malui, – , malle** – *хацець больш, аддаваць перавагу*

| Лік | Асоба | Praesens | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | | | Conjunctīvus | | |
| Sg. | 1-я | volo | nolo | malo | velim | nolim | malim |
| | 2-я | vis | non vis | mavis | velis | nolis | malis |
| | 3-я | vult | non vult | mavult | velit | nolit | malit |
| Pl. | 1-я | volŭmus | nolŭmus | malŭmus | velīmus | nolīmus | malīmus |
| | 2-я | vultis | non vultis | mavultis | velītis | nolītis | malītis |
| | 3-я | volunt | nolunt | malunt | velint | nolint | malint |

| Лік | Асоба | Imperfectum | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | | | Conjunctīvus | | |
| Sg. | 1-я | volēbam | nolēbam | malēbam | vellem | nollem | mallem |
| | 2-я | volēbas | nolēbas | malēbas | velles | nolles | malles |
| | 3-я | volēbat | nolēbat | malēbat | vellet | nollet | mallet |
| Pl. | 1-я | volebāmus | nolebāmus | malebāmus | vellēmus | nollēmus | mallēmus |
| | 2-я | volebātis | nolebātis | malebātis | vellētis | nollētis | mallētis |
| | 3-я | volēbant | nolēbant | malēbant | vellent | nollent | mallent |

| Лік | Асоба | Futūrum I indicativi | | | Perfectum indicatīvi | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | volam | nolam | malam | volui | nolui | malui |
| | 2-я | voles | noles | males | voluisti | noluisti | maluisti |
| | 3-я | volet | nolet | malet | voluit | noluit | maluit |
| Pl. | 1-я | volēmus | nolēmus | malēmus | voluĭmus | noluĭmus | maluĭmus |
| | 2-я | volētis | nolētis | malētis | voluistis | noluistis | maluistis |
| | 3-я | volent | nolent | malent | voluērunt | noluērunt | maluērunt |

| Infinitīvus praesentis | | | Infinitīvus perfecti | | |
|---|---|---|---|---|---|
| velle | nolle | malle | voluisse | noluisse | maluisse |

| Лік | Асоба | Imperatīvus praesentis | | |
|---|---|---|---|---|
| Singulāris | 2-я | – | noli | – |
| Plurālis | 2-я | – | nolīte | – |

## 3. eo, ii, itum, ire – *ісці*

| Лік | Асоба | Praesens | | Imperfectum | | Futūrum I |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus |
| Sg. | 1-я | eo | eam | ibam | irem | ibo |
| | 2-я | is | eat | ibas | ires | ibis |
| | 3-я | it | eat | ibat | iret | ibit |
| Pl. | 1-я | imus | eāmus | ibāmus | irēmus | ibĭmus |
| | 2-я | itis | eātis | ibātis | irētis | ibĭtis |
| | 3-я | eunt | eant | ibant | irent | ibunt |

| Лік | Асоба | Perfectum | | Plusquamperfectum | | Futūrum II |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus | Conjunctīvus | Indicatīvus |
| Sg. | 1-я | ii | iĕrim | iĕram | issem | iĕro |
| | 2-я | isti | iĕris | iĕras | isses | iĕris |
| | 3-я | iit | iĕrit | iĕrat | isset | iĕrit |
| Pl. | 1-я | iĭmus | ierĭmus | ierāmus | issēmus | ierĭmus |
| | 2-я | iistis | ierĭtis | ierātis | issētis | ierĭtis |
| | 3-я | iērunt | iĕrint | iĕrant | issent | iĕrint |

| Асоба | Imperatīvus | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Praesens | | Imperfectum | |
| | Singulāris | Plurālis | Singulāris | Plurālis |
| 2-я | i | ite | ito | itōte |
| 3-я | – | – | ito | eunto |

| Infinitīvus | | |
|---|---|---|
| Praesens | Perfectum | Futūrum |
| ire | isse | itūrus, a, um esse |

| Participium praesentis | Participium futūri | Gerundium |
|---|---|---|
| iens, euntis | itūrus, a, um | eundi і г. д. |

| Supīnum | Passīvum (толькі 3 *sg*.) |
|---|---|
| itum | itur – *ідуць* |

Такім самым чынам спрагаюцца дзеясловы, утвораныя ад дзеяслова eo, ii, itum, ire з дапамогай прыставак:

ab-eo, ab-ii, ab-ĭtum, ab-īre – *ісці*, *адыходзіць*;

ad-eo, ad-ii, ad-ĭtum, ad-īre – *прыходзіць*, *уваходзіць*;

ex-eo, ex-ii, ix-ĭtum, ex-īre – *выходзіць*;
per-eo, per-ii, per-ĭtum, per-īre – *гінуць*;
red-eo, red-ii, red-ĭtum, red-īre – *вяртацца*;
trans-eo, trans-ii, trans-ĭtum, trans-īre – *пераходзіць*.

Дзеяслоў per-eo – *гінуць* з'яўляецца формай залежнага стану да дзеяслова perdo, perdĭdi, perdĭtum, perdĕre – *губіць*, *нішчыць*, *губляць*.

Па тыпе perdo – pereo утвораны дзеясловы vendo – veneo, а менавіта:
vendo, vendĭdi, vendĭtum, vendĕre – *прадаваць*;
veneo, venii, venĭtum, venīre – *прадавацца*.

### 4. **fero, tuli, latum, ferre** – *насіць*, *несці*

Няправільна ўтвараюцца формы praesens indicatīvi actīvi і passīvi, imperfectum conjunctīvi actīvi і passīvi, imperatīvus praesentis actīvi, infinitivus praesentis actīvi і passīvi. Астатнія формы ўтвараюцца па III спражэнні:

| Лік | Асоба | Praesens indicatīvi | | Imperfectum conjunctīvi | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Actīvum | Passīvum | Actīvum | Passīvum |
| Sg. | 1-я | fero | feror | ferrem | ferrer |
| | 2-я | fers | ferris | ferres | ferrēris |
| | 3-я | fert | fertur | ferret | ferrētur |
| Pl. | 1-я | ferĭmus | ferĭmur | ferrēmus | ferrēmur |
| | 2-я | fertis | ferimĭni | ferrētis | ferremĭni |
| | 3-я | ferunt | feruntur | ferrent | ferrentur |

| Лік | Асоба | Imperatīvus praesentis | Infinitīvus praesentis | |
|---|---|---|---|---|
| | | Actīvum | Actīvum | Passīvum |
| Singulāris | 2-я | fer | ferre | ferri |
| Plurālis | 2-я | ferte | | |

Такім самым чынам спрагаюцца дзеясловы, утвораныя ад дзеяслова fero, tuli, latum, ferre з дапамогай прыставак:
au-fĕro (< ab + fero), abs-tŭli, ab-lātum, au-ferre – *несці*, *выносіць*;
af-fĕro (< ad + fero), at-tŭli, al-lātum, af-ferre – *прыносіць*;
con-fĕro, con-tŭli, col-lātum, con-ferre – *уносіць*, *супастаўляць*;
dif-fĕro, dis-tŭli, di-lātum, dif-ferre – *адтэрміноўваць*, *адрозніваца*;
in-fĕro, in-tŭli, il-lātum, in-ferre – *уносіць*;
of-fĕro, ob-tŭli, ob-lātum, of-ferre – *прапаноўваць*;
prae-fĕro, prae-tŭli, prae-lātum, prae-ferre – *аддаваць перавагу*;
re-fĕro, re-tŭli, re-lātum, re-ferre – *несці назад*, *дакладваць*;
trans-fĕro, trans-tŭli, trans-lātum, trans-ferre – *пераносіць*.

**5. fio, factus sum, fiĕri** – *станавіцца, адбывацца, бываць, здарацца*

Няправільна ўтвараюцца формы praesens indicatīvi i infinitīvus praesentis. Астатнія формы ўтвараюцца па III спражэнні:

| Лік | Асоба | Praesens indicatīvi |
|---|---|---|
| Sg. | 1-я | fio |
| | 2-я | fis |
| | 3-я | fit |
| Pl. | 1-я | – |
| | 2-я | – |
| | 3-я | fiunt |
| Infinitīvus praesentis | | |
| fiĕri | | |

**6. edo, edi, esum, edĕre** – *есці*

Няправільна ўтвараюцца формы praesens indicatīvi actīvi, imperfectum conjunctīvi actīvi, imperatīvus praesentis actīvi, imperatīvus futūri actīvi, infinitivus praesentis actīvi. Астатнія формы ўтвараюцца па III спражэнні:

| Лік | Асоба | Praesens indicatīvi actīvi | Imperfectum conjunctīvi actīvi |
|---|---|---|---|
| Sg. | 1-я | edo | edĕrem/essem |
| | 2-я | edis/es | edĕres/esses |
| | 3-я | edit/est | edĕret/esset |
| Pl. | 1-я | edĭmus | ederēmus/essēmus |
| | 2-я | edĭtis | ederētis/essētis |
| | 3-я | edunt | edĕrent/essent |

| Лік | Асоба | Imperatīvus praesentis actīvi | Imperatīvus futūri actīvi |
|---|---|---|---|
| Singulāris | 2-я | ede/es | edĭto/esto |
| | 3-я | – | edĭto/esto |
| Plurālis | 2-я | edĭte/este | editōte/estōte |
| | 3-я | – | edunto |
| Infinitīvus praesentis actīvi | | edĕre/esse | |

### 7. Недастатковыя дзеясловы (Verba defectīva)

Недастатковымі называюцца дзеясловы, у якіх адсутнічае шэраг форм:

а) дзеясловы coepi, coepisse – *пачынаць*; memĭni, meminisse – *памятаць*; odi, odisse – *ненавідзець* утвараюць формы толькі ад асновы perfectum. У дзеясловаў memĭni, odi формы perfectum ужываюцца ў значэнні praesens, plusquamperfectum – у значэнні imperfectum, futūrum II – у значэнні futūrum I;

б) дзеяслоў inquam – *казаць* мае толькі некаторыя формы ў абвесным ладзе:

| Лік | Асоба | Praesens | Perfectum | Futūrum I |
|---|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | | |
| Singulāris | 1-я | inquam | – | – |
| | 2-я | inquis | – | inquies |
| | 3-я | inquit | inquit | inquiet |
| Plurālis | 3-я | inquiunt | – | – |

в) дзеяслоў ajo – *казаць*, *сцвярджаць* мае толькі некаторыя формы ў абвесным і адну форму ва ўмоўным ладзе:

| Лік | Асоба | Praesens | |
|---|---|---|---|
| | | Indicatīvus | Conjunctīvus |
| Singulāris | 1-я | ajo | – |
| | 2-я | ais | – |
| | 3-я | ait | ajat |
| Plurālis | 3-я | ajunt | – |
| Imperfectum | | | |
| Singulāris | 1-я | ajēbam | – |
| Perfectum | | | |
| Singulāris | 3-я | ait | – |

## § 80. Безасабовыя дзеясловы (Verba impersonalia)

Безасабовымі называюцца дзеясловы, якія заўсёды або ў некаторых значэннях ужываюцца толькі ў 3-й асобе адзіночнага ліку. Яны ўтвараюць усе формы, акрамя загаднага ладу.

Безасабовыя дзеясловы падзяляюцца на тры групы.

1. Дзеясловы, якія заўсёды або амаль заўсёды ўжываюцца безасабова:
oportet, oportuit, oportēre 2 – *трэба*, *патрэбна*, *належыць*, *варта*;
licet, licuit, licēre 2 – *можна*, *дазволена*;
decet, decuit, decēre 2 – *падыходзіць*, *належыць*;
misĕret, miserēre 2 – *шкада*.

2. Дзеясловы, якія абазначаюць з'явы прыроды:
tonat, tonuit, tonāre 1 – *грыміць гром*;
pluit, pluit, pluĕre 3 – *ідзе дождж*;
ning(u)it, ninxit, ning(u)ĕre 3 – *ідзе снег*;
fulget, fulsit, fulgēre 2 – *бліскаціць маланка*.

3. Дзеясловы, якія ў безасабовай форме змяняюць значэнне:
constat, constĭtit, constāre 1 – *вядома* (параўн. consto, 1 – *цвёрда стаяць*);
accĭdit, accĭdit, accidĕre 3 – *здараецца* (параўн. accĭdo, 3 – *падаць*);
praestat, praestĭtit, praestāre 1 – *лепш* (параўн. praesto, 1 – *стаяць наперадзе*).

Безасабова ўжываецца таксама форма 3-й асобы адзіночнага ліку некаторых непераходных дзеясловаў у залежным стане: dormītur (dormio, 4) – *спяць*; itur (eo, ii, itum, ire) – *ідуць*; pugnātur (pugno, 1) – *змагаюцца*.

## § 81. Інфінітывы ўсіх часоў і станаў

Лацінскі інфінітыў (неазначальная форма дзеяслова) мае тры часавыя формы (praesens, perfectum, futūrum) абодвух станаў (усяго шэсць форм). Разгледзім утварэнне форм інфінітыва на прыкладзе дзеясловаў laudo, 1 – *хваліць*; doceo, ui, ctum, 2 – *вучыць*; scribo, psi, ptum, 3 – *пісаць*; capio, cepi, captum, 3 – *браць*; audio, 4 – *слухаць*.

1. **Infinitīvus praesentis actīvi** утвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай суфіксаў **-re-** (I, II, IV спр.), **-ĕre-** (III спр.; у IIIб спр. канцавы галосны асновы **-ĭ-** выпадае):

| I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|
| laudā-**re** | docē-**re** | scrib-**ĕre** | cap-**ĕre** | audī-**re** |

2. **Infinitīvus praesentis passīvi** утвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай суфіксаў **-ri-** (I, II, IV спр.), **-i-** (III спр.; у IIIб спр. канцавы галосны асновы **-ĭ-** выпадае):

| I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|
| laudā-**ri** | docē-**ri** | scrib-**i** | cap-**i** | audī-**ri** |

3. **Infinitīvus perfecti actīvi** утвараецца ад асновы perfectum (гл. § 49) з дапамогай суфікса **-isse**:

| I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|
| laudav-**isse** | docu-**isse** | scrips-**isse** | audiv-**isse** |

4. **Infinitīvus perfecti passīvi** утвараецца спалучэннем participium perfecti passīvi (гл. § 68) з формай esse (гл. § 79, п. 1):

| I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|
| laudātus, a, um esse | doctus, a, um esse | scriptus, a, um esse | audītus, a, um esse |

5. **Infinitīvus futūri actīvi** утвараецца спалучэннем participium futūri actīvi (гл. § 69) з формай esse (гл. § 79, п. 1):

| I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|
| laudatūrus, a, um esse | doctūrus, a, um esse | scriptūrus, a, um esse | auditūrus, a, um esse |

6. **Infinitīvus futūri passīvi** утвараецца спалучэннем формы supīnum I (гл. § 82) з формай iri:

| I спр. | II спр. | III спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|
| laudātum iri | doctum iri | scriptum iri | audītum iri |

## § 82. Супін (Supīnum)

Супін – гэта аддзеясло́ўны назоўнік 4-га скланення (гл. § 19), які ўжываецца ў двух склонах адзіночнага ліку: accusatīvus (supīnum I) і ablatīvus (supīnum II).

**Супін I** (з канчаткам **-um**) ужываецца пры дзеясловах руху або тых, што абумоўліваюць рух (eo – *ісці*; venio – *прыходзіць*; voco – *клікаць*; mitto – *пасылаць* і г. д.). Абазначае мэту руху. Перакладаецца неазначальнай формай, даданым сказам мэты або аддзеяслоўным назоўнікам з прыназоўнікамі *для*, *з*. Напрыклад: salutātum venīre – *прыйсці* (*каб*) *прывітаць*, *прыйсці для вітання*.

**Супін II** (з канчаткам **-u**) ужываецца пры некаторых прыметніках (jucundus – *прыемны*; facĭlis – *лёгкі*; diffĭcĭlis – *цяжкі* і інш.). Мае значэнне ablatīvus limitatiōnis (гл. § 96, п. 2.4). Адказвае на пытанне *ў адносі-*

*нах да чаго?* Перакладаецца неазначальнай формай або аддзеяслоўным назоўнікам з прыназоўнікам. Напрыклад: jucundum cognĭtu – *прыемна даведацца*; facĭle factu – *лёгка зрабіць*; horribĭle dictu – *страшна сказаць*; memorātu dignum – *варта згадаць*.

## § 83. Герундый (Gerundium)

Gerundium – гэта аддзеяслоўны назоўнік, які абазначае працэс дзеяння і адпавядае ў беларускай мове назоўнікам на **-нне**: *чытанне*, *упрыгожванне*, *чаканне*, *абвінавачванне*. Утвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай суфіксаў **-nd-** (I, II спр.), **-end-** (III, IV спр.) і скланяецца як назоўнік ніякага роду 2-га скланення (гл. § 10) і толькі ва ўскосных склонах singulāris.

**Узор скланення**

| | | |
|---|---|---|
| Nom. | (ornāre) – *упрыгожваць* | (legĕre) – *чытаць* |
| Gen. | orna-**nd-i** – *упрыгожвання* | leg-**end-i** – *чытання* |
| Dat. | orna-**nd-o** – *упрыгожванню* | leg-**end-o** – *чытанню* |
| Acc. | (ad) orna-**nd-um** – *для ўпрыгожвання* | (ad) leg-**end-um** – *для чытання* |
| Abl. | orna-**nd-o** – *упрыгожваннем* | leg-**end-o** – *чытаннем* |

### Ужыванне склонаў герундыя

Genetīvus ужываецца: а) як недапасаванае азначэнне пры назоўніках: ars vivendi – *мастацтва жыцця* (*уменне жыць*); modus vivendi – *спосаб існавання*, *спосаб жыцця*; б) з постпазітыўнымі прыназоўнікамі causā – *дзеля*, *з-за*, *з прычыны*; gratiā – *дзеля*, *для*, *дзякуючы*: accusandi causā – *для*, *дзеля абвінавачвання*; docendi gratiā – *дзеля*, *дзякуючы навучанню*.

Datīvus ужываецца для выражэння мэты пры дзеяслове sum, fui, – , esse (datīvus finālis; гл. § 94, п. 2.1): defendendo esse – *служыць для абароны*.

Accusatīvus заўсёды ўжываецца з прыназоўнікам ad і абазначае мэту: ad accusandum – *для абвінавачвання*; ad scribendum – *для напісання*.

Ablatīvus мае значэнне ablatīvus instrumenti і ablativus modi (гл. § 96, п. 2.1, 2.3), г. зн. значэнне сродку, спосабу дзеяння, а таксама ўжываецца з прыназоўнікамі ex, in, de. Перакладаецца аддзеяслоўным назоўнікам або дзеепрыслоўем. Напрыклад: Mens humāna legendo et cogitando alĭtur. –

*Чалавечы розум сілкуецца чытаннем і разважаннем*; Docendo discĭmus. – *Мы вучымся навучаннем* (= *калі мы навучаем, мы вучымся*); Ridendo dicĕre. – *Казаць смеючыся* (*з усмешкай*); ex discendo – *ад вывучэння*; de vivendo – *пра жыццё*; in narrando – *у апавяданні*, *падчас апавядання*.

Як аддзеяслоўны назоўнік герундый захоўвае кіраванне таго дзеяслова, ад якога ўтвораны, і можа азначацца прыслоўем. Напрыклад: Bene rem regendo inclaruit. – *Ён праславіўся добрым кіраваннем справамі* (дзеяслоў rego ужываецца з accusatīvus).

## § 84. Герундыў (Gerundīvum)

Gerundīvum – гэта аддзеяслоўны прыметнік са значэннем неабходнасці, патрэбы ў залежным стане. Утвараецца ад асновы infectum (гл. § 49) з дапамогай суфіксаў **-nd-** (I, II спр.), **-end-** (III, IV спр.) і радавых канчаткаў 1–2-га скланення **-us**, **-a**, **-um**, г. зн. скланяецца як прыметнік 1–2-га скланення (гл. § 23).

| | |
|---|---|
| I спр. | ornandus, a, um – *той, які павінен быць упрыгожаны*; *той, каго трэба ўпрыгожыць* |
| IV спр. | audiendus, a, um – *той, які павінен быць выслуханы*; *той, каго трэба выслухаць* |

### Ужыванне герундыва

Герундыў ужываецца:

1) як дапасаванае азначэнне: liber legendus – *кніга*, *якая павінна быць прачытана*; *кніга*, *якую трэба прачытаць*. У гэтай функцыі gerundīvum блізкі да participium futūri passīvi (дзеепрыметніка будучага часу залежнага стану; гл. § 69) са значэннем будучай неабходнасці, патрэбы або магчымасці;

2) як іменная частка выказніка з любой формай дзеяслова sum, fui, –, esse. У гэтым выпадку герундыў разам з формамі дзеяслова sum утварае апісальнае спражэнне залежнага стану (conjugatio periphrastĭca passīva; гл. § 86, п. 2). Гэта форма перакладаецца з дапамогай слоў *павінен*, *мае*, *варта*, *трэба*, *патрэбна*, *мусіць* з неазначальнай формай. Напрыклад: Liber legendus est. – *Кніга павінна быць прачытана*;

3) пры безасабовай канструкцыі ўжываецца ніякі род адзіночнага ліку герундыва з 3-й асобай адзіночнага ліку дзеяслова sum, fui, – , esse. Напрыклад: De gustĭbus non est disputandum. – *Аб густах не варта спрачацца*.

З а ў в а г і.

1. Дзеючая асоба пры conjugatio periphrastĭca passīva ужываецца ў давальным склоне (*dat. auctōris*; гл. § 94, п. 1.3): Liber mihi legendus est. – *Кніга павінна быць прачытана мною* (= *я павінен прачытаць кнігу*; *мне трэба прачытаць кнігу*).

2. Герундыў адкладальных дзеясловаў (гл. § 77) захаваў значэнне неабходнасці ў залежным стане: pollicendus, a, um – *той*, *які павінен быць абяцаны*; utendus, a, um – *той*, *які павінен быць ужыты* (*трэба ўжыць*).

## § 85. Як адрозніваць у тэксце герундый і герундыў

Герундый і герундыў утвараюцца з дапамогай аднолькавых суфіксаў **-nd-**/**-end-**, таму адрозніваць іх трэба па функцыях у сказе: gerundium выконвае ролю дапаўнення або недапасаванага азначэння, а gerundīvum – ролю дапасаванага азначэння або іменнай часткі выказніка. Практычна ў тэксце яны адрозніваюцца наступным чынам:

1) калі форма з суфіксам **-nd-**/**-end-** не дапасуецца да іменнай формы ў сказе, тады гэта герундый, які перакладаецца назоўнікам. Напрыклад: Plus in metuendo mali est, quam in ipso illo, quod timētur. – *У страху больш злога*, *чым у тым* (*прадмеце*), *якога баяцца*. Пры гэтым герундый заўсёды мае канчатак толькі адзіночнага ліку 2-га скланення;

2) калі форма з суфіксам **-nd-**/**-end-** дапасуецца ў родзе, ліку, склоне да іменнай формы ў сказе, тады гэта герундыў, які ў гэтым выпадку таксама перакладаецца назоўнікам. Напрыклад: Loquendi elegantia augētur legendis oratorĭbus et poētis. – *Чысціня мовы ўдасканальваецца чытаннем прамоўцаў і паэтаў* (loquendi – герундый, бо ён не дапасуецца да іменнай формы; legendis – герундыў, бо ён дапасуецца да слоў oratorĭbus i poētis);

3) калі форма з суфіксам **-nd-**/**-end-** з’яўляецца іменнай часткай выказніка, тады гэта герундыў, які перакладаецца з дапамогай слоў *павінен*, *мае*, *варта*, *трэба*, *патрэбна*, *мусіць*. Напрыклад: Carthāgo delenda est. – *Карфаген павінен быць разбураны*; *Карфаген трэба разбурыць*.

# § 86. Апісальнае спражэнне (Conjugatio periphrastĭca)

## 1. Апісальнае спражэнне незалежнага стану (Conjugatio periphrastĭca actīva)

Апісальнае спражэнне незалежнага стану ўтвараецца аналітычна і складаецца з participium futūri actīvi (гл. § 69) і любой асабовай формы дзеяслова sum, fui, – , esse. Спражэнне заўсёды мае актыўнае значэнне і перадае намер, жаданне, гатоўнасць. Час, лад, асоба і лік гэтага спражэння перадаюцца формамі дзеяслова sum:

| Дзеяслоў | Форма | Пераклад |
|---|---|---|
| scriptūrus, a, um sum | *praes. ind. act.* 1-я *ас. sg.* | я маю намер пісаць |
| scriptūrus, a, um eras | *imperf. ind. act.* 2-я *ас. sg.* | ты меў намер пісаць |
| scriptūrus, a, um erit | *fut. I ind. act.* 3-я *ас. sg.* | ён будзе мець намер пісаць |
| scriptūri, ae, a fuĭmus | *perf. ind. act.* 1-я *ас. pl.* | мы мелі намер пісаць |
| scriptūri, ae, a fuerāmus | *pqperf. ind. act.* 1-я *ас. pl.* | мы мелі намер пісаць |
| scriptūrus, a, um sim | *praes. conj. act.* 1-я *ас. sg.* | кан’юнктыў перакладаецца адпаведна правілам перакладу кан’юнктыва |
| scriptūrus, a, um essem | *imperf. conj. act.* 1-я *ас. sg.* | |
| scriptūri, ae, a fuerĭtis | *pqperf. conj. act.* 2-я *ас. pl.* | |

## 2. Апісальнае спражэнне залежнага стану (Conjugatio periphrastĭca passīva)

Апісальнае спражэнне залежнага стану ўтвараецца аналітычна і складаецца з gerundīvum (гл. § 84) і любой асабовай формы дзеяслова sum, fui, – , esse. Час, лад, асоба і лік гэтага спражэння перадаюцца формамі дзеяслова sum. Перакладаецца з дапамогай слоў *павінен*, *мае*, *варта*, *трэба*, *патрэбна*, *мусіць* з неазначальнай формай.

Пры асабовай лацінскай канструкцыі, г. зн. калі ў сказе ёсць дзейнік, герундыў дапасуецца да яго ў родзе і ліку і ўжываецца адпаведная асоба і лік дзеяслова sum. Напрыклад: Pacta servanda sunt (fuērunt, erunt). – *Дамовы павінны* (*павінны былі*, *павінны будуць*) *выконвацца*; Liber legendus est (fuit, erit). – *Кніга павінна быць* (*павінна была быць*, *павінна будзе быць*) *прачытана*.

# § 87. Зводная табліца дзеяслоўных форм

## Сістэма інфекта

### Indicatīvus

| Час | Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIа спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **Actīvum** | | | | |
| Praesens | Sg. | 1-я | laudo | doceo | scribo | capio | audio |
| | | 2-я | laudas | doces | scribis | capis | audis |
| | | 3-я | laudat | docet | scribit | capit | audit |
| | Pl. | 1-я | laudāmus | docēmus | scribĭmus | capĭmus | audīmus |
| | | 2-я | laudātis | docētis | scribĭtis | capĭtis | audītis |
| | | 3-я | laudant | docent | scribunt | capiunt | audiunt |
| Imperfectum | Sg. | 1-я | laudābam | docēbam | scribēbam | capiēbam | audiēbam |
| | | 2-я | laudābas | docēbas | scribēbas | capiēbas | audiēbas |
| | | 3-я | laudābat | docēbat | scribēbat | capiēbat | audiēbat |
| | Pl. | 1-я | laudabāmus | docebāmus | scribebāmus | capiebāmus | audiebāmus |
| | | 2-я | laudabātis | docebātis | scribebātis | capiebātis | audiebātis |
| | | 3-я | laudābant | docēbant | scribēbant | capiēbant | audiēbant |
| Futūrum I | Sg. | 1-я | laudābo | docēbo | scribam | capiam | audiam |
| | | 2-я | laudābis | docēbis | scribes | capies | audies |
| | | 3-я | laudābit | docēbit | scribet | capiet | audiet |
| | Pl. | 1-я | laudabĭmus | docebĭmus | scribēmus | capiēmus | audiēmus |
| | | 2-я | laudabĭtis | docebĭtis | scribētis | capiētis | audiētis |
| | | 3-я | laudābunt | docēbunt | scribent | capient | audient |

| Час | Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **Passīvum** | | | | |
| Praesens | Sg. | 1-я | laudor | doceor | scribor | capior | audior |
| | | 2-я | laudāris | docēris | scribĕris | capĕris | audīris |
| | | 3-я | laudātur | docētur | scribĭtur | capĭtur | audītur |
| | Pl. | 1-я | laudāmur | docēmur | scribĭmur | capĭmur | audīmur |
| | | 2-я | laudamĭni | docemĭni | scribimĭni | capimĭni | audimĭni |
| | | 3-я | laudantur | docentur | scribuntur | capiuntur | audiuntur |
| Imperfectum | Sg. | 1-я | laudābar | docēbar | scribēbar | capiēbar | audiēbar |
| | | 2-я | laudabāris | docebāris | scribebāris | capiebāris | audiebāris |
| | | 3-я | laudabātur | docebātur | scribebātur | capiebātur | audiebātur |
| | Pl. | 1-я | laudabāmur | docebāmur | scribebāmur | capiebāmur | audiebāmur |
| | | 2-я | laudabamĭni | docebamĭni | scribebamĭni | capiebamĭni | audiebamĭni |
| | | 3-я | laudabantur | docebantur | scribebantur | capiebantur | audiebantur |
| Futūrum I | Sg. | 1-я | laudābor | docēbor | scribar | capiar | audiar |
| | | 2-я | laudabĕris | docebĕris | scribēris | capiēris | audiēris |
| | | 3-я | laudabĭtur | docebĭtur | scribētur | capiētur | audiētur |
| | Pl. | 1-я | laudabĭmur | docebĭmur | scribēmur | capiēmur | audiēmur |
| | | 2-я | laudabimĭni | docebimĭni | scribemĭni | capiemĭni | audiemĭni |
| | | 3-я | laudabuntur | docebuntur | scribentur | capientur | audientur |

## Conjunctīvus

| Час | Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **Actīvum** | | | | |
| Praesens | Sg. | 1-я | laudem | doceam | scribam | capiam | audiam |
| | | 2-я | laudes | doceas | scribas | capias | audias |
| | | 3-я | laudet | doceat | scribat | capiat | audiat |
| | Pl. | 1-я | laudēmus | doceāmus | scribāmus | capiāmus | audiāmus |
| | | 2-я | laudētis | doceātis | scribātis | capiātis | audiātis |
| | | 3-я | laudent | doceant | scribant | capiant | audiant |
| Imperfectum | Sg. | 1-я | laudārem | docērem | scriběrem | capěrem | audīrem |
| | | 2-я | laudāres | docēres | scriběres | capěres | audīres |
| | | 3-я | laudāret | docēret | scriběret | capěret | audīret |
| | Pl. | 1-я | laudarēmus | docerēmus | scriberēmus | caperēmus | audirēmus |
| | | 2-я | laudarētis | docerētis | scriberētis | caperētis | audirētis |
| | | 3-я | laudārent | docērent | scriběrent | capěrent | audīrent |
| **Passīvum** | | | | | | | |
| Praesens | Sg. | 1-я | lauder | docear | scribar | capiar | audiar |
| | | 2-я | laudēris | doceāris | scribāris | capiāris | audiāris |
| | | 3-я | laudētur | doceātur | scribātur | capiātur | audiātur |
| | Pl. | 1-я | laudēmur | doceāmur | scribāmur | capiāmur | audiāmur |
| | | 2-я | laudemĭni | doceamĭni | scribamĭni | capiamĭni | audiamĭni |
| | | 3-я | laudentur | doceantur | scribantur | capiantur | audiantur |
| Imperfectum | Sg. | 1-я | laudārer | docērer | scriběrer | capěrer | audīrer |
| | | 2-я | laudarēris | docerēris | scriberēris | caperēris | audirēris |
| | | 3-я | laudarētur | docerētur | scriberētur | caperētur | audirētur |
| | Pl. | 1-я | laudarēmur | docerēmur | scriberēmur | caperēmur | audirēmur |
| | | 2-я | laudaremĭni | doceremĭni | scriberemĭni | caperemĭni | audiremĭni |
| | | 3-я | laudarentur | docerentur | scriberentur | caperentur | audirentur |

## Сістэма перфекта

### Indicatīvus

| Час | Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **Actīvum** | | | | |
| Perfectum | Sg. | 1-я | laudāvi | docui | scripsi | cepi | audīvi |
| | | 2-я | laudavisti | docuisti | scripsisti | cepisti | audivisti |
| | | 3-я | laudāvit | docuit | scripsit | cepit | audīvit |
| | Pl. | 1-я | laudavĭmus | docuĭmus | scripsĭmus | cepĭmus | audivĭmus |
| | | 2-я | laudavistis | docuistis | scripsistis | cepistis | audivistis |
| | | 3-я | laudavērunt | docuērunt | scripsērunt | cepērunt | audivērunt |
| Plusquamperfectum | Sg. | 1-я | laudavĕram | docuĕram | scripsĕram | cepĕram | audivĕram |
| | | 2-я | laudavĕras | docuĕras | scripsĕras | cepĕras | audivĕras |
| | | 3-я | laudavĕrat | docuĕrat | scripsĕrat | cepĕrat | audivĕrat |
| | Pl. | 1-я | laudaverāmus | docuerāmus | scripserāmus | ceperāmus | audiverāmus |
| | | 2-я | laudaverātis | docuerātis | scripserātis | ceperātis | audiverātis |
| | | 3-я | laudavĕrant | docuĕrant | scripsĕrant | cepĕrant | audivĕrant |
| Futūrum II | Sg. | 1-я | laudavĕro | docuĕro | scripsĕro | cepĕro | audivĕro |
| | | 2-я | laudavĕris | docuĕris | scripsĕris | cepĕris | audivĕris |
| | | 3-я | laudavĕrit | docuĕrit | scripsĕrit | cepĕrit | audivĕrit |
| | Pl. | 1-я | laudaverĭmus | docuerĭmus | scripserĭmus | ceperĭmus | audiverĭmus |
| | | 2-я | laudaverĭtis | docuerĭtis | scripserĭtis | ceperĭtis | audiverĭtis |
| | | 3-я | laudavĕrint | docuĕrint | scripsĕrint | cepĕrint | audivĕrint |

| Passīvum | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Perfectum | Sg. | 1-я | laudātus | sum | doctus | sum | scriptus | sum | captus | sum | audītus | sum |
| | | 2-я | (-a, | es | (-a, | es | (-a, | es | (-a, | es | (-a, | es |
| | | 3-я | -um) | est | -um) | est | -um) | est | -um) | est | -um) | est |
| | Pl. | 1-я | laudāti | sumus | docti | sumus | scripti | sumus | capti | sumus | audīti | sumus |
| | | 2-я | (-ae, | estis | (-ae, | estis | (-ae, | estis | (-ae, | estis | (-ae, | estis |
| | | 3-я | -a) | sunt | -a) | sunt | -a) | sunt | -a) | sunt | -a) | sunt |
| Plusquamperfectum | Sg. | 1-я | laudātus | eram | doctus | eram | scriptus | eram | captus | eram | audītus | eram |
| | | 2-я | (-a, | eras | (-a, | eras | (-a, | eras | (-a, | eras | (-a, | eras |
| | | 3-я | -um) | erat | -um) | erat | -um) | erat | -um) | erat | -um) | erat |
| | Pl. | 1-я | laudāti | erāmus | docti | erāmus | scripti | erāmus | capti | erāmus | audīti | erāmus |
| | | 2-я | (-ae, | erātis | (-ae, | erātis | (-ae, | erātis | (-ae, | erātis | (-ae, | erātis |
| | | 3-я | -a) | erant | -a) | erant | -a) | erant | -a) | erant | -a) | erant |
| Futūrum II | Sg. | 1-я | laudātus | ero | doctus | ero | scriptus | ero | captus | ero | audītus | ero |
| | | 2-я | (-a, | eris | (-a, | eris | (-a, | eris | (-a, | eris | (-a, | eris |
| | | 3-я | -um) | erit | -um) | erit | -um) | erit | -um) | erit | -um) | erit |
| | Pl. | 1-я | laudāti | erĭmus | docti | erĭmus | scripti | erĭmus | capti | erĭmus | audīti | erĭmus |
| | | 2-я | (-ae, | erĭtis | (-ae, | erĭtis | (-ae, | erĭtis | (-ae, | erĭtis | (-ae, | erĭtis |
| | | 3-я | -a) | erunt | -a) | erunt | -a) | erunt | -a) | erunt | -a) | erunt |

## Conjunctīvus

| Час | Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **Actīvum** | | | | |
| Praesens | Sg. | 1-я | laudavĕrim | docuĕrim | scripsĕrim | cepĕrim | audivĕrim |
| | | 2-я | laudavĕris | docuĕris | scripsĕris | cepĕris | audivĕris |
| | | 3-я | laudavĕrit | docuĕrit | scripsĕrit | cepĕrit | audivĕrit |
| | Pl. | 1-я | laudaverĭmus | docuerĭmus | scripserĭmus | ceperĭmus | audiverĭmus |
| | | 2-я | laudaverĭtis | docuerĭtis | scripserĭtis | ceperĭtis | audiverĭtis |
| | | 3-я | laudavĕrint | docuĕrint | scripsĕrint | cepĕrint | audivĕrint |
| Imperfectum | Sg. | 1-я | laudavissem | docuissem | scripsissem | cepissem | audivissem |
| | | 2-я | laudavisses | docuisses | scripsisses | cepisses | audivisses |
| | | 3-я | laudavisset | docuisset | scripsisset | cepisset | audivisset |
| | Pl. | 1-я | laudavissēmus | docuissēmus | scripsissēmus | cepissēmus | audivissēmus |
| | | 2-я | laudavissētis | docuissētis | scripsissētis | cepissētis | audivissētis |
| | | 3-я | laudavissent | docuissent | scripsissent | cepissent | audivissent |
| | | | **Passīvum** | | | | |
| Perfectum | Sg. | 1-я | laudātus sim | doctus sim | scriptus sim | captus sim | audītus sim |
| | | 2-я | (-a, sis | (-a, sis | (-a, sis | (-a, sis | (-a, sis |
| | | 3-я | -um) sit | -um) sit | -um) sit | -um) sit | -um) sit |
| | Pl. | 1-я | laudāti simus | docti simus | scripti simus | capti simus | audīti simus |
| | | 2-я | (-ae, sitis | (-ae, sitis | (-ae, sitis | (-ae, sitis | (-ae, sitis |
| | | 3-я | -a) sint | -a) sint | -a) sint | -a) sint | -a) sint |
| Plusquamperf. | Sg. | 1-я | laudātus essem | doctus essem | scriptus essem | captus essem | audītus essem |
| | | 2-я | (-a, esses | (-a, esses | (-a, esses | (-a, esses | (-a, esses |
| | | 3-я | -um) esset | -um) esset | -um) esset | -um) esset | -um) esset |
| | Pl. | 1-я | laudāti essēmus | docti essēmus | scripti essēmus | capti essēmus | audīti essēmus |
| | | 2-я | (-ae, essētis | (-ae, essētis | (-ae, essētis | (-ae, essētis | (-ae, essētis |
| | | 3-я | -a) essent | -a) essent | -a) essent | -a) essent | -a) essent |

## Imperatīvus

| Час | Лік | Асоба | I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **Actīvum** | | | | |
| Praesens | Sg. | 2-я | laudā | docē | scribe | cape | audī |
| | Pl. | 2-я | laudāte | docēte | scribĭte | capĭte | audīte |
| Futūrum | Sg. | 2-я і 3-я | laudāto | docēto | scribĭto | capĭto | audīto |
| | Pl. | 2-я | laudatōte | docetōte | scribitōte | capitōte | auditōte |
| | | 3-я | laudanto | docento | scribunto | capiunto | audiunto |
| **Passīvum** | | | | | | | |
| Praesens | Sg. | 2-я | laudāre | docēre | scribĕre | capĕre | audīre |
| | Pl. | 2 | laudamĭni | docemĭni | scribimĭni | capimĭni | audimĭni |
| Futūrum | Sg. | 2-я і 3-я | laudātor (laudamĭno) | docētor (docemĭno) | scribĭtor (scribimĭno) | capĭtor (capimĭno) | audītor (audimĭno) |
| | Pl. | 3-я | laudantor | docentor | scribuntur | capiuntor | audiuntor |

## Неасабовыя формы

| Час | Стан | I спр. | II спр. | IIIa спр. | IIIб спр. | IV спр. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | **Infinitīvi** | | | | |
| Praesens | Actīvum | laudāre | docēre | scribĕre | capĕre | audīre |
| | Passīvum | laudāri | docēri | scribi | capi | audīri |
| Perfectum | Actīvum | laudavisse | docuisse | scripsisse | cepisse | audivisse |
| | Passīvum | laudātus, -a, -um esse | doctus, -a, -um esse | scriptus, -a, -um esse | captus, -a, -um esse | audītus, -a, -um esse |
| Futūrum | Actīvum | laudatūrus, -a, -um esse | doctūrus, -a, -um esse | scriptūrus, -a, -um esse | captūrus, -a, -um esse | auditūrus, -a, -um esse |
| | Passīvum | laudātum iri | doctum iri | scriptum iri | captum iri | audītum iri |
| **Participia** | | | | | | |
| Praesens | Actīvum | laudans, laudantis | docens, docentis | scribens, scribentis | capiens, capientis | audiens, audientis |
| Perfectum | Passīvum | laudātus, -a, -um | doctus, -a, -um | scriptus, -a, -um | captus, -a, -um | audītus, -a, -um |
| Futūrum | Actīvum | laudatūrus, -a, -um | doctūrus, -a, -um | scriptūrus, -a, -um | captūrus, -a, -um | auditūrus, -a, -um |
| **Gerundia, gerundīva, supīna** | | | | | | |
| Gerundium | | laudandi | docendi | scribendi | capiendi | audiendi |
| Gerundīvum | | laudandus, -a, -um | docendus, -a, -um | scribendus, -a, -um | capiendus, -a, -um | audiendus, -a, -um |
| Supīnum I | | laudātum | doctum | scriptum | captum | audītum |
| Supīnum II | | laudātu | doctu | scriptu | captu | audītu |

## § 88. Прыназоўнікі (Praepositiōnes)

Прыназоўнікі ў лацінскай мове ўжываюцца з accusatīvus або з ablatīvus.

Большасць прыназоўнікаў ужываецца з accusatīvus. Найбольш ужывальныя: ad – *да*, *у*, *для*; ante – *да*, *раней*; apud – *каля*, *ля*, *пры*; contra – *супраць*; inter – *паміж*, *сярод*; ob – *з прычыны*, *з-за* і інш.

Менш ужывальныя прыназоўнікі з ablatīvus: a, ab, abs – *ад*; cum – *з*; de – *аб*, *пра*, *ад*, *з*; e, ex – *з*; pro – *за*, *замест*; sine – *без* і інш.

Прыназоўнікі in – *у*, *ва*, *ува*, *на*; sub – *пад*, калі адказваюць на пытанне *куды?*, ужываюцца з accusatīvus; калі адказваюць на пытанне *дзе?*, – з ablatīvus.

Як выключэнне, прыназоўнікі causā і gratiā – *для*, *дзеля* ўжываюцца з genetīvus, прычым постпазітыўна: honōris causā – *дзеля пашаны*.

| |
|---|
| Ужыванне прыназоўніка з тым ці іншым склонам адзначаецца ў слоўніку |

# СЛОВАЎТВАРЭННЕ

## § 89. Словаўтварэнне ў лацінскай мове

Вывучэнне лацінскага словаўтварэння мае асаблівае значэнне. Знаёмства з ім садзейнічае выпрацоўцы навуковага падыходу да вывучэння гэтай тэмы ў іншых мовах, асабліва таму, што з латыні ў іх трапіла вялікая колькасць лексікі. Ведаючы лацінскія словаўтваральныя элементы, студэнты без вялікіх намаганняў змогуць вызначыць ступень адаптацыі запазычання ў мове-рэцыпіенце. Акрамя таго, лацінскія словаўтваральныя элементы дагэтуль з'яўляюцца прадуктыўнымі ў новых мовах, параўн.: orātor, scriptor – *ліквідатар*, *наватар*, *кінаапаратар*; structūra – *верхатура*.

Веданне лацінскіх словаўтваральных марфем і разуменне мадэлей утварэння слоў дапамагаюць разуменню і вылучэнню з ліку запазычанняў слоў-кáлек, параўн.: ob-jectum – *прадмет*; positio – *палажэнне*; pronomĭna – *займеннік*.

Немалаважным з'яўляецца ўменне адрозніваць спрадвечную лацінскую лексіку ад слоў, штучна ўтвораных на базе лацінскіх словаўтваральных элементаў значна пазней, параўн.: aquarius – *водны* і *акварыум*.

Словаўтварэнне – тэрмін, які ўключае два паняцці. З аднаго боку, гэта працэс утварэння новых слоў, з другога – раздзел мовазнаўства, які вывучае словаўтваральную сістэму якой-небудзь мовы.

Аб'ектам вывучэння ў словаўтварэнні з'яўляецца слова, але ў адрозненне ад лексікалогіі, якая вывучае індывідуальныя асаблівасці слова (яго семантыку, стылістычную характарыстыку і г. д.), у словаўтварэнні вывучаецца структура слова, яго склад, мадэлі і спосабы ўтварэння ў існуючай словаўтваральнай сістэме мовы.

Словаўтварэнне цесна звязана з лексікалогіяй і марфалогіяй. Вывучэнне словаўтваральнай сістэмы лацінскай мовы прадугледжвае веданне лацінскай марфемікі. Усе лексемы складаюцца са значных марфем. Напрыклад,

у словах pict-ūr-a – *жывапіс*, discipl-īn-a – *навучанне* лёгка выдзяляюцца тры значныя часткі, а ў лексеме con-sta-nt-i-a – *пастаянства* – пяць, кожная з якіх мае пэўнае значэнне ў слове.

Пры вывучэнні словаўтваральнай сістэмы любой мовы трэба дакладна ведаць словаўтваральную ролю канкрэтных марфем.

Марфема (грэч. μορφ/ – форма) – гэта найменшая, далей непадзельная частка слова, якая мае семантыку. Марфемы падзяляюцца на каранёвыя і службовыя. Такі падзел абумоўлены характарам значэння, якое яны маюць, а таксама іх функцыяй у слове.

Корань (або каранёвая марфема) – структурнае ядро слова, яго абавязковая частка, носьбіт галоўнага лексічнага значэння і адначасова агульная частка роднасных слоў:

| | |
|---|---|
| gravis – *цяжкі* | album – *белы колер* |
| gravĭdus – *абцяжараны* | albŭlus – *белаваты* |
| gravĭtas – *цяжар* | albus – *белы* |
| gravĭter – *цяжка* | albūmen – *бялок* |
| gravescĕre – *цяжэць* | |
| gravāre – *рабіць цяжкім* | |
| praegrāvis – *вельмі цяжкі* | |

Такім чынам, у словах з вытворнай асновай карані grav- і alb- з’яўляюцца носьбітамі лексічнага значэння слова.

Службовыя марфемы – гэта афіксы. Афіксы – неабавязковая частка слова. У лацінскай мове афіксы прадстаўлены прэфіксамі (прыстаўкамі), суфіксамі, інтэрфіксамі (злучальнымі марфемамі), інфіксамі (афікс, які ўстаўляецца ў сярэдзіну кораня), постфіксамі і флексіямі (канчаткамі). Афіксы не маюць самастойных лексічных значэнняў.

У мове афіксы адыгрываюць надзвычай важную ролю. Менавіта дзякуючы ім лексічны фонд папаўняецца новымі словамі, якія ўтвараюць словаўтваральныя гнёзды слоў. Па сваёй функцыі афіксы падзяляюцца на словаўтваральныя і формаўтваральныя. Словаўтваральнымі афіксамі ў лацінскай мове з’яўляюцца прэфіксы, суфіксы, постфіксы, інтэрфіксы. Яны ўжываюцца для ўтварэння лексем з новай семантыкай.

Формаўтваральныя афіксы новых слоў не ўтвараюць; не змяняючы лексічнага значэння слова, яны ўжываюцца для ўтварэння новых форм таго ж слова, адлюстроўваючы яго граматычнае значэнне.

Флексіі новых слоў не ўтвараюць, яны выконваюць у слове формаўтваральныя функцыі.

Лексічнае значэнне слоў fortitūdo – *храбрасць* і servitūdo – *рабства* складаецца з лексічнага значэння каранёў forti- і servi- і лексіка-граматычнага

значэння суфікса -tūdo- (якасць, стан), пры гэтым флексія паказвае на прыналежнасць назоўніка да nominatīvus singulāris.

У складзе асноў дзеясловаў ab-dūco – *адводзіць*; ad-dūco – *прыводзіць*; con-dūco – *збіраць*; prae-dūco – *праводзіць перад* выдзяляецца корань duc- як носьбіт асноўнага значэння, а таксама службовыя словаўтваральныя афіксы (у дадзеным выпадку прэфіксы ab-, ad-, con-, prae-) і флексія -o.

У складзе ўтваральнай асновы можа быць некалькі каранёў, пры гэтым кожны корань служыць носьбітам лексічнага значэння асновы. Напрыклад, у лексемах: agricŏla (ager – *зямля* + colo – *апрацоўваць*) = *земляроб*; maledīco (male – *дрэнна* + dico – *гаварыць*) = *зласловіць*.

Трэба адзначыць, што ў словаўтваральнай сістэме лацінскай мовы словаскладанне з’яўляецца непрадуктыўным.

Граматычнае значэнне перадаецца формаўтваральнымі афіксамі (напрыклад, суфікс -bā-/-ēbā- утварае imperfectum indicatīvi), а ў некаторых выпадках – словаўтваральнымі афіксамі (напрыклад, лексіка-граматычнае значэнне жаночага роду ў лексемах petĭtrix – *прасіцелька*, amatrix – *любіцелька*, *каханка* ўтвараецца суфіксам -tric- разам з флексіяй -s).

Прэфікс (prae-fixus – *прымацаваны спераду*), ці прыстаўка, – гэта службовая марфема, якая знаходзіцца перад коранем:

| | | |
|---|---|---|
| ex-porto | im-porto | trans-porto |
| вы-носіць | у-носіць | пера-носіць |

У лацінскай мове значэнне прэфіксаў часцей за ўсё супадае са значэннем адпаведных прыназоўнікаў.

Суфікс (suf-fixus – *прымацаваны*) – гэта службовая марфема, якая знаходзіцца пасля кораня або іншага суфікса (і перад флексіяй у словах, якія скланяюцца або спрагаюцца). Напрыклад, gran-ŭl-um, дзе gran- – корань, -ŭl- – суфікс, -um – канчатак; fili-ŏl-us, дзе fili- – корань, -ŏl- – суфікс, -us – канчатак; orna-t-ūr-us, дзе orna- – корань, -t-, -ur- – суфіксы, -us – канчатак. У нязменных словаформах з вытворнай асновай суфікс завяршае слова. Напрыклад, ornāre, дзе orna- – утваральная аснова, -re – суфікс; dix-isse, дзе dix- – утваральная аснова, а -isse – суфікс.

Інтэрфікс (inter-fixus – літ. *прымацаваны паміж*) – гэта злучальная марфема, афікс, які вылучаецца ў аснове складаных слоў, дзе ўжываюцца два карані; ён служыць для аб’яднання каранёў у адно слова. Напрыклад, mort-ĭ-fer – *смяротны* ад mors, mortis *f* – *смерць* і fero – *несці*; arm-ĭ-fer – *узброены* ад arma, ōrum *n* – *зброя* і fero – *несці*.

Інфікс (in-fixus – *устаўлены*) – афікс, які ўстаўляецца ў сярэдзіну кораня слова пры словаўтварэнні і словазмяненні: fi-n-do, fidi, fissum; vi-n-co, vici, victum; prosum, prodes, prodest і г. д.

Постфікс (post-fixus – *прымацаваны пасля*). Асаблівасць гэтай службовай марфемы ў тым, што яна займае крайняе месца справа пасля флексіі (probus-ne; quis-quam; qui-dam).

Да службовых марфем адносіцца таксама і флексія (flexio – *згінанне, выгін*), якая вылучаецца толькі ў зменных словах: fili-us; fili-i; fili-o і г. д. У лексемах з постфіксамі флексія знаходзіцца ўнутры слова: quo-dam.

Адрозніваюць два тыпы аналізу слова з пункту гледжання яго структуры: марфемны і словаўтваральны.

**Найбольш ужывальныя прэфіксы**

| Прэфікс | Значэнне, што надаецца прэфіксам | Прыклады |
|---|---|---|
| a- (ab-, abs-) | аддаленне | a-movēre – *адсоўваць*<br>ab-ducĕre – *адводзіць*<br>abs-trahĕre – *адцягваць* |
| con- (co-, com-) | сумеснасць, супольнае дзеянне | con-ducĕre – *зводзіць, збіраць*<br>co-epulāri – *разам банкетаваць*<br>com-ponĕre – *складаць* |
| ad- (ap-) | набліжэнне, далучэнне | ad-ducĕre – *прыводзіць*<br>ap-ponĕre – *дапасоўваць* |
| de- | ухіленне, аддаленне, рух зверху ўніз | de-ducĕre – *выводзіць*<br>de-ponĕre – *адкладаць* |
| dis- (di-) | раздзяленне | dis-cedĕre – *разыходзіцца*<br>dis-ponĕre – *размяшчаць* |
| e- (ex-) | вынятак, выключэнне | e-ducĕre – *выводзіць*<br>ex-ponĕre – *выстаўляць* |
| in- (im-) | рух унутр або на прадмет | in-ducĕre – *уводзіць*<br>im-ponĕre – *укладваць* |
| ob- | процідзеянне, рух насустрач | ob-ponĕre – *проціпастаўляць* |
| per- | завяршэнне дзеяння | per-ducĕre – *даводзіць*<br>per-ficĕre – *заканчваць* |
| prae- | знаходжанне спераду, дзеянне спераду | prae-ponĕre – *ставіць наперадзе* |
| pro- | рух наперад | pro-movēre – *рухаць наперад*<br>pro-ponĕre – *выстаўляць наперад* |
| re- | рух назад, паўтарэнне, аднаўленне дзеяння | re-ducĕre – *адводзіць назад*<br>re-stituĕre – *аднаўляць* |
| se- | аддзяленне | se-ducĕre – *адводзіць убок, аддзяляць* |
| trans- (tra-) | рух праз | trans-ponĕre – *перакладваць*<br>tra-ducĕre – *пераводзіць* |
| sub- | знаходжанне пад, унутры | sup-ponĕre – *падстаўляць* |

## Найбольш ужывальныя суфіксы

| Суфікс (з канчаткам) | Словаўтваральная аснова | Значэнне, што надаецца суфіксам | Прыклады | Адпаведнікі ў беларускай мове |
|---|---|---|---|---|
| 1. Суфіксы назоўнікаў | | | | |
| -t-ūr-a<br>-s-ūr-a | дзеяслоў<br>(аснова supīnum) | дзеянне, вынік дзеяння | cultūra<br>censūra | -ура:<br>культура,<br>цэнзура |
| -t-us<br>-s-us | дзеяслоў<br>(аснова supīnum) | дзеянне | cursus<br>casus<br>transĭtus | -с: курс<br>-зус: казус<br>-т: транзіт |
| -t-io<br>-s-io | дзеяслоў<br>(аснова supīnum) | дзеянне | actio<br>diffusio | -цыя: акцыя<br>-зія: дыфузія |
| -t-or<br>-s-or | дзеяслоў<br>(аснова supīnum) | дзеючая асоба | doctor<br>censor | -тар: доктар<br>-зар: цэнзар |
| -nt-i-a<br>-ent-i-a | дзеяслоў<br>(аснова infectum) | якасць | ignorantia | -энцыя:<br>патэнцыя |
| -ŭl-us<br>-ŏl-us<br>-ell-us<br>-ill-us | назоўнік | памяншальнасць | homuncŭlus<br>filiŏlus<br>ocellus<br>lapillus | |
| -tas | прыметнік | стан, якасць | auctorĭtas<br>libertas | -тэт:<br>аўтарытэт |
| -tūdo | прыметнік | стан, якасць | amplitūdo | -туда:<br>амплітуда |
| 2. Суфіксы прыметнікаў | | | | |
| -ĭc-us | назоўнік | уласцівасць, прыналежнасць | metallĭcus | -ічны:<br>металічны |
| -āl-is | назоўнік,<br>прыметнік | уласцівасць, прыналежнасць | naturālis | -альны:<br>натуральны |
| -bĭl-is | дзеяслоў<br>(аснова infectum) | пасіўная якасць | mobĭlis | -більны:<br>мабільны |

# СІНТАКСІС

## § 90. Сінтаксіс простага сказа

1. Дзейнік дапасуецца да выказніка ў асобе і ліку; дзеяслоў-выказнік звычайна знаходзіцца ў канцы сказа. Напрыклад: Discipŭlus librum legit. – *Вучань чытае кнігу*.

2. Дзеяслоў sum, fui, –, esse – *быць* у якасці выказніка можа знаходзіцца і ў пачатку, і ў канцы сказа. Напрыклад: Scientia potentia est. – *Веды – моц*; Est modus in rebus. – *Ёсць мера ў рэчах*.

3. Іменная частка дзеяслова-выказніка заўсёды ўжываецца ў nominatīvus. (У беларускай мове можа ўжывацца ў назоўным і творным склонах.) Напрыклад: Historia est magistra vitae. – *Гісторыя – настаўніца жыцця*. Гэты прыклад таксама сведчыць, што ў беларускай мове дзеяслоў-звязка sum, fui, –, esse – *быць* можа апускацца; у лацінскай мове ён звычайна не апускаецца, але часам адсутнічае ў крылатых выразах. Напрыклад: Ibi victoria, ubi concordia. – *Там перамога*, *дзе згода*.

4. Асабовы займеннік у якасці дзейніка звычайна апускаецца. Пры перакладзе ён вызначаецца па асабовым канчатку дзеяслова. Напрыклад: Pro patriā pugnāmus. – *Мы змагаемся за радзіму*.

5. Азначэнне звычайна знаходзіцца пасля азначаемага слова. Напрыклад: terra incognĭta – *невядомая зямля*; persōna grata – *пажаданая асоба* (дыпламатычны тэрмін); Filius meus bene discit. – *Мой сын добра вучыцца*.

6. Недапасаванае азначэнне, дапасаванае азначэнне-прыметнік са значэннем колькасці, а таксама лічэбнік ставяцца перад азначаемым назоўнікам. Напрыклад: litterārum studium – *заняткі навукамі*; magnus numĕrus – *вялікі лік*; duo fratres – *два браты*.

# § 91. Сінтаксіс склонаў

Лацінская мова як мова флектыўная мае развітую сістэму склонавых канчаткаў (флексій), якія ўказваюць на сінтаксічную функцыю назоўніка, г. зн. на тое, якім членам сказа ён з’яўляецца: дзейнікам, дапаўненнем, недапасаваным азначэннем, акалічнасцю. Гэтыя функцыі ў лацінскай мове абазначаюцца пэўнымі граматычнымі тэрмінамі.

# § 92. Nominatīvus

Nominatīvus ужываецца:

1) як дзейнік; перакладаецца назоўным склонам. Напрыклад: Finis corōnat opus. – *Канец вянчае справу*; Tempŏra mutantur. – *Часы змяняюцца*;

2) як іменная частка выказніка; перакладаецца назоўным або творным склонам. Напрыклад: Cicĕro orātor erat. – *Цыцэрон быў прамоўцам*; Cicĕro orātor clarissĭmus erat. – *Цыцэрон быў самы славуты прамоўца*.

# § 93. Genetīvus

Genetīvus ужываецца як недапасаванае азначэнне або як ускоснае дапаўненне.

### 1. Genetīvus як недапасаванае азначэнне

**1.1. Genetīvus possessīvus** (родны прыналежнасці) адказвае на пытанне *чый?* і ўказвае на асобу або прадмет, якому што-небудзь належыць. Перакладаецца назоўнікам у родным склоне або прыметнікам: pila puellae – *мяч дзяўчынкі*; oratio Cicerōnis – *прамова Цыцэрона* (*Цыцэронава прамова*).

**1.2. Genetīvus characteristĭcus** (родны характарызуючы) абазначае асобу або адцягненае паняцце, якому належыць пэўнае дзеянне або стан, што перадаецца дзейнікам у форме інфінітыва. Ужываецца ў якасці іменнай часткі выказніка, які перадаецца дзеясловамі sum, videor, putor, habeor. Форма est (erat, fuit) з genetīvus characteristĭcus перакладаецца з дапамогай слоў *уласціва каму-небудзь*, *з’яўляецца чыімсьці абавязкам* і г. д. Напрыклад: Homĭnis errāre est. – *Чалавеку ўласціва памыляцца*.

**1.3. Genetīvus subjectīvus** (родны суб’екта) залежыць ад аддзеяслоўных назоўнікаў (або блізкіх да іх па значэнні), абазначае асобу, якая ўтварае

дзеянне, што перадаецца аддзеяслоўным назоўнікам. Перакладаецца назоўнікам у родным склоне або прыметнікам: nostrōrum majōrum inventa – *вынаходкі нашых продкаў* (г. зн. *нашыя продкі вынайшлі*); amor patris – *любоў бацькі* (г. зн. *бацька любіць*, *бацькоўская любоў*).

**1.4. Genetīvus qualitātis** (родны якасці) дае якасную характарыстыку азначаемаму слову, паказваючы на яго больш-менш пастаянныя якасці і ўласцівасці: род, паходжанне, узрост, меру (час, вага, велічыня); перадаецца назоўнікам з прыметнікам. Перакладаецца родным склонам або ўскоснымі склонамі з прыназоўнікамі: homo genĕris Graeci – *чалавек грэчаскага паходжання*; puer septem annōrum – *хлопчык сямі гадоў*; vir magni ingenii – *чалавек вялікага розуму*; trium mensium cibaria – *прыпасы на тры месяцы*.

## 2. Genetīvus як ускоснае дапаўненне

**2.1. Genetīvus objectīvus** (родны дапаўнення) абазначае асобу або прадмет, на які пераходзіць дзеянне аддзеяслоўнага назоўніка, прыметніка ці дзеяслова. Перакладаецца родным склонам або іншымі склонамі з прыназоўнікамі або без іх: expugnatio urbis – *заваяванне горада* (г. зн. *заваяваць горад*); amor patris – *любоў да бацькі* (г. зн. *любіць бацьку*); remedium timōris – *лекі ад страху* (г. зн. *лячыць страх*); studiōsus litterārum – *аддаены навукам*; Anĭmus memĭnit praeteritōrum. – *Душа памятае мінулае*.

З а ў в а г а. Часам па-за кантэкстам цяжка вызначыць, ужыты genetīvus subjectīvus (гл. п. 1.3) ці genetīvus objectīvus: amor patris – *любоў бацькі* (г. зн. *бацька любіць*) ці *любоў да бацькі* (г. зн. *любіць бацьку*). Гэта залежыць ад сэнсу ўсяго сказа.

**2.2. Genetīvus genĕris (quantitātis)** (родны роду [колькасці]) абазначае асоб, прадметы, рэчывы, з якіх складаецца або якія вымяраюцца азначаемым словам. Гэты склон ужываецца:

а) пры назоўніках са значэннем збору, ліку, меры: multitūdo – *мноства*, *натоўп*, *гурт*, *маса*; ala – *атрад*; numĕrus – *лік*, *колькасць*; milia – *тысяча*; pars – *частка*; vis – *вялікая колькасць*. Напрыклад: pars homĭnum – *частка людзей*; numĕrus hostium – *колькасць ворагаў*; milia passuum – *тысяча крокаў*; vis auri – *вялікая колькасць золата*;

б) колькасных прыметніках і займенніках ніякага роду адзіночнага ліку, якія ўжыты ў значэнні назоўнікаў: multum – *шмат*; plurĭmum – *вельмі шмат*; minĭmum – *вельмі мала*; tantum – *столькі*; quantum – *колькі*; id – *такая колькасць*; hoc – *тым*; illud – *тое*; quod – *што*; quid – *што*; alĭquid – *штосьці*; nihil – *нішто*. Напрыклад: quantum loci – *колькі месца*; quid novi – *што новага*; nihil novi – *нічога новага*;

в) прыслоўях: satis – *дастаткова*; nimis – *замнога*, *зашмат*; parum – *мала*. Напрыклад: satis libertātis – *дастаткова свабоды*.

**2.3. Genetīvus partitīvus** (родны вылучальны) абазначае цэлае, з якога вылучаецца частка; ужываецца пры прыметніках у вышэйшай і найвышэйшай ступенях параўнання, парадкавых лічэбніках, пытальных і няпэўных займенніках (quis – *хто*; alĭquis – *хтосьці*; quisquam – *хто-небудзь*; nemo – *ніхто*; quisque – *кожны* і г. д.), пры колькасных прыметніках (multi – *шматлікія*; pauci – *нешматлікія*, а таксама unus – *адзін* і г. д.). Перакладаецца з дапамогай прыназоўніка *з*. Напрыклад: ultĭmus regum Romanōrum – *апошні з рымскіх цароў*; unus nostrum – *адзін з нас*; major fratrum – *старэйшы з братоў*; quis vestrum? – *хто з вас?*; multi hostium – *шматлікія з ворагаў*.

**2.4. Genetīvus pretii** (родны цаны) ужываецца для абазначэння цаны прадмета пры дзеясловах са значэннем *купляць*, *набываць*, *прадаваць*; *цаніць*, *каштаваць*. Перакладаецца вінавальным склонам з прыназоўнікамі *за*, *у* або прыслоўямі. Напрыклад: unīus assis aestimāre – *ацэньваць у адзін ас* (ас – дробная рымская манета); magni aestimāre – *высока цаніць*.

## § 94. Datīvus

### 1. Datīvus як ускоснае дапаўненне

**1.1. Datīvus commŏdi** (давальны выгоды) і **datīvus incommŏdi** (давальны невыгоды, шкоды) абазначае асобу або прадмет, на карысць або на шкоду якому што-небудзь адбываецца або існуе. Перакладаецца з дапамогай прыназоўнікаў *для*, *да*. Напрыклад: Frigus intolerabĭle est corpŏri nudo. – *Холад нясцерпны для голага цела*; Non scholae, sed vitae discĭmus. – *Мы вучымся не для школы*, *а для жыцця*.

**1.2. Datīvus possessīvus** (давальны прыналежнасці) абазначае асобу або прадмет, якому належыць тое, што з’яўляецца дзейнікам сказа. Перакладаецца з дапамогай прыназоўніка *у*. Напрыклад: Mihi est filia. – *У мяне ёсць дачка*; Amīco meo sunt multi libri. – *У майго сябра шмат кніг*.

**1.3. Datīvus auctōris** (давальны дзеючай асобы) ужываецца пры дзеясловах у залежным стане і герундыве (гл. § 84) і абазначае дзеючую асобу. Напрыклад: Mihi consilium jam diu captum est. – *У мяне* (= *мною*) *рашэнне ўжо даўно было прынята*; Mihi pugnandum est. – *Мне трэба змагацца*; Memoria est nobis cotidie exercenda. – *Нам трэба штодзённа практыкаваць памяць* (= *памяць павінна штодзённа практыкавацца намі*).

### 2. Datīvus як акалічнасць мэты

**2.1. Datīvus finālis** (давальны мэты) ужываецца пры дзеясловах sum (у значэнні *служыць чым-небудзь, для чаго-небудзь*), do, tribuo, habeo (у значэнні *ставіць у што-небудзь, лічыць чым-небудзь*) і адказвае на пытанні: *з якой мэтай? для чаго?* Напрыклад: esse praesidio – *быць* (*служыць*) *абаронай*; esse usui – *быць на карысць*; esse auxilio – *служыць дапамогай*; hoc laudi dare – *ставіць гэта ў пахвалу*; opprobrio habēre – *лічыць ганьбай*.

З а ў в а г а. Разам з datīvus finālis часта ўжываецца datīvus commŏdi (incommŏdi) (гл. п. 1.1). Так утвараецца **datīvus duplex** (двайны давальны). Напрыклад: Ipse locus praesidio inimīcis erat. – *Само месца служыла ворагам абаронай.*

## § 95. Accusatīvus

### 1. Accusatīvus як дапаўненне і прэдыкатыў. Accusatīvus duplex. Nominatīvus duplex

Accusatīvus ужываецца:

а) як прамое дапаўненне пры пераходных дзеясловах: Gutta cavat lapĭdem. – *Кропля точыць камень*;

б) іменная частка выказніка (прэдыкатыў) пры дзеясловах appello, dico, nomĭno, voco – *называць*; creo – *выбіраць*; facio – *рабіць*; existĭmo, censeo, puto, judĭco – *лічыць* і г. д.; адказвае на пытанні: *кім? чым? якім?*

Такім чынам, пры гэтых дзеясловах ужываюцца два вінавальныя склоны: адзін абазначае прамое дапаўненне (*каго? што?*), другі – прэдыкатыў (*кім? чым? якім?*). Такая канструкцыя называецца **accusatīvus duplex** (двайны вінавальны); яе іменная частка на беларускую мову перакладаецца творным склонам. Напрыклад: Cicerōnem consŭlem creāre – *выбіраць Цыцэрона консулам*; Antonium hostem putāre – *лічыць Антонія ворагам*.

Калі пазначаныя вышэй дзеясловы ўжываюцца ў залежным стане, тады accusatīvus прамога дапаўнення становіцца дзейнікам, а іменная частка выказніка (прэдыкатыў), дапасуючыся да дзейніка, таксама ставіцца ў nominatīvus. Такая канструкцыя называецца **nominatīvus duplex** (двайны назоўны). Напрыклад: Cicĕro consul creātus est. – *Цыцэрон быў абраны консулам*.

Nominatīvus duplex ужываецца таксама пры дзеясловах: sum – *быць*; fio, exsisto – *рабіцца*, *станавіцца*; maneo, permaneo – *заставацца*, *быць*; videor – *здавацца*, *быць падобным*; nascor – *нараджацца*; пры любым

дзеяслове, які абазначае якое-небудзь становішча або стан (параўн. у бел. мове: *ён вярнуўся хмурны*). Напрыклад: Multi oratōres non fiunt. – *Многія не становяцца прамоўцамі*; Senes vidēmur. – *Мы падобныя да старых*, *мы здаёмся старымі*. Victor revertĭtur. – *Ён вяртаецца пераможцам*.

Заўвага. У абедзвюх канструкцыях (*acc*. і *nom*. duplex) без прэдыкатыва пералічаныя дзеясловы не маюць поўнага значэння.

**2. Accusatīvus як акалічнасць**

**2.1. Accusativus loci** (вінавальны месца) адказвае на пытанне *куды?* Перакладаецца з дапамогай прыназоўнікаў *у*, *на*, *да*. У accusatīvus без прыназоўніка ставяцца назвы гарадоў, астравоў і назоўнікі domus – *дом*, *хата*; rus – *вёска*. Напрыклад: Caesar Romam revertit. – *Цэзар вярнуўся ў Рым*; Juvĕnes Romāni Athēnas studiōrum causā proficisci solēbant. – *Рымскія юнакі для навучання звычайна накіроўваліся ў Афіны*; Balbus domum meam vēnit. – *Бальб прыйшоў у мой дом*; Eo rus. – *Я накіроўваюся* (*іду*) *у вёску*.

**2.2. Accusatīvus tempŏris** (вінавальны часу) адказвае на пытанні *як доўга? колькі часу працягваецца дзеянне?*, ужываецца без прыназоўніка або з прыназоўнікам per – *на працягу*. Напрыклад: Graeci decem annos Trojam oppugnavērunt. – *Грэкі дзесяць гадоў аблožвалі Трою*.

## § 96. Ablatīvus

Лацінскі аблятыў аб'яднаў функцыі трох старажытных склонаў: **ablatīvus** (аддзяляльны), які абазначаў месца або прадмет, ад якога штонебудзь або хто-небудзь аддаляецца, а таксама асобу, ад якой паходзіць дзеянне; **instrumentālis** (інструментальны), які абазначаў сродак, прычыну або спосаб ажыццяўлення дзеяння; **locatīvus** (месны), які называў месца і час ажыццяўлення дзеяння.

**1. Ablatīvus як аддзяляльны склон**

**1.1. Ablatīvus separatiōnis** (творны аддалення, аддзялення) ужываецца пры дзеясловах руху, называючы прадмет, ад якога хто-небудзь або штонебудзь аддаляецца. Перакладаецца родным склонам з прыназоўнікамі *з*, *ад*. Напрыклад: Dux copias castris eduxit. – *Правадыр вывеў войска з лагера*. Таксама ўжываецца з прыметнікамі aliēnus – *непрыхільны* (*да чаго*), *вольны*, *далёкі* (*ад чаго*); liber, vacuus – *вольны* (*ад чаго*). Напрыклад: vacuus curis – *вольны ад турбот*; liber metu – *вольны ад страху*.

**1.2. Ablatīvus inopiae** (творны нястачы, недахопу) ужываецца пры дзеясловах са значэннем *пазбаўляць*, *адымаць* (privo, nudo і г. д.); *мець патрэбу* (egeo, indigeo). Перакладаецца родным склонам або іншымі склонамі з прыназоўнікамі. Напрыклад: privāre curis – *пазбаўляць клопату*; murus defensorĭbus nudātus est – *сцяна была пазбаўлена абаронцаў*; egēre pecuniā – *мець патрэбу ў грошах*.

**1.3. Ablatīvus auctōris** (творны дзеючай асобы) абазначае адушаўлёны суб'ект дзеяння, адказвае на пытанне *кім выконваецца дзеянне?* Заўсёды ўжываецца з прыназоўнікам *a* (*ab*), які на беларускую мову не перакладаецца. Напрыклад: Liber a discipŭlo legĭtur. – *Кніга чытаецца вучнем*.

**1.4. Ablatīvus comparatiōnis** (творны параўнання) ужываецца пры вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў, абазначае асобу або прадмет, з якім адбываецца параўнанне. Перакладаецца вінавальным склонам з прыназоўнікам *за*, а таксама параўнальнымі зваротамі са злучнікамі *як*, *чым*. Напраклад: Major meo fratre est. – *Ён старэйшы за майго брата* (= *чым мой брат*); Bona valetūdo melior est maxĭmis divitiis. – *Добрае здароўе лепей за найвялікшае багацце*.

**1.5. Ablatīvus origĭnis** (творны паходжання) ужываецца з дзеепрыметнікамі natus – *народжаны*; ortus – *які паходзіць*. Звычайна ўжываецца без прыназоўніка або з прыназоўнікамі *a* (*ab*), *e* (*ex*). Перакладаецца родным склонам або іншымі спосабамі. Напрыклад: Jove natus. – *Народжаны ад Юпітэра* (*сын Юпітэра*); Venus Jove nata (est) et Diōna. – *Венера – дачка Юпітэра і Дыёны* (*нарадзілася ад Юпітэра і Дыёны*); Ex Venĕre et Marte natus (est) Antĕros. – *Антэрот народжаны ад Венеры і Марса* (*сын Венеры і Марса*).

### 2. Ablatīvus як інструментальны склон

**2.1. Ablatīvus instrumenti** (творны сродку дзеяння) называе прыладу або сродак, з дапамогай якога выконваецца дзеянне. У сказе з'яўляецца ўскосным дапаўненнем і перакладаецца творным склонам або з дапамогай слоў *пры дапамозе*, *з дапамогай*, *праз*. Напрыклад: Castra vallo fossāque muniuntur. – *Лагер умацоўваецца валам і ровам* (= *з дапамогай вала і рова*); Cornĭbus tauri, apri dentĭbus se tutantur. – *Быкі абараняюцца рагамі*, *дзікі – ікламі*.

**2.2. Ablatīvus causae** (творны прычыны) выступае як акалічнасць прычыны, называе прычыну дзеяння або стану, перакладаецца рознымі склонамі з прыназоўнікамі *ад*, *з-за*, *з*, *па*, *на*, *з прычыны*, *праз* і г. д.; ужываецца:

а) пры непераходных дзеясловах і прыметніках, якія маюць пасіўны сэнс: pereo – *гінуць*; morior – *паміраць*; cresco – *расці*; ardeo – *палаць, гарэць*; mortuus – *памерлы*; aegrōtus – *хворы*. Напрыклад: perīre frigŏre – *загінуць ад холаду*; morĭtur morbo – *ён памірае ад хваробы*; aegrōtus peste – *хворы на чуму*;

б) verba affectuum (дзеясловах, якія абазначаюць пачуцці): gaudeo – *радавацца*; doleo – *смуткаваць*; а таксама пры прыметніках: tristis – *маркотны*; superbus – *горды* і г. д. Напрыклад: gaudēre nuntio – *радавацца з-за весткі*; dolēre morte – *смуткаваць з-за смерці*.

Як ablatīvus causae ужываюцца назоўнікі lege – *па законе*; more – *па звычаі*; consilio – *па парадзе*; jussu – *па загадзе*; sententiā (meā, tuā, suā, nostrā, vestrā) – *на* (*маю*, *тваю*, *сваю*, *нашу*, *вашу*) *думку*.

**2.3. Ablatīvus modi** (творны спосабу дзеяння) адказвае на пытанні *як? якім чынам адбываецца дзеянне?*, г. зн. абазначае акалічнасць дзеяння; ужываецца без прыназоўніка або з прыназоўнікам cum, які можа знаходзіцца паміж азначэннем і азначаемым словам (magnā cum pertinatiā – *з вялікай упартасцю*). Ablatīvus modi можна перакладаць з дапамогай прыназоўніка, прыслоўем, творным склонам. Напрыклад: summis virĭbus currĕre – *бегчы з усяе сілы*; summā fortitudĭne pugnāre – *змагацца з найвялікшай мужнасцю* (= *мужна змагацца*).

**2.4. Ablatīvus limitatiōnis** (творны абмежавання) з’яўляецца ў сказе ўскосным дапаўненнем; ужываецца пры дзеясловах, назоўніках, прыметніках, удакладняючы, абмяжоўваючы дзеянне або стан кіруючага слова; адказвае на пытанне *ў якіх адносінах?* Перакладаецца творным склонам або іншымі склонамі з прыназоўнікам. Напрыклад: aeger pedĭbus – *хворы на ногі*; praestāre virtūte – *пераўзыходзіць мужнасцю*; genĕre Graecus – *па паходжанні грэк*.

**2.5. Ablatīvus mensūrae** (творны меры) ужываецца пры вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, прыслоўяў, пры дзеясловах, якія ўтрымліваюць ідэю параўнання. Напрыклад: Sol multis partĭbus major est, quam universa terra. – *Сонца ў шмат разоў большае*, *чым уся Зямля*; Omnis sensus homĭnum multo antecellit sensĭbus bestiārum. – *Любое пачуццё людзей шмат у чым пераўзыходзіць пачуцці жывёл*.

**2.6. Ablatīvus qualitātis** (творны якасці) дае якасную характарыстыку азначаемаму слову, у сказе з’яўляецца азначэннем, якое складаецца з назоўніка і прыметніка; перакладаецца родным склонам або іншымі склонамі з прыназоўнікам. У адрозненне ад genetīvus qualitātis абазначае якасці вонкавыя (дэталі знешняга выгляду) і часовыя, мінучыя (настрой і г. д.). Напрыклад: homo statūra humĭli – *чалавек невысокага росту*; bono anĭmo esse – *быць у гуморы*.

### 3. Ablatīvus як месны склон

**3.1. Ablatīvus loci** (творны месца) выконвае ў сказе ролю акалічнасці месца, адказвае на пытанне *дзе?*, ужываецца без прыназоўніка, калі з'яўляецца спалучэннем назоўніка locus – *месца* з азначэннем або спалучэннем назоўніка з займеннікавым прыметнікам totus – *увесь*. Напрыклад: multis locis – *шмат у якіх месцах*; illo loco – *у тым месцы*; totā urbe – *ва ўсім горадзе*; totā Galliā – *ва ўсёй Галіі*. У астатніх выпадках ужываецца з прыназоўнікам in – *у*, *на*: in urbe – *у горадзе*; in silvā – *у лесе*.

Заўвага. **Locatīvus** (месны склон) захаваўся ў назвах гарадоў і астравоў, якія адносяцца да 1-га і 2-га скланення. Граматычна ён супадае з *gen. sg*., напрыклад: Romae – *у Рыме*; Tarenti – *у Тарэнце*. Locatīvus захаваўся таксама ў назоўнікаў domus, ūs *f* – *дом*; rus, ruris *n* – *вёска*; humus, i *f* – *зямля*; bellum, i *n* – *вайна*: domi – *дома*; ruri – *у вёсцы*; humi – *на зямлі*; belli – *на вайне* (старажытны locatīvus меў канчатак **-i**). У астатніх выпадках ужываецца ablatīvus без прыназоўніка, напрыклад: Athēnis – *у Афінах*; Carthagĭne – *у Карфагене*, а таксама ў выразе terrā marīque – *на сушы і на моры*.

**3.2. Ablatīvus tempŏris** (творны часу) выконвае ў сказе ролю акалічнасці часу, адказвае на пытанні *калі? на працягу якога часу?* У ablatīvus без прыназоўніка ставяцца назоўнікі, якія абазначаюць час (tempus – *час*; nox – *ноч*; hiems – *зіма*; ver – *вясна*; annus – *год* і г. д.) або назоўнікі з азначэннямі. Напрыклад: nocte – *уначы*; hiĕme – *узімку*; vere – *увесну*; decem annis – *на працягу дзесяці гадоў*; eo tempŏre – *у той час*; bello Punĭco – *у час Пунічнай вайны*; bello Persārum – *у час вайны з персамі*.

Калі азначэнне адсутнічае, ужываецца прыназоўнік in, напрыклад: in bello – *у час вайны*; in pace – *у час міру*.

## § 97. Зварот accusatīvus cum infinitīvo (Вінавальны склон з інфінітывам)

Accusatīvus cum infinitīvo – адмысловы сінтаксічны зварот лацінскай мовы. Складаецца з лагічнага дзейніка (назоўнік, субстантываваны прыметнік, займеннік у вінавальным склоне) і лагічнага выказніка (неазначальная форма дзеяслова). Выступае як складанае дапаўненне выказніка ў незалежным стане.

Заўвага. Лагічным дзейнікам называецца назоўнік, субстантываваны прыметнік, займеннік, які не з'яўляецца дзейнікам сказа, але па сэнсе з'яўляецца суб'ектам дзеяння звароту. Лагічным выказнікам называецца неасабовая форма дзеяслова, якая з'яўляецца прэдыкатам звароту.

Зваротам кіруюць:

1) дзеясловы са значэннем:

а) ‘гаварыць’ (dico – *гаварыць*, *казаць*; trado – *паведамляць*, *перадаваць*; respondeo – *адказваць*; narro – *распавядаць*; doceo – *вучыць*; ajo – *сцвярджаць*; nego – *адмаўляць*; scribo – *пісаць* і г. д.);

б) ‘думаць, лічыць, адчуваць’ (puto – *думаць*; censeo, existĭmo, arbĭtror, opīnor – *лічыць*, *меркаваць*; scio – *ведаць*; sentio – *адчуваць*; credo – *верыць*; spero – *спадзявацца*; video – *бачыць*; audio – *чуць* і г. д.);

в) ‘загадваць, забараняць, дапускаць’ (jubeo – *загадваць*; veto – *забараняць*; sino – *дазваляць*; cupio – *моцна жадаць*; volo – *жадаць*; nolo – *не жадаць*; malo – *аддаваць перавагу* і г. д.);

2) дзеясловы, якія абазначаюць душэўны стан (gaudeo, laetor – *радавацца*; doleo – *смуткаваць*; angor – *турбавацца*; miror – *здзіўляцца*; indignor, suscenseo – *абурацца*, *злаваць*; glorior – *хваліцца*; queror – *скардзіцца*; gravĭter (aegre, moleste) fero – *адчуваць цяжар* і г. д.);

3) безасабовыя дзеясловы і выразы (fama est – *ёсць погалас*, *чутка*; notum est – *вядома*; constat – *вядома*; appāret – *відавочна*; mos est – *ёсць звычай*; oportet – *трэба*; decet – *належыць*; intĕrest – *важна*; necesse est – *неабходна*; fas est – *дазволена*, *можна*; nefas est – *нельга*, *немагчыма* і г. д.).

Зварот accusatīvus cum infinitīvo перакладаецца даданым дапаўняльным сказам са злучнікамі *што*, *каб*. Пры гэтым лагічны дзейнік звароту, які ўжыты ў accusatīvus, перакладаецца назоўным склонам, г. зн. становіцца дзейнікам у беларускім даданым сказе. Лагічны выказнік звароту, выражаны інфінітывам, перакладаецца асабовай формай дзеяслова, г. зн. становіцца выказнікам у даданым сказе, і дапасуецца ў асобе і ліку да дзейніка даданага сказа. Час і стан дзеяслова ў асабовай форме залежаць ад часу і стану інфінітыва.

У звароце ўжываюцца ўсе часавыя формы інфінітыва абодвух станаў (гл. § 81), прычым:

• infinitīvus praesentis абазначае дзеянне, адначасовае з дзеяннем кіруючага дзеяслова. Напрыклад: Pater [filium librum legĕre] videt. – *Бацька бачыць*, *што сын чытае кнігу*;

• infinitīvus perfecti абазначае папярэдняе дзеянне. Напрыклад: Pater [filium librum legisse] videt. – *Бацька бачыць*, *што сын прачытаў кнігу*;

• infinitīvus futūri абазначае дзеянне, якое мае быць. Напрыклад: Pater [filium librum lectūrum esse] sperat. – *Бацька спадзяецца*, *што сын прачытае кнігу*.

Пасля дзеясловаў са значэннем ‘загадваць, забараняць, дапускаць’ ужываецца толькі infinitīvus praesentis. Напрыклад: Pater [filium librum legĕre] jubet. – *Бацька загадвае, каб сын чытаў кнігу.*

З а ў в а г а. Кіруючы дзеяслоў падкрэсліваецца хвалістай лініяй, лагічны дзейнік – адной лініяй, лагічны выказнік – дзвюма лініямі.

Калі лагічны дзейнік прапушчаны (г. зн. калі лагічны выказнік ужыты безасабова), ужываецца інфінітыў залежнага стану. Напрыклад: Pater [legi] jubet. – *Бацька загадвае чытаць* (літ. *каб чыталася*).

Іменная частка лагічнага выказніка звароту дапасуецца да лагічнага дзейніка ў родзе, ліку і склоне. Напрыклад: Pater [filios librum lectūros esse] sperat. – *Бацька спадзяецца, што сыны прачытаюць кнігу*; Pater [filiam librum lectūram esse] sperat. – *Бацька спадзяецца, што дачка прачытае кнігу.*

| Прыкметай звароту accusatīvus cum infinitīvo з’яўляюцца інфінітыў і выказнік сказа (кіруючы дзеяслоў) з пэўным значэннем |
| --- |

## § 98. Дадатковыя заўвагі да звароту accusatīvus cum infinitīvo

1. Калі лагічны дзейнік звароту ўжываецца ў 1-й або 2-й асобе, ён перадаецца асабовымі займеннікамі (гл. § 32) у accusatīvus (me, te, nos, vos), якія ніколі не прапускаюцца. Напрыклад: Pater [me librum lectūrum esse] sperat. – *Бацька спадзяецца, што я прачытаю кнігу.*

2. Пры супадзенні дзейніка кіруючага дзеяслова, які ўжыты ў 3-й асобе, з лагічным дзейнікам звароту, апошні выражаецца зваротным займеннікам (гл. § 33) у accusatīvus (se – *ён, яна, яно, яны*). Напрыклад: Pater [se librum legisse] dicit. – *Бацька кажа, што ён прачытаў кнігу.*

3. Пры несупадзенні дзейніка кіруючага дзеяслова, які ўжыты ў 3-й асобе, з лагічным дзейнікам звароту, апошні выражаецца ўказальнымі займеннікамі (гл. § 35–38) у accusatīvus (eum, eam, id, eos, eas, ea; illum, illam, illud, illos, illas, illa – *ён, яна, яно, яны*). Напрыклад: Pater filio [eum librum legĕre] jubet. – *Бацька загадвае сыну, каб ён чытаў кнігу.*

4. Калі зварот уваходзіць у склад азначальнага або пытальнага даданага сказа, тады на беларускую мову кіруючы дзеяслоў перакладаецца пабочным словам або сказам, а азначальны або пытальны даданы – галоўным сказам. Напрыклад: [Quem librum a filio legi debēre] putas? – *Якая кніга, па-твойму, павінна быць прачытана сынам?*

## § 99. Зварот nominatīvus cum infinitīvo (Назоўны склон з інфінітывам)

Складаецца з лагічнага дзейніка (назоўнік, субстантываваны прыметнік, займеннік у назоўным склоне) і лагічнага выказніка (неазначальная форма дзеяслова). Ужываецца ў тым выпадку, калі дзеясловы, ад якіх можа залежыць зварот accusatīvus cum infinitīvo, ужыты ў залежным стане ў безасабовым значэнні. Выступае як складаны дзейнік выказніка ў залежным стане.

Зварот nominatīvus cum infinitīvo перакладаецца даданым дапаўняльным сказам са злучнікамі *што*, *каб*. Кіруючы дзеяслоў перакладаецца двума спосабамі:

1) няпэўна-асабовай формай (*гавораць*, *лічаць* і г. д.);

2) безасабовай формай (*гаворыцца*, *лічыцца* і г. д.).

Напрыклад: [Romāni vincĕre] traduntur. – *Паведамляюць* (*паведамляецца*), *што рымляне перамагаюць*.

Кіруючы дзеяслоў заўсёды дапасуецца да лагічнага дзейніка ў асобе і ліку (часам і ў родзе). Напрыклад: [Romāni vincĕre] tradĭmur. – *Паведамляюць* (*паведамляецца*), *што мы*, *рымляне*, *перамагаем*; [Romānae vicisse] tradĭtae estis. – *Паведамілі*, *што вы*, *рымлянкі*, *перамаглі*.

Калі ў якасці лагічнага дзейніка звароту павінен быць ужыты асабовы займеннік, ён прапускаецца. Напрыклад: [Vicisse] tradĕris. – *Паведамляецца*, *што ты перамог*; [Victi esse] tradimĭni. – *Паведамляецца*, *што вы былі пераможаныя*.

Часта ў якасці кіруючага дзеяслова ўжываюцца формы залежнага стану дзеяслова video, якія перакладаюцца безасабова: videor – *здаецца*, *што я*; vidēris – *здаецца*, *што ты*; vidētur – *здаецца*, *што ён* (*яна*, *яно*); vidēmur – *здаецца*, *што мы*; videmĭni – *здаецца*, *што вы*; videntur – *здаецца*, *што яны* і г. д.

## § 100. Зварот ablatīvus absolūtus (Творны самастойны)

Ablatīvus absolūtus – адмысловы сінтаксічны зварот лацінскай мовы. Складаецца з лагічнага дзейніка (назоўнік, субстантываваны прыметнік, займеннік у творным склоне) і лагічнага выказніка (дзеепрыметнік, дапасаваны да лагічнага дзейніка ў родзе, ліку і склоне). Выступае як складаная акалічнасць і выражае абставіны, пры якіх адбываецца,

адбывалася або будзе адбывацца дзеянне дзеяслова ў сказе. Зварот не звязаны з ніводным словам у сказе, таму называецца absolūtus (*незалежны*, *самастойны*).

Participium praesentis actīvi (гл. § 67) ужываецца, калі дзеянні ў звароце і ў галоўным сказе адбываюцца адначасова. Participium perfecti passīvi (гл. § 68) ужываецца, калі дзеянне ў звароце адбылося раней за дзеянне ў галоўным сказе.

Звычайна зварот перакладаецца даданымі акалічнаснымі сказамі часу, прычыны, умовы, уступкі, спосабу дзеяння, якія далучаюцца адпаведнымі злучнікамі: *калі*, *пасля таго як*; *бо*, *таму што*; *калі*; *хоць*; *як*. Лагічны дзейнік перакладаецца назоўным склонам; лагічны выказнік – асабовай формай, прычым яго стан захоўваецца.

Час дзеепрыметніка не ўплывае на час асабовай формы дзеяслова, якой ён перакладаецца. Напрыклад:

*abl.* *pcp. praes. act.* *praes.*
Vere appropinquante, aves advŏlant. – *Калі надыходзіць вясна*, *прылятаюць птушкі*.

*abl.* *pcp. praes. act.* *imperf.*
Vere appropinquante, aves advolābant. – *Калі надыходзіла вясна*, *прыляталі птушкі*.

*abl.* *pcp. praes. act.* *fut.* I
Vere appropinquante, aves advolābunt. – *Калі прыйдзе вясна*, *прыляцяць птушкі*.

У гэтых прыкладах ужываецца адзін і той жа дзеепрыметнік – appropinquante (participium praesentis actīvi), які перакладаецца цяперашнім, прошлым або будучым часам. Як бачым, час выказніка даданага сказа залежыць ад часу выказніка галоўнага сказа.

Існуюць тры спосабы перакладу звароту ablatīvus absolūtus:

1) даданым акалічнасным сказам часу, прычыны, уступкі, умовы, спосабу дзеяння (гл. вышэй);

2) назоўнікамі з прыназоўнікам;

3) дзеепрыслоўным зваротам (калі ўжываецца participium perfecti passīvi, а лагічны суб’ект дзеяння ў звароце супадае з дзейнікам галоўнага сказа).

Напрыклад: Trojā delētā, Graeci in patriam revertērunt. – 1) *Калі Троя была знішчана*, *грэкі вярнуліся на радзіму*; 2) *Пасля знішчэння Троі грэкі вярнуліся на радзіму*; 3) *Знішчыўшы Трою*, *грэкі вярнуліся на радзіму*.

## § 101. Асаблівы выпадак звароту ablatīvus absolūtus

Зварот ablatīvus absolūtus можа быць няпоўны і складацца з лагічнага дзейніка ў ablatīvus і дапасаванай да яго іменнай часткі лагічнага выказніка. Дзеяслоў-звязка sum пры гэтым адсутнічае, бо гэты дзеяслоў не ўтварае дзеепрыметнікавых форм. У выніку ablatīvus absolūtus выражаецца спалучэннем назоўніка з назоўнікам, назоўніка з прыметнікам, займенніка з прыметнікам. У якасці іменнай часткі лагічнага выказніка могуць ужывацца назоўнікі dux – *праваднр*, *палкаводзец*; consul – *консул*; judex – *суддзя*; auctor – *аўтар*, *творца*, *дарадчык*; adjūtor – *памочнік*; testis – *сведка*; magister – *настаўнік*; puer – *хлопчык*; senex – *стары* і г. д.; прыметнікі vivus – *жывы*; mortuus – *мёртвы*; invītus – *які не жадае*; conscius – *які ведае*; inscius – *які не ведае*; salvus – *непашкоджаны*, *цэлы* і г. д. Такі зварот звычайна перакладаецца назоўнікамі з прыназоўнікам. Напрыклад: Cicerōne consŭle – *за консульствам Цыцэрона*; Hannibăle duce – *пад кіраўніцтвам Ганібала*; Tarquinio rege – *у час царавання Тарквінія*; me invīto – *насуперак маёй волі*.

## § 102. Conjunctīvus у незалежных сказах

Лацінскі кан’юнктыў аб’яднаў два самастойныя лады, якія існавалі ў індаеўрапейскай мове, – кан’юнктыў (conjunctīvus, умоўны лад) і аптатыў (optatīvus, пажаданы лад); абодва лады захаваліся ў старагрэчаскай мове.

У незалежным сказе лацінскі кан’юнктыў абазначае дзеянне не рэальнае, а магчымае, чаканае і мае два галоўныя значэнні: пажаданасці і магчымасці з рознымі сэнсавымі адценнямі, якія і вызначылі традыцыйную тэрміналогію кан’юнктыва.

### 1. Кан’юнктыў пажаданасці

**1.1. Conjunctīvus (ad)hortatīvus** (кан’юнктыў заклiку) абазначае заклік, прымушэнне да дзеяння. Ужываецца praesens conjunctīvi у 1-й асобе plurālis. Перакладаецца з дапамогай слоў *давайце*, *будзем*, *будзьма* з неазначальнай формай. Адмоўе ne. Напрыклад: Gaudeāmus, igĭtur, juvĕnes dum sumus. – *Дык давайце радавацца*, *пакуль мы маладыя*; Amēmus patriam. – *Давайце любіць радзіму*.

**1.2. Conjunctīvus imperatīvus (jussīvus)** (кан’юнктыў загаду) абазначае настойлівае жаданне, загад, патрабаванне, просьбу. Ужываецца

praesens conjunctīvi у 2-й і 3-й асобе singulāris і plurālis. Перакладаецца: а) загадным ладам (у 2-й асобе); б) з дапамогай часціц *хай*, *няхай* з будучым часам (у 3-й асобе); в) умоўным ладам з часціцай *бы*. Напрыклад: Apud me cum tuis maneas. – *Заставайся ў мяне са сваімі* (*блізкімі*); Puer librum legat. – *Няхай хлопчык чытае кнігу*; Milĭtes fortĭter pugnent. – *Няхай воіны храбра змагаюцца*; Fiat lux! – *Хай будзе святло!*

**1.3. Conjunctīvus prohibitīvus** (кан'юнктыў забароны) абазначае забарону. Адмоўе ne. Ужываецца praesens і perfectum conjunctīvi у 2-й асобе singulāris і plurālis (без адрознення ў трыванні). Перакладаецца загадным ладам з адмоўем. Напрыклад: Ante victoriam ne canas triumphum! – *Не святкуй*, *пакуль не перамог!* Quod dubĭtas, ne fecĕris! – *Не рабі тое*, *у чым сумняваешся!* Nemĭnem cito accusavĕris! – *Нікога не абвінавачвай паспешна!*

**1.4. Conjunctīvus optatīvus** (кан'юнктыў жадання) абазначае жаданне. Ужываецца ва ўсіх асобах і ліках: а) praesens conjunctīvi (безадносна да магчымасці выканання жадання ў будучым); б) imperfectum conjunctīvi (жаданне, неажыццявімае ў цяперашні момант); в) plusquamperfectum conjunctīvi (жаданне не было ажыццявімым у мінулым). Адмоўе ne. Перакладаецца: 1) загадным ладам (у 2-й асобе); 2) з дапамогай часціц *хай*, *няхай* з будучым часам. Часта ўжываецца з часціцай utĭnam – *о калі б*, *каб*, *каб жа*. Напрыклад: Sis felix! – *Будзь шчаслівы!* Vivat, crescat, floreat! – *Няхай жыве*, *няхай расце*, *няхай квітнее!* Sit nox cum somno, sit sine lite dies. – *Няхай будзе ноч са сном*, *няхай будзе дзень без сваркі*; Dictis facta respondeant. – *Хай словам адпавядаюць справы*; Utĭnam veniat! – *О калі б ён прыйшоў* (пра будучае безадносна да выканання жадання). Utĭnam venīret! – *О калі б ён прыйшоў* (зараз; жаданне неажыццявімае ў цяперашні момант). Utĭnam venisset! – *О калі б ён прыйшоў* (учора, жаданне не ажыццявілася).

### 2. Кан'юнктыў магчымасці

**2.1. Conjunctīvus potentiālis** (кан'юнктыў магчымасці) абазначае магчымасць дзеяння. Ужываецца ва ўсіх асобах і ліках: а) praesens conjunctīvi і perfectum conjunctīvi (без адрознення ў трыванні) – дзеянне магчымае ў будучым; б) imperfectum conjunctīvi – дзеянне было магчымае ў мінулым. Адмоўе non. У 3-й асобе singulāris у якасці дзейніка могуць ужывацца няпэўныя займеннікі alĭquis, quispiam, quis – *хто-небудзь*. Перакладаецца: 1) будучым часам са словамі *бадай*, *бадай што*, *мабыць*, *мусіць*, *магчыма*, *можа*, *мо*; 2) умоўным ладам з часціцай *бы*; 3) умоўным ладам з дапамогай дзеяслова *магчы*. Напрыклад: Dicat alĭquis. – *Хто-*

*небудзь*, *магчыма*, *скажа*; O stultum homĭnem dixĕrit quispiam. – *О дурань*, *бадай*, *хто-небудзь скажа*; Haec non dixĕrim. – *Я б гэтага не казаў*; Quis putāret? – *Хто б мог падумаць? Хто б падумаў?*

**2.2. Conjunctīvus concessīvus** (кан'юнктыў уступкі) абазначае ўступку, дапушчэнне. Ужываецца ў 3-й асобе singulāris і plurālis: praesens conjunctīvi – адносна цяперашняга часу, perfectum conjunctīvi – адносна прошлага часу. Адмоўе ne. Перакладаецца з дапамогай слоў *дапусцім*, *няхай*, *хай* з цяперашнім або прошлым часам. Можа ўдакладняцца словам ut – *няхай*, *хай*, *хоць*, *хаця*. Напрыклад: Ne sit sane summum malum dolor; malum certe est. – *Дапусцім*, *боль не найгоршая бяда*, *але*, *безумоўна*, *бяда*; Fuĕrint cupĭdi, fuĕrint irāti. – *Няхай яны былі небесстароннія*, *няхай яны былі раззлаваныя*; Omnia possideat, non possidet aĕra Minos. – *Хай Мінас валодае ўсім*, *але ён не валодае паветрам* (*небам*) (Авідзій); Ut desint vires. – *Хоць і не стае сіл*.

**2.3. Conjunctīvus dubitatīvus** (кан'юнктыў сумнення) абазначае сумненне, нерашучасць. Ужываецца ў пытаннях, што выражаюць роздум, калі чалавек пытаецца ў сябе або ў іншых, што яму трэба рабіць. Ужываецца звычайна 1-я (радзей 3-я) асоба singulāris і plurālis: praesens conjunctīvi – у пытаннях адносна будучага часу, у imperfectum conjunctīvi – адносна прошлага часу. Адмоўе non. Перакладаецца неазначальнай формай з давальным склонам. Напрыклад: Quid dicam? Quid non dicam? – *Што мне казаць? Што не казаць?* Quid agĕrem? – *Што мне было рабіць?* Quid faciant leges, ubi sola pecunia regnat? – *Што рабіць законам там*, *дзе ўладараць толькі грошы?*

## § 103. Conjunctīvus у даданых сказах

Ужыванне часоў умоўнага ладу ў даданых сказах залежыць ад двух чыннікаў:

1) як адбываецца дзеянне даданага сказа адносна дзеяння ў галоўным сказе (адначасова, папярэднічае або мае адбыцца);

2) у якім часе ўжыты дзеяслоў-выказнік у галоўным сказе (у галоўным або гістарычным):

| Галоўныя часы | Гістарычныя часы |
|---|---|
| praesens | perfectum |
| futūrum I | imperfectum |
| futūrum II | plusquamperfectum |
| imperatīvus | |

З а ў в а г а. І як галоўныя, і як гістарычныя часы могуць разглядацца: а) praesens historĭcum – цяперашні час, ужыты ў значэнні прошлага; б) perfectum praesens – прошлы час, які выражае стан, што працягваецца ў цяперашнім у выніку мінулага дзеяння; в) infinitīvus historĭcus – інфінітыў, які ўжываецца ў якасці выказніка і перакладаецца прошлым часам абвеснага ладу.

Такая двухбаковая залежнасць часавых форм умоўнага ладу ў дадзеных сказах ад часавых форм дзеяслова ў галоўным сказе рэгулюецца ў лацінскай мове правілам паслядоўнасці часоў (consecutio tempŏrum):

| Граматычны час выказніка галоўнага сказа | Дзеянне даданага сказа адносна дзеяння галоўнага сказа | | |
|---|---|---|---|
| | аднachасовае | папярэдняе | будучае |
| Галоўныя часы:<br>praesens<br>futūrum I<br>futūrum II<br>imperatīvus | *praes. conj.* | *perf. conj.* | *pcp. fut. act.*<br>і sum, fui, –, esse<br>у *praes. conj.*<br>(гл. § 86, п. 1) |
| Гістарычныя часы:<br>imperfectum<br>perfectum<br>plusquamperfectum | *imperf. conj.* | *pqperf. conj.* | *pcp. fut. act.*<br>і sum, fui, –, esse<br>у *imperf. conj.* |

# § 104. Даданыя дапаўняльныя сказы

Даданыя дапаўняльныя сказы (propositiōnes subjunctae objectīvae) падзяляюцца на некалькі відаў.

**1. Даданыя дапаўняльныя пры дзеясловах са значэннем імкнення і жадання** (*клапаціцца*, *старацца*, *імкнуцца*, *дамагацца* і г. д.). Далучаюцца злучнікамі ut (objectīvum) – *каб*; ne (objectīvum) – *каб не* і адказваюць на пытанні ўскосных склонаў. Ужываецца: 1) praesens conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з галоўных часоў (гл. § 103); 2) imperfectum conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з гістарычных часоў (гл. § 103). Напрыклад: Sapiens quidam: ante senectūtem curāvi, ut bene vivĕrem; nunc curo, ut bene de vitā decēdam. – *Якісьці мудрэц* (*сказаў*): *да старасці я турбаваўся*, *каб годна жыць*; *зараз я турбуюся*, *каб годна пайсці з жыцця* (*памерці*).

**2. Даданыя дапаўняльныя пры дзеясловах і выразах са значэннем боязі** (*баяцца*, *сцерагчыся*; *ёсць страх*, *ёсць боязь* і г. д.). Далучаюцца злучнікамі ne – *што*, *каб не*, *як бы не* (дзеянне непажаданае); ne non, ut – *што не* (дзеянне пажаданае). Ужываецца: 1) praesens conjunctīvi, калі

ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з галоўных часоў (гл. § 103); 2) imperfectum conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з гістарычных часоў (гл. § 103). Напрыклад: Timeo, ne veniat. – *Я баюся, што ён прыйдзе* (= *каб ён не прыйшоў*; *як бы ён не прыйшоў*); Timēbam, ne non venīret. – *Я баяўся, што ён не прыйдзе*.

**3. Даданыя дапаўняльныя пры дзеясловах і выразах са значэннем забароны і перашкоды** (*перашкаджаць*, *замінаць* і г. д.). Далучаюцца злучнікамі ne, quomĭnus, quin – *каб*. Пры гэтым злучнік quomĭnus ужываецца пераважна, а quin выключна пасля адмоўя або рытарычнага пытання. Ужываецца: 1) praesens conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з галоўных часоў (гл. § 103); 2) imperfectum conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з гістарычных часоў (гл. § 103). Напрыклад: Impĕdit, ne veniam. – *Ён перашкаджае, каб я прыходзіў* (= *мне прыходзіць*); Non impĕdit, quin veniam. – *Ён не перашкаджае, каб я прыходзіў* (= *мне прыходзіць*).

**4. Даданыя дапаўняльныя пры адмоўных выразах і рытарычных пытаннях са значэннем адсутнасці сумнення** (non dubĭto – *я не сумняваюся*; dubium non est – *няма сумнення*; nemo dubĭtat – *ніхто не сумняваецца*; quis dubĭtat? – *хто сумняваецца?* і г. д.). Далучаюцца злучнікам *quin – што*, *каб*. Ужываецца кан'юнктыў па правіле паслядоўнасці часоў (гл. § 103). Напрыклад: а) пасля галоўных часоў: Non dubĭto, quin ad me venias (venĕris, ventūrus sis). – *Я не сумняваюся, што ты ідзеш* (*ішоў*, *пойдзеш*) *да мяне*; б) пасля гістарычных часоў: Quis dubitābat, quin ad me venīres (venisses, ventūrus esses)? – *Хто сумняваўся, што ты ідзеш* (*ішоў*, *пойдзеш*) *да мяне?*

## § 105. Ускоснае пытанне

Ускосным пытаннем (quaestio oblīqua) называецца даданы дапаўняльны сказ, які далучаецца пытальнымі займеннікамі (quis – *хто?* quid – *што?* qui, quae, quod – *які?* qualis, e – *які?*), пытальнымі прыслоўямі (ubi – *дзе?* unde – *адкуль?* quare, cur – *чаму?* quo – *куды, дзе?* quot – *колькі?* quando – *калі?* quam – *як?* quomŏdo – *як?*), пытальнымі часціцамі (-ne – *ці?* num – *няўжо, хіба?* nonne – *няўжо не, хіба не?* an – *ці, хіба?* utrum … an – *ці … ці?* si – *ці?*). Ускоснае пытанне ўжываецца пасля дзеясловаў са значэннем выказвання, сцверджання (*пытаць*, *казаць*, *ведаць*, *бачыць* і г. д.) і безасабовых выразаў тыпу notum est – *вядома*, ignōtum est – *невядома* і г. д.

У беларускай мове прамое і ўскоснае пытанні граматычна не адрозніваюцца (ужываюцца аднолькавыя формы часу і ладу). У лацінскай мове ва ўскосным пытанні ўжываюцца формы кан'юнктыва згодна з правілам паслядоўнасці часоў (гл. § 103). Напрыклад: а) пасля галоўных часоў: Interrŏgo (interrogābo, interrogavěro), quid agas (egěris, actūrus sis). – *Я пытаюся* (*спытаюся*), *што ты робіш* (*рабіў*, *зробіш*); б) пасля гістарычных часоў: Interrogābam (interrogāvi, interrogavěram), quid agěres (egisses, actūrus esses). – *Я пытаўся* (*запытаўся*), *што ты робіш* (*рабіў*, *зробіш*).

## § 106. Даданыя сказы мэты

Даданыя сказы мэты (propositiōnes subjunctae fināles) далучаюцца злучнікамі ut (fināle) – *каб*; ne (fināle) – *каб не*; neve – *і каб не*. Адказваюць на пытанні *навошта? для чаго? з якой мэтай?* Ужываецца: 1) praesens conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з галоўных часоў (гл. § 103); 2) imperfectum conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з гістарычных часоў (гл. § 103). Напрыклад: Edĭmus, ut vivāmus, non vivĭmus, ut edāmus. – *Мы ядзім*, *каб жыць* (= *каб мы жылі*), *але не жывём*, *каб есці* (= *каб мы елі*).

## § 107. Даданыя сказы выніку

Даданыя сказы выніку (propositiōnes subjunctae consecutīvae) далучаюцца злучнікамі ut (consecutīvum) – *так што*, *што*, *каб*; ut non – *так што не*, *што не*, *каб не*. У галоўным сказе гэтым злучнікам могуць адпавядаць указальныя займеннікі is, hic, talis – *такі*; tantus – *такі вялікі*, *такі значны* або прыслоўі ita, sic – *так*; tam – *гэтак*, *настолькі*; adeo – *да такой ступені*; у гэтым выпадку злучнікі ut, ut non перакладаюцца *што*, *што не*. Ужываецца: 1) praesens conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з галоўных часоў (гл. § 103); 2) imperfectum conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з гістарычных часоў (гл. § 103). Пасля гістарычных часоў выказнік можа стаяць у тым часе, які быў бы ўжыты ў незалежным сказе (praesens або perfectum conjunctīvi). Напрыклад: Tantus in curiā clamor factus est, ut popŭlus concurrěret. – *У курыі ўзняўся такі гвалт*, *што збегся народ*; Ita vivěre oportet, ut homĭnes tibi credant. – *Жыць трэба так*, *каб людзі верылі табе*.

## § 108. Даданыя паясняльныя сказы

Даданыя паясняльныя сказы (propositiōnes subjunctae explicatīvae) раскрываюць змест галоўнага сказа, выконваючы функцыю дзейніка, які адсутнічае. Далучаюцца злучнікамі ut (explicatīvum), quod (explicatīvum) – *што*, *каб*; ut non – *што не*, *каб не*. У галоўным сказе сустракаюцца безасабовыя выразы: est, fit – *бывае*; accĭdit, evĕnit – *здараецца*; fiĕri (non) potest – (*не*) *можа быць*; sequĭtur – *належыць*; mos est – *ёсць звычай*, lex est – *ёсць закон* і г. д. Злучнік quod ужываецца, калі ў галоўным сказе ўтрымліваецца тая ці іншая ацэнка, якая перадаецца праз азначэнне або акалічнасць: optĭme evĕnit – *шанцуе*; bonus mos est – *ёсць добры звычай* і г. д. Пасля злучнікаў ut, ut non ужываецца: 1) praesens conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з галоўных часоў (гл. § 103); 2) imperfectum conjunctīvi, калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з гістарычных часоў (гл. § 103). Пасля злучніка quod ужываецца indicatīvus. Напрыклад: Accĭdit, ut mihi provinciam proficisci necesse esset. – *Здарылася* (*так*), *што мне неабходна было накіравацца ў правінцыю*; Bene mihi evĕnit, quod eum vidi. – *Мне вельмі пашанцавала*, *што я яго ўбачыў*.

## § 109. Даданыя сказы часу

Даданыя сказы часу (propositiōnes subjunctae temporāles) далучаюцца злучнікамі cum, ubi – *калі*; postquam – *пасля таго як*; cum primum – *ледзь толькі*; donec, dum – *пакуль*; antĕquam, priusquam – *раней як* (*чым*), *перш як* (*чым*). У даданым сказе можа ўжывацца indicatīvus або conjunctīvus.

### 1. Даданыя сказы часу са злучнікам cum

#### *Cum з indicatīvus*

**1) Даданыя сказы часу са злучнікам cum (temporāle)** – *калі*, *у той час як*, *пасля таго як*. Указваюць на простыя суадносіны ў часе паміж падзеямі ў галоўным і даданым сказах; звычайна датычацца адзінкавых падзей у цяперашнім і будучым, радзей у мінулым. У галоўным сказе могуць сустракацца словы nunc – *цяпер*; tum – *тады*; tempus – *час*; dies – *дзень* і г. д. Ужываюцца ўсе формы indicatīvus. Напрыклад: Conon fuit praetor, cum copiae Atheniensium a Lysandro sunt devictae. – *Конан быў прэтарам*, *калі войскі афінянаў былі пераможаны Лісандрам*.

**2) Даданыя сказы часу са злучнікам cum (iteratīvum)** – *калі, кожны раз калі*. Абазначае паўтаральнасць дзеяння. Ужываюцца ўсе формы indicatīvus; praesens, imperfectum, futūrum I указваюць на адначасовае дзеянне, perfectum, plusquamperfectum, futūrum II – на папярэдняе. Напрыклад: Cum Romam venio, scribo ad te. – *Кожны раз калі я прыязджаю ў Рым, я пішу табе*.

**3) Даданыя сказы часу са злучнікам cum (explicatīvum)** – *калі, тым што*. Дзеянні галоўнага і даданага сказаў супадаюць у часе і па значэнні. Ужываюцца ўсе формы indicatīvus. Напрыклад: Cum docēmus, ipsi discĭmus. – *Калі* (*тым што*) *мы навучаем, мы вучымся самі*.

**4) Даданыя сказы часу са злучнікам cum (inversum)** – *калі, як раптам*. Дзеянне галоўнага сказа, які знаходзіцца на першым месцы і звычайна ўтрымлівае словы jam – *ужо*; nondum – *яшчэ не*; vix – *ледзь толькі, як толькі*, перапыняе дзеянне даданага або хутка ідзе следам за ім. Даданы сказ можа ўтрымліваць словы repente, subĭto – *раптам*. Ужываюцца звычайна perfectum indicatīvi і praesens indicatīvi historĭcum (цяперашні час у значэнні прошлага). Напрыклад: Vix epistŭlam legĕram, cum Marcus vēnit. – *Ледзь толькі я прачытаў ліст, як раптам прыйшоў Марк*.

### *Cum з conjunctīvus*

**1) Даданыя сказы часу са злучнікам cum (historĭcum)** – *калі, у той час як, пасля таго як*. Сустракаюцца пры апавяданні аб мінулых падзеях, прычым дзеянне даданага сказа абумоўлівае дзеянне галоўнага. Ужываецца: 1) imperfectum conjunctīvi для ўказання на адначасовае дзеянне; 2) plusquamperfectum conjunctīvi для ўказання на папярэдняе дзеянне. Напрыклад: Antigŏnus in proelio, cum adversum Seleucum et Lysimăchum dimicāret, occīsus est. – *Антыгон быў забіты ў баі, калі змагаўся супраць Селеўка і Лісімаха*; Cum Troja delēta esset, Graeci in patriam revertērunt. – *Калі* (*пасля таго як*) *Троя была разбурана, грэкі вярнуліся на радзіму*.

**2) Даданыя сказы часу са злучнікам cum (adversatīvum)** – *між тым як, тады як*. Змест даданага сказа супрацьпастаўляецца зместу галоўнага. Па значэнні гэтыя сказы блізкія да даданых сказаў уступкі. Ужываюцца формы кан'юнктыва згодна з правілам паслядоўнасці часоў (гл. § 103). Напрыклад: Nostrōrum equĭtum erat quinque milium numĕrus, cum hostes non amplius octingēntos equĭtes habērent. – *Колькасць нашых вершнікаў была пяць тысяч, тады як непрыяцелі мелі не больш за восемсот вершнікаў*.

### 2. Дадзеныя сказы часу з іншымі злучнікамі

**1) Дадзеныя сказы часу са злучнікамі postquam** – *пасля таго як*; **simul**, **ubi**, **ubi primum**, **ut (temporāle)** – *як толькі*; **ex quo** – *з таго часу як*. Ужываецца indicatīvus, пры гэтым замест plusquamperfectum ужываецца perfectum, бо значэнне папярэдняга дзеяння перадаецца самім злучнікам. Напрыклад: Postquam aurum abstulĭmus, in navem conscendĭmus. – *Пасля таго як мы атрымалі золата*, *мы селі на карабель*.

**2) Дадзеныя сказы часу са злучнікам dum** – *між тым як*, *тым часам як*, *у той час калі*. У дадзеным сказе ўжываецца praesens indicatīvi historĭcum (цяперашні час у значэнні прошлага), у галоўным – perfectum або praesens historĭcum. Напрыклад: Haec dum apud hostes geruntur, Pothīnus a Caesăre est interfectus. – *У той час калі гэта адбывалася ў ворагаў*, *Цэзарам быў пакараны смерцю Пацін*.

**3) Дадзеныя сказы часу са злучнікамі dum**, **quoad** – *пакуль* (*не*); **donec** – *пакуль не*; **quamdiu** – *пакуль*. Ужываецца indicatīvus, а ў сказах з адценнем мэты са злучнікам dum – *пакуль не* – conjunctīvus згодна з правілам паслядоўнасці часоў (гл. § 103). Напрыклад: Homĭnes, dum docent, discunt. – *Людзі*, *пакуль вучаць*, *вучацца*; Scaevŏla paulum requiēscet, dum se calor frangat. – *Сцэвола крыху адпачне*, *пакуль не спадзе спёка*.

**4) Дадзеныя сказы часу са злучнікамі antĕquam**, **priusquam** – *раней як* (*чым*), *перш як* (*чым*); **non prius … quam** – *не раней … як* (*чым*). Ужываецца indicatīvus (указвае на рэальнае дзеянне ў будучым) або conjunctīvus згодна з правілам паслядоўнасці часоў (гл. § 103; указвае на дзеянне, якое чакаецца, меркаванае або магчымае). Напрыклад: Epaminōndas non prius bellāre destĭtit, quam urbem Lacedaemoniōrum obsidiōne clausit. – *Эпамінонд спыніў бой не раней*, *як аблажыў горад спартанцаў*.

## § 110. Дадзеныя сказы прычыны

Дадзеныя сказы прычыны (propositiōnes subjunctae causāles) далучаюцца злучнікамі cum (causāle), quod (causāle), quia, quoniam – *бо*, *таму што*; non quo, non quin – *не таму што* (*каб*) (адмаўляецца прычына дзеяння); non quod, non quia – *не таму што* (*каб*) (адмаўляецца толькі прычынная залежнасць). У дадзеным сказе можа ўжывацца indicatīvus або conjunctīvus.

**1. Дадзеныя сказы прычыны са злучнікамі cum (causāle)** – *бо*, *таму што*, *паколькі*; **non quo**, **non quin** – *не таму што* (*каб*). Калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з галоўных часоў (гл. § 103),

на адначасовае дзеянне ўказвае praesens conjunctīvi, на папярэдняе – perfectum conjunctīvi. Калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з гістарычных часоў (гл. § 103), на адначасовае дзеянне ўказвае imperfectum conjunctīvi, на папярэдняе – plusquamperfectum conjunctīvi. Напрыклад: Cum ignorāret, rogāvit. – *Ён спытаўся*, *бо не ведаў*; Cum sis mortālis, quae sunt mortalia, cura. – *Паколькі ты смертны*, *дбай* (*пра тое*), *што з’яўляецца смертным*; Memoriam nostri ut conserves rogo, non quo de tuā constantiā dubĭtem, sed quia mos est sic rogandi. – *Прашу*, *каб ты захоўваў памяць пра нас*, *не таму*, *што сумняваюся ў тваёй непахіснасці*, *але таму*, *што прынята прасіць пра гэта*.

**2. Даданыя сказы прычыны са злучнікамі quod (causāle)**, **quia**, **quoniam** – *бо*, *таму што*, *паколькі*; **non quod**, **non quia** – *не таму што* (*каб*). Ужываецца indicatīvus, калі называецца фактычная прычына, і conjunctīvus, калі гаворыцца аб магчымай прычыне дзеяння або перадаецца меркаванне іншай асобы аб прычыне дзеяння; формы кан’юнктыва такія ж, як пры cum (causāle). Напрыклад: Non tibi scribo, quod aegrōtus sum. – *Я не пішу табе*, *бо хварэю*; Themistŏcles noctu ambulābat, quod somnum capĕre non posset. – *Фемістокл уначы гуляў*, *бо* (*па ягоных словах*) *не мог спаць*.

## § 111. Даданыя сказы ўступкі

Даданыя сказы ўступкі (propositiōnes subjunctae concessīvae) далучаюцца злучнікамі cum (concessīvum), quamquam, quamvis, tametsi – *хоць*, *хаця*, *нягледзячы на тое што*; ut (concessīvum) – *дапусцім што*, *калі б нават*, *хоць бы*; etsi – *хоць і*, *нават калі*; etiamsi – *хоць* (*бы*), *нават калі* (*б*); licet – *хоць* (*бы*), *няхай*, *хай*. Злучнік cum (concessīvum) ужываецца з conjunctīvus, quamquam – з indicatīvus, астатнія – з indicatīvus або conjunctīvus. Кан’юнктыў ужываецца па наступным правіле. Калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з галоўных часоў (гл. § 103), на адначасовае дзеянне ўказвае praesens conjunctīvi, на папярэдняе – perfectum conjunctīvi. Калі ў галоўным сказе дзеяслоў-выказнік ужыты ў адным з гістарычных часоў (гл. § 103), на адначасовае дзеянне ўказвае imperfectum conjunctīvi, на папярэдняе – plusquamperfectum conjunctīvi. У галоўным сказе на значэнне ўступкі могуць указваць словы tamen – *аднак*; attămen – *аднак жа*, *усё ж*; nihilomĭnus – *тым не менш*; at, certe – *прынамсі*. Напрыклад: Praedōnes, cum hostes commūnes sint omnium, tamen alĭquos sibi amīcos instituunt. – *Хаця піраты – агульныя ворагі ўсім*, *аднак некаторых яны робяць сябрамі*.

## § 112. Дадання сказы параўнання

Даданыя сказы параўнання (propositiōnes subjunctae comparatīvae) далучаюцца адноснымі прыслоўямі і злучнікамі ut(i), sicŭt(i), quemadmŏdum, quomŏdo – *як*. У галоўным сказе ім могуць адпавядаць суадносныя прыслоўі ita, sic, perinde, proinde, simillĭter, aeque, non secus, item, itĭdem – *так*, *гэтак*, *падобна да таго* (*на тое*). Ужываюцца ўсе формы indicatīvus. Напрыклад: Ut sementem fecĕris, ita metes. – *Як пасееш*, *так і пажнеш*.

## § 113. Даданыя сказы ўмовы. Умоўны перыяд

Даданыя сказы ўмовы (propositiōnes subjunctae condicionāles) далучаюцца злучнікамі si – *калі* (*б*); nisi (ni) – *калі* (*б*) *не* (адмаўляецца ўся ўмова); si non – *калі* (*б*) *не* (адмаўляецца асобнае слова). Даданы сказ умовы (протасіс) разам з галоўным сказам (аподасіс) утвараюць умоўны перыяд (periŏdus condicionālis). У залежнасці ад адносін умовы да рэчаіснасці адрозніваюць наступныя віды ўмоўнага перыяду.

**1. Casus reālis** (рэальны від). Умова выражаецца без ацэнкі магчымасці або немагчымасці яе здзяйснення ў рэчаіснасці. У галоўным і даданым сказах ужываецца indicatīvus або imperatīvus. Напрыклад: Si id dicis, erras. – *Калі ты гэта кажаш*, *ты памыляешся*; Si id dicēbas, errābas. – *Калі ты гэта казаў*, *ты памыляўся*; Si id dixisti, erravisti. – *Калі ты гэта сказаў*, *ты памыліўся*; Si id dices, errābis. – *Калі ты будзеш казаць гэта*, *ты памылішся*.

**2. Casus potentiālis** (магчымы від). Умова выражаецца як меркаванне, што адносіцца да будучага. У галоўным і даданым сказах ужываецца praesens або perfectum conjunctīvi (з адрозненнем у трыванні). Напрыклад: Si id dicas, erres. – *Калі б ты гэта казаў*, *ты б памыляўся* (*ты можаш так казаць у будучым*); Si id dixĕris, erravĕris. – *Калі б ты гэта сказаў*, *ты б памыліўся*.

**3. Casus irreālis** (нерэальны від). Умова выражаецца як меркаванне, што супярэчыць рэчаіснасці. У галоўным і даданым сказах ужываецца imperfectum conjunctīvi, калі ўмова адносіцца да цяперашняга часу, plusquamperfectum conjunctīvi – да прошлага. Напрыклад: Si id dicĕres, errāres. – *Калі б ты казаў гэта*, *ты б памыляўся* (*але ты так не кажаш*); Si id dixisses, erravisses. – *Калі б ты казаў гэта*, *ты б памыляўся* (*але ты так не казаў*).

**4. Змешаны від**. Даданы сказ умовы (протасіс) адносіцца да аднаго віду ўмоўнага перыяду, галоўны сказ (аподасіс) – да іншага. Напрыклад:

Si volŭmus aequi rerum omnium judĭces esse, hoc primum nobis persuadeāmus nemĭnem nostrum esse sine culpā. – *Калі мы жадаем быць справядлівымі суддзямі ва ўсіх справах, тады давайце пераканаем сябе перш за ўсё ў наступным: ніхто з нас не без заганы.*

З дадзенымі сказамі ўмовы звязаны ўмоўна-пажаданыя і ўмоўна-параўнальныя даданыя сказы.

**Умоўна-пажаданыя даданыя сказы**

Далучаюцца злучнікамі dum, dummŏdo, modo – *толькі б, абы, каб толькі*. Адмоўе ne. Ужываюцца формы кан'юнктыва згодна з правілам паслядоўнасці часоў (гл. § 103), але пры ўказанні на нездзяйсняльнае жаданне, як у casus irreālis, нават пасля галоўных часоў – imperfectum і plusquamperfectum conjunctīvi. Напрыклад: Odĕrint, dum metuant. – *Хай ненавідзяць, абы баяліся*; Summas laudes merentur Athenienses, dummŏdo ne tam leves fuissent. – *Афіняне заслугоўваюць найвышэйшай пахвалы, толькі б яны не былі такія легкадумныя.*

**Умоўна-параўнальныя даданыя сказы**

Далучаюцца злучнікамі ac si, quasi (vero), tamquam (si), ut si, velut si – *як быццам бы*. У галоўным сказе ім могуць адпавядаць суадносныя прыслоўі ita, sic – *так*; aeque, perinde, proinde – (*якраз*) *так жа*; non secus – *не іначай, не інакш*; simĭlĭter – *падобна, нібы* і г. д. Ужываюцца формы кан'юнктыва згодна з правілам паслядоўнасці часоў (гл. § 103). Напрыклад: Tamquam si claudus sim, cum fusti est ambulandum. – *Я павінен хадзіць з кіем, як быццам бы я кульгавы.*

# § 114. Даданыя азначальныя сказы

Даданыя азначальныя сказы (propositiōnes subjunctae relatīvae) далучаюцца злучнікавым словам qui, quae, quod – *які* і падзяляюцца на ўласна азначальныя і адносныя (азначальна-акалічнасныя) даданыя сказы.

## 1. Уласна азначальныя даданыя сказы

Азначаюць якое-небудзь слова ў галоўным сказе. Ужываюцца indicatīvus, а таксама imperatīvus або тыя віды conjunctīvus, якія сустракаюцца ў незалежным сказе (гл. § 102). Напрыклад: Qui quaerit, repĕrit. – *Хто шукае,* (*той*) *знаходзіць*; Vita ipsa, quā fruĭmur, brevis est. – *Само жыццё, якім мы цешымся, кароткае*; Themistŏcles fecit idem, quod viginti

annis ante fecĕrat Coriolānus. – *Фемістокл зрабіў тое ж*, *што дваццаць гадоў таму зрабіў Карыялан*.

Conjunctīvus у даданым азначальным можа ўжывацца і ў выпадку прыпадабнення ладу (attractio modi; гл. § 114).

### 2. Адносныя (азначальна-акалічнасныя) даданыя сказы

Утрымліваюць адценні мэты, выніку, прычыны, умовы, уступкі. У гэтых выпадках адносныя займеннікі або прыслоўі, якія далучаюць даданы сказ, раўназначныя адпаведнаму падпарадкавальнаму злучніку ў спалучэнні з указальным (або няпэўным) займеннікам або прыслоўем. У такіх сказах ужываюцца формы кан’юнктыва як у адпаведных даданых акалічнасных.

**2.1. Адносныя даданыя сказы з адценнем мэты** далучаюцца займеннікам qui – *які б* = ut is – *каб ён*. Напрыклад: Dux legātos mittit, qui pacem petant. – *Палкаводзец адпраўляе паслоў*, *якія б прасілі міру* (= *каб яны прасілі міру*). Злучальнае слова quo (= ut eo) перакладаецца ‘каб тым’.

**2.2. Адносныя даданыя сказы з адценнем выніку** далучаюцца займеннікам qui – *які б* = ut is – *так што ён*, *так каб ён*, *што ён*. Ужываюцца, калі ў галоўным сказе ёсць або маюцца на ўвазе суадносныя займеннікі talis, e; tantus, a, um; ejusmŏdi; is, ea, id; hic, haec, hoc – *такі*, а таксама выразы са словамі est, sunt – *ёсць* (nemo est – *няма нікога*; nihil est – *няма нічога*; nullus est – *няма ніякага*); non desunt, reperiuntur, inveniuntur – *існуюць*, *знаходзяцца*. Напрыклад: Non is sum, qui mortis pericŭlo terrear. – *Я не такі*, *каб палохацца небяспекі смерці* (= *які б спалохаўся*…); Nullus dolor est, quem (= ut eum) tempus non molliat. – *Няма такога болю*, *які б не змякчыў час* (= *каб яго не змякчыў час*).

**2.3. Адносныя даданыя сказы з адценнем прычыны** далучаюцца займеннікам qui – *які* (*б*) = cum is – *бо ён*. Прычына можа падкрэслівацца тым, што адносны займеннік спалучаецца з часціцамі quippe, utpŏte, ut – *бо*, *ж*. Напрыклад: Eos libros non contemno, quippe quos nunquam legĕrim. – *Гэтымі кнігамі я не пагарджаю*, *бо я ж ніколі іх не чытаў* (= *якія я ніколі*…).

**2.4. Адносныя даданыя сказы з адценнем умовы** далучаюцца займеннікам qui – *які* (*б*) = si is – *калі* (*б*). Утрымлівае протасіс умоўнага перыяду (гл. § 113). Напрыклад: Quemcunque quaerit calamĭtas, facĭle invĕnit. – *Каго шукае* (= *калі каго-небудзь шукае*) *бяда*, *лёгка знаходзіць*.

**2.5. Адносныя даданыя сказы з адценнем уступкі** далучаюцца займеннікам qui – *які* (*б*) = cum is – *хоць ён*. Напрыклад: Ego, qui te consolāri

cupio, consolandus ipse sum. – *Я, які* (= *хоць я*) *хачу цябе суцешыць, сам маю патрэбу ў суцяшэнні*.

Заўвага. Адносны займеннік можа ўжывацца ва ўсіх родах, ліках і склонах.

## § 115. Злучнікі і злучальныя словы, якія далучаюць даданыя сказы

| Злучнік, злучальнае слова | Пераклад | Лад у даданым сказе | Тып даданага сказа |
|---|---|---|---|
| ac si | як быццам бы | *conj.* | умоўна-параўнальны |
| antĕquam | раней як (чым), перш як (чым) | *ind./conj.* | часу |
| cum | калі, у той час як, пасля таго як, кожны раз калі, тым што, як раптам | *ind.* | часу |
| | калі, у той час як, пасля таго як, між тым як, тады як | *conj.* | часу |
| | бо, таму што, паколькі | *conj.* | прычыны |
| | хоць, хаця, нягледзячы на тое што | *conj.* | уступкі |
| cur? | чаму? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| donec | пакуль не | *ind.* | часу |
| dum | між тым як, тым часам як, у той час калі | *ind.* | часу |
| | пакуль | *ind.* | часу |
| | пакуль не | *conj.* | часу |
| | толькі б, абы, каб толькі | *conj.* | умоўна-пажаданы |
| dummŏdo | толькі б, абы, каб толькі | *conj.* | умоўна-пажаданы |
| etiamsi | хоць (бы), нават калі (б) | *ind./conj.* | уступкі |
| etsi | хоць і, нават калі | *ind./conj.* | уступкі |
| ex quo | з таго часу як | *ind.* | часу |
| licet | хоць (бы), няхай, хай | *ind./conj.* | уступкі |
| modo | толькі б, абы, каб толькі | *conj.* | умоўна-пажаданы |
| ne | каб не | *conj.* | мэты |
| | каб не | *conj.* | дапаўняльны[1] |
| | што, каб не, як бы не | *conj.* | дапаўняльны[2] |
| | каб | *conj.* | дапаўняльны[3] |

| Злучнік, злучальнае слова | Пераклад | Лад у дадзеным сказе | Тып дадзенага сказа |
|---|---|---|---|
| ne non | што не | *conj.* | дапаўняльны[2] |
| neve | і каб не | *conj.* | мэты |
| nisi (ni) | калі (б) не | *ind./conj.* | умовы |
| non prius … quam | не раней… як (чым) | *ind./conj.* | часу |
| non quia | не таму што (каб) | *ind./conj.* | прычыны |
| non quin | не таму што (каб) | *conj.* | прычыны |
| non quo | не таму што (каб) | *conj.* | прычыны |
| non quod | не таму што (каб) | *ind./conj.* | прычыны |
| postquam | пасля таго як | *ind.* | часу |
| priusquam | раней як (чым), перш як (чым) | *ind./conj.* | часу |
| qualis, e? | які? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| quam? | як? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| quamdiu | пакуль | *ind.* | часу |
| quamquam | хоць, хаця, нягледзячы на тое што | *ind.* | уступкі |
| quamvis | хоць, хаця, нягледзячы на тое што | *ind./conj.* | уступкі |
| quando? | калі? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| quare? | чаму? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| quasi (vero) | як быццам бы | *conj.* | умоўна-параўнальны |
| quemadmŏdum | як | *ind.* | параўнальны |
| qui | які (б) | *ind./conj.* | азначальны |
| qui? | які? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| quia | бо, таму што, паколькі | *ind./conj.* | прычыны |
| quid? | што? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| quin | каб | *conj.* | дапаўняльны[3] |
| | што, каб | *conj.* | дапаўняльны[4] |
| quis? | хто? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| quo? | куды, дзе? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| quoad | пакуль (не) | *ind.* | часу |
| quod | што, каб | *ind.* | паясняльны |
| | бо, таму што, паколькі | *ind./conj.* | прычыны |
| quomĭnus | каб | *conj.* | дапаўняльны[3] |
| quomŏdo | як | *ind.* | параўнальны |
| quomŏdo? | як? | *conj.* | ускоснае пытанне |

| Злучнік, злучальнае слова | Пераклад | Лад у дадзеным сказе | Тып даданага сказа |
|---|---|---|---|
| quoniam | бо, таму што, паколькі | *ind./conj.* | прычыны |
| quot? | колькі? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| si | калі (б) | *ind./conj.* | умовы |
| si non | калі (б) не | *ind./conj.* | умовы |
| sicŭt(i) | як | *ind.* | параўнальны |
| simul | як толькі | *ind.* | часу |
| tametsi | хоць, хаця, нягледзячы на тое што | *ind./conj.* | уступкі |
| tamquam (si) | як быццам бы | *conj.* | умоўна-параўнальны |
| ubi (primum) | як толькі | *ind.* | часу |
| ubi? | дзе? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| unde? | адкуль? | *conj.* | ускоснае пытанне |
| ut | каб | *conj.* | мэты |
| | каб | *conj.* | дапаўняльны[1] |
| | так што, што, каб | *conj.* | выніку |
| | што, каб | *conj.* | паясняльны |
| | як толькі | *ind.* | часу |
| | дапусцім што, калі б нават, хоць бы | *ind./conj.* | уступкі |
| ut si | як быццам бы | *conj.* | умоўна-параўнальны |
| ut(i) | як | *ind.* | параўнальны |
| velut si | як быццам бы | *conj.* | умоўна-параўнальны |

З а ў в а г а. Тыпы даданых дапаўняльных: 1) пры дзеясловах са значэннем імкнення і жадання; 2) пры дзеясловах і выразах са значэннем боязі; 3) пры дзеясловах і выразах са значэннем забароны і перашкоды; 4) пры адмоўных выразах і рытарычных пытаннях са значэннем адсутнасці сумнення.

## § 116. Attractio modi (Прыпадабненне ладу)

У некаторых даданых сказах, у якіх выказнік звычайна ўжываецца ў абвесным ладзе, можа ўжывацца ўмоўны лад. Найчасцей гэта адбываецца ў даданых азначальных сказах са злучальнымі словамі qui, quae, quod.

Прыпадабненне ладу (attractio modi) сустракаецца, калі даданы сказ залежыць:

1) ад галоўнага або даданага сказа з выказнікам ва ўмоўным ладзе;

2) дзеяслова ў неазначальнай форме, якая выступае ў якасці дзейніка;

3) інфінітыўных зваротаў, якія залежаць ад дзеясловаў са значэннямі ‘гаварыць’, ‘думаць’, ‘адчуваць’ (гл. § 97–99).

У такіх даданых ужываецца ўмоўны лад згодна з правілам паслядоўнасці часоў (гл. § 103). Напрыклад: Quoniam non potest id fiĕri, quod vis, id velis, quod possit fiĕri. – *Паколькі не можа здзейсніцца тое*, *што ты жадаеш*, *жадай тое*, *што можа здзейсніцца* (ужываецца ўмоўны лад velis, таму што даданы сказ залежыць ад галоўнага сказа з выказнікам ва ўмоўным ладзе possit fiĕri); Mos est Athēnis laudāri in contiōne eos, qui interfecti sint in proeliis. – *У Афінах ёсць звычай услаўляць у народным сходзе тых*, *хто загінуў у бітвах* (ужываецца ўмоўны лад interfecti sint, таму што даданы сказ залежыць ад інфінітыўнага звароту mos est laudāri eos).

# ДАДАТКІ

## 1. Лацінскае вершаскладанне (кароткія звесткі)

Лацінскае вершаскладанне засноўвалася на рытмічным чаргаванні працяглых і кароткіх складоў (сілаба-метрычнае вершаскладанне). Гэтым яно адрозніваецца ад сучаснага еўрапейскага (у тым ліку беларускага) сілаба-танічнага вершаскладання, у аснове якога ляжыць упарадкаванае чаргаванне націскных і ненаціскных складоў.

Час, неабходны для вымаўлення мінімальнага вершаванага элемента – кароткага склада, называецца ***морай*** (лац. mora – *прамежак*, *час*). Кароткі склад роўны адной моры (Â), працяглы – дзвюм морам (Ð = ÂÂ).

***Верш*** (лац. versus) – гэта паэтычны радок, які пэўным чынам арганізаваны і складаецца са спалучэнняў працяглых і кароткіх складоў, што рытмічна чаргуюцца. Найпрасцейшай адзінкай верша з'яўляецца ***стапа*** (лац. pes), у якой выдзяляюцца дзве часткі – ненаціскная (***арса***) і націскная (***тэза***). На апошнюю падае рытмічны націск – ***іктус*** (лац. ictus – *удар*), які ў цяперашні час адпавядае звычайнаму для беларускай мовы дынамічнаму націску і не заўсёды супадае з граматычным націскам (accentus). Напрыклад:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Áurea | prīma | satá (e)st | \|\| | aetás | quae | vīndĭce | nūllo. |
| суп. | суп. | не суп. | | не суп. | | суп. | суп. |

У залежнасці ад колькасці складоў у стапе апошнія падзяляюцца на двухскладовыя і трохскладовыя.

Асноўнымі двухскладовымі стопамі з'яўляюцца ***ямб*** (ÂÐ́) і ***харэй*** (Ð́Â), трохскладовымі – ***дактыль*** (Ð́ÂÂ) і ***анапест*** (ÂÂÐ́).

У двухскладовых стопах адзін працяглы склад можа замяняцца двума кароткімі. Такім чынам утвараецца ***трыбрахій*** (ÂÂÂ). Калі трыбрахій

замяняе ямб, націск ставіцца на другі склад (ÂÃ̂Â); калі спандэй замяняе харэй, націск ставіцца на першы склад (Ã̂ÂÂ).

У трохскладовых стопах два кароткія склады могуць замяняцца адным працяглым. Такім чынам утвараецца ***спандэй*** (ÐÐ). Калі спандэй замяняе дактыль, націск ставіцца на першы склад (Ð́Ð); калі спандэй замяняе анапест, націск ставіцца на другі склад (ÐÐ́).

Доўгія вершаваныя радкі звычайна падзяляюцца на дзве часткі рытмічнай паўзай, якая называецца ***цэзура*** (ад лац. caedo – *сячы*) і абазначаецца дзвюма вертыкальнымі рыскамі (||).

Па колькасці стоп верш мог быць: дыподыяй (дзве стапы), трыподыяй (тры стапы) і г. д. Таксама верш называюць па ліку адзінак, якія ўтрымліваюць галоўны рытмічны націск. Такая адзінка называецца ***метр***. У ямбічных, трахеічных і анапестычных вершах метрам лічацца дзве стапы (дыподыя), у дактылічных – адна стапа. Адсюль назвы: пентаметр, гекзаметр і г. д.

Асноўнымі відамі вершаў з’яўляюцца наступныя[1]:

1) ***Дактылічны гекзаметр***. Складаецца з шасці дактылічных стоп. У першых чатырох стопах дактыль можа замяняцца спандэем; апошняя стапа звычайна двухскладовая (спандэй або ўсечаны дактыль):

Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́Ä

Напрыклад:

Quídquid id || ést time | ó Dana || ós et | dóna fe | réntes.

2) ***Элігічны дыстых***. Складаецца з дактылічнага гекзаметра і дактылічнага пентаметра. Апошні складаецца з дзвюх роўных частак, па дзве з паловай дактылічныя стапы ў кожнай, прычым у першай частцы дактылі могуць замяняцца спандэямі:

Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́Ä
Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́ || Ð́ÂÂ | Ð́ÂÂ | Ð́

Напрыклад:

Díffĭci | lís facĭ | lís, || ju | cúndus a | cérbus es | ídem:
Néc te | cúm pos | súm || vívĕre | néc sine | té.

Пры чытанні лацінскіх вершаў трэба мець на ўвазе такую з’яву, як ***элізія*** (лац. elisio – *выштурхоўванне*). Яна заключаецца ў тым, што

[1] Іншыя віды вершаў разглядаюцца ў хрэстаматыі.

галосны ў канцы папярэдняга слова выштурхоўваецца (прапускаецца) перад пачатковым галосным наступнага; прапускаюцца таксама канцавыя галосныя з зычным **m** (**-am**, **-em**, **-im**, **-um**):

Átqu(e) ubi jám patriaé pervént(um) ad límĭna sédes.

Калі канцавы галосны або спалучэнне канцавога галоснага з зычным **m** знаходзяцца перад формай **est**, пачатковы галосны **e** выпадае:

Áurea príma satá (e)st aetás quae víndĭce núllo.

## 2. Рымскі каляндар

Першапачаткова (каля VIII ст. да н. э.) рымскі каляндар складаўся з 10 месяцаў (304 сутак). Год пачынаўся 1 сакавіка; адсюль захаваліся назвы некаторых месяцаў: September – 'сёмы', Octōber – 'восьмы', November – 'дзявяты', December – 'дзясяты'. Суткі пачыналіся апоўначы.

Перад 700 г. да н. э. другі рымскі цар Нума Пампілій дадаў два месяцы – Januarius і Februarius. Год у календары Нумы складаўся з 355 сутак.

Каля 451 г. да н. э. група з 10 вышэйшых рымскіх магістратаў (дэцэмвіраў) перанесла пачатак года з 1 сакавіка на 1 студзеня. Пазней была заснавана калегія пантыфікаў, якая правяла рэформу календара.

Да 46 г. да н. э., калі вярхоўным пантыфікам стаў Юлій Цэзар, каляндарныя даты відавочна разыходзіліся з прыроднымі сезоннымі з'явамі, так што паўстала неабходнасць радыкальнай рэформы. Каб аднавіць ранейшую сувязь календара з сезонамі, Цэзар па парадзе александрыйскага астранома Сазігена падоўжыў 46 г. да н. э. да 445 сутак. Затым Цэзар замацаваў працягласць звычайнага года ў 365 сутак і ўвёў дадатковыя суткі раз на чатыры гады (высакосны год). Гэты (юліянскі) каляндар быў уведзены 1 студзеня 45 г. да н. э.

Пасля смерці Цэзара пантыфікі, магчыма, няправільна зразумеўшы інструкцыю пра высакосныя гады, на працягу 36 гадоў дадавалі высакосны год раз на тры гады. Імператар Аўгуст выправіў гэту памылку, прапусціўшы тры высакосныя гады ў перыяд з 8 г. да н. э. да 8 г. н. э. З гэтага моманту высакоснымі лічыліся толькі гады з нумарам, кратным 4. Таксама пры Аўгусце склалася сучасная сістэма *месяцаў*:

| | |
|---|---|
| mensis Januarius | студзень; у гонар Януса, бога ўсялякага пачатку |
| mensis Februarius | люты; месяц ачышчэнняў (ад лац. februo – *ачышчаць*) |
| mensis Martius | сакавік; у гонар бога Марса |
| mensis Aprīlis | красавік |

| | |
|---|---|
| mensis Majus | май |
| mensis Junius | чэрвень; у гонар багіні Юноны |
| mensis Julius | ліпень; у гонар Юлія Цэзара |
| mensis Augustus | жнівень; у гонар імператара Аўгуста |
| mensis September | верасень; літ. 'сёмы' |
| mensis Octōber | кастрычнік; літ. 'восьмы' |
| mensis November | лістапад; літ. 'дзявяты' |
| mensis December | снежань; літ. 'дзясяты' |

Дні вызначаліся па квадрах Месяца. Першы дзень месяца (першая квадра, маладзік) меў назву *Календы* (Kalendae); 5-ы ці 7-ы дзень месяца (другая квадра) – *Ноны* (Nonae); 13-ы ці 15-ы дзень месяца (трэцяя квадра, поўня) – *Іды* (Idūs). Ноны на 7-ы, а Іды на 15-ы дзень прыпадалі ў сакавіку, маі, ліпені і кастрычніку; у астатнія месяцы Ноны прыпадалі на 5-ы, а Іды – на 13-ы дзень.

Першыя дні месяца вызначалі, адлічваючы дні ад бліжэйшых Нон; калі Ноны праходзілі – ад Ід; апошнія дні вызначаліся ад бліжэйшых Календаў. Напрыклад, 23 жніўня пазначалі так: ante diem X Kalendas Septembres – *за дзесяць дзён да вераснёвых Календаў*. Калі дзень прыпадаў на Календы, Ноны ці Іды, яго назва ставілася ў ablatīvus plurālis, напрыклад: 1 лютага – Kalendis Februariis, 15 сакавіка – Idībus Martiis, 5 красавіка – Nonis Aprilībus. Дзень перад Календамі, Нонамі ці Ідамі абазначаўся словам pridie – *напярэдадні* з accusatīvus plurālis: 31 студзеня – pridie Kalendas Februarias, 14 сакавіка – pridie Idūs Martias, 4 красавіка – pridie Nonas Aprīles.

У першапачатковым рымскім календары тыдняў не было. Адрознівалі dies fasti (дні, калі працавалі суды) і dies nefasti (дні, калі нельга было праводзіць судовыя пасяджэнні). Таксама адрознівалі dies festi (святочныя дні) і dies feriae (дні адпачынку). Пасля рымляне пачалі называць *дні тыдня* ў гонар багоў:

| | |
|---|---|
| Lunae dies | панядзелак; дзень Месяца |
| Martis dies | аўторак; дзень Марса |
| Mercurii dies | серада; дзень Меркурыя |
| Jovis dies | чацвер; дзень Юпітэра |
| Venĕris dies | пятніца; дзень Венеры |
| Saturni dies | субота; дзень Сатурна |
| Solis dies | нядзеля; дзень Сонца |

Дзень і ноч падзяляліся на 12 *гадзін*, прычым працягласць адной гадзіны дня і адной гадзіны ночы змянялася ў залежнасці ад пары года.

Днём называлі час ад узыходу да заходу сонца (прыкладна з 6 гадзін раніцы да 6 гадзін вечара), ноччу – час ад заходу да ўзыходу сонца (прыкладна з 6 гадзін вечара да 6 гадзін раніцы). Напрыклад: horā quintā diēi – *а пятай гадзіне дня*, г. зн. *а 11-й гадзіне раніцы* (= *а 5-й гадзіне пасля 6-й гадзіны раніцы*).

Ноч падзялялася на 4 *варты* па 3 гадзіны кожная: prima (secunda, tertia, quarta) vigilia – *першая* (*другая*, *трэцяя*, *чацвёртая*) *варта*.

*Год* абазначаўся імёнамі двух консулаў гэтага года, якія ўжываліся ў ablatīvus absolūtus: Marco Crasso et Gnaeo Pompejo consulībus – *у консульства Марка Краса і Гнея Пампея* (55 г. да н. э.). З 16 г. да н. э. пачынае ўжывацца летазлічэнне ад года заснавання Рыма (753 г. да н. э.): ab Urbe condĭta (ab U. c., a. u. c.) – *ад заснавання горада*.

# 3. Рымскія імёны[1]

## Мужчынскія імёны

У класічны час поўнае імя рымляніна магло складацца з чатырох кампанентаў: praenōmen (асабістае імя), nomen (радавое імя), cognōmen (мянушка ці найменне галіны роду), agnōmen (асабістая мянушка, якая давалася ў выніку якіх-небудзь заслуг).

**Praenōmen** (асабістае імя) адпавядала сучаснаму мужчынскаму імені. Рымляне ўжывалі невялікую колькасць асабістых імёнаў (18 з агульнай колькасці 72); як правіла, яны былі такога старажытнага паходжання, што ў класічную эпоху значэнне большасці з іх забылася. У надпісах асабістыя імёны амаль заўсёды пісаліся скарочана (1–3 літары):

| Praenōmen | Скарачэнне | Пераклад |
|---|---|---|
| Appius | App. | Апій |
| Aulus | A. ці Avl. | Аўл |
| Decĭmus | D. ці Dec. | Дэцым |
| Gajus | C. | Гай |
| Gnaeus | Cn. | Гнэй |
| Kaeso | K. | Кезон |
| Lucius | L. | Луцый |
| Mamercus | Mam. | Мамерк |
| Manius | M`. | Маній |

[1] Выкарыстаны матэрыялы з Вікіпедыі (http://wikipedia.org).

| Praenōmen | Скарачэнне | Пераклад |
|---|---|---|
| Marcus | M. | Марк |
| Numerius | N. | Нумерый |
| Publius | P. | Публій |
| Quintus | Q. | Квінт |
| Servius | Ser. | Сервій |
| Sextus | Sex. | Секст |
| Spurius | S. ці Sp. | Спурый |
| Tiberius | Ti. ці Tib. | Тыберый |
| Titus | T. | Ціт |

Астатнія асабістыя імёны ўжываліся рэдка і звычайна пісаліся поўнасцю: Agrippa, Ancus, Annius, Aruns, Atta, Cossus, Denter, Eppius, Faustus, Fertor, Herius, Hospolis, Hostus, Lar, Marius, Mesius, Mettus, Minatius, Minius, Nero, Novius, Numa, Opiter, Opiavus, Ovius, Pacvius (Paquius), Paullus, Pescennius (Percennius), Petro, Plancus, Plautus, Pompo, Popidius, Postumus, Primus, Proculus, Retus, Salvius, Secundus, Sertor, Statius, Servius, Tertius, Tirrus, Trebius, Tullus, Turus, Volero, Volusus, Vopiscus. Асабістае імя Pupus (‘хлопчык’) ужывалася толькі ў адносінах да дзяцей.

Хлопчык атрымліваў асабістае імя на восьмы ці дзявяты дзень пасля нараджэння. Існавала традыцыя даваць асабістае імя толькі першым чатыром сынам, а астатнім у якасці асабістага імя маглі служыць парадкавыя лічэбнікі: Quintus – *Квінт* (‘пяты’), Sextus – *Секст* (‘шосты’), Septĭmus – *Септым* (‘сёмы’), Octavius – *Актавій* (‘восьмы’), Decĭmus – *Дэцым* (‘дзясяты’). Пастунова гэтыя імёны сталі агульнаўжывальнымі (ператварыліся ў асабістыя), і чалавек, які насіў імя Секст, не абавязкова быў шостым сынам у сям’і.

Часта старэйшы сын атрымліваў асабістае імя бацькі. Напрыклад, імператар Актавіян Аўгуст насіў, як і яго прапрадзед, прадзед, дзед і бацька, імя Гай.

У некаторых родах ужываўся абмежаваны лік асабістых імёнаў. Напрыклад, у Карнеліяў Сцыпіёнаў былі толькі Гней, Луцый і Публій.

Асабістае імя злачынцы магло быць назаўжды выключана з таго роду, да якога ён належаў.

**Nomen** (радавое імя) было назвай роду і адпавядала, прыблізна, сучаснаму прозвішчу. Радавыя імёны рымскага паходжання ў класічную эпоху заканчваліся на **-ius**: Tullius – *Тулій* (з роду Туліяў), Julius – *Юлій* (з роду Юліяў); у рэспубліканскі час сустракаюцца таксама канчаткі **-is**, **-i**: Caecilis і Caecili – *Цэцылій* (з роду Цэцыліяў). Да радавых імёнаў нерымскага паходжання адносяцца: сабінска-окскія (Alfēnus,

Varēnus і інш.), умбрскія (Maenas, Mafēnas, Asprēnas, Maecēnas, Carrīnas, Fulgīnas і інш.), этрускія (Mastarna, Perperna, Calesterna, Sisenna, Tapsenna, Caecīna, Prastīna, Spurinna і інш.).

У надпісах радавыя імёны, як правіла, пішуцца цалкам; у імперскі час скарачэнню падвяргаліся толькі імёны вельмі вядомых родаў: Aelius – Ael., Antonius – Ant. ці Anton., Aurelius – Avr., Claudius – Cl. ці Clavd., Flavius – Fl. ці Fla., Julius – I. ці Ivl., Pompeius – Pomp., Valerius – Val., Ulpius – Vlp.

Агульны лік радавых іменаў даходзіў да тысячы. Большасць з іх мае такое старажытнае паходжанне, што значэнне іх забыта. Толькі некаторыя маюць выразны сэнс: Caelius ад caecus – *сляпы*, Octavius ад octāvus – *восьмы*, Ovidius ад ovis – *авечка*, Porcius ад porca – свіння і г. д.

Пачынаючы з I ст. да н. э., калі ў Рыме з'явіліся перадумовы для пераходу да адзінаўладдзя, асобы, якія авалодалі вярхоўнай уладай, сталі абгрунтоўваць свае правы на ўладу паходжаннем ад старажытных цароў і герояў. Напрыклад, Юлій Цэзар сцвярджаў, што яго род па бацьку ўзыходзіць да багоў: Юпітэр – Венера – Эней – Юл – род Юліяў.

**Cognōmen**, радавая мянушка, найменне галіны роду, якую калісьці атрымаў хто-небудзь з прадстаўнікоў роду, часта пераходзіла на нашчадкаў і рабілася назвай сям'і ці асобнай галіны роду. Напрыклад, да роду Карнеліяў належалі сем'і Сцыпіёнаў, Руфінаў, Лентулаў і г. д. Наяўнасць cognōmen не абавязковая, і ў некаторых плебейскіх родах (у Марыяў, Антоніяў, Актавіяў і інш.) асабістыя мянушкі, як правіла, адсутнічалі, што, аднак, было выключэннем.

Мянушкі ўзніклі значна пазней, чым асабістыя і радавыя імёны, таму значэнне іх у большасці выпадкаў зразумелае. Яны могуць казаць пра паходжанне роду (Фувіі перасяліліся ў Рым з кампанскага мястэчка Cales і таму мелі мянушку Calēnus), пра памятныя падзеі (у плебейскім родзе Муцыяў з'явілася мянушка Scaevŏla – 'ляўшун' пасля таго як у 508 г. да н. э. падчас вайны з этрускамі Гай Муцый спаліў сваю руку на агні жароўні, чым прывёў у трапятанне ворагаў і іх цара Парсену), пра знешнасць (Crassus – 'тоўсты', Macer – 'худы', Celsus – 'высокі', Paullus – 'невысокі', Rufus – 'руды', Strabo – 'касавокі' і інш.), пра характар (Sevērus – 'жорсткі', Probus – 'сумленны', Lucro – 'абжора' і інш.).

Бывалі выпадкі, калі адзін чалавек меў дзве мянушкі: cognōmen (радавая мянушка) і **agnōmen** (асабістая мянушка). Неабходнасць у з'яўленні agnōmen абумоўлівалася тым, што старэйшы сын часта наследаваў усе тры імёны бацькі, і такім чынам у адной сям'і з'яўлялася некалькі чалавек з аднолькавымі імёнамі. Напрыклад, у знакамітага прамоўцы Марка Тулія Цыцэрона бацька і сын таксама былі Маркі Туліі Цыцэроны.

Калі cognōmen з’яўляўся спадчыннай, радавой мянушкай, то agnōmen часцей за ўсё быў асабістай мянушкай. Часам рымлянін атрымліваў agnōmen за якія-небудзь адмысловыя заслугі. Напрыклад, Публій Карнелій Сцыпіён у гонар перамогі, атрыманай ім над Ганібалам у Афрыцы ў 202 г. да н. э., стаў называцца Афрыканскім (Africānus).

Як правіла, agnōmen мелі прадстаўнікі старажытных і шляхетных родаў, якія налічвалі шмат галін і радавых мянушак. У такіх родах cognōmen часам амаль зліваўся з радавым іменем і ўжываўся непадзельна з ім для назвы роду. Вядомы плебейскі род Цэцыліяў (Caecilii) меў старажытны cognōmen Metellus, значэнне якога забыта. Гэты cognōmen як бы зліўся з назвай роду, які стаў звацца Цэцылііі Метэлы. Натуральна, што амаль усе прадстаўнікі гэтага роду мелі agnōmen.

Некаторыя асобы ў выніку ўсынаўлення мелі два радавыя імёны. Па рымскіх звычаях, усыноўлены прымаў асабістае імя, радавое імя і cognōmen таго, хто яго ўсынаўляў, а сваё радавое імя захоўваў у якасці agnōmen у змененым выглядзе з суфіксам **-ān-**. Гай Актавій, будучы імператар Аўгуст, пасля таго як яго ўсынавіў Гай Юлій Цэзар, атрымаў імя Gajus Julius Caesar Octaviānus – *Гай Юлій Цэзар Актавіян*.

### Жаночыя імёны

У эпоху позняй рэспублікі і ў імператарскі час жанчыны не мелі асабістых імёнаў. Жаночым імем была жаночая форма радавога імя: Tullia – *Тулія* (з роду Туліяў), Julia – *Юлія* (з роду Юліяў), Cornelia – *Карнелія* (з роду Карнеліяў). Паколькі ўсе жанчыны ў адным родзе мелі аднолькавае імя, то ў межах роду яны адрозніваліся па ўзросце. Калі ў сям’і з’яўлялася другая дачка, да імені абедзвюх дадавалі praenōmen: Minor – ‘малодшая’ і Major – ‘старэйшая’; іншыя сёстры празываліся Secunda – ‘другая’, Tertia – ‘трэцяя’, Quintilla – ‘пятая’ і г. д.; praenōmen Minor быў у самай малодшай.

Замужняя жанчына захоўвала сваё імя, але да яго дадаваўся cognōmen яе мужа: Cornelia, filia Cornelii, Gracchi – *Карнелія*, *дачка Карнелія*, (*жонка*) *Гракха*.

Шляхетныя жанчыны маглі насіць акрамя радавога імя cognōmen свайго бацькі; напрыклад, жонка Сулы была дачкой Луцыя Цэцылія Метэла Далматыка і называлася Цэцылія Метэла; жонка імператара Аўгуста была дачкой Марка Лівія Друза Клаўдыяна і называлася Лівія Друзіла.

У надпісах пры імёнах жанчын часам паказваюцца praenōmen і cognōmen бацькі, а таксама cognōmen мужа ў genetīvus singulāris: Caeciliae,

**Duos pariĕtes de eādem fidelia dealbāre.** Бяліць дзве сцяны з аднаго вядра.

**Dura lex**, **sed lex.** Закон суровы, але гэта закон; закон ёсць закон.

**Duro flagello mens docētur rectius.** Моцным бізуном хутчэй навучыш розуму.

**De jure.** Юрыдычна; па праву.

**E fructu arbor cognoscĭtur.** Па плодзе пазнаецца дрэва.

**Eandem incūdem tundĕre.** Біць па адным і тым жа кавадле.

**Ebriĕtas est voluntaria insania.** П’янства – добраахвотнае вар’яцтва.

**Ebriĕtas et amor cuncta secrēta produnt.** П’янства і каханне выдаюць усе тайны.

**Edĭmus**, **ut vivāmus**, **non vivĭmus**, **ut edāmus.** Мы ямо каб жыць, але не жывём, каб есці.

**Electa una via non datur recursus ad altĕram.** Абраўшы адну дарогу, не збочвай на іншую.

**Elephantum ex musca facis.** Ты робіш з мухі слана.

**Emergit verum**, **licet exstant schismăta rerum.** Праўда наверх выходзіць, і нішто ёй не можа зашкодзіць.

**Eo ipso.** З прычыны гэтага; тым самым.

**Epistŭla non erubescit.** Папера не чырванее; папера ўсё трывае (Цыцэрон).

**Ergo.** Такім чынам.

**Errāre humānum est.** «Памыляцца – чалавечая ўласцівасць»; чалавеку ўласціва памыляцца (Сенека).

**Errat homo vere**, **qui credat cuīque placēre.** Глыбока памыляецца той чалавек, які хоча падабацца ўсім.

**Errat interdum quadrŭpes.** Іншым разам спатыкаецца чатырохногі.

**Errāta.** Памылкі друку.

**Esse quam niger es**, **sic dixit caccăbus ollae.** «Глядзі, які ты чорны», – так сказаў кацялок гаршку.

**Est arbuscŭla non truncus curvandus in uncum.** Трэба гнуць у дугу дрэўца, а не сагнуты ствол.

**Est avis in dextra melior quam quattuor extra.** Лепш адна птушка ў правай руцэ, чым чатыры ў паветры (*параўн.*: Лепш верабей у руцэ, чым жораў пад небам).

**Est modus in rebus.** «Ёсць мера ў рэчах»; усяму ёсць мяжа; усё мае сваю меру (Гарацый).

**Est phrasis in puĕro bene consentanea vero.** Слова дзіцяці адпавядае праўдзе.

**Est proprius panis semper omnia mella suavis.** Уласны хлеб заўсёды саладзейшы за мёд (*параўн.*: Свая табака не пяршыць).

**Est rerum omnium magister usus.** Досвед – усяму настаўнік (Цыцэрон).

**Est vita misĕro longa**, **felīci brevis.** Для няшчаснага жыццё доўгае, для шчасліўца – кароткае.

**Esurienti panis cibarius siligineus vidētur.** Галоднаму чорны хлеб здаецца белым (*параўн.*: Галоднаму жывату і пушынка па нутру).

**Et cetĕra (etc.).** І гэтак далей; і іншае.

**Et gaudium et solatium in littĕris.** І радасць, і ўцеха ў навуках.

**Et miseriārum portus est patientia.** Цярпенне – прытулак ад бед.
**Etiam parvŭlae serpentes nocent.** Нават маленькія змеі шкодзяць.
**Ex abrupto.** Без прадмоў; без падрыхтоўкі; адразу; раптам.
**Ex adverso.** Доказ ад процілеглага.
**Ex audītu.** На слых.
**Ex cathĕdra.** «З кафедры»; бясспрэчна; не выклікае сумнення.
**Ex cinĕre in prunas.** З попелу ў жар (*параўн.*: З пекла ды ў агонь).
**Ex consuetudĭne.** Па звычцы; па ўсталяваным звычаі.
**Ex eādem officīna.** З той жа майстэрні.
**Ex juvantĭbus.** Зыходзячы з таго, што дапамагае (спосаб лячэння).
**Ex libris.** «З кніг»; экслібрыс, кніжны знак, які ўтрымлівае імя ўладальніка кнігі.
**Ex lingua stulta veniunt incommŏda multa.** Ад неразумнага языка прыходзіць шмат бедаў (*параўн.*: Языку дай волю – завядзе ў няволю).
**Ex nihĭlo nihil.** З нічога нішто; нішто (не ўзнікае) з нічога (Лукрэцый).
**Ex officio.** Па абавязку.
**Ex orĭbus parvulōrum.** Вуснамі немаўлят.
**Ex oriente lux.** З усходу святло.
**Ex ovis pravis prava creātur avis.** З дрэнных яек вылупляецца дрэнная птушка (*параўн.*: Якая матка, такое й дзіцятка).
**Ex professo.** З веданнем справы.
**Ex tempŏre.** У патрэбны момант; без падрыхтоўкі; адразу.
**Ex ungua leōnem cognoscĭmus**, **ex aurĭbus asĭnum.** Ільва пазнаём па кіпцюрах, а асла – па вушах.
**Ex ungue leōnem pingĕre.** Па кіпцюрах апісваць ільва; судзіць аб цэлым па яго частцы.
**Ex uno flore trahĭtur bene melque venēnum.** З адной кветкі здабываюць і мёд, і атруту.
**Ex verbis fatuus**, **pulsu cognoscĭtur olla.** Дурня пазнаюць па словах, а гаршчок – па ўдару.
**Ex vili socio fit vitiōsus homo.** Распутны сябар псуе і добрага чалавека (*параўн.*: Ліхая хеўра на ліха выведзе).
**Ex voto.** Па абяцанні.
**Exceptis excipiendis.** За выключэннем таго, што павінна быць выключана.
**Exēgi monumentum.** Зрабіў я помнік сабе (Гарацый).
**Exempli gratia (e. g.).** Напрыклад; для прыкладу.
**Expedīte.** Хутка.
**Experientia est optĭma magistra.** Практыка – лепшая настаўніца.
**Exspecta**, **bos**, **olim herbam.** Карова, чакай у будучым травы.
**Extra muros.** «Па-за сценамі»; публічна.
**Extra splendor**, **intra squalor.** Звонку бляск, унутры бруд.
**Extra formam.** Без усякай фармальнасці.

**Faber compĕdes**, **quas facit**, **ipse gestat.** Каваль сам носіць ланцугі, якія робіць.
**Fabricando fit faber.** Майстрам становяцца ў справе.

**Fabrum caedĕre cum ferias fullōnem.** Трапіць у каваля, наносячы ўдары валяльшчыку.

**Fac et spera.** Дзейнічай і спадзявайся.

**Fac simĭle.** «Рабі падобнае»; факсіміле (клішэ з подпісу).

**Fac totum.** «Рабі ўсё»; фактотум, давераная асоба.

**Facĕre farīnam.** Ператвараць у муку́.

**Facĭle dictu**, **difficĭle factu.** Лёгка сказаць, цяжка зрабіць.

**Facĭle omnes**, **cum valēmus**, **recta consilia aegrōtis damus.** Калі мы здаровыя, то лёгка даём хворым добрыя парады.

**Facio**, **ut des.** Раблю, каб ты даў.

**Facio**, **ut facias.** Раблю, каб ты зрабіў.

**Facit experientia cautos.** Вопыт робіць (людзей) асцярожнымі.

**Facit insanīre sanos copia vini.** Празмернае ўжыванне віна адбірае розум і ў разумных.

**Factu scintillae fit saepe perustio villae.** Часта маленькая іскрынка дашчэнту спальвае дом.

**Faecem bibat**, **qui vinum bibit.** Хто п’е віно, няхай п’е і асадак.

**Fama bona volat lente et mala fama repente.** Добры погалас ляціць паволі, дрэнны – хутка.

**Fama clamōsa.** Гучная хвала.

**Fames artium magistra.** Голад – настаўнік рамёстваў.

**Fames est optĭmus coquus.** Голад – лепшы кухар.

**Familiarĭter.** Па-сяброўску; папросту.

**Fas atque nefas.** Дазволенае і недазволенае.

**Fascĭbus excolĭtur**, **ut amictu quis redimītur.** Як хто апранаецца, такімі пашанамі і надзяляецца.

**Favēte linguis.** Сціхніце; прытрымайце языкі.

**Feci**, **quod potui**, **faciant meliōra potentes.** Я зрабіў усё, што мог; хай, хто можа, зробіць лепей.

**Felicĭtas humāna numquam in eōdem statu permănet.** Чалавечае шчасце ніколі не бывае трывалым.

**Felicĭtas multos habet amīcos.** У шчасця шмат сяброў.

**Felicitātem ingentem anĭmus ingens decet.** Вялікаму духам пасуе вялікае шчасце.

**Felix crimĭnĭbus nullus erit diu.** Ніхто не будзе доўга шчаслівы злачынствам.

**Felix**, **qui nihil debet.** Шчаслівы той, хто нічога не вінен.

**Felix**, **qui potuit rerum cognoscĕre causas.** Шчаслівы той, хто здолеў спазнаць прычыны рэчаў (Вергілій).

**Feriunt summos fulgŭra montes.** Маланкі б’юць у высокія горы.

**Ferro ignīque.** Агнём ды мячом.

**Ferrum ferro acuĭtur.** Жалеза вострыцца жалезам.

**Ferrum natāre doces.** Ты вучыш жалеза плаваць.

**Ferrum quando calet**, **cudĕre quisque valet.** Кожнаму па сілах каваць жалеза, пакуль яно гарачае.

**Festīna lente.** Спяшайся марудна.

**Festinatio tarda est.** Паспешлівасць марудліва.

**Fiat lux**! Хай будзе святло!

**Fide**, **sed cui fidas**, **vide.** Давярай, але глядзі, каму давяраеш; будзь уважлівы.

**Fidĕlis et fortis.** Надзейны і смелы.

**Figŭlus figŭlo invĭdet**, **faber fabro.** Ганчар зайздросціць ганчару, майстар – майстру.

**Finis ab origĭne pendet.** Канец залежыць ад пачатку.

**Finis corōnat opus.** Канец вянчае справу.

**Flagrante delicto.** На месцы злачынства.

**Flamma fumo est proxĭma.** Полымя бліжэй усяго да дыму (*параўн.*: Дзе дым, там і полымя).

**Folio verso (f. v.).** На наступнай старонцы.

**Fontĭbus ex modĭcis concrescit maxĭmus amnis.** З невялікіх крыніц вырастае вялікая рака.

**Formalĭter et specialĭter.** Фармальна і ў асобнасці.

**Fortes fortūna adjŭvat.** Храбрым лёс дапамагае.

**Fortĭter in re**, **suavĭter in modo.** Цвёрда ў справе, мякка ў карыстанні; упарта дабівацца мэты, дзейнічаючы мякка.

**Fortūna favet fatuis.** Шчасце дурняў любіць.

**Fortūna quo se**, **eōdem et inclīnat favor.** Дзе шчасце, там і поспех.

**Fortūna unde alĭquid fregit**, **cassum penĭtus est.** Калі лёс што-небудзь ламае, то знішчае дашчэнту.

**Fortūna usu dat multa**, **mancipio nihil.** Лёс шмат што дае ў карыстанне, але нічога ва ўласнасць.

**Fortūnae filius.** Сын Фартуны.

**Fortunātus domi maneat.** Шчаслівы няхай застаецца дома (*параўн*: Ад добрага лепшага не шукаюць).

**Fronti nulla fides.** Знешнасці аніякага даверу.

**Fructus tempŏrum.** Плён часу.

**Fruĕre vita**, **dum vivis.** Цешся жыццём, пакуль жывеш.

**Fugit irrevocabĭle tempus.** Бяжыць незваротны час (Вергілій).

**Fumum patĭmur propter ignem.** Мы церпім дым з-за агню.

**Fundĭtus.** Дашчэнту; ушчэнт.

**Galeātum sero duelli poenĭtet.** Узброенаму позна шкадаваць аб вайне.

**Gallīnam dat**, **ut taurum recipiat.** Дае курыцу, каб атрымаць быка (*параўн.*: Гаршчок на гліну мяняць).

**Gallus in suo sterquilinio plurĭmum potest.** І певень на сваім сметніку ўсемагутны.

**Garrŭlus esse cave: qui garrit**, **ineptus habētur.** Сцеражыся быць балбатлівым: хто меле языком, той лічыцца неразумным.

**Gaudet patientia duris.** Доўгатрыванне перамагае.

**Gaudia principium nostri sunt saepe dolōris.** Радасць часта з’яўляецца пачаткам нашага гора.

**Generalĭter.** Зусім.

**Gladium facĕre culcĭtam.** Зрабіць падушку з мяча; пакончыць з сабою.

**Gladius ferit corpus**, **anĭmos oratio.** Меч раніць цела, а слова – душу.

**Gloria victorĭbus.** Хвала пераможцам.

**Grata**, **rata et accepta.** Пажадана, законна і дапушчальна.

**Gratia parit gratiam.** Удзячнасць спараджае ўдзячнасць.

**Gratis.** Бясплатна; дарма.

**Gratulāri.** Радавацца (свайму шчасцю).

**Grave tormentum fames.** Голад – цяжкая му́ка.

**Grex totus in agris unīus scabie cadit.** Увесь статак гіне ў полі з-за паршы адной авечкі (*параўн.*: Праз аднаго барана ўвесь статак паганы).

**Grosso modo.** У агульных рысах.

**Grunnit porcellus**, **ut sus vetus ante**, **tenellus.** Малое парася рохкае так, як рохкала старая свіння (*параўн.*: Якая хатка, такі і тын, які бацька, такі і сын).

**Gutta cavat lapĭdem.** Кропля дзяўбе камень (Авідзій).

**Gyrat rependo prius infans**, **quam gradiendo.** Дзіця павінна поўзаць перш, чым пачне хадзіць.

**Habeat sibi.** Трымай пры сабе.

**Habent sua fata libelli.** І кнігі маюць свой лёс (Тэрэнцыян Маўр).

**Habent sua sidĕra lites.** Лёс рашае спрэчкі.

**Habĭtus.** Знешні выгляд.

**Haec dies aliam vitam**, **alios mores postŭlat.** Гэты дзень патрабуе іншага ладу жыцця, іншых звычаяў.

**Herēdis fletus sub persōna risus est.** Плач нашчадка – замаскіраваны смех.

**Hic et nunc.** «Тут і цяпер»; адразу ж; без маруднасці.

**Hic locus est**, **ubi mors gaudet succurrĕre vitae.** Вось месца, дзе смерць ахвотна дапамагае жыццю (надпіс на Парыжскім анатамічным тэатры).

**His olus**, **his oleum sapit**, **ergo vasta fit esca.** Адным здаецца смачнай гароднiна, іншым – масла, таму ежа бывае рознай (*параўн.*: Хто любіць гарбуз, а хто – гуркі).

**Historia magistra vitae.** Гісторыя – настаўніца жыцця (Цыцэрон).

**Hoc est (h. e.).** Гэта значыць.

**Hoc loco.** Тут; у гэтым месцы.

**Hoc volo**, **sic jubeo.** Гэтага я хачу і так загадваю.

**Homagium.** Даніну павагі.

**Homĭnes amplius ocŭlis**, **quam aurĭbus credunt.** Людзі болей вераць вачам, чым вушам.

**Homĭnes nihil agendo discunt male agĕre.** Нічога не робячы, людзі вучацца рабіць зло.

**Homo doctus in se semper divitias habet.** Вучоны чалавек заўсёды мае багацце ў самім сабе.

**Homo hebes.** Абмежаваны чалавек.

**Homo homĭni lupus est.** Чалавек чалавеку воўк (Плаўт).

**Homo incertae origĭnis.** Чалавек невядомага паходжання.

**Homo longus raro sapiens.** Высокі чалавек рэдка бывае мудрым.

**Homo ornat locum**, **non locus homĭnem.** Не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек – месца.

**Homo propōnit**, **sed Deus dispōnit.** Чалавек мяркуе, а Бог вызначае.

**Homo quisque fortūnae faber.** Кожны чалавек – каваль свайго лёсу.

**Homo sapiens.** Чалавек разумны.

**Homo semper in ore aliud fert**, **aliud cogĭtat.** Чалавек заўсёды гаворыць адно, а думае іншае.

**Homo sum et nihil humāni a me aliēnum puto.** Я чалавек, і нішто чалавечае мне не чужое (Тэрэнцый).

**Honeste paupĕrem esse melius est**, **quam injuste divĭtem.** Лепш быць сумленным бедняком, чым несумленным багацеем (*параўн.*: Беднасць не адбярэ ні чэсці, ні розуму).

**Honor est ingrātus**, **si**, **unde vivas**, **non habes.** Не патрэбны і гонар, калі не маеш на што жыць.

**Honōres mutant mores et raro in meliōres.** Пашана змяняе норавы, і рэдка ў лепшы бок.

**Honōris causa.** Дзеля пашаны; дзеля павагі.

**Horret idem claudi situs ante capedĭne sacci.** Баіцца трапіць у мех той, хто ў ім раней быў.

**Horribĭle dictu.** Жудасна сказаць; жудасна вымавіць.

**Humĭles labōrant**, **ubi potentes dissĭdent.** Простыя людзі пакутуюць, калі вяльможы б'юцца паміж сабой (*параўн.*: Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць).

**Ibi bene**, **ubi patria.** Там добра, дзе радзіма.

**Ibi victoria**, **ubi concordia.** Там перамога, дзе згода.

**Ibĭdem.** Тамсама.

**Id est (i. e.).** Гэта значыць.

**Idem per idem.** Тое ж самае праз тое ж самае; адно і тое ж.

**Idem.** Тое ж самае; так жа.

**Ignem flammēsus timet atque canem cane laesus.** Як пагарэлец баіцца агню, так укушаны сабакам баіцца сабакі.

**Ignorantia non est argumentum.** Няведанне – гэта не доказ (Спіноза).

**Imperāre sibi maxĭmum imperium est.** Кіраваць сабою – вялікая ўлада (Сенека).

**Imperium blandum imperiosissĭmum.** Мяккая ўлада – самая моцная.

**In abstracto.** Абстрактна.

**In aeternum.** Навек; назаўжды.

**In altum tendens cadit ab alto.** Хто высока ўзлятае, той адтуль і падае.

**In amōre semper mendax iracundia est.** У каханні гнеў заўсёды падманлівы.

**In angello cum libello.** «У кутку і з кніжкай»; адасобіцца з кнігай.

**In brevi.** Коратка.

**In caelum exspuis.** Ты плюеш у неба.

**In camĕra caritātis.** «Пад купалам павагі»; адзін на адзін з кім-небудзь.

**In corpŏre.** У поўным складзе; у сукупнасці.

**In deposĭto.** На захоўванне.

**In discendo lupus nimis affirmans ait «agnus».** Калі вучыш ваўка гаварыць, ён заўсёды скажа: «ягня».

**In extenso.** Цалкам; літаральна.

**In extrēmis.** У апошні момант.

**In favōrem.** На карысць кагосьці; для карысці.

**In hoc statu.** У такім становішчы.

**In loco.** На месцы.

**In lympha tacĭta truciōra latent aconīta.** У ціхай вадзе хаваецца больш грозная атрута (*параўн.*: У ціхім балоце чэрці растуць).

**In magno magni capiuntur flumĭne pisces.** У вялікай рацэ водзіцца вялікая рыба.

**In malis sperāre bene**, **nisi innŏcens**, **nemo solet.** У бядзе ніхто, акрамя сумленнага чалавека, не спадзяецца на лепшае.

**In medias res.** У самую гушчу падзей (Гарацый).

**In memoriam.** У памяць.

**In natūra.** У сапраўднасці.

**In nocte consilium.** Рашэнне прыходзіць ноччу (*параўн.*: Пераначуем, то болей пачуем).

**In nullum avārus bonus est**, **in se pessĭmus.** Скупы для ўсіх дрэнны, а для сябе – самы дрэнны.

**In oriente domo.** У доме ўзыходзячага сонца; у шчаслівых абставінах.

**In pertūsum ingerĕre dicta dolium.** Кідаць словы ў бяздонную бочку.

**In pleno.** У поўным складзе.

**In propria persōna.** Уласнай асобай.

**In quo nascētur asĭnus corio**, **moriētur.** У якой шкуры асёл народзіцца, у такой і памрэ (*параўн.*: Чорнае белым не стане).

**In rerum natūra.** У прыродзе рэчаў.

**In silvam ligna ferre.** Насіць дровы ў лес (*параўн.*: У студню вады не ліюць, а ў лес дроў не вязуць).

**In spe.** У надзеі; у будучыні.

**In statu nascendi.** У стане зараджэння; у самым пачатку; у момант з'яўлення.

**In statu quo ante.** У ранейшым становішчы; у ранейшым стане.

**In toto.** У цэлым.

**In transĭtu.** На хаду.

**In tuum ipsīus sinum inspĭce.** Паглядзі на самога сябе.

**In tyrrannos.** Супроць тыранаў.

**In usu.** Ва ўжыванні.

**In vino verĭtas.** Праўда ў віне (*параўн.*: Малое і п'янoe праўду скажуць; Што цвярозы думае, п'яны скажа).

**In pace.** У міру; у спакоі.

**In corpŏre.** У поўным складзе; у цэлым.

**Incēdunt albāti ad exsequias**, **pullāti ad nuptias.** На пахаванне яны ідуць у белым адзенні, а на вяселле – у чорным.

**Incerta pro certis depŭtas.** Ты прымаеш няпэўнае за пэўнае.

**Incĭdit in foveam, quam fecit altĕri.** Ён трапіў у яму, якую вырыў іншаму (*параўн.*: Хто яму капае, той сам туды трапляе).

**Incognĭto.** Патаемна; хаваючы сваё сапраўднае імя.

**Incredibĭli dictu.** Неверагодна.

**Incus robusta malleum non metuit.** Моцнае кавадла не баіцца молата.

**Inde ira.** Адгэтуль гнеў.

**Index librōrum.** Спіс кніг.

**Index.** Змест; спіс.

**Inest et formīcae bilis.** І ў мурашкі бывае жаўтуха.

**Infandum renovāre dolōrem.** Жудасна зноў уваскрашаць боль.

**Infelicitātis partem interdum habet felicĭtas.** Шчасце змяшчае ў сабе іншы раз часцінку няшчасця.

**Infēlix mus est, cui non uno lare plus est.** Няшчасная тая мыш, што мае толькі адну нару.

**Ingenio pollet, qui vim natūra negāvit.** Розумам бярэ той, каму прырода адмовіла ў сіле.

**Ingenium mala saepe movent.** Часта бяда прыбаўляе розуму.

**Ingentībus inhians divitiis etiam mediŏcres amittit.** Хто прагне вялікага багацця, губляе нават сярэдняе.

**Injuria reālis.** Абраза дзеяннем.

**Injuria verbālis.** Абраза словам.

**Inŏpi beneficium bis dat, qui dat celerĭter.** Беднаму ўдвайне робіць дабрадзейства той, хто робіць гэта хутка.

**Inŏpi nullus amīcus.** У беднага няма сябра.

**Inter os atque offam multa intervenīre potest.** Паміж кавалкам і ротам шмат чаго можа здарыцца.

**Inter pariĕtes.** У чатырох сценах.

**Inter spem metumque suspensus.** Які хістаецца паміж надзеяй і страхам.

**Intra mensūram lodīcis tu porrĭge suram.** Працягвай свае ногі па даўжыні коўдры.

**Invēnit interdum caeca columba pisum.** І сляпы голуб іншы раз знаходзіць гарох.

**Invēnit patella opercŭlum.** Знайшоў сабе рондаль накрыўку.

**Ipse dixit.** «Сам сказаў» (аб няўхільным аўтарытэце).

**Ipsi testudĭnes edĭte, qui cepistis.** Вы злавілі чарапах, самі іх і ешце.

**Ipsissĭma verba.** Слова ў слова.

**Ipso facto.** З прычыны відавочнага факту.

**Ipsum sibi asciam in crus impingĕre.** Самому сабе ўвагнаць сякеру ў нагу.

**Irrētit muscas, transmittit aranea vespas.** Павуціна ловіць мух і прапускае вос.

**Is fecit, cui prodest.** Зрабіў той, каму выгадна.

**Ita crede amīco, ne sit inimīco locus.** Давярай сябру так, каб ён не зрабіўся падобным да ворага.

**Ite, missa est.** Ідзіце, усё скончана.

**Item.** Так жа.

**Jurāre in verba magistri.** Клясціся словамі настаўніка.

**Jure.** Па праве.

**Labĭtur a mente cito res bona, sed mala lente.** Дабро хутка забываецца, зло доўга помніцца.

**Labor corpus firmat.** Праца ўзмацняе цела.

**Labor imprōbus.** Упартая праца.

**Labor omnia vincit (imprōbus).** Усё перамагае (упартая) праца.

**Lacrĭmae nihil profutūrae.** Слёзы нічым не дапамогуць (*параўн.*: Плач, галасі, а рады не дасі).

**Laedĭtur Urbānus, non claudĭcat inde Romānus.** Пакалечыў сабе нагу Урбан, але не кульгае з-за гэтага Раман.

**Lapis offensiōnis.** Камень спатыкнення.

**Lapis saepe volutātus non obducĭtur musco.** Жорны, якія часта круцяць, мохам не абрастаюць.

**Lapsus calămi.** «Памылка пяра»; апіска.

**Lapsus linguae.** «Памылка языка»; абмоўка.

**Lapsus memoriae.** «Памылка памяці»; няпамятлівасць.

**Larga manu.** Шчодра.

**Latĕrem lavāre.** Мыць цэглу; дарма працаваць.

**Laus in ore proprio vilescit.** Уласная пахвала нічога не варта.

**Lege artis.** Па ўсіх правілах мастацтва.

**Lege.** Па законе.

**Legem brevem esse oportet.** Закон павінен быць кароткі.

**Leve fit, quod bene fertur, onus.** Цяжар, які ўмела носяць, робіцца лёгкім.

**Licĭtum sit.** Хай будзе дазволена.

**Linquĕre promissa procellae.** Пакідаць абяцанні навальніцы.

**Littĕra scripta manet.** Напісанае застаецца.

**Littĕra semper habet panem vestemque parātam.** Пісьменны чалавек заўсёды мае хлеб і гатовае адзенне.

**Locus minōris resistentiae.** Месца найменшага супраціву.

**Loro mandendo discit canis corium universum mandĕre.** Грызучы рамень, сабака вучыцца грызці ўсю шкуру.

**Lota licet cornix, tamen enĭtet albidior vix.** Хоць варона пер'е і купала, бялейшая ад гэтага не стала (*параўн.*: Варона колькі ні мыецца, усё адно чорная).

**Loco citāto (l. c.).** На ўзгаданым месцы.

**Loco laudāto (l. l.).** На названым месцы.

**Lucri bonus est odor ex re qualĭbet.** Пах прыбытку прыемны, ад чаго б ён ні зыходзіў.

**Lupi fauci manum ne committe.** Не кладзі руку ў пашчу ваўку.

**Lupi me vidērunt priōres.** Ваўкі ўбачылі мяне першыя.

**Lupus in fabŭla.** «Воўк у байцы»; пра воўка прамоўка, а воўк і тут; лёгкі на ўспамін (Тэрэнцый).

**Lupus malus ovium custos.** Воўк – дрэнны вартаўнік для авечак.

**Lupus pilum mutat, non mentem.** Воўк мяняе шкуру, але не нораў (*параўн.*: Воўка як ні гадуй, усё ў лес пазірае).

**Lupus vetus non cadit in foveam.** Стары воўк не трапляе ў яму.

**Macte**! Выдатна!

**Mage cavenda est amicōrum invidia, quam insidia hostium.** Варта больш асцерагацца зайздрасці сяброў, чым падкопаў ворагаў.

**Magister artis ingeniīque largītor venter.** Настаўнік мастацтва і падбухторшчык натхнення – страўнік.

**Magister dixit.** Гэта сказаў настаўнік (спасылка на безумоўны аўтарытэт).

**Magistra vitae.** Настаўніца жыцця.

**Magna et verĭtas, et praevalēbit.** Няма нічога па-над праўдай, і яна пераможа.

**Magna promisisti, exigua video.** Шмат ты абяцаў, але мала бачу.

**Magnam fortūnam magnus etiam anĭmus decet.** Вялікаму духам пасуе вялікі лёс.

**Magno cum conātu magnas nudas.** Вялікія намаганні дзеля вялікіх дробязей.

**Majorĭbus reddi.** Адпраўляцца да продкаў.

**Mala fide.** Няшчыра; нячэсна.

**Mala gallīna malum ovum.** Дрэнная курыца – дрэннае яйка.

**Mala herba cito crescit.** Дрэнная трава (пустазелле) хутка расце.

**Mala lucra aequalia damnis.** Несумленны прыбытак роўны страце.

**Male parta cito dilabuntur memoria.** Дрэнна набытае хутка забываецца.

**Male parta male dilabuntur.** Што несумленна здабыта, тое прахам пойдзе.

**Malo cum Platōne errāre, quam cum aliis recte sentīre.** Я лічу за лепшае памыляцца з Платонам, чым правільна думаць з іншымі людзьмі.

**Malum consilium consultōri pessĭmum est.** Дрэнная парада для дарадчыка горш за ўсё.

**Malum consilium est, quod mutāri potest.** Дрэннае тое рашэнне, якое можа быць зменена.

**Malum nullum est sine alĭquo bono.** Не бывае ліха без якогасьці дабра (*параўн.*: Няма такога зла, каб з яго камусь не выйшла дабра).

**Malum vas non frangĭtur.** Дрэнная пасудзіна не б’ецца.

**Malus ipse fies, si malis convixĕris.** Сам зробішся дрэнным, калі з дрэннымі будзеш вадзіцца (*параўн.*: Адзін другога даводзіць да ліхога).

**Maneat nostros ea cura nepōtes.** Няхай гэты клопат застанецца нашым унукам.

**Manu propria.** Асабіста.

**Manus manum lavat.** Рука руку мые (*параўн.*: Рука руку мые, чорт чорта крые).

**Mare verbōrum, gutta rerum.** Мора слоў – кропля спраў.

**Margarītas ante porcas.** Пацеркі перад свіннямі (кідаць).

**Massa panis esurienti auro carior.** Галоднаму кавалак хлеба даражэйшы за золата (*параўн.*: Галоднаму жывату і пушынка па нутру).

**Matūra, dum libīdo manet.** Спяшайся, пакуль ахвота не прайшла.

**Mea culpa, mea maxĭma culpa.** Мая віна, мая найвялікшая віна.

**Media et remedia.** Спосабы і сродкі.

**Medĭca mente non medicamentis.** Лячы розумам, а не лекамі.

**Mel in ore**, **verba lactis**, **fel in corde**, **fraus in factis.** Мёд на языку, малако на словах, жоўць у сэрцы, падман у справе.

**Melior est canis vivus leōne mortuo.** Жывы сабака лепш за мёртвага льва.

**Melior est consulta tardĭtas**, **quam temeraria celerĭtas.** Лепш разумная павольнасць, чым безразважлівая хуткасць.

**Melior tutiorque est certa pax**, **quam sperāta victoria.** Лепш і надзейней пэўны мір, чым чакаемая перамога.

**Meliōra spero.** Спадзяюся на лепшае.

**Melius aliquid**, **quam nihil.** Лепш што-небудзь, чым нічога (*параўн.*: Лепей мала, чым нічога).

**Melius est abundāre**, **quam deficĕre.** Лепш мець у дастатку, чым у нястачы.

**Melius est nomen bonum**, **quam magnae divitae.** Лепш добрае імя, чым вялікае багацце.

**Memento mori.** Памятай, што ты памрэш.

**Mendācem memŏrem esse oportet.** Ілгуну трэба мець добрую памяць.

**Mendāci homĭni verum quidem dicenti credĕre non solēmus.** Хлусліваму чалавеку мы не верым, нават калі ён гаворыць праўду.

**Mendacia non diu fallunt.** Хлусня не доўга падманвае.

**Mendacium est tenue**, **dilūcet undĭque.** Хлусня празрыстая, яна ўсюды выяўляецца.

**Mendīci pera nunquam implētur.** Торбу жабрака ніколі не напоўніш.

**Mendīco ne parentes quidem amīci sunt.** У жабрака няма ні бацькоў, ні сяброў.

**Mens sana in corpŏre sano.** У здаровым целе – здаровы дух (Ювенал).

**Meo voto.** Па маім меркаванні.

**Messe tenus propria vive.** Жыві па сваім жніве (*г. зн.* па сваіх магчымасцях).

**Metīri se quemque suo modŭlo ac pede verum est.** Праўда тая, што кожны мерае сябе сваёю меркаю.

**Metus omnia auget in majus.** Страх усё павялічвае (*параўн.*: Хто баіцца, таму ўваччу дваіцца).

**Mihi istic nec serĭtur**, **nec metĭtur.** Ад гэтага мне ні сяўбы, ні жніва.

**Milvo volanti ungues resecāre posse.** Быць здатным каршуну на ляту абрэзаць кіпцюры.

**Minaciārum strepĭtus – asinōrum crepĭtus.** Гучанне пагроз – асліны тупат.

**Minĭmum.** Самае малое, мінімум.

**Minutŭla pluvia imbrem parit.** З малой хмаркі вялікі дождж.

**Miser**, **qui nunquam miser.** Нешчаслівы той, хто ніколі не быў няшчасным.

**Misĕris succurrĕre disce.** Вучыся дапамагаць няшчасным.

**Modĭcus cibi**, **medĭcus sibi.** Хто памяркоўны ў ежы, той лекар сам сабе.

**Modus agendi.** Вобраз дзеянняў.

**Modus dicendi.** Спосаб выказвання.

**Modus vivendi.** Вобраз жыцця.

**Mollĭter vivit.** Добра жывецца.

**Mors nescit legem**, **tollit cum paupĕre regem.** Смерць не ведае закону, забірае разам з бедняком і цара (*параўн.*: Смерць не разбірае, каго забірае).

**Mortem timēre crudelius est quam mori.** Баяцца смерці – горш, чым памерці.

**Motu proprio.** Па ўласнай ініцыятыве.

**Mulgēre hircum.** Даіць казла.

**Multa docet fames.** Голад многаму навучыць.

**Multa sunt in morĭbus dissentanea multa**, **sine ratiōne.** У звычаях чалавечых шмат разнастайнасці і шмат недарэчнасці.

**Multae manus onus levant.** Шмат рук аблягчаюць цяжар.

**Multum in parvo.** Шмат у малым.

**Multum vinum bibĕre – non diu vivĕre.** Шмат віна піць – нядоўга жыць.

**Multum**, **non multa.** Шмат, але не многа.

**Mutātis mutandis.** Са зменамі.

**Mutāto nomĭne.** Пад іншай назвай.

**Nasci in felīci signo.** Нарадзіцца пад шчаслівым знакам.

**Naturalia non sunt turpia.** Натуральнае не ганебна; не трэба саромецца таго, што натуральна.

**Natūram expellas furca**, **tamen usque recurret.** Гані прыроду віламі, але яна ўсё роўна вернецца.

**Ne accessĕris in consilium nisi vocātus.** Не хадзі ў раду, калі не запрашалі.

**Ne depugnes in aliēno negotio.** Не ўмешвайся ў чужыя справы.

**Ne diffĕras in crastĭnum.** Не адкладай на заўтра.

**Ne Juppĭter quidem omnĭbus placet.** Нават сам Юпітэр не дагодзіць усім.

**Ne noceas**, **si juvāre non potes.** Не шкодзь, калі не можаш дапамагчы.

**Ne quid nimis.** Не парушай меры; нічога задужа.

**Ne sus Minervam.** Не свінні Мінерву (вучыць).

**Ne variētur.** Змене не падлягае.

**Ne verba pro farīna.** Не словы патрэбны, а му́ка (*г. зн.* справы).

**Nec plus ultra.** Далей няма куды; крайняя ступень.

**Nec sutor ultra crepĭdam.** Не судзі аб тым, чаго не ведаеш.

**Nec vola nec vestigium appāret (exstat).** Не відаць ні далоні, ні следу; і следу не засталося.

**Necessĭtas est durum telum.** Неабходнасць – моцная зброя.

**Nefas.** Несправядлівасць.

**Nemĭne contradicente.** Без пярэчанняў; аднагалосна.

**Nemĭnem cito laudavĕris**, **nemĭnem cito accusavĕris.** Нікога не спяшайся ні хваліць, ні ганіць (Сенека).

**Nemo impetrāre potest a papa bullam nunquam monendi.** Нікога нават папа не можа ўратаваць ад смерці.

**Nemo judex in causa sua.** Ніхто не суддзя ў сваёй справе.

**Nemo nascĭtur doctus.** Ніхто не нараджаецца вучоным.

**Nemo omnia potest scire.** Ніхто не можа ўсё ведаць.

**Nemo potest dura natūrae solvĕre jura.** Ніхто не можа змяніць суровыя законы прыроды.

**Nemo sine vitiis nascĭtur.** Ніхто не нараджаецца без заганаў.

**Nemo solus satis sapit.** Адзін чалавек не можа быць дастаткова разумным.

**Neque in bona segĕte nullum est spicum nequam**, **neque in mala non alĭquod bonum.** Ні добрай ніве не бывае без дрэннага коласа, ні дрэннай – без добрага.

**Neque semper arcum tendit Apollo.** Не заўсёды нацягвае свой лук Апалон; не заўсёды ж займацца сур’ёзнай справай.

**Nervus rerum.** Галоўная справа; найважнейшы сродак.

**Nescit plebs jejūna timēre.** Не ўмее галодны натоўп баяцца.

**Nescit vox missa reverti.** Прамоўленае слова нельга вярнуць (*параўн.*: Выказанага слова да губы не вернеш).

**Nihil contemnit esuriens.** Галодны нічым не грэбуе (*параўн.*: Галодны прысмакаў не пытае).

**Nihil est annis velocius.** Няма нічога больш хуткага, чым бег гадоў.

**Nihil lucrātur**, **ausus cui nil famulātur.** Нічога не выйграе той, хто не рызыкуе.

**Nihil semper suo statu manet.** Нішто не застаецца заўсёды ў сваім стане.

**Nil admirāri.** Нічому не здзіўляцца.

**Nil consuetudĭne majus.** Няма нічога мацней за прывычкі.

**Nil de nihĭlo fit.** Нішто не з’яўляецца з нічога.

**Nil juvat amisso claudĕre septa grege.** Не дапаможа агароджа, калі прапаў статак.

**Nil magis amat cupidĭtas**, **quam quod non licet.** Страсць нічога не любіць больш за тое, што забаронена.

**Nimia libertas in nimiam servitūtem cadit.** Празмерная свабода прыводзіць да празмернага рабства.

**Nimium ne crede colōri.** Не надта давярай колеру (знешняму выгляду).

**Nitĭmur in vetitūra**, **semper cupimusque negāta.** Мы заўсёды імкнёмся да забароненага і жадаем недазволенага.

**Noli me tangĕre.** Не дакранайся да мяне.

**Noli nocēre.** Не шкодзь.

**Nomen est omen.** Імя гаворыць само за сябе.

**Nomen nescio (n. n.).** «Імя не ведаю»; нейкая асоба.

**Non bis in idem.** Двойчы за адно і тое ж нельга караць.

**Non clangunt lituo tempŏre fata suo.** Смерць, прыходзячы ў свой час, не гудзіць у сігнальны ражок (*параўн.*: Смерць ускоча, калі захоча).

**Non coquus semper**, **cui longus culter adhaeret.** Не заўсёды кухар той, у каго доўгі нож.

**Non est ad astra mollis e terra via.** Цяжкая дарога ад зямлі да зорак.

**Non est tritĭcum sine paleis.** Не бывае пшаніцы без мякіны.

**Non est vitam invenīre sine tristitia in ullo.** Не бывае чалавечага жыцця без смутку.

**Non jacet in molli veneranda scientia lecto.** Глыбокія веды не ляжаць на мяккім ложку.

**Non liquet.** Не зразумела.

**Non male respondit**, **male enim prior ille rogavĕrat.** Не ён дрэнна адказаў, а ў яго папярэдне дрэнна запыталі.

**Non nostrum onus**: **bos clitellas.** Не наш груз: няхай вол (нясе) сядло.

**Non omnia possŭmus.** Не на ўсё мы здольныя.

**Non omnis error stultitia est.** Не ўсякая памылка – бязглуздая.

**Non progrĕdi est regrĕdi.** Не ісці наперад – значыць ісці назад.

**Non quod candet ebur**, **nec quod rubet omne aurum.** Не ўсё белае – слановая косць, не ўсё чырвонае – золата (*параўн.*: Не ўсё мёд, што салодкае).

**Non scholae**, **sed vitae discĭmus.** Мы вучымся не дзеля вучэння, але для жыцця.

**Non sibi**, **sed patriae natus es.** Не для сябе, але для радзімы ты нарадзіўся.

**Non uno luna nitet vultu.** Не адным бокам свеціць месяц.

**Nosce te ipsum.** Спазнай самога сябе (Фалес).

**Nota bene (NB).** Звярні ўвагу; заўваж добра.

**Novus rex**, **nova lex.** Новы цар – новы закон (*параўн.*: Новы гаспадар – і новы парадак).

**Nudis verbis.** Галаслоўна.

**Nulla aetas ad discendum sera.** Вучыцца ніколі не позна.

**Nulla dies sine linea.** Ніводнага дня без радка (Пліній).

**Nulla regŭla sine exceptiōne.** Няма правілаў без выключэння.

**Nullum malum sine alĭquo bono.** Няма кепскага без добрага (*параўн.*: Няма нічога ліхога, каб на добрае не выйшла).

**Nullus tantus quaestus**, **quam**, **quod habens**, **parcĕre.** Няма большага дастатку, чым берагчы тое, што маеш.

**Nummis potior amīcus in pericŭlis.** У небяспецы сябар даражэй за грошы.

**Nummus nummum parit.** Грошы нараджаюць грошы (*параўн.*: У каго дабро вядзецца, у таго й певень нясецца).

**Nunc plaudĭte!** Зараз апладзіруйце!

**Nunquam petrorsum**, **semper ingrediendum.** Не кроку назад, заўжды наперад.

**O tempŏra**, **o mores**! О часы, о норавы!

**Obsequium amīcos**, **verĭtas odium parit.** Падатлівасць стварае сяброў, а праўда спараджае нянавісць.

**Ocŭli avidiōres sunt**, **quam venter.** Вочы больш прагныя, чым жывот.

**Ocŭlis magis habenda fides**, **quam aurĭbus.** Вачам варта больш давяраць, чым вушам.

**Oleum addĕre camīno.** Дадаваць масла ў агонь.

**Ollŭla tam fertur ad aquam**, **quod fracta refertur.** Так доўга са збанам па ваду ходзім, пакуль яго не разаб'ём.

**Omne initium difficĭle est.** Кожны пачатак цяжкі (*параўн.*: Найцяжэй, пакуль з месца).

**Omne malum cito accēdit**, **tarde discēdit.** Кожнае зло хутка прыходзіць, марудна адыходзіць.

**Omne nimium nocet.** Усё залішняе шкодзіць.

**Omnes divitiae virtūti postponendae sunt.** Прыстойнасць лепш за ўсякае багацце.

**Omnes et singŭlos.** Разам і паасобку.

**Omnes homĭnes ad quaestum suum callent.** Усе людзі разбіраюцца ў тым, што тычыцца іх выгады.

**Omnes homĭnes aequāles sunt.** Усе людзі роўныя.

**Omnia fames dulcia facit praeter se ipsam.** Голад, апрача самога сябе, усё робіць салодкім (*параўн.*: Галоднаму жывату і пушынка па нутру).

**Omnia incĭpis**, **nihil absolvis.** За ўсё бярэшся – нічога не канчаеш.

**Omnia mea mecum porto.** Усё сваё нашу з сабою (Біант, адзін з сямі мудрацоў; пра духоўнае багацце).

**Omnia praeclāra rara.** Усё выдатнае рэдка.

**Omnia tempus habent.** Усё мае (свой) час (*параўн.*: На ўсё свой час).

**Omnis musae mancipium.** Служка любой Музы; майстар на ўсе рукі (*параўн.*: Рукі на ўсе штукі; Штукар на ўсякія штукі).

**Omnis sibi malle melius esse quam altĕri.** Кожны сябе любіць больш, чым другога.

**Omnium consensu.** З агульнай згоды.

**Omnium malōrum orīgo otium.** Гультайства – пачатак усіх бед.

**Omnium malōrum stultitia est mater.** Глупства – маці ўсіх няшчасцяў.

**Opĕra et studio.** Працай і намаганнем.

**Oportet vivĕre.** Трэба жыць.

**Optĭmum cibi condimentum est fames.** Голад – лепшая прыправа да ежы.

**Optĭmum medicamentum quies est.** Спакой – найлепшыя лекі.

**Opulentissĭma metalla assidue plenius responsūra fodienti.** Самыя каштоўныя металы дастаюцца перш за ўсё таму, хто рупліва капае.

**Opus citātum (op. cit.).** Цытаваны твор (пры паўторнай спасылцы на які-небудзь твор).

**Ornāta forma mente praeclāra emĭnet.** У вочы кідаецца чароўны выгляд, а не выдатны розум.

**Ora et labōra.** Маліся і працуй.

**Ora rotundo.** Ва ўвесь голас.

**Ore uno.** «Адным ротам»; аднагалосна.

**Osse caret glossa**, **quandōque tamen terit ossa.** Язык не мае косці, але часам расцірае косці.

**Otium post negotium.** Адпачынак пасля справы (*параўн.*: Скончыў работу – гуляй у ахвоту).

**Ovem lupo committĕre.** Авечку даверыць ваўку.

**Pagĭna (pag.**, **p.).** Старонка (памета пры спасылцы на старонку ў цытаваным творы).

**Pallĭda mors aequo pulsat pede paupĕrum tabernas regumque turres.** Бледная смерць той жа нагой стукае ў хаціны бедных і палацы цароў (*параўн.*: Смерць у зубы не глядзіць).

**Panem quotidiānum.** Хлебу надзённага.

**Papŭlas observātis aliēnas obsĭti plurĭmis ulcerĭbus.** Вы (самі), пакрытыя мноствам язваў, выглядваеце чужыя пухіры.

**Par comes esse pari consuescit sic et avāri.** Роўны – прыяцель роўнаму, скупы – скупому.

**Par pari referre.** Роўным за роўнае аддаваць.

**Pares cum parĭbus facillĭme congregantur.** Роўныя з роўнымі вельмі лёгка сыходзяцца.

**Pars pro toto.** Частка замест цэлага.

**Parturiunt montes, nascētur ridicŭlus mus.** Нараджаюць горы, народзіцца смешнае мышаня.

**Parva delicta aperiunt viam ad majōra.** Малыя злачынствы адкрываюць дарогу вялікім.

**Patiāre potius ipse, quam facias scelus.** Лепш самому трываць, чым чыніць зло.

**Patiendo multa veniunt, quae nequeas pati.** Хоць ты і шмат можаш трываць, канец цярпенню наступіць.

**Patiens et fortis se ipsum felīcem facit.** Цярплівы і мужны сам сябе робіць шчаслівым.

**Patientia anĭmi divitias occultas habet.** Цярпенне мае скрытыя багацці.

**Patientia omnia vincit.** Цярпенне ўсё перамагае (*параўн.*: Рабі пільна – і тут будзе Вільня).

**Patria est commūnis omnium civium parens.** Радзіма – агульная маці ўсіх грамадзян.

**Pauca verba.** У нямногіх словах; карацей кажучы.

**Pauper mutātur, si dives efficiātur.** Бедны змяняецца, калі робіцца багатым.

**Pauperior mendicissĭmo homĭne.** Бяднейшы за самага беднага чалавека; самы бедны.

**Paupertas non est probrum.** Беднасць не загана (*параўн.*: Бяднейшы – не канечне дурнейшы).

**Pax vobiscum**! Мір вам!

**Peculium re, non verbis augētur.** Маёмасць павялічваецца справай, а не словамі.

**Pecuniae omnia oboediunt.** Грошам усё скараецца.

**Pejor avis aetas.** Дрэнная птушка – узрост.

**Pelle sub agnīna latĭtat mens saepe lupīna.** Пад авечай шкурай хаваецца часта воўчая душа.

**Pendĕre tenui filo.** Вісець на тонкай нітцы.

**Per aspĕra ad astra.** Праз церні да зорак.

**Per fas ac nefas.** Дазволенымі і недазволенымі сродкамі; праўдамі і няпраўдамі.

**Per me ista trahantur pedĭbus.** Што да мяне, то няхай кульгаюць (*параўн.*: А няхай яно выпрахне).

**Per risum multum cognoscĭmus stultum.** Па бессэнсоўнаму (*літ.*: частаму) смеху мы даведаемся дурня (*параўн.*: Па латках пазнаць скупога, а па смеху – дурнога).

**Per se.** Само па сабе; у чыстым выглядзе.

**Pericŭlum in mora.** Небяспека ў прамаруджанні.

**Perpetuum mobĭle.** Вечны рухавік.

**Persōna (non) grata.** Асоба, якая (не) карыстаецца даверам.

**Personalĭter.** Асабіста.

**Pes gradiens crescit, cornix residendo famescit.** Нага расце ад хады, варона галадае ад сядзення.

**Petitio principii.** Выснова з палажэння, якое яшчэ трэба даказаць.

**Pia desiderāta.** Запаветныя мары.

**Piger ipse sibi obstat.** Лянівы сам сабе шкодзіць.

**Piscāri in turbĭdo.** Лавіць рыбу ў мутнай вадзе (*параўн.*: У муце шчупакоў лавіць).

**Piscem natāre doces.** Ты вучыш рыбу плаваць.

**Plenus rimārum.** Увесь у трэшчынах (*г. зн.* балбатлівы).

**Plenus venter non studet libenter.** Поўнае пуза да навукі глуха.

**Plus potest negāre asĭnus**, **quam probāre philosŏphus.** Асёл можа больш запярэчыць, чым разумны даказаць.

**Plus valet exiguus quam nullus ad atria clavus.** Лепш дрэнны замок у доме, чым ніякі.

**Plus valet in dextra passer quam quattuor extra.** Лепш адзін верабей у правай руцэ, чым чатыры ў паветры (*параўн.*: Лепей варона злоўленая, чым сокал пад небам).

**Plus vident ocŭli quam ocŭlus.** Два вокі бачаць больш, чым адно.

**Pocŭlum**, **mane haustum**, **restaurat natūram exhaustam.** Келіх, які выпілі з раніцы, аднаўляе моц.

**Pomum compunctum cito corrumpit sibi junctum.** Гнілы яблык хутка псуе той, што ляжыць побач.

**Post Christum natum (p. Ch.).** Пасля нараджэння Хрыстова (абазначэнне дат нашай эры, разам з A. D.).

**Post factum nullum consilium.** Пасля зробленага не патрэбна ніякая парада.

**Post factum.** Пасля падзеі.

**Post gaudia luctus.** Пасля радасці – плач.

**Post hoc**, **ergo propter hoc.** Пасля гэтага – значыць з прычыны гэтага.

**Post hoc**, **non est propter hoc.** Пасла гэтага – не значыць з-за гэтага.

**Post homĭnum memoriam.** Са спрадвечных часоў.

**Post mortem medicīna.** Пасля смерці лячэнне.

**Post nubĭla Phoebus (sol).** Пасля хмар – Феб (сонца).

**Post scriptum (PS).** «Пасля напісанага»; пастскрыптум; прыпіска да ліста.

**Post tenĕbras spero lucem.** Спадзяюся на святло пасля змроку.

**Post vinum verba**, **post imbrem nascĭtur herba.** Пасля віна – словы, пасля дажджу – трава.

**Potior est**, **qui prior est.** Мацнейшы той, хто першы.

**Potius sero**, **quam nunquam.** Лепш позна, чым ніколі (Ціт Лівій).

**Primorĭbus labris attingĕre alĭquid.** Дакрануцца да чаго-небудзь кончыкамі губ (*г. зн.* павярхоўна азнаёміцца з чым-небудзь).

**Primum agĕre.** Першым чынам дзейнічаць.

**Primum non nocēre.** Першым чынам не шкодзіць.

**Primum vivĕre.** Першым чынам жыць.

**Primus inter pares.** Першы сярод роўных.

**Principia magna saepe parva in exitu.** Вялікі пачатак часта канчаецца малым вынікам.

**Principium et fons.** Пачатак і крыніца.

**Prius quam incipias**, **consulto**, **et ubi consuluĕris**, **matūre factu opus est.** Перш чым пачаць, абдумай, калі абдумаеш, варта паспяшыць.

**Pro bono publĭco.** Дзеля агульнай выгады.

**Pro domo mea (sua).** «За свой дом»; для сябе; у асабістых інтарэсах; у абарону сваіх спраў.

**Pro et contra.** За і супраць.

**Pro forma.** Для формы; для выгляду.

**Pro memoria.** Для памяці; у памяць аб чым-небудзь.

**Pro ut de lege.** Законным шляхам.

**Probātum est.** Адобрана; ухвалена.

**Prodest cautēla plus quam postrēma querēla.** Больш дапаможа своечасовая перасцярога, чым запозненыя папрокі.

**Propĕra pedem.** Прыспешвай.

**Propria laus sordet.** Уласная пахвала выклікае агіду.

**Propter invidiam.** З зайздрасці.

**Propter necessitātem.** З прычыны неабходнасці.

**Prudentia saepe vitantur pericŭla.** Дзякуючы разважлівасці мы часта пазбягаем небяспекі.

**Pugnis et calceis**, **unguĭbus et rostro.** Кулакамі і нагамі, кіпцюрамі і дзюбай.

**Pulchre sedens melius agens.** Добра абдумаеш – лепей зробіш.

**Pulchrum est praestāre cuncta**, **nil exigĕre.** Цудоўна ўсё даваць і нічога не патрабаваць узамен.

**Punctum saliens.** Важны пункт.

**Quae nocent**, **docent.** Што шкодзіць, тое вучыць.

**Qualia quisque geret**, **talia quisque feret.** Як хто будзе сябе паводзіць, так да яго будуць і ставіцца.

**Quam camus cassus**, **equus est melior mala passus.** Лепш дрэнны конь, чым пустая аброць.

**Quam cara sint bona**, **homĭnes carendo intellĕgunt.** Людзі разумеюць, якое дарагое здароўе, толькі страціўшы яго.

**Quam difficĭle est crimen non prodĕre vultu.** Як цяжка не выдаць злачынства тварам.

**Quantum satis.** Колькі трэба; удосталь.

**Quem mos non rexit**, **vita non inclŭtus exit.** Хто не трымаецца закону, зняслаўленым пойдзе на той свет.

**Qui bibit immodĭce vina**, **venēna bibit.** Хто не ў меру п’е віно, той п’е атруту (*параўн.*: Хто па гарэлку часта ходзіць, той сам сабе шкодзіць).

**Qui blandītur**, **mentītur.** Хто ліслівіць, той хлусіць.

**Qui bona sectātur**, **prima bene surgit in hora.** Хто імкнецца да багацця, устае да світання.

**Qui cito laetātur**, **levĭter dolet et lacrimātur.** Хто хутка радуецца, той лёгка смуткуе і плача.

**Qui comes est stulti**, **sibi saepe fit ipse labōri.** Хто з’яўляецца сябрам дурня, той часта сам сабе шкодзіць.

**Qui me amat, amat et canem meum.** Хто любіць мяне, любіць і майго сабаку.

**Qui mittit stultum, differt sua commŏda multum.** Хто пасылае дурня, той церпіць шмат няўдач.

**Qui pro quo.** Адзін замест другога; гэты замест таго; блытаніна.

**Qui scribit, bis legis.** Хто піша, той двойчы чытае; хто запісвае, той лепей запамінае.

**Qui se ipse laudat, cito derisōrem invĕnit.** Хто сам сябе хваліць, той хутка робіцца пасмешышчам.

**Qui semel furātur, semper fur habētur.** Хто хоць раз украў, назаўсёды застанецца злодзеем.

**Qui tangit picem, contaminabĭtur.** Хто дакранаецца да смалы, пэцкаецца.

**Qui timet insidias omnes, nullas incĭdit.** Хто баіцца ўсякай пасткі, той не трапляе ні ў адну з іх.

**Qui totum vult, totum perit.** Хто ўсяго жадае, усё губляе.

**Qui vitat molam, vitat farīnam.** Хто пазбягае млына, пазбягае і мукі.

**Qui vitŭlum tollet, taurum subduxĕrit idem.** Хто зносіць цяля, украдзе і быка.

**Quibuscumque viis.** Любымі шляхамі.

**Quid ipse sis, non guid habeāris, intĕrest.** Важна, які ты на самай справе, а не за каго цябе прымаюць.

**Quidquid agis, prudenter agas et respĭce finem.** Усё, што ты робіш, рабі разважна і прадугледжвай вынік.

**Quidquid est plus quam necesse, possidentes deprĭmit.** Усё, што звыш неабходнага, губіць валадароў.

**Quidquid id est, timeo Danaos et dona ferentes.** Што б гэта не было, я баюся данайцаў, нават калі яны прыносяць дары (аб траянскім кані).

**Quidquid in buccam venĕrit, stultus loquĭtur.** Дурны гаворыць усё, што прыйдзе ў галаву.

**Quidquid nummis praesentĭbus opta, et fiet.** Маючы грошы, жадай усяго, чаго хочаш, і яно збудзецца.

**Quilĭbet fortūnae suae faber.** Кожны сам каваль свайго шчасця.

**Quis homĭnum sine vitiis?** Хто з людзей нарадзіўся без заганаў?

**Quisquis homo bene scit, ipsum quo calceus urget.** Кожны чалавек добра ведае, дзе яму цісне чаравік.

**Quo plus honōris, eo plus onĕris.** Чым больш пашаны, тым большы цяжар.

**Quo plus sunt potae, plus sitiuntur aquae.** Чым больш п’юць, тым больш хочацца.

**Quod caret alterna requie, durabĭle non est.** Што не чаргуецца з адпачынкам, не бывае трывалым.

**Quod cibus aliis, aliis est atrum venēnum.** Што для адных – ежа, для іншых – згубная атрута.

**Quod cito fit, cito perit.** Што хутка робіцца, хутка гіне.

**Quod clausum in pectŏre, hoc in lingua promptum habeo.** Што ўтоена на сэрцы, тое відавочна маю на языку.

**Quod erat demonstrandum.** Што і патрабавалася давесці.

**Quod fuit, numquam revertētur.** Што было, тое ніколі не вернецца.

**Quod habet, non numĕrat.** Што хто мае, таго не цэніць.

**Quod hodie non est, cras erit.** Чаго няма сёння, будзе заўтра.

**Quod in corde sobrii, id est in lingua ebrii.** Што на сэрцы ў цвярозага, тое на языку ў п'янага (*параўн.*: Што цвярозы думае, п'яны скажа).

**Quod licet Jovi, non licet bovi.** Што дазволена Юпітэру, тое не дазволена быку.

**Quod non licet, acrius urit.** Што не дазволена, мацней узбуджае.

**Quod non videt ocŭlus, cor non dolet.** Чаго не бачыць вока, аб тым сэрца не смуткуе.

**Quod satis est, cui contingit, nil amplius optet.** У кожнага ёсць дастаткова, не трэба жадаць большага.

**Quorum.** Кворум; частка формулы, якая вызначае колькасць асоб, прысутнасць якіх дастаткова (praesentia quorum suffĭcit) для таго, каб сход быў правамоцны.

**Quot homĭnes, tot sententiae.** Колькі галоў, столькі ж і розумаў; колькі людзей, столькі думак.

**Radix saepe mala prodūcit pessĭma mala.** Ад дрэннага кораня часта бываюць вельмі дрэнныя яблыкі.

**Raro lupi lenti praebentur fercŭla denti.** Калі на ваўка лянота нападае, рэдка што яму на зуб трапляе (*параўн.*: Ляжачыя і грошы ржавеюць).

**Rastro dentāto prata parāta dato.** Касі лугі, калі паспелі.

**Re labor est dulcis, quia non pluit usus hiulcis.** Праца карысная, таму што дабро не льецца дажджом у рот.

**Recte faciendo nemĭnem time.** Калі сумленна дзейнічаеш, нікога не бойся.

**Reddĕre vitam pro patria.** Аддаць жыццё за радзіму.

**Rem cum cura age.** Вядзі справу дбайна.

**Repetitio est mater studiōrum.** Паўтарэнне – маці навучання.

**Res inquiēta est in se ipsam felicĭtas.** Шчасце само па сабе справа неспакойная.

**Res mala vir malus est, mala femĭna pessĭma res est.** Дрэнны муж – палова бяды, дрэнная жонка – цэлая бяда.

**Respĭce finem.** Прадугледжвай вынік.

**Ridens verum dicĕre.** Смяючыся, гаварыць праўду.

**Risu corruĕre.** Падаць ад смеху.

**Roganti melius quam imperanti pareas.** Хутчэй паслухаеш таго, хто просіць, чым таго, хто загадвае.

**Saepe dissimulāre satius, quam vel ulcisci fuit.** Часта лепш не звяртаць увагі на нешта, чым помсціць.

**Saepe est etiam olĭtor valde opportūne locūtus.** Часта нават агароднік вельмі ўдала скажа.

**Saepe est etiam sub palliŏlo sordĭdo sapientia.** Часта і пад брудным адзеннем тоіцца мудрасць.

**Saepe facit piĕtas hoc, [quod] nequit ipsa potestas.** Часта каханне робіць тое, што не можа зрабіць улада.

**Sal patriae pluris faciendus, quam hospĭtis mensa.** Родную соль варта цаніць больш, чым чужы абед.

**Saltāre ad tibiam alicujus.** Танцаваць пад чыюсьці флейту.

**con-sĕcro**, **1** 1) прысвячаць; 2) асвячаць; 3) абагаўляць
**con-sĕntio**, **sensi**, **sensum**, **4** 1) згаджацца, пагаджацца; 2) згаворвацца, дамаўляцца, змаўляцца
**consequenter** бесперапынна, паслядоўна; sic c. – і так далей
**con-sĕquor**, **secūtus sum**, **3** 1) ісці следам; 2) пераследаваць; 3) наступаць
**con-servo**, **1** 1) захоўваць, хаваць; 2) ахоўваць, захоўваць; 3) трымацца, выконваць
**con-sĭdeo**, **sēdi**, **sessum**, **2** 1) сядзець; 2) сяліцца, засяляць
**consiliarius**, **i** *m* дарадчык
**consilium**, **i** *n* 1) задума, намер, план; 2) парада; 3) праніклівасць, разважлівасць; 4) рашэнне; c. capĕre – прымаць рашэнне; 5) савет, нарада
**consimĭlis**, **e** зусім падобны
**con-sisto**, **stĭti**, – , **3** 1) заключацца, складацца; 2) спыняцца, затрымлівацца
**con-sōlor**, **1** 1) суцяшаць; 2) змякчаць, памякчаць
**conspectus**, **ūs** *m* 1) выгляд; esse in conspectu – быць перад вачыма; 2) позірк; 3) агляд
**con-spĭcio**, **spexi**, **spectum**, **3** бачыць, заўважаць
**con-spĭcor**, **1** бачыць, заўважаць
**constantia**, **ae** *f* цвёрдасць, непахіснасць, пастаянства
**con-stituo**, **stitui**, **stitūtum**, **3** 1) ставіць; 2) вырашаць; 3) прызначаць; 4) упарадкоўваць
**con-sto**, **stĭti**, – , **1** 1) стаяць цвёрда; 2) грунтавацца; 3) складацца; *impers*. constat – вядома
**con-struo**, **struxi**, **structum**, **3** будаваць, збудоўваць
**consubstantiālis**, **e** адзінасутны
**con-suesco**, **suēvi**, **suētum**, **3** 1) прывыкаць, прызвычайвацца, мець звычку; 2) прывучаць, прывучваць
**consuetūdo**, **ĭnis** *f* звычай, звычка
**consul**, **ŭlis** *m* консул
**consulātus**, **ūs** *m* консульская годнасць (званне), консульства
**consŭlo**, **sului**, **sultum**, **3** 1) (+ *dat*.) клапаціцца; 2) дзейнічаць; 3) абыходзіцца; 4) пытацца, запытваць, пытаць; 5) раіцца; 6) прымаць рашэнне
**con-sūmo**, **sumpsi**, **sumptum**, **3** 1) есці, з’ядаць; 2) знішчаць, страчваць, траціць, вычэрпваць, выдаткоўваць, аслабляць
**con-surgo**, **surrexi**, **surrectum**, **3** падымацца, паднімацца, уставаць
**con-temno**, **tempsi**, **temptum**, **3** грэбаваць, не звяртаць увагі
**contemplatio**, **ōnis** *f* разглядванне, разважанне
**con-tendo**, **tendi**, **tentum**, **3** 1) нацягваць; 2) накіроўвацца; 3) спаборнічаць, змагацца
**contermĭnus**, **a**, **um** які (што) прымыкае, суседні
**con-tĕro**, **trīvi**, **trītum**, **3** 1) церці; 2) мучыць, катаваць; 3) траціць
**contiguus**, **a**, **um** які (што) прымыкае, суседні
**contĭnens**, **entis** *f* кантынент, мацярык
**continenter** бесперапынна, безупынна, няспынна
**con-tĭneo**, **tinui**, **tentum**, **2** 1) ахоўваць, захоўваць; 2) стрымліваць; 3) абмяжоўваць; 4) утрымліваць
**continuus**, **a**, **um** бесперапынны, безупынны, няспынны
**contio, ōnis** *f* збор
**contra** (+ *acc*.) супраць
**con-trăho**, **traxi**, **tractum**, **3** 1) збіраць, злучаць, спалучаць; 2) прычыняць
**controversia**, **ae** *f* спрэчка
**contubernium**, **i** *n* брацтва, карпарацыя, цэх, аб’яднанне рамеснікаў
**contumeliōsus**, **a**, **um** абразлівы, зняважлівы
**con-turbo**, **1** 1) прыводзіць у беспарадак; 2) змешваць; 3) блытаць

**conubium**, **i** *n* шлюб
**con-valesco**, **valui**, – , **3** ачуньваць
**con-vĕnio**, **vēni**, **ventum**, **4** 1) збірацца; 2) звяртацца; 3) падыходзіць, адпавядаць *impers*. convĕnit – вырашана, належыць
**con-vinco**, **vīci**, **victum**, **3** 1) выкрываць, выяўляць; 2) даказваць, даводзіць; 3) абвяргаць
**convivium**, **i** *n* банкетаванне, банкет, бяседа, баль, разгул, баляванне
**con-vŏco**, **1** склікаць, запрашаць
**copia**, **ae** *f* мноства, запас, колькасць, *pl*. войска
**coquo**, **coxi**, **coctum**, **3** 1) варыць; 2) сушыць; 3) абпальваць
**cor**, **cordis** *n* сэрца
**coram** (+ *abl*.) пры, у прысутнасці
**Corinthus**, **i** *f* Карынф, *горад у Грэцыі*; Corinthi – у Карынфе
**Coriolānus**, **i** *m* Карыялан, *рымскае імя*
**Cornelia**, **ae** *f* Карнэлія, *рымскае імя*
**Cornelius**, **i** *m* Карнэлій, *рымскае імя*
**cornu**, **ūs** *n* 1) рог; 2) фланг, крыло
**corōna**, **ae** *f* вянок
**corpus**, **ŏris** *n* цела
**cor-rĭpio**, **ripui**, **reptum**, **3** 1) хапаць, хватаць, захопліваць; 2) ахопліваць, ахапляць
**cor-rumpo, rūpi, ruptum, 3** псаваць
**cor-ruo**, **rui**, – , **3** 1) абрушвацца, падаць; 2) сутыкацца; 3) гінуць
**corusco**, **1** мігаць, мігацець, мігцець, бліскаць, бліскацець
**cotidiānus**, **a**, **um** штодзённы
**cotidie** штодзень, штодзённа, штодня
**Crassus**, **i** *m* Крас, *рымскае імя*
**creatio**, **ōnis** *f* 1) выбранне, назначэнне; 2) тварэнне
**creatūra**, **ae** *f* тварэнне, стварэнне
**creber**, **bra**, **brum** часты
**credo**, **credĭdi**, **credĭtum**, **3** верыць, давяраць
**cremo**, **1** спальваць
**creo**, **1** 1) абіраць, выбіраць, прызначаць; 2) ствараць; 3) нараджаць, спараджаць
**Creon**, **ōnis (ontis)** *m* Крэонт, *цар Фіваў*
**cresco**, **crevi**, **cretum**, **3** 1) вырастаць, расці; 2) узмацняцца
**Creta**, **ae** *f* Крыт, *востраў*
**Crispus**, **i** *m* Крысп, *рымскае імя*
**Croesus**, **i** *m* Крэз, *цар Лідзіі*
**cruciātus**, **ūs** *m* мучэнне, катаванне
**crucifīgo**, **fixi**, **fixum**, **3** распінаць на крыжы, укрыжоўваць
**crucio**, **1** катаваць, распінаць, раскрыжоўваць
**crudēlis**, **e** бязлітасны
**crudelĭtas**, **tātis** *f* бязлітаснасць, лютасць, жорсткасць
**cruento**, **1** 1) крывавіць; 2) раніць
**cruentus**, **a**, **um** крывавы, бязлітасны, люты, жорсткі
**crus**, **cruris** *n* галёнка
**cubicŭlum**, **i** *n* пакой, спальня
**culmen**, **ĭnis** *n* верх, верхавіна
**culpa**, **ae** *f* віна
**cultus**, **ūs** *m* 1) догляд, апрацоўка; 2) шанаванне, культ
**cum** (+ *ind*./*conj*.) 1) калі, пасля таго як, у той час як; 2) таму што, бо, так як; 3) хоць, хаця
**cum** (+ *abl*.) з (*кім-небудзь*)
**Cumae**, **ārum** *f pl. t.* Кумы, *горад на поўдні Італіі*
**cumŭlo**, **1** складаць, складваць, сабіраць
**cumŭlus**, **i** *m* куча, груда
**cunabŭla**, **ōrum** *n*, *pl. t.* калыска
**cunctor**, **1** марудзіць, вагацца
**cunctus**, **a**, **um** увесь, цэлы
**cupidĭtas**, **ātis** *f* жаданне, цяга, імкненне, прага
**Cupīdo**, **ĭnis** *m* Купідон, *бог кахання, сын Венеры*
**cupio**, **cupīvi**, **cupītum**, **3** жадаць, імкнуцца

**cupressus**, **i** *f* кіпарыс
**cur** чаму
**cura**, **ae** *f* 1) клопат; 2) нагляд; 3) стараннасць
**curia**, **ae** *f* курыя, *будынак сената*
**Curiatii**, **ōrum** *m*, *pl. t.* Курыяцыі, *альбанскі род, да якога належалі тры браты Курыяцыі, пераможаныя братамі Гарацыямі*
**Curiatius**, **i** *m* Курыяцый, *рымскае імя*
**curo**, **1** (+ *acc.*) 1) клапаціцца, турбавацца; 2) распараджацца; 3) лячыць
**curro**, **cucurri**, **cursum**, **3** 1) бегчы; 2) плыць; 3) ездзіць; 4) спяшацца
**currus**, **ūs** *m* калясніца
**cursus**, **ūs** *m* 1) бег, гонкі, ска́чкі; 2) кірунак; 3) шлях; 4) цячэнне; 5) рух; 6) язда
**custodia**, **ae** *f* 1) варта, каравул, пост; 2) турма, астрог
**custōdio**, **4** 1) ахоўваць, сцерагчы, пільнаваць; 2) захоўваць, наглядаць
**custos**, **ōdis** *m* хавальнік, вартаўнік, сторaж, наглядчык
**Cydnus**, **i** *m* Кідн, *рака ў Кілікіі* (*Грэцыя*)
**cylindrus**, **i** *m* цыліндр, валік
**Cyprus**, **i** *f* Кіпр, *востраў*
**Cyrīnus**, **i** *m* Квірыній, *рымскі намеснік у Сірыі*
**Cyrus**, **i** *m* Кір; C. Minor – Кір Малодшы, *персідскі царэвіч, сын Дарыя*

## Dd

**Daedălus**, **i** *m* Дэдал, *бацька Ікара, будаўнік лабірынта на Крыце*
**damno**, **1** асуджваць, абвінавачваць
**damnum**, **i** *n* шкода, урон, страта
**Damon**, **ōnis** *m* Дамон, *афінскі музыкант*
**Daphne**, **es** *f* Дафна, *німфа, ператвораная ў лаўр*
**Darēus**, **i** *m* Дарый, *персідскі цар*
**Daunus**, **i** *m* Даўн, *міфічны цар Апуліі* (*Італія*)
**David** *m* (*indecl.*) Давід, *старазапаветнае імя*
**de** (+ *abl.*) з, з-за, на, наконт, пра, аб
**dea**, **ae** *f* багіня
**debeo**, **debui**, **debĭtum**, **2** быць павінным
**debĭtor**, **ōris** *m* даўжнік
**debĭtum**, **i** *n* доўг, запазычанасць
**de-cēdo**, **cessi**, **cessum**, **3** 1) адыходзіць, зыходзіць, пайсці; de vitā d. – паміраць; 2) паміраць
**decem** дзесяць
**decemvir**, **i** *m* дэцэмвір, *член цэнтральнага заканадаўчага органа з 10 чалавек*; *член калегіі дзесяці*
**deceo**, **ui**, – , **2** 1) падыходзіць, належаць; 2) быць вартым; *impers.* decet – належыць, падыходзіць, пасуе
**de-cerno**, **crēvi**, **crētum**, **3** 1) рашаць, прымаць рашэнне, вырашаць; 2) прызначаць
**decĭmus**, **a**, **um** дзясяты
**de-cĭpio**, **cēpi**, **ceptum**, **3** падманваць, ашукваць, зводзіць
**de-clāro**, **1** заяўляць, аб'яўляць, абвяшчаць
**de-curro**, **curri**, **cursum**, **3** 1) збягаць, спускацца; 2) праходзіць
**decus**, **ŏris**, *n* 1) аздабленне; 2) гонар, слава
**de-do**, **dĭdi**, **dĭtum**, **3** аддаваць, перадаваць; se d. – здавацца
**de-dūco**, **duxi**, **ductum**, **3** 1) весці; 2) заводзіць; 3) несці, пераносіць; 4) пасяляць, засноўваць (калонію)
**de-fendo**, **fendi**, **fensum**, **3** абараняць, бараніць, ахоўваць
**de-fĕro**, **tŭli**, **lātum**, **ferre** 1) несці ўніз; 2) даваць, аддаваць, перадаваць;

3) даручаць; 4) ускладваць, даваць (пасаду); 5) паведамляць
**defessus**, **a**, **um** абяссілены, знясілены
**de-fetiscor**, **fessus sum**, **3** стамляцца
**de-fĭcio**, **fēci**, **fectum**, **3** 1) не хапаць, неставаць; 2) пакутаваць; 3) памяншацца; 4) мяняць
**de-fungor**, **functus sum**, **3** 1) выканаць, скончыць; 2) памерці
**dego**, **degi**, – , **3** жыць, пражываць
**de-ĭcio**, **jēci**, **jectum**, **3** 1) скідаць, скідваць; 2) адкідаць, адкідваць; 3) спускаць
**dein** = **deinde**
**deinde** 1) нават, нарэшце; 2) пасля
**Dejanīra**, **ae** *f* Дэяніра, *жонка Геркулеса*
**de-jĭcio** = **deicio**
**de-lābor**, **lapsus sum**, **3** 1) спадаць, спускацца; 2) трапляць, пападаць
**delecto**, **1** захапляць, зачароўваць, падабацца; *pass*. знаходзіць задавальненне, захапляцца
**delectus**, **a**, **um** адборны, лепшы
**delenimentum**, **i** *n* 1) палёгка; 2) чароўнасць
**deleo**, **ēvi**, **ētum**, **2** разбураць, знішчаць, вынішчаць
**deliciae**, **ārum** *f*, *pl. t.* уцеха, радасць
**delictum**, **i** *n* злачынства, правіннасць
**de-lĭgo**, **lēgi**, **lectum**, **3** выбіраць
**de-līro**, **1** шалець, вар’явацца, плявузгаць, плесці лухту
**Delphi**, **ōrum** *m*, *pl. t.* Дэльфы, *горад у Грэцыі*
**Delphĭcus**, **a**, **um** дэльфійскі
**de-mīror**, **1** вельмі здзіўляцца
**de-mitto**, **mīsi**, **missum**, **3** спускаць, апускаць, звяргаць
**de-monstro**, **1** паказваць
**demum** толькі, менавіта
**denarius**, **i** *m* дэнарый, *рымская сярэбраная манета*
**de-nĕgo**, **1** 1) адмаўляць; 2) забараняць
**deni**, **ae**, **a** па дзесяць
**denĭque** нарэшце
**dens**, **dentis** *m* зуб, ікол
**densus**, **a**, **um** густы
**denuo** нанава, нанова
**deorsum** уніз, унізе
**de-pello**, **pŭli**, **pulsum**, **3** 1) адгаворваць, пераконваць у адваротным; 2) гнаць, праганяць; 3) адхіляць
**de-pendeo**, **pendi**, **pensum**, **2** 1) вісець; 2) залежаць
**de-plōro**, **1** плакаць, аплакваць
**de-pōno**, **posui**, **posĭtum**, **3** 1) адкладаць, адкладваць; 2) укрываць; 3) спаталяць, праганяць
**deprecatio**, **ōnis** *f* прабачэнне, выбачэнне
**de-prehendo**, **hendi**, **hensum**, **3** 1) схапіць; 2) адшукаць, заўважыць
**de-pŭto**, **1** прызначаць
**de-rīdeo**, **rīsi**, **rīsum**, **2** насміхацца, кпіць, высмейваць
**derisorius**, **a**, **um** насмешлівы, кплівы
**de-rīvo**, **1** 1) адводзіць; 2) паходзіць; 3) даваць пачатак
**de-rŏgo**, **1** аднімаць, адымаць, адбіраць
**de-scendo**, **ndi**, **nsum**, **3** 1) ісці, сыходзіць, сходзіць; 2) уваходзіць; 3) паходзіць
**de-scrībo**, **scripsi**, **scriptum**, **3** 1) апісваць; 2) спісваць, перапісваць
**descriptio**, **ōnis** *f* апісанне
**desertus**, **a**, **um** 1) бязлюдны, апусцелы, пустынны; 2) адзінокі, самотны
**desiderium**, **i** *n* 1) жаданне; 2) смутак; 3) страта
**desidĕro**, **1** 1) жадаць, хацець; 2) тужыць, нудзіцца, сумаваць
**desidia**, **ae** *f* бяздзейнасць
**de-signo**, **1** 1) вызначаць, прызначаць, называць; 2) назначаць (лекі)
**de-sĭno**, **sīvi (sii)**, **sĭtum**, **3** пераставаць
**de-sĭpio**, **sipui**, – , **3** быць безразважным, быць вар’ятам

**de-sisto**, **stĭti**, **stĭtum**, **3** 1) спыняць, перераставаць; 2) адмаўляцца; 3) адступаць

**de-spēro**, **1** траціць надзею, адчайвацца

**desponso**, **1** заручыць, засватаць

**de-stĭno**, **1** вызначаць, прызначаць

**de-sum**, **fui**, – , **esse** 1) неставаць, не хапаць, бракаваць; 2) пакідаць без дапамогі, не дапамагаць

**desŭper** зверху

**deterior**, **ius** (*gen.* deteriōris) горшы

**de-terreo**, **rui**, **rĭtum**, **2** страшыць, пужаць, палохаць

**detractio**, **ōnis** *f* адцягванне

**de-trăho**, **traxi**, **tractum**, **3** 1) сцягваць, здымаць; 2) памяншаць, змяншаць; 3) выцясняць

**de-ūro**, **ussi**, **ustum**, **3** спальваць

**deus**, **i** *m* бог

**de-vinco**, **vīci**, **victum**, **3** адольваць, перамагаць, асільваць

**de-vŏco**, **1** 1) адклікаць; 2) прызываць

**de-vŏro**, **1** есці, з'ядаць, пажыраць

**de-vŏveo**, **vōvi**, **vōtum**, **2** ахвяроўваць, прысвячаць

**dexter**, **tra**, **trum** правы

**dextĕra**, **ae** *f* правая рука

**di** *nom. pl. да* **deus**

**diabŏlus**, **i** *m* д'ябал

**diadĕma**, **ătis** *n* карона

**Diagŏras**, **ae** *m* Дыягор, *грэчаскі філосаф*

**Diāna**, **ae** *f* Дыяна, *рымская багіня паляўніцтва і месяца*

**dico**, **1** 1) асвячаць; 2) прысвячаць сябе; 3) абвяшчаць

**dico**, **dixi**, **dictum**, **3** 1) казаць, выказваць; salūtem d. – вітаць; 2) называць

**dictum**, **i** *n* 1) выказванне; 2) выслоўе

**dies**, **ēi** *m* дзень, *f* тэрмін

**dif-fĕro**, **distŭli**, **dilātum**, **differre** 1) разносіць; 2) распаўсюджваць; 3) адкладаць; 4) адрознівацца

**difficĭlis**, **e** 1) цяжкі, нялёгкі; 2) капрызны

**dif-fluo**, **fluxi**, **fluxum**, **3** разлівацца

**dignĭtas**, **ātis** *f* годнасць, становішча, званне

**di-gnosco**, **nōvi**, **nōtum**, **3** адрозніваць, распазнаваць, пазнаваць

**dignus**, **a**, **um** 1) дастойны, варты; 2) заслужаны

**di-lābor**, **lapsus sum**, **3** 1) рассыпацца; 2) разлівацца; 3) разыходзіцца, расходзіцца, разбягацца; 4) гінуць

**dilĭgens**, **entis** акуратны, уважлівы, старанны

**diligenter** старанна, пільна, дбайна

**di-lĭgo**, **lexi**, **lectum**, **3** высока цаніць, шанаваць, любіць, паважаць

**di-mĭco**, **1** біцца, змагацца

**dimidium**, **i** *n* палавіна, палова

**di-mitto**, **mīsi**, **missum**, **3** 1) вызваляць; 2) дараваць, прабачаць; 3) рассылаць; 4) спыняць

**Diocletiānus**, **i** *m* Дыяклетыян, *рымскі імператар*

**Dionysius**, **i** *m* Дыянісій, *тыран Сіракуз*

**Dionȳsus**, **i** *m* Дыяніс, *бог вінаробства*

**directus**, **a**, **um** прамы

**di-rĭgo**, **rexi**, **rectum**, **3** 1) выраўноўваць; 2) накіроўваць, накіроўвацца

**dir-ĭmo**, **ēmi**, **emptum**, **3** 1) раздзяляць; 2) спыняць; 3) касаваць

**di-rĭpio**, **ripui**, **reptum**, **3** 1) разграбляць, рабаваць; 2) спустошваць, спусташаць

**di-ruo**, **rui**, **rūtum**, **3** разбураць

**dis** *dat./abl. pl. да* **deus**

**Dis**, **Ditis** *m* Дыт (= Плутон), *бог падземнага царства*

**dis-cēdo**, **cessi**, **cessum**, **3** 1) ісці, адпраўляцца, накіроўвацца; 2) адыходзіць, адступаць; 3) зыходзіць, разыходзіцца

**dis-cerno**, **crēvi**, **crētum**, **3** 1) раздзяляць; 2) адрозніваць; 3) даведвацца

**discessus**, **ūs** *m* 1) адступленне; 2) адыход; 3) ад’езд
**disciplīna**, **ae** *f* 1) вучэнне, тэорыя; 2) навучанне; 3) дысцыпліна
**discipŭla**, **ae** *f* вучаніца
**discipŭlus**, **i** *m* вучань
**disco**, **didĭci**, – , **3** вучыцца
**Discordia**, **ae** *f* Дыскордыя, *багіня разладу*
**discordia**, **ae** *f* сварка, звадка, разлад
**discretio**, **ōnis** *f* розніца, адрозненне
**dis-curro**, **curri**, **cursum**, **3** 1) разбягацца; 2) распаўсюджвацца
**dis-cŭtio**, **cussi**, **cussum**, **3** 1) разбіваць; 2) разбураць, знішчаць
**disertus**, **a**, **um** красамоўны
**dis-pergo**, **persi**, **persum**, **3** 1) рассыпаць, раскідваць; 2) распаўсюджваць
**dis-pōno**, **posui**, **posĭtum**, **3** расстаўляць, размяшчаць
**disputatio**, **ōnis** *f* разважанне, даследаванне
**dis-pŭto**, **1** 1) спрачацца; 2) даследаваць
**dis-sĕco**, **secui**, **sectum**, **1** рассякаць
**dissensio**, **ōnis** *f* рознагалоссе, сварка, разлад
**dis-sĕro**, **serui**, **sertum**, **3** абмяркоўваць, разважаць
**dissimŭlo**, **1** хаваць
**dissolūtus**, **a**, **um** нядбайны, легкадумны
**di-stinguo**, **nxi**, **nctum**, **3** размяркоўваць, раздзяляць
**di-sto**, **distĭti**, – , **1** знаходзіцца на адлегласці
**ditio**, **ōnis** *f* 1) падданства; 2) даніна; 3) улада
**diu** доўга
**diversorium**, **i** *n* заезны дом, карчма, гасцініца
**dives**, **ĭtis** багаты
**divĭdo**, **vīsi**, **vīsum**, **3** дзяліць, аддзяляць, раздзяляць, падзяляць
**divīnus**, **a**, **um** боскі
**divitiae**, **ārum** *f*, *pl. t.* багацце
**do**, **dedi**, **datum**, **1** 1) даваць; inter se d. – абменьвацца; in fugam d. – прымусіць уцякаць, прымусіць да ўцёкаў; 2) прыносіць
**doceo**, **docui**, **doctum**, **2** вучыць, навучаць, тлумачыць
**doctus**, **a**, **um** вучоны, адукаваны
**doleo**, **dolui**, – , **2** 1) смуткаваць, маркоціцца, сумаваць; 2) пакутаваць; 3) хварэць
**dolor**, **ōris** *m* боль, пакуты, смутак
**dolus**, **i** *m* хітрасць, падман, хлусня
**domestĭcus**, **a**, **um** 1) дамашні, хатні; 2) мясцовы; 3) свойскі
**domicilium**, **i** *n* жыллё
**domĭna**, **ae** *f* пані, спадарыня, гаспадыня
**dominatio**, **ōnis** *f* панаванне
**dominĭca**, **ae** *f* нядзеля
**domĭnor**, **1** панаваць, уладарыць
**Domĭnus, i** *m* Гасподзь, Госпад, Пан (*пра Ісуса Хрыста*)
**domĭnus**, **i** *m* гаспадар, пан, спадар
**domo**, **mui**, **mĭtum**, **1** утаймоўваць, уціхамірваць
**domus**, **ūs** *f* будынак, дом, хата; domi (*loc.*) – дома, у мірны час; domo – з хаты, з дому
**donec** пакуль
**dono**, **1** дарыць, даваць
**donum**, **i** *n* 1) дар, падарунак; 2) ахвяра
**dormio**, **4** спаць
**dos**, **dotis** *f* 1) пасаг; 2) дар
**draco**, **ōnis** *m* дракон, змяя
**druĭdes**, **um** *m*, *pl. t.* друіды, *жрацы старажытных кельтаў*
**dubitatio**, **ōnis** *f* сумненне
**dubĭto**, **1** сумнявацца, хістацца, вагацца
**dubium**, **i** *n* сумненне
**dubius**, **a**, **um** 1) які (што) сумняваецца, нерашучы, які (што) вагаецца; 2) няпэўны сумніўны, ненадзейны; 3) цяжкі
**ducenti**, **ae**, **a** дзвесце

**duco**, **duxi**, **ductum**, **3** 1) весці; uxōrem d. – ажаніцца з кім-небудзь; 2) лічыць
**dum** пакуль, калі
**duo**, **duae**, **duo** два
**duoděcim** дванаццаць
**duodēni**, **ae**, **a** па дванаццаць
**duplis**, **e** двайны
**dure** жорстка, сурова
**duritia**, **ae** *f* цвёрдасць, суровасць, жорсткасць
**duro**, **1** 1) рабіць цвёрдым; 2) вытрымліваць, цярпець, трываць; 3) цягнуцца, доўжыцца
**durus**, **a**, **um** 1) цвёрды, моцны; 2) суровы, строгі
**dux**, **ducis** *m* 1) военачальнік, галоўнакамандуючы, камандзір, палкаводзец; 2) кіраўнік; 3) праваднік, павадыр

# Ee

**e**, **ex** (+ *abl.*) з, у, ад, на падставе, з-за, з прычыны
**ebriōsus**, **a**, **um** п'яны
**ecce** вось, вот
**ecclesia**, **ae** *f* царква
**ecquid** ці, хіба, няўжо
**edax**, **ācis** едкі, разбуральны
**e-dīco**, **dixi**, **dictum**, **3** 1) аб'яўляць; 2) загадваць
**edictum**, **i** *n* загад, эдыкт
**e-do**, **dĭdi**, **dĭtum**, **3** 1) выдаваць; 2) ствараць; 3) паведамляць
**edo**, **edi**, **esum** (**essum**), **edĕre** (**esse**) есці, з'ядаць, пажыраць
**educatio**, **ōnis** *f* выхаванне
**e-dŭco**, **1** 1) выхоўваць, гадаваць; 2) навучаць
**e-dūco**, **duxi**, **ductum**, **3** 1) выводзіць; 2) узводзіць
**ef-femĭno**, **1** распешчваць, расслабляць
**effĕrus**, **a**, **um** здзічэлы, адзічэлы, дзікі
**effĭcax**, **ācis** эфектыўны, паспяховы
**ef-fĭcio**, **fēci**, **fectum**, **3** 1) выконваць, рабіць; 2) утвараць
**ef-fingo**, **finxi**, **fictum**, **3** 1) маляваць; 2) перадаваць
**ef-flo**, **1** выдыхаць, выпускаць; animam e. – канаць
**ef-fŭgio**, **fūgi**, – , **3** 1) пазбягаць, унікаць, ухіляцца; 2) уцякаць
**effugium**, **i** *n* уцёкі
**egestas**, **ātis** *f* 1) беднасць; 2) нястача
**ego** я
**e-gredior**, **gressus sum**, **3** выходзіць, ісці
**egregius**, **a**, **um** выдатны, вельмі добры
**ejulātus**, **ūs** *m* лямант, рыданні
**electio**, **ōnis** *f* выбранне, выбары
**e-lĕvo**, **1** 1) аслабляць; 2) прымяншаць, прыніжаць
**e-lĭgo**, **lēgi**, **lectum**, **3** выбіраць
**e-limĭno**, **1** адмяняць
**elegīa**, **ae** *f* элегія
**eloquentia**, **ae** *f* красамоўства
**eloquium**, **i** *n* красамоўства, мова
**e-mĭgro**, **1** перасяляцца
**e-mitto**, **mīsi**, **missum**, **3** 1) высылаць; 2) выпускаць; 3) выдаваць; 4) вымаўляць
**emo**, **emi**, **emptum**, **3** набываць
**enim** бо, ж, жа
**e-numĕro**, **1** пералічваць
**eo** туды, датуль, там
**eo**, **ii**, **itum**, **ire** ісці
**eōdem** туды ж, тамсама
**Epaminondas**, **ae** *m* Эпамінонд, *фіванскі палкаводзец*
**Epicūrus**, **i** *m* Эпікур, *старажытнагрэчаскі філосаф*
**epigramma**, **ătis** *n* 1) надпіс; 2) эпіграма, *кароткі верш сатырычнага або павучальнага зместу*
**epistŭla**, **ae** *f* ліст
**epŭlae**, **ārum** *f*, *pl. t.* трапеза, банкет, бяседа, баль

**eques**, **ĭtis** *m* 1) коннік, вершнік; 2) коннік, *член саслоўя коннікаў*
**equester**, **tris**, **tre** 1) конскі; 2) які (што) адносіцца да саслоўя коннікаў
**equĭdem** сапраўды, вядома
**equus**, **i** *m* конь
**erga** (+ *acc.*) у адносінах да, каля
**ergo** таму, такім чынам
**ericius**, **i** *m* вожык
**Eridănus**, **i** *m* Эрыдан, *міфічная рака на крайнім захадзе Еўропы*
**e-rĭgo**, **rexi**, **rectum**, **3** 1) падымаць; 2) будаваць, збудоўваць
**e-rĭpio**, **ripui**, **reptum**, **3** 1) вырываць; 2) ратаваць; 3) выкрадаць
**erro**, **1** 1) памыляцца; 2) блукаць, вандраваць, падарожнічаць
**error**, **ōris** *m* 1) падарожжа; 2) памылка; 3) няўпэўненасць
**erudītus**, **a**, **um** 1) адукаваны; 2) умелы
**esca**, **ae** *f* ежа
**esuritio**, **ōnis** *f* галаданне
**et** і
**etiam** (а) таксама, нават; non solum… sed e. – не толькі… але і
**Etruscus**, **i** *m* этруск, *прадстаўнік племені этрускаў*, *якое засяляла паўночны захад Апенінскага паўвострава* (*Этрурыя*)
**etsi** хаця (і), нават калі
**Euēnus**, **i** *m* Эвен, *рака ў Грэцыі*
**Euripĭdes, is** і **i** *m* Эўрыпід, *афінскі трагік*
**Eurōpa**, **ae** *f* Еўропа
**Eurōtas**, **ae** *m* Эўрот, *рака ў Грэцыі*
**Eurydĭce**, **es** і **ae** *f* Эўрыдыка, *жонка Арфея*
**Eurystheus**, **i** *m* Эўрысфей, *цар Мікен*, *які прымусіў Геркулеса выканаць 12 подзвігаў*
**Eurytion**, **ōnis** *m* Эўрытыён, *кентаўр*
**e-vādo**, **vāsi**, **vāsum**, **3** выходзіць, ісці
**Evangelia**, **ōrum** *n*, *pl. t.* Евангеллі
**evangelīzo**, **1** прапаведаваць добрую вестку
**e-vĕnio**, **vēni**, **ventum**, **4** выходзіць, здзяйсняцца, здарацца, адбывацца
**eventus**, **ūs** *m* вынік, зыход, выпадак
**e-vinco**, **vīci**, **victum**, **3** 1) перамагаць; 2) пераконваць; 3) выкрываць
**ex-agĭto, 1** 1) трывожыць, непакоіць, турбаваць, мучыць; 2) падбухторваць, падахвочваць
**examĭno**, **1** узважваць, адважваць
**exanimātus**, **a**, **um** забіты, мёртвы, нежывы
**ex-anĭmo**, **1** забіваць; *pass.* губляць сілы
**ex-ardesco**, **arsi**, **arsum**, **3** 1) выбухаць; 2) успыхваць; 3) пачынацца
**ex-audio**, **4** выслухваць
**ex-cēdo**, **cessi**, **cessum**, **3** 1) выходзіць; 2) пакідаць; 3) парушаць
**ex-cello**, – , – , **3** пераўзыходзіць, вызначацца
**ex-cĭpio**, **cēpi**, **ceptum**, **3** 1) вымаць; 2) выключаць; 3) прымаць; 4) збіраць
**ex-cĭto**, **1** 1) будзіць; 2) прымушаць, падахвочваць, заахвочваць, схіляць; 3) выклікаць; 4) узбуджаць; 5) уздымаць; 6) трывожыць, непакоіць, турбаваць
**ex-clūdo**, **clūsi**, **clūsum**, **3** 1) выключаць; 2) выганяць
**ex-cŏlo**, **colui**, **cultum**, **3** 1) апрацоўваць, даглядаць; 2) удасканальваць
**ex-crŭcio**, **1** катаваць, мучыць
**exemplar**, **āris** *n* прыклад, узор
**exemplum**, **i** *n* прыклад, узор
**ex-eo**, **ii**, **ĭtum**, **īre** выходзіць
**ex-erceo**, **ercui**, **ercĭtum**, **2** займацца, практыкаваць
**exercitatio**, **ōnis** *f* 1) практыкаванне, практыка; 2) вопыт
**exercĭtus**, **ūs** *m* 1) практыкаванне; 2) войска
**ex-ĭgo**, **ēgi**, **actum**, **3** 1) рабіць; 2) заканчваць

**exiguĭtas**, **ātis** *f* нязначнасць, беднасць, мізэрнасць, убоства
**exiguus**, **a**, **um** нязначны, невялікі
**exim** = **exinde**
**exinde** затым
**ex-istĭmo**, **1** меркаваць, лічыць, вырашаць
**exĭtus**, **ūs** *m* 1) выхад, месца выхаду; 2) вусце; 3) вынік; 4) смерць
**ex-orior**, **ortus sum**, **4** 1) узыходзіць; 2) узнікаць; 3) адбывацца
**ex-ōro**, **1** упрошваць, маліць
**ex-pello**, **pŭli**, **pulsum**, **3** 1) выганяць; 2) скідаць, звяргаць, зрынаць; 3) пускаць (стралу)
**explorātor**, **ōris** *m* разведчык, шпіён
**explōro, 1** вывучаць
**ex-posco**, **poposci**, – , **3** упрошваць, маліць
**ex-prĭmo**, **pressi**, **pressum**, **3** 1) выціскаць; 2) маляваць; 3) перадаваць; 4) узнаўляць
**ex-pugno**, **1** 1) заваёўваць, захопліваць; 2) нападаць, атакаваць
**expuo** = **ex-spuo**, **spui**, **spūtum**, **3** пляваць
**exsilium**, **i** *n* выгнанне
**ex-solvo**, **solvi**, **solūtum**, **3** 1) вызваляць; 2) развязваць; 3) плаціць; 4) выконваць
**ex-specto**, **1** чакаць
**ex-stinguo**, **stinxi**, **stinctum**, **3** 1) гасіць; 2) падаўляць; 3) забіваць; 4) знішчаць
**ex-sto**, **stĭti**, – , **1** тырчаць, выдавацца, вытаркаць, выпінацца
**ex-struo**, **struxi**, **structum**, **3** будаваць, ставіць, узводзіць
**exsŭlo**, **1** жыць у выгнанні
**exta**, **ōrum** *n*, *pl. t.* вантробы
**extemplo** адразу ж
**exterior**, **ius** (*gen.* exteriōris) знешні
**externus**, **a**, **um** 1) вонкавы; 2) чужы, замежны
**extĕrus** = **externus**
**extra** (+ *acc.*) за межы, па-за, звонку, акрамя
**extraneus**, **a**, **um** 1) пабочны; 2) чужаземны, іншаземны
**extrēmus**, **a**, **um** 1) (самы) крайні, аддалены, далёкі; 2) надзвычайны
**ex-turbo**, **1** 1) выганяць; 2) выключаць; 3) разладжваць
**exŭlo** = **exsŭlo**
**ex-ūro**, **ussi**, **ustum**, **3** 1) спальваць, згараць; 2) спусташаць; 3) катаваць

# Ff

**faber**, **bri** *m* рамеснік, майстар, рабочы, мастак, творца
**Fabricius**, **i** *m* Фабрыцый, *рымскае імя*
**fabŭla**, **ae** *f* 1) казка, байка; 2) п’еса; 3) паданне
**facesso**, **ssīvi**, **ssītum**, **3** выконваць
**facies**, **ēi** *f* твар, выгляд
**facĭle** лёгка, без вялікіх намаганняў
**facĭlis**, **e** 1) лёгкі; 2) просты; 3) мяккі, падатлівы; 4) паслухмяны; 5) ласкавы, пяшчотны
**facĭnus**, **ŏris** *n* 1) учынак, справа; 2) злачынства
**facio**, **feci**, **factum**, **3** 1) рабіць, учыняць; bene f. – дапамагаць; initium f. – пакласці пачатак; finem f. – пакласці канец; 2) утвараць; 3) выконваць; 4) весці гандаль, гандляваць; 5) выклікаць; 6) заключаць; 7) ствараць
**factio**, **ōnis** *f* 1) дзеянне; 2) партыя, групоўка
**factor**, **ōris** *m* выканаўца, творца
**factum**, **i** *n* дзеянне, учынак
**facundia**, **ae** *f* красамоўства
**fagus**, **i** *f* бук
**fala**, **ae** *f* 1) аблогавая вежа; 2) калона ў цырку

**fallo**, **fefelli**, **falsum**, **3** падманваць, ашукваць

**falsus**, **a**, **um** (і)лжывы, хлуслівы, несапраўдны

**fama**, **ae** *f* погалас, рэпутацыя, чутка, слава

**fames**, **is** *f* голад

**familia**, **ae** *f* 1) сям'я; 2) чэлядзь

**familiāris**, **e** 1) дамашні, сямейны; 2) сяброўскі

**fas** *n* (*indecl.*) дазволенае, найвышэйшы (няпісаны) закон

**fascis**, **is** *m* звязак, пучок, вязанка; *pl.* фасцыі, *пучкі прутоў з сякерай у сярэдзіне*, *знакі годнасці рымскіх магістратаў* (*службовых асоб*)

**fateor**, **fassus sum**, **2** 1) прызнаваць, прызнавацца, згаджацца; 2) паказваць

**fatīgo**, **1** мучыць, стамляць

**fatum**, **i** *n* лёс

**fauces**, **ium** *f*, *pl. t.* (*abl. sg.* fauce) 1) глотка, пашча; 2) цясніна

**faveo**, **favi**, **fautum**, **2** 1) быць добразычлівым; 2) заступацца, апекавацца, спрыяць, абараняць, ахоўваць

**favilla**, **ae** *f* попел, прысак

**fax**, **facis** *f* 1) паходня; 2) святло; 3) полымя; 4) кара, няшчасце

**fel**, **fellis** *n* 1) жоўць; 2) горыч, злосць

**felicĭter** паспяхова

**felix**, **īcis** 1) шчаслівы; 2) багаты; 3) паспяховы, удачлівы

**femĭna**, **ae** *f* жанчына

**fenestra**, **ae** *f* 1) акно; 2) адтуліна

**fera**, **ae** *f* жывёла, звер

**ferax**, **ācis** урадлівы

**fere** амаль

**feria**, **ae** *f* дзень

**feriātus a**, **um** 1) бяздзейны, які (што) бяздзейнічае; 2) святочны

**fero**, **tuli**, **latum**, **ferre** 1) несці, прыносіць, пераносіць; 2) уносіць, прапаноўваць; 3) выносіць, пераносіць, зносіць, выцерпліваць, цярпець, вытрымліваць, трываць; 4) паведамляць; 5) аказваць; 6) падымаць

**ferox**, **ōcis** 1) дзікі; 2) імклівы, імпэтны; 3) адважны, смелы; 4) нястрымны; 5) дзёрзкі

**ferreus**, **a**, **um** жалезны

**ferrum**, **i** *n* 1) жалеза; 2) меч

**fertĭlis**, **e** урадлівы

**ferto**, **ōnis** *m* фертон, *сярэбраная манета*

**ferus**, **a**, **um** 1) дзікі; 2) некультурны, грубы

**festus**, **a**, **um** святочны, урачысты

**fidēlis**, **e** верны, адданы

**fides**, **ei** *f* 1) вера, давер, упэўненасць; 2) вернасць, адданасць; 3) клятва, абяцанне

**fido**, **fisus sum**, **3** давяраць, давярацца

**fidus**, **a**, **um** надзейны, пэўны, верны

**figo**, **fixi**, **fixum**, **3** 1) усаджваць, утыкаць; 2) убіваць; 3) умацоўваць

**filia**, **ae** *f* дачка

**filius**, **i** *m* (*voc. sg.* fili) сын

**filum**, **i** *n* нітка

**fingo**, **finxi**, **fictum**, **3** ствараць, выдумляць

**finio**, **4** 1) заканчваць; 2) абмяжоўваць; 3) вызначаць

**finis**, **is** *m* 1) канец; 2) мяжа, рубеж; *pl.* край, вобласць, тэрыторыя

**finitĭmi**, **ōrum** *m*, *pl. t.* бліжэйшыя суседзі

**finitĭmus**, **a**, **um** суседні, найбліжэйшы

**fio**, **factus sum**, **fiĕri** 1) рабіцца, бываць, станавіцца; 2) узнікаць, вынікаць, паўставаць; 3) здарацца, адбывацца, рабіцца; 4) абірацца

**firmo**, **1** умацоўваць

**firmus**, **a**, **um** моцны

**fistŭla**, **ae** *f* дудачка, флейта

**Flaccus**, **i** *m* Флак, *рымскае імя*

**flagro**, **1** гарэць, палаць, палымнець

**flamen**, **ĭnis** *n* подых, павеў

**flamma**, **ae** *f* полымя, агонь

**flecto**, **flexi**, **flexum**, **3** 1) гнуць, згінаць, згібаць; 2) паварочваць; ocŭlos f. – азірацца
**fleo**, **evi**, **etum**, **2** плакаць, аплакваць
**fletus**, **ūs** *m* плач
**floreo**, **florui**, – , **2** квітнець, расцвітаць, працвітаць
**flos**, **floris** *m* 1) кветка; 2) росквіт
**fluctus**, **ūs** *m* 1) плынь; 2) хваля; 3) збянтэжанасць, замяшанне, перапалох, разгубленасць
**flumen**, **ĭnis** *n* рака
**fluvius**, **i** *m* рака
**focŭlum**, **i** *n* маленькі ачаг, жароўня
**focŭlus**, **i** *m* маленькі ачаг, жароўня
**focus**, **i** *m* 1) ачаг, жароўня; 2) ахвярнік
**foedus**, **ĕris** *n* 1) саюз; 2) дамова; f. facĕre – заключыць дагавор (дамову)
**fons**, **fontis** *m* крыніца
**fore** = **futūrus esse**
**foris** знадворку, звонку, па-за домам
**foris**, **is** *f* дзверы
**forma**, **ae** *f* 1) знешні выгляд, форма; 2) прыгажосць
**formīdo**, **ĭnis** *f* страх
**formōsus**, **a**, **um** прыгожы, вытанчаны
**fors**, **fortis** *f* выпадак, лёс
**fortasse** магчыма, бадай, бадай што, мабыць, мусіць
**fortis**, **e** 1) смелы, адважны, храбры, мужны; 2) энергічны
**fortĭter** мужна
**fortitūdo**, **ĭnis** *f* сіла, бясстрашнасць
**fortūna**, **ae** *f* 1) дабрабыт, поспех; 2) лёс; 3) доля, выпадак; 4) становішча, шчасце; 5) маёмасць
**forum**, **i** *n* 1) плошча, пляц; 2) форум
**fossa**, **ae** *f* роў
**foveo**, **fovi**, **fotum**, **2** 1) песціць; 2) падтрымліваць; 3) захоўваць; 4) грэць, саграваць
**frango**, **fregi**, **fractum**, **3** ламаць, разрываць
**frater**, **tris** *m* брат
**fraus**, **fraudis** *f* вераломства, хітрасць
**frequentia**, **ae** *f* 1) мнагалюднасць; 2) частата
**frigĭdus**, **a**, **um** халодны
**frigus**, **ŏris** *n* холад
**frons**, **frondis** *f* лісце
**frons**, **frontis** *f* лоб, твар
**fructus**, **ūs** *m* 1) плод; 2) плён; 3) прырост, працэнты
**frugĭfer**, **ĕra**, **ĕrum** урадлівы, пладаносны
**frumentum**, **i** *n* хлеб, збожжа
**frustra** дарэмна, дарма, марна
**frux**, **frugis** *f* 1) ураджай, харчаванне; 2) плод; 3) твор
**fuēre** = **fuērunt**
**fuga**, **ae** *f* бег, уцёкі; in fugam se dare, fugae se mandāre – кінуцца на ўцёкі
**fugax**, **ācis** 1) які (што) убягае, збягае; 2) нясмелы, баязлівы; 3) мімалётны
**fŭgio**, **fūgi**, – , **3** бегчы, уцякаць
**fugo**, **1** праганяць, прымушаць да ўцёкаў, прымушаць уцякаць; *pass*. кінуцца (пусціцца) наўцёкі, прымушацца да ўцёкаў
**fulgur**, **ŭris** *n* маланка
**fulmen**, **ĭnis** *n* маланка
**fulmĭno**, **1** сыпаць маланкі, паражаць маланкай
**fumo**, **1** дыміцца
**fundamentum**, **i** *n* падмурак, аснова
**fundo**, **1** асноўваць, закладаць аснову
**fundo**, **fudi**, **fusum**, **3** 1) ліць; 2) сыпаць; 3) разганяць, разбіваць, прымушаць да ўцёкаў
**fungor**, **functus sum**, **3** (+ *abl.*) выконваць (абавязкі)
**funis**, **is** *m* вяроўка, канат, ліна
**funus**, **ĕris** *n* пахаванне
**furibundus**, **a**, **um** шалёны, раз’юшаны, люты
**furor**, **ōris** *m* лютасць, шаленства, вар’яцтва
**furtim** употай
**furtum**, **i** *n* крадзеж, зладзейства

**futūrum**, **i** *n* будучыня
**futūrus**, **a**, **um** 1) *pcp. fut. act. да* **sum**; 2) будучы, наступны, які (што) мае быць, надыходзячы

# Gg

**Gabinius**, **i** *m* Габіній, *рымскае імя*
**Getae**, **ārum** *m*, *pl. t.* геты, *фракійскае племя*
**Gajus**, **i** *m* Гай, *рымскае імя*
**Galilaea**, **ae** *f* Галілея, *вобласць на поўначы Ізраіля*
**Gallia**, **ae** *f* Галія, *гістарычная вобласць Еўропы*, *тэрыторыя сучаснай паўночнай Італіі*, *Францыі*, *Люксембурга*, *Бельгіі*, *часткі Нідэрландаў*, *часткі Швейцарыі*
**gallīna**, **ae** *f* курыца
**gallus**, **i** *m* певень
**Gallus**, **i** *m* гал, *жыхар Галіі*
**gaudeo**, **gavīsus sum**, **2** радавацца, цешыцца
**gaudium**, **i** *n* задавальненне, радасць
**gelĭdus**, **a**, **um** халодны, ледзяны
**gemebundus**, **a**, **um** жаласны, журботны
**gemĭno**, **1** падвойваць, удвойваць
**gemĭnus**, **a**, **um** 1) двайны; 2) парны; 3) падобны
**gener**, **ĕri** *m* зяць
**genĕsis**, **is** *f* 1) нараджэнне, паходжанне; 2) кніга Быцця
**gens**, **gentis** *f* 1) народ, племя, род; 2) від
**gentīlis**, **e** паганскі, язычніцкі
**genus**, **ĕris** *n* від, род, разнавіднасць
**Germania**, **ae** *f* Германія, *гістарычная вобласць Еўропы*, *тэрыторыя сучаснай Германіі і часткі Нідэрландаў*
**Germanĭcus**, **a**, **um** германскі
**germānus**, **a**, **um** родны
**Germānus**, **i** *m* германец, *жыхар Германіі*
**gero**, **gessi**, **gestum**, **3** 1) весці; 2) несці; 3) весці вайну, ваяваць; 4) адбывацца; 5) рабіць; magistratum g. – займаць пасаду
**gestio**, **4** 1) радавацца; 2) моцна жадаць
**gestus**, **ūs** *m* рух, жэст
**gigno**, **genui**, **genĭtum**, **3** нараджаць, ствараць
**gladiātor**, **ōris** *m* гладыятар
**gladiatorius**, **a**, **um** гладыятарскі
**gladius**, **i** *m* меч
**glisco**, – , – , **3** узмацняцца, разгарацца
**gloria**, **ae** *f* слава
**Gordium**, **i** *n* Гордый, *горад у Малой Азіі*
**Gordius**, **i** *m* Гордый, *цар Фрыгіі*
**Gothi**, **ōrum** *m*, *pl. t.* готы, *германскае племя*
**Gracchus**, **i** *m* Гракх, *рымскае імя*
**gracĭlis**, **e** стройны, высокі
**gradus**, **ūs** *m* 1) крок; 2) ступень
**Graece** па-грэчаску
**Graecia**, **ae** *f* Грэцыя
**Graecus**, **a**, **um** грэчаскі
**Graecus**, **i** *m* грэк
**Granīcus**, **i** *m* Гранік, *рака ў Малой Азіі*
**granum**, **i** *n* зерне, зярнятка, семечка
**gratiā** (+ *gen*.; *постпазітыўна*) з-за, дзеля, для
**gratia**, **ae** *f* 1) прывабнасць; 2) літасць, міласць, ласка, 3) падзяка, удзячнасць; gratiam agĕre дзякаваць
**gratis** дарма, бязвыплатна
**gratŭlor**, **1** 1) дзякаваць; 2) віншаваць
**gratus**, **a**, **um** 1) прыемны; 2) удзячны
**gravis**, **e** 1) моцны, важкі, грунтоўны, пераканаўчы; 2) суровы; 3) цяжкі, нязносны, нясцерпны
**gravĭter** 1) сурова; 2) цяжка; 3) моцна
**gremium**, **i** *n* улонне
**grex**, **gregis** *m* статак, чарада, натоўп, паства
**grossus**, **i** *m* грош

**guberno**, **1** кіраваць
**gurges**, **ĭtis** *m* вір, водаварот, бездань
**gusto**, **1** спрабаваць, выпрабоўваць
**gutta**, **ae** *f* 1) кропля; 2) сляза

# Hh

**habeo**, **habui**, **habĭtum**, **2** 1) мець; 2) ведаць; 3) гаварыць (oratiōnem – прамову); 4) лічыць
**habĭto**, **1** жыць, насяляць, засяляць
**habĭtus**, **ūs** *m* 1) выгляд; 2) адзенне, вопратка; 3) спосаб жыцця
**hac** там
**haedus**, **i** *m* казляня
**Hamilcar**, **ăris** *m* Гамількар, *карфагенскі палкаводзец*
**Hannĭbal**, **ălis** *m* Ганібал, *карфагенскі палкаводзец*
**haruspex**, **ĭcis** *m* гаруспік, *варажбіт, які варажыў па вантробах жывёл*
**hasta**, **ae** *f* дзіда
**haud** не, не зусім
**haustus**, **ūs** *m* 1) глыток, глытанне; 2) чэрпанне
**Hector**, **ŏris** *m* Гектар, *герой Траянскай вайны*
**Hecŭba**, **ae** *f* Гекуба, *жонка Прыама, маці Гектара і Парыса*
**Helĕna**, **ae** *f* Алена, *жонка Менелая, выкраданне якой Парысам стала прычынай Траянскай вайны*
**Helle**, **es** *f* Гелла, *сястра Фрыкса*
**Helvetius**, **i** *m* гельвет, *прадстаўнік кельцкага племені, якое засяляла паўночна-заходнюю частку сучаснай Швейцарыі*
**Hephaestus**, **i** *m* Гефест, *бог кавальскай справы*
**herba**, **ae** *f* трава, зелле
**hercle** клянуся Геркулесам
**Hercŭles**, **is** *m* Геркулес (Геракл), *сын Юпітэра і Алкмены*
**heres**, **ēdis** *m* наследнік
**Herodŏtus**, **i** *m* Герадот, *старажытнагрэчаскі гісторык*
**hiberna**, **ōrum** *n*, *pl. t.* зімовыя кватэры, зімовая стаянка
**Hibernia**, **ae** *f* Ібернія (= Ірландыя)
**hic** тут
**hic**, **haec**, **hoc** гэты, той, ён
**hiems**, **ĕmis** *f* 1) зіма; 2) непагода
**Hierosolўma**, **ae** *f* Іерусалім, *горад у Іудзеі*
**hinc** з гэтага часу, адсюль
**Hispania**, **ae** *f* Іспанія, *гістарычная вобласць Еўропы, тэрыторыя сучаснай Іспаніі і Партугаліі*
**historia**, **ae** *f* гісторыя
**hodie** сёння
**Homērus**, **i** *m* Гамер, *старажытнагрэчаскі паэт*
**homo**, **ĭnis** *m* чалавек
**honestas**, **ātis** *f* прыстойнасць
**honeste** сумленна, пачэсна
**honestus**, **a**, **um** 1) прыстойны, добры; 2) варты павагі
**honor**, **ōris** *m* 1) гонар, пашана; 2) ганаровая пасада
**honōro**, **1** 1) праслаўляць; 2) удастоіць, ганараваць
**hora**, **ae** *f* 1) час; 2) гадзіна
**Horatii**, **ōrum** *m*, *pl. t.* Гарацыі, *тры браты-блізняты, якія пры цару Туле Гастыліі перамаглі трох альбанскіх воінаў, братоў Курыяцыяў*
**Horatius**, **i** *m* Гарацый: 1) рымскі паэт; 2) адзін з братоў Гарацыяў (*гл.* **Horatii)**
**horribĭlis**, **e** страшны, жахлівы, жудасны
**horrĭdus**, **a**, **um** 1) валасаты; 2) грубы, жахлівы, страшны
**hortor**, **1** заклікаць, заахвочваць, падбадзёрваць
**hortus**, **i** *m* агарод, сад
**hospes**, **ĭtis** *m* 1) чужаземец; 2) госць; 3) гаспадар

**hospĭta**, **ae** *f* 1) чужаземка; 2) госця
**hospitium**, **i** *n* гасціннасць, прытулак, прыстанішча, прыстанак; in h. – у госці
**hospĭtus**, **a**, **um** 1) іншаземны, чужаземны; 2) гасцінны
**hostia**, **ae** *f* ахвярная жывёла, ахвяра
**Hostilius**, **i** *m* Гастылій, *рымскае імя*
**hostis**, **is** *m* вораг, непрыяцель
**huc** тут, да гэтага месца, да гэтага часу
**hucusque** да таго часу
**hujusmŏdi** такога роду
**humanĭtas**, **ātis** *f* 1) чалавекалюбства; 2) адукаванасць; 3) духоўная культура
**humānus**, **a**, **um** 1) чалавечы; 2) адукаваны
**humi** на зямлі, на зямлю
**humĭlis**, **e** нізкі, нікчэмны, будзённы
**humus**, **i** *f* зямля, глеба
**hydra**, **ae** *f* гідра, *вадзяная змяя*
**hymnus**, **i** *m* гімн

# Ii

**Iāso(n)**, **ŏnis** *m* Ясон, *правадыр аргаўтаў*
**ibi** там, туды, тады
**ibĭdem** тамсама
**Icărus**, **i** *m* Ікар, *сын Дэдала*
**ico** (**icio**), **ici**, **ictum**, **3** паражаць, ударадаць; foedus i. – заключыць дамову
**ictus**, **ūs** *m* удар, напад, нападзенне
**idcirco** таму
**idem**, **eădem**, **idem** той самы; адзін і той жа
**idōlum**, **i** *n* ідал, кумір
**idoneus**, **a**, **um** выгодны, зручны, прыдатны
**Idus**, **uum** *f*, *pl. t.* Іды, *13-ы або 15-ы дзень месяца*
**Ierusālem** (*indecl.*) Іерусалім, *горад у Іудзеі*
**igĭtur** такім чынам, дык, жа
**ignārus**, **a**, **um** 1) які (што) не ведае; невядомы
**igneus**, **a**, **um** агнявы
**ignicŭlus**, **i** *m* агеньчык
**ignis**, **is m** агонь
**ignōro**, **1** не ведаць
**ignosco**, **nōvi**, **nōtum**, **3** даравацъ, прабачаць
**ignōtus**, **a**, **um** невядомы
**ille**, **illa**, **illud** 1) гэты, той; 2) ён; 3) згаданы, знакаміты, славуты
**illic** там
**illuc** туды
**il-lūdo**, **lūsi**, **lūsum**, **3** 1) гуляць; 2) насміхацца, кпіць
**illumĭno**, **1** 1) асвятляць; 2) праслаўляць
**illustris**, **e** светлы, славуты, знакаміты
**il-lustro**, **1** 1) асвятляць; 2) тлумачыць; 3) праслаўляць
**imāgo**, **ĭnis** *f* вобраз, выява, выгляд
**imber**, **bris** *m* дождж, лівень
**imitatio**, **ōnis** *f* перайманне
**immānis**, **e** вялізны, незвычайны
**immensus**, **a**, **um** празмерны, невымерны, велічэзны
**im-mĭgro**, **1** 1) трапляць; 2) усяляцца, пасяляцца
**im-mĭneo**, – , – , **2** паграджаць, навісаць
**im-mŏlo**, **1** ахвяраваць, прыносіць у ахвяру, заколваць
**immortālis**, **e** бессмяротны
**immortalĭtas**, **ātis** *f* бессмяротнасць, неўміручасць
**immunditia**, **ae** *f* гразь, бруд
**im-mūto, 1** мяняць, змяняць
**impar**, **păris** 1) няроўны; 2) які (што) не ў стане супрацьстаяць
**impatientia**, **ae** *f* нядольнасць пераносіць, нецярпенне
**impedimenta**, **ōrum** *n*, *pl. t.* абоз
**im-pello**, **pŭli**, **pulsum**, **3** гнаць, заахвочваць
**imperātor**, **ōris** *m* 1) галоўнакамандуючы, палкаводзец; 2) імператар

**imperātum**, **i** *n* загад

**imperium**, **i** *n* 1) дзяржава, імперыя; 2) улада; 3) загад

**im-pĕro**, **1** 1) быць імператарам; 2) загадваць

**im-pĕtro**, **1** 1) вымольваць, выпрошваць, выкленчваць; 2) дасягаць, дабівацца, дамагацца; 3) атрымоўваць

**impĕtus**, **ūs** *m* набег, напад

**impius**, **a**, **um** 1) згубны; 2) грэшны, паганы, злачынны

**implacabĭlis**, **e** непрымірымы, няўмольны; неаслабны

**im-pleo**, **ēvi**, **ētum**, **2** 1) напаўняць; 2) выконваць

**im-plĭco**, **1** 1) абвіваць, абдымаць, ахопліваць; 2) завязваць

**im-plōro**, **1** маліць, прасіць

**im-pōno**, **posui**, **posĭtum**, **3** 1) класці, ускладаць; 2) надзяваць; 3) наносіць

**im-porto**, **1** увозіць

**impŏtens**, **entis** нястрымны, які (што) не валодае сабою

**impressor**, **ōris** *m* друкар

**imprŏbus**, **a**, **um** грэшны, паганы, несумленны, бессаромны

**imprūdens**, **entis** 1) бязглузды, дурны; 2) нявопытны, неспрактыкаваны

**impūbes**, **ĕris** нясталы, цнатлівы

**impunĭtas**, **ātis** *f* 1) беспакаранасць; 2) амністыя

**in** (*куды? + acc.*, *дзе? + abl.*) да, на, у, пад, у адносінах да, падчас, супраць, сярод

**incarnor**, **1** увасабляцца, адзявацца плоцццю

**in-cendo**, **ndi**, **nsum**, **3** запальваць, падпальваць, спальваць

**incertus**, **a**, **um** ненадзейны, няпэўны, сумніўны

**in-cĭdo**, **cĭdi**, – , **3** 1) аказвацца, здарацца; 2) узнікаць

**in-cīdo**, **cīdi**, **cīsum**, **3** 1) рэзаць; 2) раніць; 3) высякаць

**in-cĭpio, cēpi, ceptum, 3** пачынаць

**in-cĭto**, **1** заахвочваць, падбухторваць

**in-clūdo**, **clūsi**, **clūsum**, **3** 1) акружаць, абкружаць; 2) зачыняць; 3) абмяжоўваць; 4) уключаць

**inclusīve** уключаючы

**incognĭtus**, **a**, **um** невядомы, таямнічы

**incŏla**, **ae** *m*, *f* жыхар, жыхарка

**in-cŏlo**, **colui**, **cultum**, **3** 1) жыць, пражываць; 2) насяляць, засяляць

**incolŭmis**, **e** цэлы, непашкоджаны

**incommŏdum**, **i** *n* 1) нязручнасць; 2) непрыемнасць

**incredibĭlis**, **e** неверагодны

**incrĕpo**, **pui**, **pĭtum**, **1** 1) шумець, крычаць; 2) папракаць, упікаць, дакараць

**in-curro**, **curri**, **cursum**, **3** 1) убягаць; 2) нападаць; 3) кідацца; 4) станавіцца ахвярай

**incursio**, **ōnis** *f* напад, уварванне

**incurvus**, **a**, **um** загнуты, крывы

**incūso**, **1** 1) абвінавачваць; 2) скардзіцца

**in-cŭtio**, **cussi**, **cussum**, **3** 1) біць, ударадь; 2) кідаць; 3) усяляць, надаваць

**inde** адтуль, затым, таму

**indelebĭlis, e** незабыўны, вечны

**indicium**, **i** *n* данос, сведчанне, паказанне

**in-dīco**, **dixi**, **dictum**, **3** 1) аб'яўляць, абвяшчаць; 2) назначаць, прызначаць

**indiffĕrens**, **entis** 1) чужы; 2) абыякавы

**indignatio**, **ōnis** *f* абурэнне

**in-dignor**, **1** абурацца, гневацца, злаваць, злавацца, крыўдаваць

**in-do**, **dĭdi**, **dĭtum**, **3** 1) прыдаваць; 2) называць

**in-dūco**, **duxi**, **ductum**, **3** 1) уводзіць; 2) прымушаць, схіляць, заахвочваць

**in-dulgeo**, **dulsi**, **dultum**, **2** 1) быць спагадлівым; 2) клапаціцца; 3) дазва-

ляць; 4) саступаць, падпарадкоўвацца
**ind-uo**, **indui**, **indūtum**, **3** 1) апранаць; 2) прыдаваць
**industria**, **ae** *f* энергія, дзейнасць, працавітасць
**in-eo**, **ii**, **ĭtum**, **īre** 1) уваходзіць; 2) пачынаць; 3) абдумваць; 4) прымаць (рашэнне)
**infamatorius**, **a**, **um** абразлівы, зняважлівы, які (што) няславіць, ганебны
**infamia**, **ae** *f* ганьба, няслава
**infans**, **fantis** маленькі
**infans**, **fantis** *m*, *f* дзіця, немаўля
**infantia**, **ae** *f* 1) маўклівасць; 2) дзяцінства, маленства
**infĕri**, **ōrum** *m*, *pl. t.* 1) жыхары апраметнай; 2) памерлыя, нябожчыкі; 3) царства памерлых
**inferior**, **ius** (*gen*. inferiōris) 1) ніжні; 2) больш позні; 3) малодшы
**in-fĕro**, **tŭli**, **lātum**, **ferre** 1) наносіць, прычыняць; 2) аб'яўляць; 3) ісці (вайной), нападаць; bellum i. (+ *dat*.) нападаць на; 4) уносіць, прыносіць
**infĕrus**, **a**, **um** (*compar.* inferior; *superl.* infĭmus) 1) ніжні, які знаходзіцца знізу; 2) падземны
**infestus**, **a**, **um** варожы, небяспечны
**in-fĭcio**, **fēci**, **factum**, **3** 1) прамочваць, насычаць; 2) афарбоўваць; 3) заражаць
**infinītus**, **a**, **um** неабмежаваны, бязмежны, бясконцы, бяскрайні
**in-fluo**, **fluxi**, **fluxum**, **3** цячы
**in-fringo**, **frēgi**, **fractum**, **3** 1) ламаць; 2) аслабляць
**in-gemĭno**, **1** 1) падвоіць, удвоіць; 2) паўтарыць
**in-gemisco**, **gemui**, – , **3** уздыхаць, аплакваць
**ingeniōsus**, **a**, **um** таленавіты
**ingenium**, **i** *n* здольнасць, талент, розум
**ingens**, **entis** 1) агромны, велізарны, вялікі, вялізны, велічэзны; 2) слаўны
**in-gĕro**, **gessi**, **gestum**, **3** 1) укладаць, укладваць; 2) напаўняць
**ingrātis** неахвотна
**in-grĕdior**, **gressus sum**, **3** 1) уступаць, уваходзіць; 2) нападаць
**in-hĭbeo**, **hibui**, **hibĭtum**, **2** 1) утрымліваць, стрымліваць; 2) прымяняць
**inimīcus**, **a**, **um** варожы
**inimīcus**, **i** *m* вораг
**initium**, **i** *n* 1) пачатак; initio – спачатку; 2) уступ
**injuria**, **ae** *f* 1) крыўда; 2) несправядлівасць
**injustus**, **a**, **um** несправядлівы, незаконны
**inlustris**, **e** яркі, славуты, знакаміты
**innŏcens**, **entis** 1) невінаваты, бязвінны; 2) бясшкодны
**innumerabĭlis**, **e** незлічоны
**inopia**, **ae** *f* 1) адсутнасць, недахоп, нястача; 2) беднасць, бяднота
**inquam**, **inquit** (*defect*.) казаць (§ 79, п. 7а)
**inscius**, **a**, **um** 1) які (што) не ведае; 2) незнаёмы
**in-scrībo**, **scripsi**, **scriptum**, **3** 1) апісваць, запісваць; 2) піса́ць на
**in-secto**, – , – , **1** ганіць, ганьбаваць
**in-sector**, **1** праследаваць, перапраследаваць
**in-sĕquor**, **secūtus sum**, **3** 1) праследаваць, пераследаваць; 2) хадзіць па пятах
**in-sĕro**, **sēvi**, **sĭtum**, **3** 1) пераконваць; 2) прывіваць; 3) выхоўваць
**insidiae**, **ārum** *f*, *pl. t.* 1) засада, пастка; 2) інтрыгі, падкопы
**insigne**, **is** *n* знак, адзнака
**insignio**, **4** адзначаць, вылучаць
**insignis**, **e** выдатны, надзвычайны
**insŏlens**, **entis** 1) незвычайны; 2) празмерны; 3) пагардлівы, фанабэрысты

**pro-ficiscor**, **fectus sum**, **3** адпраўляцца, сыходзіць

**pro-fiteor**, **fessus sum**, **2** 1) заяўляць, аб'яўляць, прызнаваць; 2) выкладаць

**pro-fŭgio**, **fūgi**, – , **3** 1) бегчы, уцякаць; 2) пазбягаць

**profŭgus**, **a**, **um** 1) уцякач, выгнаны; 2) які (што) вандруе

**prognāti**, **ōrum** *m*, *pl. t.* нашчадкі

**prognātus**, **a**, **um** народжаны

**pro-grĕdior**, **gressus sum**, **3** адпраўляцца, выходзіць

**pro-hĭbeo**, **hibui**, **hibĭtum**, **2** 1) адбіваць, адганяць; 2) перашкаджаць, замінаць, не дазваляць; 3) адлюстроўваць

**pro-ĭcio**, **jēci**, **jectum**, **3** 1) кідаць, выкідваць; 2) валіць з ног; 3) працягваць; 4) адмаўляцца

**projicio** = **proicio**

**proles**, **is** *f* 1) нашчадак; 2) патомства, нашчадкі

**Prometheus**, **i** *m* Праметэй, *тытан, абаронца людзей ад самавольства багоў*

**promiscue** змяшана, разам

**pro-mitto**, **mīsi**, **missum**, **3** 1) адпускаць; 2) абяцаць

**promo**, **prompsi**, **promptum**, **3** 1) даставаць; 2) выяўляць; 3) распавядаць, тлумачыць

**pro-mŏveo**, **mōvi**, **mōtum**, **2** 1) спрыяць поспеху; 2) развіваць, умацоўваць

**promptus**, **a**, **um** гатовы, схільны

**pro-mulgo**, **1** паведамляць, аб'яўляць

**pro-nuntio**, **1** аб'яўляць, заяўляць

**prope** (+ *acc.*) каля, паблізу

**prope** (*adv.*) амаль

**propĕre** паспешна

**Propertius**, **i** *m* Праперцый, *рымскі элегічны паэт*

**prophēta**, **ae** *m* прарок

**propinquĭtas**, **ātis** блізкасць, сваяцтва

**propinquus**, **a**, **um** блізкі

**pro-pōno**, **posui**, **posĭtum**, **3** 1) выкладаць, выказваць; 2) прапаноўваць; 3) выстаўляць; 4) прадпрымаць

**proprius**, **a**, **um** уласны, уласцівы

**propter** (+ *acc.*) з прычыны, з-за

**propterea** па гэтай прычыне, з гэтай прычыны

**proscriptio**, **ōnis** *f* 1) аб'ява; 2) праскрыпцыя, *абвяшчэнне па-за законам*

**pro-sĕquor**, **secūtus sum**, **3** 1) суправаджаць; 2) выяўляць; 3) аб'яўляць

**Proserpĭna**, **ae** *f* Празерпіна, *багіня падземнага царства*

**pro-spĭcio**, **spexi**, **spectum**, **3** 1) глядзець удалечыню, прадбачыць; 2) вартаваць, пільнаваць; 3) клапаціцца

**pro-sum**, **profui**, – , **prodesse** быць карысным, даваць карысць, дапамагаць

**pro-tĕgo**, **texi**, **tectum**, **3** заступацца за, апекавацца над, спрыяць, абараняць, ахоўваць, падтрымліваць

**pro-tendo**, **tendi**, **tentum (tensum)**, **3** працягваць, расцягваць

**protĭnus** адразу ж, зараз жа, неадкладна, далей

**pro-trăho**, **traxi**, **tractum**, **3** выцягваць, выяўляць

**pro-vĭdeo**, **vīdi**, **vīsum**, **2** 1) гатаваць, загатоўваць, нарыхтоўваць; 2) клапаціцца; 3) прадбачыць

**provĭdus**, **a**, **um** прадбачлівы, разважлівы

**provincia**, **ae** *f* правінцыя

**Provincia**, **ae** *f* Правінцыя, *вобласць у паўднёва-ўсходняй Галіі*

**provīsor**, **ōris** *m* наглядчык, назіральнік (у школе ці брацтве)

**pro-vŏco**, **1** 1) выклікаць; 2) запрашаць; 3) падбухторваць

**proxĭmus**, **a**, **um** 1) найбліжэйшы; 2) апошні; 3) наступны

**prudens**, **entis** 1) дасведчаны, разумны; 2) разважлівы
**prudentia**, **ae** *f* 1) веды; 2) прадбачанне; 3) разважнасць, прадбачлівасць
**pruīna**, **ae** *f* шэрань, намаразь
**Ptolemaeus**, **i** *m* Пталемей, *цар Егіпта*
**pubes**, **is** *f* 1) сталасць; 2) сталыя людзі, мужчыны
**publĭce** 1) па дзяржаўных справах, афіцыйна; 2) публічна, адкрыта
**publĭcus**, **a**, **um** грамадскі, дзяржаўны, усенародны, публічны
**Publilius**, **i** *m* Публілій, *рымскае імя*
**Publius**, **i** *m* Публій, *рымскае імя*
**pudor**, **ōris** *m* сорам, сарамлівасць
**puella**, **ae** *f* дзяўчынка
**puer**, **ĕri** *m* хлопчык, дзіця
**puerīlis**, **e** дзіцячы, падлеткавы, хлапецкі
**pueritia**, **ae** *f* дзяцінства
**pugna**, **ae** *f* 1) бітва, бойка, бой; 2) паядынак, спаборніцтва, выперадкі
**pugnitīvus**, **a**, **um** які (што) пагражае, пагрозлівы
**pugno**, **1** змагацца, ваяваць
**pugnus**, **i** *m* кулак
**pulcher**, **chra**, **chrum** прыгожы, цудоўны, слаўны, славуты, высакародны, прыстойны, выдатны
**pulchritūdo**, **ĭnis** *f* прыгажосць
**pulvis**, **ĕris** *m* пыл
**Punĭcus**, **a**, **um** пунічны
**punio**, **4** караць
**purgo**, **1** 1) ачышчаць, чысціць; 2) апраўдваць
**puto**, **1** думаць, лічыць, меркаваць
**pyrămis**, **ĭdis** *f* піраміда
**Pyrenaeus**, **a**, **um** пірэнейскі
**Pyrrhus**, **i** *m* Пір, *цар Эпіра*, *вобласці на паўночным захадзе Грэцыі*
**Pythagŏras**, **ae** *m* Піфагор, *грэчаскі філосаф*
**Pythia**, **ae** *f* Піфія, *жрыца Апалона*

# Qq

**quā** дзе
**quadragesĭmus**, **a**, **um** саракавы
**quadraginta** сорак
**quadrans**, **antis** *m* чвэрць
**quadrātus**, **a**, **um** чатырохкутны, квадратны
**quadringentesĭmus**, **a**, **um** чатырохсоты
**quaero**, **quaesīvi**, **quaesītum**, **3** 1) пытаць, пытацца, запытваць, запытвацца, распытваць; 2) шукаць; 3) дамагацца; 4) набываць
**quaeso** калі ласка
**quaestio**, **ōnis** *f* апытанне, допыт, расследаванне
**quaestor**, **ōris** *m* 1) квестар; 2) скарбнік
**quaestus**, **ūs** *m* набыццё, прыбытак, выгада
**qualis**, **e** які (*па якасці*)
**qualitercunque** якім-небудзь чынам
**quam** 1) чым; 2) як
**quamdiu** дакуль, як доўга
**quamquam** хоць, хаця
**quamvis** 1) хоць, хаця; 2) як бы ні
**quando** калі
**quantum** колькі
**quantus**, **a**, **um** які (*вялікі*, *моцны*); quanto – наколькі
**quare** чаму
**quartus**, **a**, **um** чацвёрты
**quasi** як быццам, быццам, быццам бы, нібы, нібыта
**quater** чатыры разы
**quattuor** чатыры
**-que** (*постпазітыўная часціца*) і
**queo**, **quivi**, **quitum**, **quire** магчы
**queror**, **questus sum**, **3** скардзіцца, жаліцца
**questus**, **ūs** *m* скарга
**qui**, **quae**, **quod** які, хто, што; quā de causā – па якой (гэтай) прычыне, таму

**quia** бо, таму што
**quicumque**, **quaecumque**, **quodcumque** які б ні, хто б ні, што б ні, кожны (хто)
**quidam**, **quaedam**, **quoddam** нейкі, якісьці, які-небудзь
**quidem** менавіта, жа
**quilĭbet**, **quaelĭbet**, **quodlĭbet** (**quidlĭbet**) кожны, любы
**quin** каб не, што
**quindecimvir**, **i** *m* квіндэцэмвір, *член калегіі пятнаццаці*
**quingenti**, **ae**, **a** пяцьсот
**quinquagesĭmus**, **a**, **um** пяцідзясяты
**quinque** пяць
**quintus**, **a**, **um** пяты
**Quintus**, **i** *m* Квінт, *рымскае імя*
**quippe** вядома, бо
**Quirītes**, **um** *m*, *pl. t.* квірыты, *рымскія грамадзяне*
**quis**, **quid** хто, што
**quisquam**, **quidquam** хто-небудзь, што-небудзь, хто б ні, што б ні, якісьці, кожны (хто), усялякі, які заўгодна
**quisque**, **quaeque**, **quidque** (**quodque**) кожны
**quisquis**, **quidquid** хто б ні, што б ні
**quivis**, **quaevis**, **quidvis** усякі, любы
**quo** куды, дзе, каб
**quoad** наколькі, датуль, пакуль
**quod** бо, што
**quod** *гл.* **qui**
**quomŏdo** якім чынам, як
**quondam** калісьці, калі-небудзь, каліcь
**quoniam** таму што, бо
**quoque** таксама, нават
**quot** колькі
**quotannis** штогод
**quotidiānus**, **a**, **um** штодзённы
**quotidie** штодня, штодзень
**quovismŏdo** якім-небудзь чынам
**quum** = **cum** калі, таму што, хоць, тады як

# Rr

**rado**, **rasi**, **rasum**, **3** 1) галіць; 2) чысціць
**ramus**, **i** *m* галіна, галінка
**rapīna**, **ae** *f* 1) грабеж, рабунак, рабаванне; 2) здабыча
**rapio**, **rapui**, **raptum**, **3** 1) выкрадаць, красці, рабаваць; 2) завалодваць; 3) хапаць, схопліваць, хватаць; 4) зрываць; 5) выносіць; 6) увозіць
**rapto**, **1** хапаць, выкрадаць
**raptus**, **ūs** *m* выкраданне
**raro** рэдка
**ratio**, **ōnis** *f* 1) розум; 2) метад, спосаб; 3) план, тэорыя; 4) разлік
**re-bello**, **1** паўставаць, супраціўляцца
**re-cēdo**, **cessi**, **cessum**, **3** 1) аддаляць; 2) адыходзіць, зыходзіць
**recens**, **entis** новы, свежы
**re-cĭpio**, **cēpi**, **ceptum**, **3** 1) прымаць; 2) пушчаць, пускаць; 3) упускаць; 4) захопліваць; 5) se r. – вяртацца; 6) вызваляць
**re-cĭto**, **1** чытаць уголас
**re-clīno**, **1** схіляць, прыхінаць
**recognitio**, **ōnis** *f* прызнанне, заява
**re-condo**, **dĭdi**, **dĭtum**, **3** прымаць, хаваць
**re-cordor**, **1** успамінаць, прыгадваць, памятаць
**recte** правільна
**rector**, **ōris** *m* кіраўнік, рэктар
**red-do**, **dĭdi**, **dĭtum**, **3** 1) вяртаць, аддаваць; 2) распавядаць
**red-eo**, **ii**, **ĭtum**, **īre** ісці назад, вяртацца
**red-ĭgo**, **ēgi**, **actum**, **3** 1) аддаваць, перадаваць; in potestātem r. – заваёўваць, пакараць; 2) трапляць; 3) гнаць назад, вяртаць, звяртаць
**red-ĭmo**, **ēmi**, **emptum**, **3** купляць, вызваляць, ратаваць
**redĭtus**, **ūs** *m* вяртанне

**re-dūco**, **duxi**, **ductum**, **3** 1) варочаць, вяртаць, адводзіць назад; 2) уводзіць; 3) аднаўляць
**re-fěro**, **tŭli**, **lātum**, **ferre** 1) адносіць, прыносіць; 2) паведамляць; 3) даносіць, дакладваць; 4) параўноўваць
**re-fĭcio**, **fēci**, **factum**, **3** 1) рамантаваць, аднаўляць; 2) вяртацца да жыцця
**regālis**, **e** царскі
**regio**, **ōnis** *f* краіна, вобласць, край
**regius**, **a**, **um** царскі
**regno**, **1** 1) кіраваць, уладарыць; 2) царстваваць, цараваць
**regnum**, **i** *n* 1) улада; 2) царская ўлада; 3) царства; 4) дзяржава
**rego**, **rexi**, **rectum**, **3** валадарыць, кіраваць
**Regŭlus**, **i** *m* Рэгул, *рымскае імя*
**religio**, **ōnis** *f* 1) рэлігія; 2) святыня; 3) набожнасць
**religiōsus**, **a**, **um** набожны, богабаязны
**relinquo**, **līqui**, **lictum**, **3** кідаць, пакідаць
**relĭquus**, **a**, **um** 1) астатні; 2) пакінуты
**remăneo**, **mansi**, **mansum**, **2** заставацца, знаходзіцца
**remedium**, **i** *n* 1) лекі; 2) сродак
**remissio**, **ōnis** *f* 1) адпушчэнне, вызваленне; 2) прабачэнне; 3) аднаўленне
**remissus**, **a**, **um** 1) млявы, гультаяваты; 2) мяккі
**re-mitto**, **mīsi**, **missum**, **3** 1) адсылаць, адпраўляць; 2) аслабляць; 3) вяртаць; 4) даваць
**re-mŏror**, **1** затрымоўвацца, марудзіць
**re-mŏveo, mōvi, mōtum, 2** выдаляць
**Remus**, **i** *m* Рэм, *брат Ромула*
**re-nītor**, **nīsus (nixus) sum**, **3** упірацца, супраціўляцца
**reno**, **ōnis** *m* 1) паўночны алень; 2) шкура
**re-nŏvo**, **1** 1) аднаўляць; 2) распальваць зноў
**re-nuntio**, **1** 1) абвяшчаць, аб'яўляць; 2) дакладваць, паведамляць
**reor**, **ratus sum**, **2** думаць, лічыць
**re-pello**, **pŭli**, **pulsum**, **3** 1) адбіваць, адганяць, адкідаць, адкідваць, прраганяць; 2) адлюстроўваць; 3) адводзіць
**repentīnus**, **a**, **um** раптоўны, нечаканы
**re-pěrio**, **reppěri**, **repertum**, **4** адкрываць, знаходзіць, вынаходзіць, прыдумляць
**re-pěto**, **petīvi**, **petītum**, **3** 1) узгадваць; 2) успамінаць, вяртацца
**re-pleo**, **plēvi**, **plētum**, **2** папаўняць, напаўняць
**re-porto**, **1** 1) несці назад; 2) перадаваць; 3) атрымліваць, набываць; victoriam de aliquo r. – атрымаць над кім-небудзь перамогу
**re-prehendo**, **ndi**, **nsum**, **3** 1) затрымліваць, спыняць; 2) ганіць, ганьбаваць, асуджаць
**reptĭle**, **is** *n* паўзун, гад
**re-pŭdio**, **1** 1) адхіляць, адмаўляцца; 2) пагарджаць, грэбаваць
**re-pugno**, **1** супраціўляцца, супярэчыць
**repulsa**, **ae** *f* адмова
**requies**, **ēi** *f* супакой, адпачынак
**re-quīro**, **quisīvi**, **quisītum**, **3** пытаць, шукаць
**res**, **rei** *f* 1) рэч, прадмет; 2) акалічнасць, абставіны, стан, становішча; r. secundae – працвітанне, росквіт, поспех; r. adversae – бядотнае становішча, няшчасце; r. militāris – ваенная справа; r. frumentaria – харчовае забеспячэнне; r. publĭca – дзяржава, рэспубліка; r. novae – навіна, новаўвядзенне, рэформа, дзяржаўны пераварот; r. familiāris – маёмасць, прыватная ўласнасць; r. gestae – подзвігі; r. rustĭca – сельская гаспадарка; r. summae – найважнейшыя справы; scriptor rerum – гісторык; ob eam rem, quā re – таму; 3) бой
**re-salūto**, **1** адказваць на прывітанне

**re-scindo**, **scĭdi**, **scisum**, **3** 1) раздзіраць; 2) руйнаваць, знішчаць, разбураць
**re-scrībo**, **scripsi**, **scriptum**, **3** пісаць у адказ
**re-sĭdeo**, **sēdi**, **sessum**, **2** сядзець, знаходзіцца
**re-specto**, **1** 1) азірацца, аглядацца; 2) прымаць да ўвагі
**re-spergo**, **spersi**, **spersum**, **3** апырскваць
**re-spĭcio**, **spexi**, **spectum**, **3** 1) клапаціцца, турбавацца; 2) аглядацца; 3) мець на ўвазе
**re-spondeo**, **spondi**, **sponsum**, **2** 1) адказваць; 2) адпавядаць
**responsum**, **i** *n* адказ
**re-stituo**, **stitui**, **stitūtum**, **3** аднаўляць, вяртаць
**re-sto**, **stĭti**, **stĭtum**, **1** заставацца, ацалець
**re-surgo**, **surrexi**, **surrectum**, **3** 1) уставаць; 2) адраджацца, уваскрасаць
**resurrectio**, **ōnis** *f* уваскрашэнне
**rete**, **is** *n* сетка
**re-texo**, **texui**, **textum**, **3** распускаць, адмяняць
**re-tĭneo**, **tinui**, **tentum**, **2** утрымліваць, затрымліваць, стрымліваць
**re-trăho**, **traxi**, **tractum**, **3** 1) вяртаць; 2) скарачаць; 3) адцягваць
**reus**, **i** *m* абвінавачаны, падсудны
**re-vēlo**, **1** адкрываць
**re-verto**, **verti**, **versum**, **3** = **revertor**
**re-vertor**, **versus sum** (**verti**), **3** вяртацца
**re-vĭreo**, – , – , **2** зноў зацвітаць
**re-vŏco**, **1** 1) аднаўляць; 2) варочаць, вяртаць
**rex**, **regis** *m* цар
**Rhenus**, **i** *m* Рэйн, *рака*
**rideo**, **risi**, **risum**, **2** 1) усміхацца, смяяцца; 2) спрыяць
**ripa**, **ae** *f* бераг
**Riphaeus**, **a**, **um** рыфейскі; Riphaei montes – рыфейскія горы
**ritus**, **ūs** *m* веравызнанне, абрад
**rivus**, **i** *m* ручай
**robur**, **ŏris** *n* 1) дуб; 2) цвёрдасць, трываласць, сіла, магутнасць, моц
**rogĭto**, **1** пытацца, распытваць; 2) прасіць; 3) прапаноўваць
**rogo**, **1** пытаць, прасіць
**rogus**, **i** *m* вогнішча, агонь
**Roma**, **ae** *f* Рым; *loc.* Romae – у Рыме; Romam – у Рым
**Romānus**, **a**, **um** рымскі
**Romānus**, **i** *m* рымлянін
**Romŭlus**, **i** *m* Ромул, *заснавальнік Рыма*
**rotundus**, **a**, **um** круглы
**rubeo**, **bui**, – , **2** 1) чырванець; 2) афарбоўвацца
**rudis**, **e** 1) няўроблены, неапрацаваны; 2) грубы; 3) неадукаваны
**ruga**, **ae** *f* маршчына
**ruīna**, **ae** *f* 1) падзенне, абвал; 2) разваліны, руіны
**rumor**, **ōris** *m* 1) чутка, пагалоска; 2) абгаворы, плёткі
**rumpo**, **rupi**, **ruptum**, **3** ірваць, ламаць, знішчаць
**ruo**, **rui**, **rutum**, **3** 1) бурыцца, разбурацца, абвальвацца, валіцца; 2) кідацца, рынуцца; 3) накіроўвацца
**rupes**, **is** *f* скала, уцёс, цясніна
**ruri** у вёсцы
**rursus** 1) зноў; 2) назад
**rustĭcus**, **a**, **um** вясковы, сельскі, сялянскі

## Ss

**sabbătum**, **i** *n* субота
**Sabīna**, **ae** *f* сабінянка
**Sabīni**, **ōrum** *m*, *pl. t.* сабіняне, *племя, што жыло ў мясцовасці на паўночным усходзе ад Рыма*
**Sabīnus**, **a**, **um** сабінскі

**sacer**, **cra**, **crum** 1) пасвячоны, прысвечаны; 2) святы, свяшчэнны
**sacerdos**, **ōtis** *m*, *f* жрэц, жрыца
**sacerdotium**, **i** *n* жрэцтва, жрэцкі сан
**sacrarium**, **i** *n* свяцілішча, храм
**sacrificium**, **i** *n* ахвярапрынашэнне
**sacrifĭco**, **1** 1) ахвяраваць, прыносіць ахвяры (у ахвяру); 2) асвячаць
**sacrilĕgus**, **a**, **um** ганебны, блюзнерскі
**sacrum**, **i** *n* святыня, свяшчэннадзейства, ахвяра
**saeclum**, **i** *n* = **saecŭlum**
**saecŭlum**, **i** *n* 1) стагоддзе; 2) пакаленне; 3) эпоха
**saepe** часта
**saepio**, **saepsi**, **saeptum**, **4** агароджваць, акружаць
**saevus**, **a**, **um** 1) люты; 2) злосны, зласлівы, грозны
**sagitta**, **ae** *f* страла
**Salămis**, **īnis** *f* Саламін, *востраў каля ўзбярэжжа Грэцыі*
**salio**, **salui**, **saltum**, **4** скакаць
**Sallustius**, **i** *m* Салюстый, *рымскі гісторык*
**saltus**, **ūs** *m* скачок; saltūs dare – узняцца, узвіцца, скокнуць
**salus**, **ūtis** *f* 1) выратаванне, уратаванне; 2) працвітанне, дабрабыт, росквіт; 3) здароўе; 4) прывітанне
**salūto**, **1** прывітаць, вітаць
**salvātor**, **ōris** *m* збавіцель, выратавальнік
**salvo**, **1** ратаваць
**salvus**, **a**, **um** 1) цэлы, непашкоджаны, некрануты; 2) здаровы
**Samii**, **ōrum** *m*, *pl. t.* самосцы, *жыхары вострава Самос*
**sanctifĭco**, **1** асвячаць
**sanctus**, **a**, **um** святы, свяшчэнны
**sane** сапраўды, разумна, цалкам
**sanguis**, **ĭnis** *m* кроў
**sano**, **1** лячыць, вылечваць
**sapiens**, **entis** мудры, разумны, разважны, разважлівы
**sapientia**, **ae** *f* мудрасць, веды
**satis** дастаткова, досыць, даволі
**satisfăcio**, **fēci**, **factum**, **3** 1) падпарадкоўвацца; 2) задавальняць; 3) апраўдвацца
**Saturnus**, **i** *m* Сатурн, *бог земляробства*, *бацька Юпітэра*, *Нептуна*, *Плутона і Юноны*
**saxum**, **i** *n* 1) камень, камлыга, глыба; 2) скала
**scaena**, **ae** *f* сцэна
**scaenĭcus**, **a**, **um** сцэнічны, тэатральны
**scamnum**, **i** *n* лава, лаўка
**scandalōsus**, **a**, **um** абуральны, непрыстойны
**scando**, **scandi**, **scansum**, **3** узыходзіць, падымацца
**sceleste** ганебна, несумленна, злачынна
**scelus**, **ĕris** *n* злачынства
**scenĭcus**, **a**, **um** = **scaenĭcus**
**schola**, **ae** *f* школа
**scientia**, **ae** *f* 1) навука; 2) веды
**scindo**, **scidi**, **scissum**, **3** 1) падзяляць, раздзіраць; 2) расколваць, расшчэпліваць; 3) руйнаваць
**scio**, **4** 1) ведаць; 2) умець
**scipio**, **ōnis** *f* палка, кій, жазло
**Scipio**, **ōnis** *m* Сцыпіён, *рымскае імя*
**sciscĭtor**, **1** дапытвацца, распытваць
**scito** *imperat. fut. да* **scio**
**scribo**, **scripsi**, **scriptum**, **3** пісаць
**scrinium**, **i** *n* скрыня, куфар
**scriptor**, **ōris** *m* пісьменнік
**scriptum**, **i** *n* твор
**Scriptūra**, **ae** *f* пісанне; пісаны закон, літара закона
**sculptĭle**, **is** *n* разная выява, статуэтка
**scutum**, **i** *n* шчыт
**scymnus**, **i** *m* дзіцяня
**Scytha**, **ae** *m* скіф
**Scythia**, **ae** *f* Скіфія, *старажытная назва паўднёва-ўсходняй часткі Еўропы*
**Sebastiānus**, **i** *m* Себасцян, *рымскае імя*
**seco**, **secui**, **sectum**, **1** зразаць, разразаць

**secum** = **cum se**
**secundum** (+ *acc.*) у адпаведнасці з, па
**secundus**, **a**, **um** 1) другі, наступны; 2) спрыяльны, добразычлівы, прыхільны, удалы
**secūre** спакойна
**secūris**, **is** *f* тапор, сякера
**secūrus**, **a**, **um** спакойны, бяспечны
**sed** але
**sedeo**, **sedi**, **sessum**, **2** сядзець
**sedes**, **is** *f* 1) сядзенне, крэсла; 2) месца; 3) месца жыхарства, жыллё; 4) месцазнаходжанне; 5) храм
**Segesta**, **ae** *f* Сегеста, *горад у Сіцыліі*
**semel** аднойчы, адзін раз
**semen**, **ĭnis** *n* 1) насенне; 2) нашчадак
**sementis**, **is** *f* пасеў, сяўба
**semper** заўсёды, увесь час
**senātor**, **ōris** *m* сенатар
**senatorius**, **a**, **um** сенатарскі
**senātus**, **ūs** *m* сенат, *дзяржаўная рада Рыма*
**senecta**, **ae** *f* старасць
**senectus**, **ūtis** *f* старасць
**senex**, **senis** *m*, *f* стары, старая
**senīlis**, **e** старэчы
**senior**, **ōris** *m* старэйшы, кіраўнік
**Sennaar** (*indecl.*) Сенар, *у Біблії – зямля ў ніжнім цячэнні рэк Тыгр і Еўфрат, паўднёва-ўсходняя частка Месапатаміі*
**Senŏnes**, **um** *m*, *pl. t.* сеноны, *гальскае племя*
**sententia**, **ae** *f* 1) выказванне, фраза; 2) меркаванне, думка
**sentio**, **sensi**, **sensum**, **4** 1) адчуваць; 2) лічыць, думаць
**separātim** асобна, паасобку, паасобна
**separātus**, **a**, **um** асобны
**sepĕlio**, **pelīvi**, **pultum**, **4** хаваць
**septem** сем
**septentrio**, **ōnis** *m* поўнач
**septimāna**, **ae** *f* тыдзень
**septĭmus**, **a**, **um** сёмы
**septingenti**, **ae**, **a** сямсот
**sepulcrum**, **i** *n* 1) пахаванне; 2) магіла
**Sequăni**, **ōrum** *m*, *pl. t.* секваны, *гальскае племя*
**sequestro**, **1** аддзяляць, адхіляць, адкідаць, не прымаць
**sequor**, **cūtus sum**, **3** праследаваць, праследаваць, ісці следам (услед)
**series**, **ēi** *f* шэраг, чарада
**serius**, **a**, **um** сур'ёзны, важны
**sermo**, **ōnis** *m* 1) гутарка, размова, дыялог; 2) мова, дыялект
**sero** позна
**sero**, **sevi**, **satum**, **3** сеяць
**serpens**, **entis** *m*, *f* змяя
**serus**, **a**, **um** позні
**servīlis**, **e** рабскі
**Servilius**, **i** *m* Сервілій, *рымскае імя*
**servio**, **4** служыць, падпарадкоўвацца, быць рабом
**servitium**, **i** *n* падпарадкаванне, рабства
**servĭtus**, **ūtis** *f* падпарадкаванне, рабства
**Servius**, **i** *m* Сервій, *рымскае імя*
**servo**, **1** 1) назіраць, берагчы, сцерагчы, ахоўваць; 2) хаваць, захоўваць, зберагаць; 3) ратаваць, выратоўваць; 4) сачыць; 5) засцерагаць; 6) выконваць
**servus**, **i** *m* раб, слуга
**sescenti**, **ae**, **a** шэсцьсот
**seu** = **sive**
**sevērus**, **a**, **um** строгі, суровы
**sex** шэсць
**sexaginta** шэсцьдзясят
**sextus**, **a**, **um** шосты
**sexus**, **ūs** *m* падлога
**si** 1) калі (б); 2) ці
**Sibylla**, **ae** *f* Сівіла, *прадказальніца*
**Sibyllīnus**, **a**, **um** сівілін
**sic** так
**siccĭtas**, **ātis** *f* сухасць, засуха
**siccus**, **a**, **um** сухі
**Sicilia**, **ae** *f* Сіцылія, *востраў у Міжземным моры*
**sicut** як

**sicŭti** а таксама
**sidus**, **ĕris** *n* 1) зорка; 2) сузор’е
**signo**, **1** абазначаць, значыць, адзначаць, азначаць, пазначаць
**signum**, **i** *n* 1) сігнал; 2) значок, *баявы сцяг у выглядзе арла*; 3) пячатка
**silentium**, **i** *n* цішыня, супакой
**silva**, **ae** *f* лес
**simĭlis**, **e** падобны
**similitūdo**, **ĭnis** *f* падабенства
**Simonĭdes, is** *m* Сіманід, *старажытнагрэчаскі паэт*
**simul** 1) а таксама; 2) адначасова
**simulācrum**, **i** *n* выява, малюнак, статуя
**simŭlo**, **1** 1) прыпадабняць; 2) прыкідвацца
**sin** калі ж, а калі
**sine** (+ *abl*.) без
**singŭli**, **ae**, **a** па адным, паасобку, кожны асобна
**singŭlus**, **a**, **um** асобны
**sinister**, **tra**, **trum** 1) левы; 2) неспрыяльны
**sino**, **sivi** (**sii**), **situm**, **3** 1) дазваляць, дапускаць; 2) размяшчаць
**Sinon**, **ōnis** *m* Сінон, *грэк, які пераканаў траянцаў уцягнуць драўлянага каня ў горад*
**Sion** (*indecl*.) Сіён, *гара ў Іудзеі*
**sitio**, **4** прагнуць, смагнуць, хацець піць
**sitis**, **is** *f* смага
**situs**, **a**, **um** 1) пабудаваны; 2) размешчаны, які (што) знаходзіцца
**situs**, **ūs** *m* 1) становішча, месцазнаходжанне; 2) будынак
**sive** (= **seu**) ці, або
**socer**, **ĕri** *m* цесць, свёкар
**sociālis**, **e** 1) грамадскі; 2) дружалюбны, прыязны
**sociĕtas**, **ātis** *f* 1) саюз; 2) супрацоўніцтва; 3) грамадства
**socio**, **1** аб’ядноўваць, злучаць
**socius**, **i** *m* 1) сябар, саюзнік, спадарожнік; 2) чаляднік
**Socrătes**, **is** *m* Сакрат, *грэчаскі філосаф*
**sol**, **solis** *m* сонца
**solaciŏlum**, **i** *n* невялікае суцяшэнне
**solacium**, **i** *n* суцяшэнне, уцеха
**soleo**, **solĭtus sum**, **2** мець звычку, мець звычай; s. + *inf*. – звычайна рабіць што-небудзь
**solitūdo**, **ĭnis** *f* адзінота, пустэльнасць
**solĭtus**, **a**, **um** 1) звычайны; 2) звыклы
**solium**, **i** *n* 1) крэсла, трон; 2) царства
**sollemne**, **is** *n* урачысты абрад
**sollemnis**, **e** 1) урачысты, святочны; 2) штогадовы
**sollicĭtus**, **a**, **um** усхваляваны, трывожны, клапатлівы
**Solo(n)**, **ōnis** *m* Салон, *афінскі заканадавец, адзін з сямі мудрацоў*
**solum** толькі; non s… sed etiam – не толькі… але і
**solummŏdo** толькі
**solus**, **a**, **um** (*gen*. -īus, *dat*. -i) 1) (толькі) адзін, адзіны; 2) адзінокі, самотны, пакінуты
**solvo**, **solvi**, **solūtum**, **3** 1) развязваць; 2) рашаць, разгадваць; 3) адпраўляць; navem s. – адчальваць, здымацца з якара; 4) плаціць; 5) выконваць; 6) касаваць; 7) вызваляць
**somnium**, **i** *n* сон
**somnus**, **i** *m* сон
**sonĭtus**, **ūs** *m* гук, шум
**soror**, **ōris** *f* сястра
**sors**, **sortis** *f* 1) жэрабя; 2) доля, лёс
**sortior**, **4** размяркоўваць, атрымліваць па жэрабі
**spargo**, **sparsi**, **sparsum**, **3** 1) рассыпаць; 2) рассейваць; 3) апырскваць
**Sparta**, **ae** *f* Спарта, *горад у Грэцыі*
**Spartăcus**, **i** *m* Спартак, *гладыятар, правадыр паўстання рабоў*
**Spartānus**, **i** *m* спартанец, *жыхар Спарты*
**spatiōsus**, **a**, **um** шырокі, прасторны
**spatium**, **i** *n* прастора, месца, адлегласць
**species**, **ēi** *f* погляд, выгляд, знешнасць

**spectacŭlum**, **i** *n* прадстаўленне, відовішча, спектакль
**specto**, **1** бачыць, глядзець, пазіраць, аглядаць, назіраць, разглядаць, разглядваць, заўважаць
**specŭlor**, **1** глядзець, выглядваць
**specŭlum**, **i** *n* люстэрка, адлюстраванне
**sperno**, **sprevi**, **spretum**, **3** 1) адхіляць, адкідаць, не прымаць; 2) грэбаваць, пагарджаць, не звяртаць увагі
**spero**, **1** спадзявацца
**spes**, **ei** *f* надзея, спадзяванне
**Sphinx**, **Sphingis** *f* Сфінкс (Сфінга), *істота жаночага полу з целам ільва, галавой жанчыны і крыламі птушкі*
**spirĭtus**, **ūs** *m* 1) дух, дыханне; 2) подых
**splendĭdus**, **a**, **um** 1) слаўны, славуты; 2) бліскучы, зіхатлівы; 3) выдатны
**spolium**, **i** *n* ваенная здабыча, трафей
**sponte** (*abl*. да неўжывальнага **spons**, **spontis** *f*) з дазволу; meā, tuā, suā sponte – па ўласным жаданні, добраахвотна
**stagnum**, **i** *n* балота
**Statilius**, **i** *m* Стацылій, *рымскае імя*
**statim** адразу (ж), зараз (жа), неадкладна
**statua**, **ae** *f* статуя
**statuo**, **statui**, **statūtum**, **3** 1) ставіць; 2) рашаць, вырашаць, пастанаўляць
**statūtum**, **i** *n* (*пераважна pl*.) статут
**stella**, **ae** *f* 1) зорка; 2) планета
**stilus**, **i** *m* стыль, стылус, *палачка для пісьма*
**stipendium**, **i** *n* жалаванне, плата
**stirps**, **stirpis** *f* 1) галіна, парастак, атожылак; 2) род; 3) продак, нашчадак
**sto**, **steti**, **statum**, **1** стаяць
**stolĭdus**, **a**, **um** дурны, неразумны
**Stratonīcus**, **i** *m* Стратанік, *вандроўны кіфарыст і жартаўнік*
**strenuus**, **a**, **um** дзейны, прадпрымальны, рашучы
**stricte** сціснута, дакладна
**stringo**, **strinxi**, **strictum**, **3** 1) вымаць з ножан, выцягваць; 2) замарожваць
**struo**, **struxi**, **structum**, **3** будаваць
**studeo**, **studui**, – , **2** (+ *dat*.) 1) займацца; 2) імкнуцца
**studiōsus**, **i** *m* студэнт, вучань
**studium**, **i** *n* 1) занятак; 2) навуковыя заняткі, вучэнне; 3) стараннасць, імкненне; 4) галіна навукі
**stultus**, **a**, **um** дурны, неразумны
**stupeo**, **pui**, – , **2** 1) спыняцца; 2) дзівіцца
**suadeo**, **suasi**, **suasum**, **2** раіць, угаворваць
**sub** (*куды? + acc*., *дзе? + abl*.) пад, у, пры
**sub-dūco**, **duxi**, **ductum**, **3** 1) выкрадаць, красці; 2) забіраць, зводзіць, адводзіць; 3) выцягваць; 4) прыбіраць; 5) адымаць
**sub-eo**, **ii**, **ĭtum**, **īre** 1) успамінацца, прыгадвацца; 2) падыходзіць, набліжацца
**sub-ĭcio**, **jēci**, **jectum**, **3** 1) падкідаць; 2) падпарадкоўваць; 3) падстаўляць; 4) набліжаць
**sub-ĭgo**, **ēgi**, **actum**, **3** 1) прыганяць; 2) прымушаць, падпарадкоўваць
**subĭto** раптам, раптоўна, знянацку
**sublātum** *гл*. **tollo**
**subŏles**, **is** *f* нашчадкі, нашчадак, дзіця
**sub-sĕquor**, **secūtus sum**, **3** ісці (следам, услед)
**sub-vĕnio**, **vēni**, **ventum**, **4** 1) дапамагаць, прыходзіць на дапамогу; 2) прыбываць
**suc-cēdo**, **cessi**, **cessum**, **3** атрымліваць у спадчыну
**successio**, **ōnis** *f* спадчына, атрыманне ў спадчыну
**suc-cumbo**, **cubui**, **cubĭtum**, **3** падпарадкоўвацца
**sudo**, **1** пацець
**sudor**, **ōris** *m* пот

**Suebi**, **ōrum** *m*, *pl. t.* свебы (свевы), *германскае племя*
**suf-fĕro**, **sustŭli**, – , **sufferre** 1) падтрымліваць; 2) пераадольваць, перамагаць; 3) вытрымліваць, трываць
**suffibŭlum**, **i** *n* суфібул, *белая галаўная хустка жрацоў і весталак*
**suffragium**, **i** *n* выбарчы голас, выбарчае права, галасаванне
**sui** сябе
**sulcus**, **i** *m* разора, баразна, складка, маршчына
**Sulla**, **ae** *m* Сула, *рымскае імя*
**Sulpicius**, **i** *m* Сульпіцый, *рымскае імя*
**sum**, **fui**, – , **esse** быць, існаваць, знаходзіцца
**summa**, **ae** *f* 1) вышэйшая пасада; 2) вяршыня; 3) сума, вынік
**summus**, **a**, **um** 1) верхні; 2) найвышэйшы, галоўны
**sumo**, **sumpsi**, **sumptum**, **3** браць, прымаць
**sumptuōsus**, **a**, **um** марнатраўны
**super** (+ *acc*.) над, вышэй, звыш, наверх да, угору да
**superbia**, **ae** *f* гонар, гордасць
**superbus**, **a**, **um** 1) горды; 2) фанабэрысты, пагардлівы, ганарлівы, напышлівы
**supĕri**, **ōrum** *m*, *pl. t.* нябесныя багі
**superior**, **ius** (*gen*. superiōris) верхні, папярэдні, ранейшы, старэйшы
**supĕro**, **1** 1) пераўзыходзіць; 2) пераадольваць; 3) перамагаць
**super-sĕdeo**, **sēdi**, **sessum**, **2** 1) сядзець; 2) адмаўляцца; 3) пазбягаць
**super-sum**, **fui**, – , **esse** 1) уцалець, ацалець, перажыць; 2) заставацца; 3) пераўзыходзіць
**supĕrus**, **a**, **um** 1) высокі; 2) верхні; 3) вышні, нябесны
**supervacuus**, **a**, **um** 1) залішні, празмерны; 2) бескарысны
**suppedĭto**, **1** быць багатым на, знаходзіцца ў вялікай колькасці
**supplex**, **ĭcis** які (што) моліць, які (што) просіць, які (што) умольвае, які (што) упрошвае
**supplicatio**, **ōnis** *f* суплікацыя, агульны малебен, набажэнства
**supplicium**, **i** *n* 1) калецтва; 2) кара, пакаранне; 3) пакаранне смерцю, смяротная кара
**supplĭco**, **1** маліць, маліцца
**supra** зверху, над
**suprēmus**, **a**, **um** 1) найвышэйшы; 2) крайні; 3) апошні; 4) перадсмяротны, смяротны, пахавальны
**sus**, **suis** *m*, *f* кабан, свіння
**sus-cĭpio**, **cēpi**, **ceptum**, **3** 1) браць; 2) прадпрымаць; 3) засноўваць; 4) пачынаць; 5) перажываць
**suspectus**, **a**, **um** падазроны, які (што) выклікае падазрэнне (асцярогу)
**sus-pendo**, **pendi**, **pensum**, **3** 1) падвешваць; 2) часова спыняць
**suspicio**, **ōnis** *f* падазрэнне
**su-spĭcio**, **spexi**, **spectum**, **3** 1) глядзець угару; 2) паважаць; 3) падазраваць
**sus-tĭneo**, **tinui**, **tentum**, **2** 1) здзяйсняць; 2) падтрымліваць; 3) утрымліваць; 4) вытрымліваць; 5) затрымліваць
**suus**, **a**, **um** свой
**Syracūsae**, **ārum** *f*, *pl. t.* Сіракузы, *горад у Сіцыліі*
**Syria**, **ae** *f* Сірыя, *краіна на Блізкім Усходзе*

# Tt

**T**. = **Titus**
**tabernacŭlum**, **i** *n* палатка, намёт
**tabŭla**, **ae** *f* 1) дошка; 2) карта; 3) спіс; 4) табліца, таблічка
**taceo**, **tacui**, **tacĭtum**, **2** маўчаць
**tacĭtus**, **a**, **um** 1) маўклівы; 2) ціхі, бясшумны, бязгучны
**Tacĭtus**, **i** *m* Тацыт, *рымскі гісторык*

**talis**, **e** такі (*па якасці*)
**tam** так, такі, настолькі; tam… quam – так… як, настолькі… наколькі
**tamen** аднак
**tametsi** хоць
**tamquam** нібы, як быццам
**tandem** нарэшце, урэшце
**tango, tetĭgi, tactum, 3** кранаць
**Tantălus**, **i** *m* Тантал, *сын Юпітэра*, *цар Фрыгіі*, *вобласці на захадзе Малой Азіі*
**tantum** столькі, толькі
**tantus**, **a**, **um** такі (*па велічыні*); tanto – настолькі
**tardus**, **a**, **um** павольны, марудны, марудлівы, непаваротлівы, вялы, млявы
**Tarentīnus**, **i** *m* тарэнцінец, *жыхар Тарэнта*, *горада на поўдні Італіі*
**Tarquinius**, **i** *m* Тарквіній, *імя пятага і сёмага цароў Рыма*
**Tarsus**, **i** *m* Тарс, *галоўны горад Кілікіі*, *вобласці на паўднёвым усходзе Малой Азіі*
**Tartărus**, **i** *m* Тартар, *падземнае царства*
**taurus**, **i** *m* вол, бык
**tectum**, **i** *n* 1) дах, страха, павець, навес, засень, шаты; 2) хата
**tegimentum**, **i** *n* пакрывала, адзенне
**tego**, **texi**, **tectum**, **3** 1) крыць, пакрываць; 2) хаваць
**telum**, **i** *n* зброя
**temperātus**, **a**, **um** умераны, спакойны
**tempĕro**, **1** 1) кіраваць; 2) стрымліваць, сцішаць; 3) шкадаваць, літаваць
**tempestas**, **ātis** *f* непагода, бура, навальніца
**templum**, **i** *n* храм
**temptatio**, **ōnis** *f* спакушэнне, выпрабаванне, спакуса
**tempto**, **1** 1) выпрабоўваць; 2) спрабаваць
**tempus**, **ŏris** *n* момант, час
**tendo**, **tetendi**, **tentum**, **3** цягнуць, накіроўваць, імкнуцца
**tenĕbrae**, **ārum** *f*, *pl. t.* змрок, цемра
**tenebricōsus**, **a**, **um** цёмны, змрочны
**teneo**, **tenui**, **tentum**, **2** трымаць, утрымліваць, валодаць; memoriā t. – памятаць
**tener**, **ĕra**, **ĕrum** пяшчотны, ласкавы, далікатны
**tentatio**, **ōnis** *f* спакуса
**tenuo**, **1** 1) станчаць, звужаць; 2) аслабляць
**tergum**, **i** *n* спіна, тыл; a tergo – ззаду, з тылу; t. vertĕre – пусціцца наўцёкі
**termĭno**, **1** 1) аддзяляць, абмяжоўваць; 2) завяршаць
**tero**, **trivi**, **tritum**, **3** 1) церці; 2) марнаваць; 3) зношваць; 4) знішчаць
**terra**, **ae** *f* зямля, краіна; terrā marīque – на сушы і на моры
**terreo**, **rui**, **rĭtum**, **2** пужаць, палохаць
**terribĭlis**, **e** страшны, жахлівы, жудасны
**terror**, **ōris** *m* 1) страх, жах; 2) глыбокая пашана, глыбокая павага
**tertius**, **a**, **um** трэці
**testamentum**, **i** *n* завяшчанне, запавет
**testimonium**, **i** *n* сведчанне
**testis**, **is** *m*, *f* сведка
**testitūdo**, **ĭnis** *f* назіранне
**testūdo**, **ĭnis** *f* «чарапаха», *баявы парадак для атакі*, *пры якім салдаты*, *трымаючы шчыты над галавой*, *утвараюць ахоўны навес*
**Teutŏnes**, **um** *m*, *pl. t.* тэўтоны, *германскае племя*
**texo**, **texui**, **textum**, **3** 1) ткаць; 2) выпрабляць; 3) складаць
**textum**, **i** *n* тканіна
**theātrum**, **i** *n* тэатр
**Thebae**, **ārum** *f*, *pl. t.* Фівы, *сталіца Беотыі* (*Грэцыя*)
**Thebāni**, **ōrum** *m*, *pl. t.* фіванцы
**Themistŏcles**, **is** *m* Фемістокл, *афінскі палітык і палкаводзец*

**Thermopўlae**, **ārum** *f*, *pl. t.* Фермапілы, *цясніна ў гарах на поўначы Грэцыі*
**Theseus**, **i** *m* Тэзей, *афінскі цар*, *пераможца Мінатаўра*, *удзельнік паходу арганаўтаў*
**Thessalia**, **ae** *f* Фесалія, *вобласць у Грэцыі*
**Thetis**, **ĭdis** *f* Фетыда, *багіня мора*, *жонка Пелея*, *маці Ахіла*
**Thracia**, **ae** *f* Фракія, *краіна на паўночным усходзе Грэцыі*
**thronus**, **i** *m* трон
**thus**, **thuris** *n* фіміям, духмяныя рэчывы
**Tibĕris**, **is** *m* Тыбр, *рака ў Італіі*
**Tiberius**, **i** *m* Тыберый, *рымскае імя*
**Tibullus**, **i** *m* Тыбул, *рымскі элегічны паэт*
**timeo**, **timui**, – , **2** баяцца, палохацца, пужацца
**timĭdus**, **a**, **um** 1) нясмелы, спалоханы, спужаны; 2) баязлівы, асцярожны
**timor**, **ōris** *m* жах, страх
**tingo** (**tinguo**), **tinxi**, **tinctum**, **3** 1) абмакваць, мачаць; 2) мазаць, змазваць; 3) афарбоўваць
**tinnŭlus**, **a**, **um** звонкі, які (што) звініць
**titŭlus**, **i** *m* 1) надпіс, загаловак; 2) пашана
**Titus**, **i** *m* Ціт, *рымскае імя*
**toga**, **ae** *f* тога, *верхняя вопратка*
**tolĕro**, **1** пераносіць, цярпець, вытрымліваць, трываць
**tollo**, **sustŭli**, **sublātum**, **3** 1) адмяняць, касаваць; 2) адхіляць; 3) прымаць, выдаляць; 4) падымаць, уздымаць; 5) класці; 6) знішчаць, забіваць; 7) спыняць
**tono**, **nui**, – , **1** грукатаць, грымець, даваць перуноў, сыпаць перуны
**tormentum**, **i** *n* 1) пакуты, боль; 2) кайданы, ланцугі; 3) катаванне
**torqueo**, **torsi**, **tortum**, **2** 1) паварочваць, круціць; 2) мучыць, кроіць
**tot** гэтулькі, столькі
**totus**, **a**, **um** (*gen.* -īus, *dat.* -i) увесь, цэлы
**tractus**, **ūs** *m* 1) плынь; 2) працяканне
**tra-do**, **dĭdi**, **dĭtum**, **3** 1) уручаць; 2) перадаваць, паведамляць
**tra-dūco**, **duxi**, **ductum**, **3** 1) пераводзіць; 2) пераносіць; 3) перапраўляць
**tragoedia**, **ae** *f* трагедыя
**traho**, **traxi**, **tractum**, **3** цягнуць
**tra-ĭcio**, **jēci**, **jectum**, **3** перапраўляць, пераходзіць
**Trajānus**, **i** *m* Траян, *рымскі імператар*
**trajĭcio** = **traicio**
**trans** (+ *acc.*) за, праз
**Transalpīnus**, **a**, **um** заальпійскі, трансальпійскі
**trans-eo**, **ii**, **ĭtum**, **īre** 1) адпраўляцца, ісці; 2) перапраўляцца, пераходзіць
**trans-fĕro**, **tŭli**, **lātum**, **ferre** 1) пераносіць; 2) перадаваць; 3) перакладаць; 4) адкладаць
**trans-ĭgo**, **ēgi**, **actum**, **3** 1) праводзіць; 2) здзяйсняць; 3) пранізваць; 4) дамаўляцца; 5) весці перамовы
**transmarīnus**, **a**, **um** заморскі
**transmissus**, **ūs** *m* пераход
**trans-porto**, **1** перапраўляць
**Transrhenānus**, **a**, **um** зарэйнскі
**Transrhenānus**, **i** *m* жыхар зарэйнскіх абласцей
**Trasumennus**, **a**, **um** тразіменскі; lacus T. – Тразіменскае возера, *возера на ўсходзе Этрурыі*
**trecentesĭmus**, **a**, **um** трохсоты
**trecenti**, **ae**, **a** трыста
**tremendus**, **a**, **um** жудасны
**tremŭlus**, **a**, **um** які (што) дрыжыць, дрыготкі
**tres**, **tria** тры
**tribūnal**, **ālis** *n* трыбунал, *узвышша*, *на якім сядзелі службовыя асобы пры выкананні сваіх абавязкаў*
**tribūnus**, **i** *m* трыбун; t. milĭtum – ваенны трыбун, *начальнік легіёна*;

t. plebis – народны трыбун, *які ахоўваў правы плебеяў*
**tribus**, **ūs** *f* трыба, *адміністрацыйная акруга*, *вобласць*
**tribūtum**, **i** *n* даніна, падатак
**trigemĭnus**, **a**, **um** трайны; trigemĭni – тры браты-блізняты
**triginta** трыццаць
**triplex**, **ĭcis** трайны
**triquĕtrus**, **a**, **um** трохвугольны
**tristis**, **e** журботны, сумны, змрочны; *pl*. tristia – журботныя песні
**tristitia**, **ae** *f* сум, смутак, маркота, журба
**triumpho**, **1** 1) святкаваць трыумф; 2) перамагаць
**triumphus**, **i** *m* трыумф, трыумфальнае шэсце, *урачысты ўезд палкаводца*
**trivium**, **i** *n* 1) скрыжаванне; 2) вялікая дарога
**Troas**, **ădis** *f* траянка
**Troja**, **ae** *f* Троя, *горад у Малой Азіі*
**Trojānus**, **a**, **um** траянскі
**Trojānus**, **i** *m* траянец
**trucĭdo**, **1** 1) рэзаць; 2) забіваць
**trux**, **trucis** дзікі, страшны, грозны
**tu** ты
**tuba**, **ae** **f** труба
**Tullia**, **ae** **f** Тулія, *жаночае імя*
**Tullius**, **i** *m* Тулій, *рымскае імя*
**Tullus**, **i** *m* Тул; T. Hostilius – Тул Гастылій, *трэці цар Рыма*
**tum** пасля, тады
**tumĭdus**, **a**, **um** 1) які (што) узняўся, бурны; 2) напышлівы
**tumultus**, **ūs** *m* 1) бязладдзе; 2) перапалох, суматоха; 3) бунт
**tumŭlus**, **i** *n* 1) узгорак; 2) магіла
**tunc** тады
**tundo**, **tutŭdi**, **tu(n)sum**, **3** 1) біць, ударацць; 2) дакучаць
**turbo**, **1** хваляваць
**turbulentus**, **a**, **um** бурны, трывожны
**turgidŭlus**, **a**, **um** прыпухлы
**turpis**, **e** агідны, ганебны
**turris**, **is** *f* вежа
**Tusculānus**, **a**, **um** тускуланскі
**tutēla**, **ae** *f* абарона, заступніцтва, апекаванне, апека, спрыянне, клопат
**tutor**, **1** бараніць, абараняць, ахоўваць
**tutus**, **a**, **um** бяспечны, надзейны, абаронены
**tuus**, **a**, **um** твой
**tyrannĭcus**, **a**, **um** тыранічны
**tyrannus**, **i** *m* тыран, правіцель, валадар
**Tyrus**, **i** *f* Тыр, *горад у Фінікіі*

# Uu

**ubi** 1) дзе; 2) калі
**Ubii**, **ōrum** *m*, *pl. t.* убіі, *германскае племя*
**ubīque** паўсюль
**udus**, **a**, **um** мокры
**ulciscor**, **ultus sum**, **3** помсціць, караць
**Ulixes**, **is** *m* Уліс (Адысей), *цар Ітакі*, *удзельнік Траянскай вайны*
**ullus**, **a**, **um** (*gen*. -īus, *dat*. -i) хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь
**ulterior**, **ius** (*gen*. ulteriōris) 1) які знаходзіцца на тым баку, супрацьлеглы; 2) больш аддалены; 3) наступны
**ultĭmus**, **a**, **um** 1) апошні; 2) далёкі, крайні; 3) вышэйшы
**ultio**, **ōnis** *f* помста
**ultor**, **ōris** *m* мсцівец, карнік
**ultra** (+ *acc*.) за, на тым баку
**ultro** больш, звыш, добраахвотна
**ululātus**, **ūs** *m* выццё, скавытанне, крык, лямант
**umĕrus**, **i** *m* плячо
**unā** разам
**uncus**, **i** *m* крук, якар
**unda**, **ae** *f* хваля
**unde** адкуль
**undeviginti** дзевятнаццаць
**undĭque** адусюль
**unguis**, **is** *m* пазногаць, кіпцюр
**unĭce** выключна, надзвычайна

**unigenĭtus**, **a**, **um** адзінародны
**universĭtas**, **ātis** *f* 1) супольнасць; 2) універсітэт
**universus**, **a**, **um** 1) увесь, цэлы; 2) усеагульны
**unus**, **a**, **um** (*gen*. -īus, *dat*. -i) адзін
**unusquisque**, **unaquaeque**, **unumquodque** кожны
**urbānus**, **a**, **um** гарадскі, адукаваны, культурны
**urbs**, **urbis** *f* горад
**ursa**, **ae** *f* мядзведзіца
**usque** да, аж да, увесь час
**usus**, **ūs** *m* 1) карысць; 2) ужыванне; 3) звычка; 4) досвед
**ut** 1) (+ *ind*.) як, як толькі, бо; (+ *conj*.) каб, так што, хоць; 2) як, як напрыклад
**uter**, **utra**, **utrum** (*gen*. -īus, *dat*. -i) хто, што, які (з двух)
**uterque**, **utrăque**, **utrumque** і адзін і другі, абодва, абое
**utĕrus**, **i** *m* жывот, улонне
**utĭlis**, **e** карысны
**utilĭtas**, **ātis** *f* 1) карысць, выгада; 2) неабходнасць
**utĭnam** о калі б
**utor**, **usus sum**, **3** карыстацца, ужываць
**utrimque** з абодвух бакоў, абапал
**utrum** або, ці
**uva**, **ae** *f* вінаградная гронка, вінаград
**uxor**, **ōris** *f* жонка; uxōrem ducĕre – жаніцца

# Vv

**vaco**, **1** паставаць, быць пазбаўленым, не мець
**vacuus**, **a**, **um** пусты, свабодны
**vadium**, **i** *n* грашовая (маёмасная) парука, зарука
**vado**, – , – , **3** ісці, накіроўвацца
**valde** вельмі, моцна
**valeo**, **valui**, – , **2** 1) значыць, мець значэнне; 2) быць здаровым, моцным
**Valerius**, **i** *m* Валерый, *рымскае імя*
**valĭdus**, **a**, **um** моцны, магутны
**vallum**, **i** *n* вал, насып
**vanus**, **a**, **um** 1) пусты; 2) ненадзейны, бескарысны
**vapor**, **ōris** *m* 1) пара; 2) цеплыня
**varie** па-рознаму, разнастайна
**varius**, **a**, **um** розны, разнастайны
**vasto**, **1** спусташаць, руйнаваць
**vastus**, **a**, **um** 1) пустынны, пустэльны; 2) пакінуты; 3) велізарны
**vates**, **is** *m* прарок, паэт
**-ve** (*постпазітыўная часціца*) ці
**vehĕmens**, **entis** моцны, гарачы, люты
**vehementer** рашуча, моцна, горача, энергічна
**veho**, **vexi**, **vectum**, **3** 1) несці; 2) везці, цягнуць; 3) *pass*. ехаць, ездзіць, плысці, ляцець, рухацца
**vel** ці, або
**vello**, **vulsi**, **vulsum**, **3** 1) тузаць, зрываць; 2) руйнаваць; 3) раздзіраць
**vellus**, **ĕris** *n* шэрсць, поўсць, руно
**velocĭter** быстра, шпарка
**velox**, **ōcis** быстры, хуткі, жвавы, борзды, шпаркі
**vena**, **ae** *f* вена, жыла
**venatio**, **ōnis** *f* паляванне, цкаванне
**vendo**, **dĭdi**, **dĭtum**, **3** прадаваць
**venēnum**, **i** *n* зелле, яд, атрута
**veneratio**, **ōnis** *f* 1) шанаванне, культ; 2) павага
**venia**, **ae** *f* 1) дазвол; 2) прабачэнне, літасць; 3) ласка
**vĕnio**, **vēni**, **ventum**, **4** прыходзіць, прыбываць, прыязджаць
**ventus**, **i** *m* вецер; v. adversus – сустрэчны вецер
**venumdo**, **dĕdi**, **dātum**, **1** прадаваць
**Venus**, **ĕris** *f* Венера, *рымская багіня кахання і прыгажосці*
**venustus**, **a**, **um** прыгожы, прывабны
**ver**, **veris** *n* вясна

**verbĕro**, **1** 1) біць, хвастаць, лупцаваць; 2) мучыць; 3) абражаць
**verbōsus**, **a**, **um** шматслоўны, балбатлівы
**verbum**, **i** *n* 1) слова; 2) дзеяслоў
**Vergilius**, **i** *m* Вергілій, *рымскі паэт*
**vergo**, – , – , **3** хіліцца, паварочвацца, распасцірацца
**verĭtas**, **ātis** *f* ісціна, праўда
**vernacŭlus**, **a**, **um** тутэйшы, мясцовы
**Verres**, **is** *m* Верэс, *рымскі палітычны дзеяч*
**versus**, **ūs** *m* верш, радок
**verto**, **verti**, **versum**, **3** накіроўваць; паварочваць; terga v. – кінуцца (пусціцца) наўцёкі
**verum** але, аднак
**verum**, **i** *n* праўда
**verus**, **a**, **um** праўдзівы, сапраўдны, надзейны
**vescor**, – , **3** 1) сілкавацца; 2) баляваць; 3) атрымліваць асалоду
**vesper**, **ĕri** *m* 1) вечар; 2) захад
**vespĕra**, **ae** *f* 1) вечар; 2) захад
**Vesta**, **ae** *f* Веста, *рымская багіня хатняга ачага*
**Vestālis**, **is** *f* вясталка, *жрыца багіні Весты*
**vester**, **tra**, **trum** ваш
**vestibŭlum**, **i** *n* 1) уваход; 2) пляцоўка перад хатай; 3) пярэдні пакой, пярэдняя
**vestigium**, **i** *n* след
**vestio**, **4** 1) пакрываць; 2) апранаць
**vestis**, **is** *f* адзенне, адзежа, вопратка
**vestītus**, **ūs** *m* адзенне, адзежа, вопратка
**veto**, **vetui**, **vetĭtum**, **1** забараняць
**vetus**, **ĕris** (*compar.* vetustior; *superl.* veterrĭmus) стары, старажытны
**vetustas**, **ātis** *f* 1) старасць; 2) (працяглы) час
**vexo**, **1** 1) трывожыць, раздзіраць; 2) спусташаць, разараць
**via**, **ae** *f* шлях, дарога
**vicesĭmus**, **a**, **um** дваццаты
**vicīnus**, **a**, **um** суседні, блізкі
**vicīnus**, **i** *m* сусед
**victor**, **ōris** *m* пераможца
**victoria**, **ae** *f* перамога
**victus**, **ūs** *m* харч, ежа
**vicus**, **i** *m* 1) вёска, пасёлак; 2) квартал
**videlĭcet** менавіта
**video**, **vidi**, **visum**, **2** 1) бачыць; *pass.* здавацца; 2) клапаціцца
**vidua**, **ae** *f* удава
**vigilia**, **ae** *f* 1) няспанне; 2) начная варта, *¼ частка ночы*
**vigĭlo**, **1** 1) не спаць; 2) быць пільным, сцерагчыся
**viginti** дваццаць
**vincio**, **vinxi**, **vinctum**, **4** 1) звязваць; 2) прыкоўваць, закоўваць у ланцугі
**vinco**, **vici**, **victum**, **3** 1) перамагаць; 2) пераўзыходзіць; 3) абвінавачваць
**vindĭco**, **1** 1) помсціць; 2) судзіць, вырашаць; 3) караць; 4) ахоўваць
**vinea**, **ae** *f* вінаграднік, вінаградная лаза
**vinum**, **i** *n* віно
**viŏlens**, **entis** моцны, бурны
**viŏlo**, **1** 1) парушаць; 2) прыгнятаць, уціскаць, крыўдзіць, ганьбіць; 3) апаганьваць, паганіць; 4) абражаць, зневажаць; 5) гвалціць; 6) паражаць, раніць
**vir**, **viri** *m* муж, мужчына, чалавек
**virga**, **ae** *f* галінка, прут, розга, палка
**virgo**, **ĭnis** *f* дзева, дзяўчына, маладая (незамужняя) жанчына
**virĭdis**, **e** зялёны
**virtus**, **ūtis** *f* 1) дабрачыннасць, дабрадзейнасць, цноты; 2) мужнасць; *pl.* гераічныя подзвігі
**vis** *f* (*sg.*: *acc.* vim, *abl.* vi; *pl.*: vires, virium *і г. д.*) 1) сіла, моц; 2) гвалт, напад, насілле
**visibĭlis**, **e** 1) бачны, прыкметны; 2) які (што) бачыць
**visĭto**, **1** наведваць
**viso**, **visi**, **visum**, **3** аглядаць, наведваць

**vita**, **ae** *f* жыццё
**vitālis**, **e** жыццёвы
**vitium**, **i** *n* загана, недахоп, хіба
**vito**, **1** пазбягаць, ухіляцца
**vitreus**, **a**, **um** 1) шкляны, хрустальны; 2) празрысты
**vitrum**, **i** *n* фарбоўнік, *расліна*, *што ўтрымлівае сіні фарбавальнік*
**vitŭlus**, **i** *m* цяля
**vitupěro**, **1** ганіць, ганьбіць, ганьбаваць, знеслаўляць, лаяць
**vivifĭco**, **1** ажыўляць
**vivo**, **vixi**, **victum**, **3** 1) жыць; 2) карміцца, сілкавацца
**vivus**, **a**, **um** жывы
**vix** 1) як толькі; 2) наўрад ці
**vocabŭlum**, **i** *n* слова, імя
**vocālis**, **e** 1) які (што) гучыць; звонкі; 2) публічны
**vocĭto**, **1** клікаць, зваць
**voco**, **1** 1) запрашаць; 2) клікаць, зваць; 3) называць
**volatĭlis**, **e** лятучы, крылаты
**volo**, **1** лётаць
**volo**, **volui**, – , **velle** жадаць
**volŭcer**, **cris**, **cre** лятучы, крылаты
**volŭcris**, **is** *f* птушка
**voluntas**, **ātis** *f* 1) воля, жаданне; 2) дазвол
**voluptas**, **ātis** *f* задавальненне, асалода
**Volusēnus**, **i** *m* Валюзэн, *рымскае імя*
**volvo**, **volvi**, **volūtum**, **3** 1) каціць; 2) круціць; 3) разгортваць; 4) абдумваць; 5) выпрабоўваць
**vos** вы
**votum**, **i** *n* 1) абяцанне, зарок; 2) жаданне
**vox**, **vocis** *f* голас, гук, гаворка, мова, слова
**Vulcānus**, **i** *m* Вулкан, *бог агню і кавальскай справы*
**vulgus**, **i** *n* народ, просты люд
**vulněro**, **1** раніць, параніць
**vulnus**, **ěris** *n* 1) рана, раненне; 2) удар
**vulpes**, **is** *f* ліса
**vultus**, **ūs** *m* 1) твар, выраз твару; 2) погляд

# Xx

**Xantippe**, **es** *f* Ксанціпа, *жонка Сакрата*
**Xerxes**, **is** *m* Ксеркс, *персідскі цар*

# БЕЛАРУСКА-ЛАЦІНСКІ СЛОЎНІК

## Аа

**а** sed
**аб** de (+ *abl.*)
**абвінавачваць** accūso, 1
**абложваць** oppugno, 1
**ад** a (ab) (+ *abl.*)
**адбудоўваць** restituo, ui, ūtum, 3
**адважна** confidenter
**адважны** fortis, e
**адводзіць** ab-dūco, duxi, ductum, 3
**адданасць** fides, ei *f*
**адзін** solus, a, um (§ 43); і адзін і другі – uterque, utrăque, utrumque (§ 43); адзін аднаго – alter alterīus (§ 43)
**адказваць** re-spondeo, spondi, sponsum, 2
**аднак** tamen
**адпраўляцца** dis-cēdo, cessi, cessum, 3
**Азія** Asia, ae *f*
**акружаць** cingo, cinxi, cinctum, 3
**але** sed
**алтар** ara, ae *f*
**Альпы** Alpes, ium *f*, *pl. t.*
**Аляксандр** Alexander, dri *m*
**Антоній** Antonius, i *m*
**апавяданне** fabŭla, ae *f*
**апавядаць** narro, 1
**Апалон** Apollo, ĭnis *m*
**апісваць** de-scrībo, scripsi, scriptum, 3
**Архімед** Archimēdes, is *m*
**Арыён** Arīo, ŏnis *m*
**Арыстоцель** Aristotĕles, is *m*
**аснова** fundamentum, i *n*
**атрымліваць** ac-cĭpio, cēpi, ceptum, 3
**атрымоўваць** ac-cĭpio, cēpi, ceptum, 3
**Аўгуст** Augustus, i *m*
**афінянін** Atheniensis, is *m*
**Ахіл** Achilles, is *m*
**ацэньваць** aestĭmo, 1

## Бб

**багацце** divitiae, ārum *f*, *pl. t.*
**багіня** dea, ae *f*
**байка** fabŭla, ae *f*
**бараніць** de-fendo, fendi, fensum, 3
**бацька** pater, tris *m*
**бацькаўшчына** patria, ae *f*
**бачыць** vĭdeo, vīdi, visum, 2
**без** sine (+ *abl.*)
**белавакі** Bellovăci, ōrum *m*, *pl. t.*

